

Беларускія біскупы з папам Францішкам
падчас візіту *ad limina Apostolorum* (31 студзеня — 7 лютага 2018 г.)




Ксёндз Ежы Шымік

## НЕСПАКОЙ БОГА

не толькі нашае —
Яго сэрца яшчэ больш неспакойнае,
вельмі неспакойнае.

За нас.
Ажно дрыжыць за мяне,
адчуваю, ведаю гэта.

Яго сэрца шукае тых,
хто падзяляў бы Яго палкую любоў
да людзей.

Ён кліча, стукае, зводзіць пракокаў.
Звёў і мяне, каб тым самым
мяне ўратаваць.

І таму саграває надзея,
што, калі вернецца,
скажа:

ты клапаціўся пра Маіх.
Маё дзіця,
Мая кроў.

*Люблін, 17 чэрвеня 2013 г.*

*Пераклад з польскай мовы*
*Крыстыны Лялько.*

**Рэдакцыйная рада:**
*арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі,*
*біскуп Юрый Касабуцкі,*
*кс. Аляксандр Амяльчэня, Ірына Багдановіч, Данута Бічэль, кс. Юры Быкаў,*
*Мар'ян Дукса, Ірына Жарнасек, Алесь Жлутка, Лідзія Камінская,*
*Аліна Новікава, кс. Дзмітрый Пухальскі (касцёльны кансультант),*
*Ала Сямёнава, Юры Туронак, Аркадзь Шпунт.*
*Галоўны рэдактар — Крыстына Лялько.*
*Мастацкі рэдактар — Уладзімір Вішнеўскі.*
*Тэхнічны рэдактар — Алег Глекаў.*

У нумары 1/2018

# НАША ВЕРА

Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч

# «Да апостальскіх парогаў»

**Пра візіт «*ad limina Apostolorum*» беларускіх біскупаў (31 студзеня — 7 лютага 2018 г.).**

Візіт «*ad limina Apostolorum*» — «Да апостальскіх парогаў» распачынаецца задоўга да выезду біскупаў у Рым, да іх сустрэчы з Папам і да наведвання Ватыканскіх дыкастэрый. Перад гэтым кожная дыяцэзія павінна падрыхтаваць адмысловую справаздачу паводле прадстаўленай Ватыканам схемы: пра існуючыя структуры, напрамкі пастырства, пакліканні да святарства і кансэкраванага жыцця, пра эканамічную сітуацыю і г.д., а таксама пра існуючыя праблемы. Справаздача рыхтуецца на італьянскай мове і займае прыкладна каля 70-ці старонак.

Потым біскупы пішуць справаздачы ў тыя дыкастэрыі, якія Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў наведае падчас візіту. Усе гэтыя дакументы за некалькі месяцаў да візіту перадаюцца ў Ватыкан для іх вывучэння ў паасобных дыкастэрыях. Такім чынам, яшчэ да таго, як біскупы наведаюць тую ці іншую Кангрэгацыю ці Папскую Раду, там ужо дастаткова ведаюць пра стан канкрэтнага душпастырства.

Кангрэгацыя па справах біскупаў рыхтуе канкрэтны план візіту «*ad limina*», дзе падрабязна распісана, калі і ў якой Кангрэгацыі ці Папскай Радзе адбудзецца адмысловае спатканне. Праграма прадугледжвае і спатканне са Святым Айцом, і цэлебрацыю Эўхарыстыі ў чатырох Вялікіх базыліках: св. апостала Пятра, св. Паўла за мурамі, св. Яна на Латэране і Божай Маці Вялікай.

Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі мела дванаццаць такіх спатканняў, а іх колькасць у дзень часам дасягала чатырох. (Але былі і свабодныя дні — субота ці нядзеля.)

Візіт «*ad limina*» не абмяжоўваецца толькі спатканнямі і цэлебрацыямі. Так, беларускія біскупы мелі магчымасць прыняць удзел у агульнай аўдыенцыі Святога Айца 31 студзеня і разам з ім канцэлебраваць св. Імшу ў свята Ахвяравання Езуса 2 лютага, калі Касцёл адзначае дзень малітваў у інтэнцыі кансэкраванага жыцця. Цэлебравалі яны Імшу і пры гробе св. Яна Паўла II, падчас якой дзякавалі Богу і папу Вайтылу за адраджэнне структураў Каталіцкага Касцёла на Беларусі. Біскупы таксама былі запрошаныя наведаць Генеральны дом сясцёр змёртвыхпаўстанак і там цэлебраваць св. Імшу. Наведалі яны і Генеральны дом Кангрэгацыі айцоў марыянаў, а таксама духоўны цэнтр супольнасці *Sant'Egidio*, вядомай сваімі экуменічнымі ініцыятывамі.

Не абыходзіцца такі візіт і без кантактаў са СМІ. Я асабіста пасля спаткання з Папам даў інтэрв'ю для двух беларускіх тэлеканалаў і Ватыканскага тэлебачання, а таксама для беларускай, польскай і італьянскай рэдакцый Ватыканскага радыё і для двух журналістаў, што сведчыць пра значнасць такога візіту і пра ролю беларускага Касцёла ў Еўропе і свеце, асабліва пасля мінулагодняга Пасяджэння Рады Канферэнцый Біскупаў Еўропы ў Мінску, аб чым многія вельмі цёпла ўспаміналі.

Апошні візіт «*ad limina*» стаў чацвёртым у сучаснай гісторыі Каталіцкага Касцёла на Беларусі і першым падчас Пантыфікату папы Францішка. Гэты візіт мае вельмі вялікае значэнне як для кожнай дыяцэзіі, так і для ўсяго мясцовага Касцёла. Найперш падрыхтоўку справаздачы можна назваць своеасаблівым рахункам сумлення, які дапамагае лепей асэнсаваць стан Касцёла, яго дасягненні і праблемы. Як без адпаведнага рахунку сумлення нельга думаць пра духоўнае дасканаленне, так і без падрабязнай справаздачы пра стан дыяцэзіі нельга марыць пра плённае развіццё яе дзейнасці.

Візіт «*ad limina*» — гэта ўнікальная магчымасць для Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў спаткацца з Пантыфікам і кіраўнікамі розных Ватыканскіх дыкастэрый. Выключнасць гэтых спатканняў у тым, што не паасобны біскуп, але ўсе могуць выказацца адносна сітуацыі сённяшняга Касцёла і атрымаць кваліфікаваныя адказы на важныя праблемы. У гэтым праяўляецца калегіяльнасць епіскапату мясцовага Касцёла ў лучнасці з Пятром нашага часу — Рымскім Папам — і Апостальскім Пасадам.

Спатканне з папам Францішкам адбылося ў вельмі цёплай, амаль сямейнай атмасферы. Яно мела іншы, чым пры Яну Паўлу II і Бэнэдыкце XVI фармат. Раней Папа на пачатку сустракаўся з паасобнымі біскупамі, а потым з усёю Канферэнцыяй. Цяпер жа Пантыфік сустракаецца ў нефармальнай атмасферы з усімі бікупамі.

Папа задаваў пытанні нам, а мы — яму. Кожны меў магчы-



масць задаць пытанне і атрымаць адказ. Адчувалася прыязная, даверлівая атмасфера, як быццам адбывалася сустрэча бацькі з дзецьмі.

Вельмі важнаю была рэакцыя Папы на запрашэнне прыехаць у Беларусь. Пантыфік напомніў, што наш прэзідэнт А. Р. Лукашэнка ўжо яго запрасіў, і сказаў, што ў гэтым годзе візіт немагчымы з-за таго, што ўсё распісана, але не выключыў магчымасці візіту ў перспектыве. Беларускія біскупы пакінулі папскую бібліятэку, дзе адбылася сустрэча, умацаваныя айцоўскімі словамі падтрымкі Пантыфіка і з надзеяй, што час візіту наступніка святога апостала Пятра на шматпакутную беларускую зямлю ўжо набліжаецца.

Візіты ў розныя Ватыканскія дыкастэрыі далі магчымасць больш поўна акрэсліць сітуацыю Касцёла ў розных сферах душпастырства і касцёльна-дзяржаўных адносінаў. У цэлым трэба сказаць, што і працэс адраджэння, і стан душпастырства беларускага Касцёла быў прызнаны здавальняючым, хаця былі выказаны некаторыя канкрэтныя заўвагі і прапановы ўдасканаліць яго.

Супольнае прабыванне, малітва і абмяркоўванне праблемаў Касцёла ў нашай краіне ў розных Ватыканскіх дыкастэрыях стала яшчэ адным знакам праяўлення калегіяльнасці беларускага епіскапату.

Як вядома, Рымская Курыя інтэрнацыянальная, і ў ёй працуюць прадстаўнікі мясцовых Касцёлаў усіх кантынентаў. У Рыме заўсёды, а падчас візіту «*ad limina*» асабліва, моцна адчуваецца пульс жыцця сусветнага Касцёла, і беларускія біскупы вельмі добра гэта адчулі.

Візіт «*ad limina*» даў магчымасць беларускім іерархам адчуць сябе пасламі Беларусі ў Вечным горадзе і стаў добраю нагодаю прадставіць не толькі наш Касцёл, але і Бацькаўшчыну Апостальскаму Пасаду, а праз яго інтэрнацыянальнасць — усяму свету. Такім чынам, гэты візіт выйшаў далёка па-за рэлігійныя межы.

Упэўнены, што спатканне са Святым Айцом Францішкам, яго асабістая адкрытасць, гэтаксама як і іншых дыкастэрый, іх імкненне дапамагчы ў вырашэнні важных праблемаў стануць новым імпульсам для развіцця Касцёла ў Беларусі, каб ён быў сапраўдснай радасцю і надзеяй нашай Бацькаўшчыны.

Надзея Усава

# Тры выявы Магдалены як шлях да хрысціянскай дасканаласці

Марыя Магдалена дагэтуль застаецца самай загадкавай у хрысціянстве святой. Усплёск цікавасці да яе жыцця выклікаецца і пастаянна падтрымліваецца то рок-операмі, то рознымі публікацыямі (асабліва нашумелым, не прынятым Касцёлам у 1990-я гады раманам Дэна Браўна «Код да Вінчы», дзе яна выведзеная каханаю Хрыста).

Марыя Магдалена — адна з любімых святых і на Беларусі. Гэтую любоў можна тлумачыць яе адданасцю вучэнню Езуса, яе ахвярнасцю. Паводле Евангелля, Марыя Магдалена паўсюль аддана ішла за Хрыстом, прысутнічала пры Яго ўкрыжаванні і была першаю сведкаю Яго ўваскрасення.

Святую Магдалену шануюць і католікі, і праваслаўныя, але па-рознаму. Праваслаўная Царква ў аповедзе пра жыццё святой Марыі Магдалены прытрымліваецца евангельскіх сведчанняў і дакладнага царкоўнага падання пра яе як роўнаапостальную святую жанчыну-міраносіцу. Паколькі з Магдалены выганялі нячысцікаў, у праваслаўнай іканаграфіі яе галоўным атрыбутам з'яўляецца посуд з пахошчамі, але часам сустракаюцца таксама выявы, дзе Магдалена намаляваная з галавою ільва. У праваслаўі лічыцца, што Марыя Магдалена памерла як святая ў Эфесе, дзе і была пахаваная.

Для католікаў Магдалена — былая грэшніца, якая зарабляла блудам, але, пачуўшы пропаведзі Хрыста, пакінула сваё «рамяство» і раскаялася. Пасля ўкрыжавання і ўваскрасення Хрыста Марыя Магдалена стала пустэльніцаю і, па адной з версій, у канцы жыцця жыла на землях сучаснай Францыі. На гісторыю жыцця Марыі Магдалены накладаліся жыццяпісы сястры Марфы і Лазара Марыі і Марыі Егіпецкай: ёй прыпісалі падарожжа ў Ерузалем, а затым — на поўдзень Францыі, куды яна дабралася на судне, кіраваным анёлам. Там яна жыла ў пячоры і 30 гадоў аддавалася найстражэйшай аскезе, каючыся ў сваіх грахах. Яе адзенне стлела, галізну прыкрывалі толькі доўгія валасы, але яе старое цела анёлы кожную ноч ўзносілі на нябёсы, каб вылечваць яго. Святая Марыя Магдалена лічыцца каталікамі апякункаю сям'і, таму паломнікі прыязджаюць да яе абраза, каб маліцца пра дабрабыт у шлюбе, прасіць аб нараджэнні дзяцей, аб заканчэнні сямейных канфліктаў.

Злучэнне дзвюх асобаў — святой благавесніцы і распусніцы, якая пакаялася і стала вялікай пустэльніцай, — адлюстравалася ў еўрапейскім мастацтве эпохі Рэнесанса і Барока. У заходнееўрапейскай іканаграфіі Магдалена набывае трывалы вобраз распусніцы, якая пакаялася. Сюжэт з вобразам Магдалены ў пячоры, пачынаючы з эпохі Рэнесанса, выкарыстоўваўся вельмі актыўна, калі мастак хацеў пад прыстойнаю падставаю напісаць прывабнае жаночае цела. Заходнееўрапейскія мастакі эпохі Рэнесанса, якім тэма распусніцы дазваляла даць сабе волю, малявалі Магдалену па-жаночаму прывабнай і нават эратычнай, з паўаголенымі або аголенымі грудзьмі, голымі плячыма. У заходнееўрапейскім жывапісе XVII–XIX стст. Магдалена традыцыйна паказаная ў выглядзе пустэльніцы з чэрапам, без адзежы або ў рызе, пакрытай доўгімі, густымі залацістымі валасамі.

Паступова ствараецца вялікая галерэя карцін і скульптураў на тэму «Марыя Магдалена, якая каецца». Менавіта гэтак яе ўспрымалі Тыцыян (1477–1576), Эль Грэка (1541–1614), Мікеланджэла ды Караваджа (1573–1610), Гвідо Рэні (1575–1642), Арацыа Джанцідэскі (1563–1639), Сымон Вуэ (1590–1649), Хасэ дэ Рыберы (1591–1652), Жорж Дзюменіль дэ Латур (1593–1652), Франчэска Хайес (1791–1882); скульптары Пэдро дэ Мэна (1628–1688), Антоніо Канова (1757–1822).

---

**Надзея УСАВА** — мастацтвазнаўца, загадчык аддзела навукова-асветніцкай работы ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. Нарадзілася ў Гомелі ў 1958 годзе. Скончыла Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна ў Ленінградзе па спецыяльнасці «мастацтвазнаўства» (1986 г.). У 1993 г. скончыла аспірантуру пры Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Акадэміі навук Беларусі. Лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва ў намінацыі «Музейная справа» за экспазіцыі ў новым корпусе НММ РБ (2007). Аўтар канцэпцый і тэматыка-экспазіцыйных планаў экспазіцыі «Прастора Хаіма Суціна» ў г.п. Смілавічы, некалькіх экспазіцый у замкавым комплексе «Мір» (2010), член навукова-творчай групы па стварэнні экспазіцый у Нясвіжскім замку (2011—2012). Аўтар звыш 250-ці артыкулаў па мастацтве Беларусі.



«Пакаянне святой Марыі Магдалены»
(з царквы ў вёсцы Бараўцы Вілейскага раёна
Мінскай вобласці).



«Марыя Магдалена»
(узор мясцовай мастацкай школы).



Апалінарый Гараўскі.
«Марыя Магдалена, якая каецца». 1861 г.

У гонар Марыі Магдалены праваслаўнымі ўзводзіліся цэрквы. Так, у Мінску каля Старажоўскіх могілак у 1847 г. па ініцыятыве Міхаіла Галубовіча — аднаго з вядомых дзеячаў уз'яднання ўніятаў з Праваслаўнаю Царквою — на ахвяраванні вернікаў была ўзведзена царква, пры якой існавала багадзельня для састарэлых і інвалідаў. І сёння ў вёсках Альгомель Столінскага раёна і Парычах Светлагорскага раёна дзейнічаюць цэрквы імя святой Магдалены.

Выявы святой у жывапісе беларускіх майстроў XVIII–XIX стагоддзяў захаваліся не вельмі добра, таму цікава, што ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь за апошнія гады ў экспазіцыі і на выставах тройчы з'явіліся выявы Марыі Магдалены, якая каецца ў пячоры. Усе яны датаваныя XIX ст. і з'яўляюцца алтарнымі карцінамі, якія, у адрозненне ад абразоў, пісаліся алеем ці тэмперай на палатне па законах рэалістычнага свецкага мастацтва. Толькі адна з іх сапраўды шырока вядомая — «Марыя Магдалена, якая каецца» (1861) работы беларускага мастака Апалінарыя Гараўскага. Дзве іншыя карціны паўсталі перад гледачамі ўпершыню пасля рэстаўрацыі, а таму хочацца пазнаёміць з гэтымі адкрыццямі музейных рэстаўратараў чытачоў «Нашай веры».

Дзве першыя карціны звязаны з Заходняй Беларуссю, з Вілейшчынай, дзе гэтая святая была надзвычай шанаваная. Цікава, як разумелі гэты вобраз тры розныя майстры — народны мастак, прадстаўнік мясцовай мастацкай школы, і выхаванец пецярбургскай Акадэміі мастацтва. Разгледзім тры вобразы Магдалены, створаныя на працягу аднаго стагоддзя.

Алтарная карціна «Пакаянне святой Марыі Магдалены» з царквы ў вёсцы Бараўцы Вілейскага раёна Мінскай вобласці — прыклад правінцыйнага «наіўнага» барока канца XVIII — пачатку XIX ст. Карціна паступіла ў музей у 1981 годзе. Тады з паддашша невялікай драўлянай цэркаўкі ў Бараўцах супрацоўнікамі музея былі вывезеныя некалькі твораў вялікага памеру — «Казанская Маці Божая», «Укрыжаванне», «Тайная Вячэра», «Аарон». Хутчэй за ўсё, гэтыя творы былі прывезеныя ў Бараўцы з буйной царквы, магчыма, з Вілейкі, дзе да гэтага часу стаіць царква св. Марыі Егіпецкай, якую часта атаясамліваюць з Марыяй Магдаленай. Карціна знаходзілася ў вельмі дрэнным стане і была ўмацаваная, але чарга на яе рэстаўрацыю дайшла толькі праз 30 гадоў: рэстаўрацыю выканала рэстаўратар першай катэгорыі Святлана Ішмаева.

Карціна досыць вялікая (145х118), напісаная на двухчасткавым палатне пэндзлем мясцовага вясковага майстра: Магдалена намаляваная традыцыйна: з агаленымі грудзьмі, доўгімі валасамі, з чэрапам і бізуном для самабічавання; яна сядзіць (хутчэй, «вісіць» з-за вельмі ўмоўнай перспектывы) на нейкім падабенстве радзюжнага грубага крэсла ва ўмоўнай мясцовасці з абрывістымі схіламі і некалькімі зялёнымі дрэвамі (відавочна, маецца на ўвазе пустыня). На Магдалене цёмна-блакітны гімацій і ярка-чырвоны шалік, які раздзімаецца, нагадваючы пра крывавыя раны, і лёгкія сандалі на босых нагах. Рукі Магдалены злучаныя ў малітоўным жэсце, вочы апушчаныя долу — яна пакутуе, а не ўзносіць малітву. Фігура і твар Магдалены намаляваныя аб'ёмна, са святлоценявай мадэліроўкаю, хаця і вельмі

спрошчана. Малюнак графічны, з рэзкімі контурамі тканінаў і прыгожымі сілуэтамі. Усе атрыбуты пустэльніцтва — чэрап (сімвал смерці), разгорнутая кніга, пасудзіна для пахошчаў (згадка пра абмыванне ног Хрыста мірам), а самае галоўнае — крыж з распяццем Хрыста (злева на другім плане), які сведчыць пра адданае служэнне Магдалены Хрысту. Тры галоўкі анёлаў з рознакаляровымі крыламі з нябесаў («залатыя» нябёсы літаральна намаляваныя ў абрамленні шэрых аблокаў) — напамін аб тым, што кожны вечар анёлы забіралі Магдалену на неба, каб залечваць яе раны. Гэтыя дэталі сведчаць аб сімвалічным падыходзе да гісторыі Марыі, жаданні аўтара карціны перадаць не адзін канкрэтны момант яе жыцця, а ўвесь яе шлях. Іканапісны прынцып жыційнасці і барочную экспрэсіўнасць народны майстар змяшаў разам для паўнаты вобраза, не турбуючыся аб чысціні жанра.

Гэты абраз мае не ціхі, малітоўны, а наадварот, — дынамічны характар. Уся яго прастора пранізаная рухам, трывожным асвятленнем, што лічылася абавязковым для алтарнага вобраза, які павінен уздзейнічаць на верніка эмацыянальна, абавязкова прыцягнуць яго ўвагу. Для каталіцкай барочнай карціны характэрныя такая перабольшаная патэтыка і экспрэсіўнасць. Дыдактычны і фальклорны характар гэтага абраза відавочныя: гэта прыклад правінцыйнага барока, наіўны, але абаяльны ў сваёй шчырасці.

У 2014 г. на выставе «Мастацтва рэстаўрацыі. Магія майстэрства» была паказана яшчэ адна ўніяцкая алтарная карціна — «Марыя Магдалена», якую можна назваць узорам мясцовай мастацкай школы. На першы погляд, гэта карціна больш прафесійнага майстра, магчыма, вучня мясцовай, хутчэй за ўсё, віленскай мастацкай школы пачатку XIX стагоддзя. Кампазіцыя карціны — вольны парафраз знакамітага твора італьянскага жывапісца балонскай школы Гвідо Рэні (1575-1642) (1633 г.; Нацыянальная мастацкая галерэя ў Рыме), якую мастак мог бачыць на гравюры Рафаэля Моргена 1801 года: Магдалена ў позе адпачываючай жанчыны сядзіць у скалах, абапіраючыся на руку, і ў задуменні глядзіць у нябесы. Гвідо Рэні спецыялізаваўся на вобразе Марыі Магдалены, і яго карціны часта служылі ўзорам для іншых мастакоў, асабліва ў іканаграфіі твару Марыі. Наш невядомы мастак крыху змяніў кампазіцыю: адной рукою святая абапіраецца на закрытую кнігу, другой — на чашу, у якой яна калісьці прынесла міра, каб абмыць цела Хрыста. Побач на скалах — чэрап, каля ног — бізун як сімвал утаймавання. Мастак не паказвае тут ні перабольшанага руху, ні моцных эмоцый. Відавочна, што фігура і поза святой пісаліся мастаком з натуры, хаця ён і натхняўся ўзорнай карцінаю Гвідо Рэні. Алтарны абраз лаканічны і стрыманы па каларыце: блакітны, белы, шэры і залаты колеры з густам падабраныя мастаком. Галоўны колеравы акцэнт — прыгожае блакітнае адзенне



Гвідо Рэні. «Марыя Магдалена». 1633 г. Нацыянальная мастацкая галерэя ў Рыме.

Магдалены, якое кантрастуе з белым верхам. Яна апранутая па шляхецкай модзе пачатку XIX ст. у сукенку з высокай таліяй і золатою стужкаю.

На адвароце карціны маецца вельмі цікавы надпіс, які дае магчымасць меркаваць пра паходжанне гэтай карціны. Надпіс абвяшчае, што першага верасня 1912 года ў Манькавічах адрэстаўраваў («одновил») карціну нехта Г. Лэнскі («H. Łęski»). Спачатку здалося, што надпіс памылковы і карціну «паправіў» Зянон Ленскі (1864–1929) з Сулы, мастак, які вучыўся ў Парыжы, Мюнхене і Пецярбургу. Але наўрад ці такая дакладнасць надпісу была ўласцівая пецярбургскаму прафесійнаму мастаку, хоць, магчыма, ён па-свойску і прымаў удзел у рэстаўрацыі твора. Слова «одновил» можа азначаць, што ён даў грошай на рэстаўрацыю, а можа, сваёй рукою пачысціў карціну.

Манькавічы — вядомае месца ардынацыі Радзівілаў у Столінскім раёне Брэсцкай вобласці. Але ёсць і іншыя Манькавічы — у былым Вілейскім павеце (цяпер Пастаўскі раен), за 16 кіламетраў ад Паставаў, якія належалі Марыі з Друцкіх-Любецкіх, жонцы Гілярыя Лэнскага (Hilary Łęski,1834–1920), сына мінскага маршалка Аляксандра Лэнскага, сябра віленскага Таварыства сяброў навук, гаспадара некалькіх дамоў і маёнткаў пад Івянцом і Вільняй. Ён быў фундатарам будаўніцтва будынка Таварыства прыяцеляў навук у Вільні і касцёла пад тытулам апостала Паўла (1910) у сваім маёнтку ў вёсцы Войдаты, недалёка ад Вільні. У Манькавічах у сям'і Лэнскіх таксама быў сядзібны дом, дзейнічала з 1871 г. каменная праваслаўная царква св. Георгія, быў пабудаваны і сямейны магільны склеп Друцкіх-Любецкіх. Да 1920 г. Манькавічы належалі да Вілейскага павета, у вёсцы жыло каля 80-ці жыхароў.

Гілярый Лэнскі меў у сваіх маёнтках добрую мастацкую

калекцыю, у тым ліку карціны вядомых італьянскіх і рускіх мастакоў — Івана Айвазоўскага, Ёзафа Грасі і іншых.

Магчыма, абраз быў набыты Ленскім для свайго новага касцёла ці знаходзіўся раней у царкве ў Манькавічах. Але, здаецца, справа ў іншым: Лэнскія, акрамя сына Уладзіміра, мелі дачку Марыю Магдалену (1883–1936), якая ў 1912 г. выйшла замуж за капітана-артылерыста Цэзарыя Халлера дэ Галенбурга, і, магчыма, гэты абраз быў падарункам любімай дачцэ на яе вяселле, бо яна атрымала імя ў гонар гэтай святой.

Марыя Магдалена Халлер (Лэнская) урэшце і атрымала Манькавічы ў спадчыну пасля Першай сусветнай вайны, а з 1936 г., пасля яе смерці, Манькавічамі тры гады валодалі іх нашчадкі — Цэзарый Халлер (малодшы) і Вольга з Халлераў — Падольская. Маёнтак з усімі мастацкімі каштоўнасцямі быў разрабаваны і знішчаны ў гады Другой сусветнай вайны, а карціна ў надзвычай дрэнным стане апынулася ў музеі пасля адной з музейных экспедыцый 1950–1960-х гг. па Віцебшчыне. Яна была адрэстаўраваная ў 2014 г. рэстаўратарам першай катэгорыі Святланай Дзікуць.

І, нарэшце, звернемся да трэцяй выявы Магдалены — прыкладу акадэмічнай рэлігійнай карціны пэндзля акадэміка Апалінарыя Гараўскага (1833–1900), нараджэнца Ігуменскага павета Мінскай губерні. Аб гісторыі стварэння гэтай карціны ўжо пісалася ў часопісе «Наша вера» («Належыць Беларусі…», № 4, 2014 г.). Апалінарый Гараўскі працаваў над ёю ў 1861 г. на радзіме, у вёсцы Уборкі Ігуменскага павета. Гісторыя напісання твора добра дакументаваная ў перапісцы мастака з Паўлам Трацяковым. З іх ліставання вядома, што ў той час мастак знаходзіўся пад уплывам «жаночых галовак» французскага мастака эпохі Барока Жана-Батыста Гроза і хацеў



Жаночая галоўка
(фрагмент карціны
Жана-Батыста Гроза).

сам стварыць карціну ў гэтай стылістыцы.

Французскі жанрыст XVIII ст. Жан-Батыст Гроз (1725–1805) быў надзвычай папулярны ў асяроддзі расійскіх акадэмічных мастакоў, і яго творчасць мела шмат перайманняў. Сентыментальнасць Гроза, звязаная з ідэаламі пастаральнага жыцця на прыродзе філосафаў эпохі Асветніцтва Русо і Дзідро, спалучаецца ў Гроза з дыдактыкаю і маралізатарствам. «Галоўкі» ў стылі Гроза пісаліся мастакамі розных краінаў, іх заказвалі, любілі і збіралі і ў Расіі. У бібліятэцы Акадэміі мастацтваў былі арыгінальныя малюнкі Гроза, пра якія Гараўскі мог ведаць і капіраваць іх. Карціна пісалася А. Гараўскім па ўсіх правілах жанравага жывапісу — з папярэднім эскізам, эцюдамі з натуршчыц, алоўкавыя замалёўкі якіх захоўваюцца ў Дзяржаўным Рускім музеі. Твар яго Магдалены нагадвае «грозаўскія галоўкі», але не літаральна, а па духу. Магдалена намаляваная паўаголенаю, з традыцыйна доўгімі залацістымі валасамі, перад раскрытаю кнігаю ў пячоры, з рукамі, складзенымі ў малітоўным жэсце. Побач з ёю — выява чэрапа. Магдалена намаляваная ў малітве, але без залішняй экзальтацыі. Апалінарый Гараўскі, мастак XIX ст., выбраў уласцівы духу свайго часу традыцыйны шлях станковай сентыментальнай карціны. Яго Магдалена прыгожая не цялеснаю прыгажосцю, а духоўнай. Гэта прыклад акадэмічнага жывапісу вельмі добрай якасці. Надпіс на адвароце карціны сведчыць, што А. Гараўскі меў намер падарыць яе бялыніцкаму касцёлу, што, хутчэй за ўсе, і зрабіў, але карціна паступіла ў музей у 1964 г. ад прыватнага калекцыянера з Тосна, што пад Ленінградам.

Як бачым, сэнс вобраза Марыі Магдалены на працягу XIX ст. не быў значна зменены: традыцыя еўрапейскіх майстроў па-ранейшаму панавала на нашых землях, уплываючы на густы мясцовых майстроў рознага прафесійнага ўзроўню. Алтарныя карціны першай паловы XIX ст. пры іх традыцыйнасці маюць розныя варыяцыі іканаграфіі і кампазіцыі, што сведчыць і аб мастацкім тэмпераменце аўтараў, і аб яго навацыях у жывапісе, і аб адноснай свабодзе ў выбары ўзорных твораў.

Паступова бізун як галоўны сімвал пакаяння (першая Магдалена) змяніўся чашаю з мірам (другая Магдалена), а потым і зусім знік у карціне Апалінарыя Гараўскага, заменены крыжам і кнігаю — сімваламі духоўнага пакаяння. Паступова знікаюць і выразныя прыкметы грэшніцы: аголеныя грудзі, якія народны мастак яшчэ сарамліва прыкрываў тканінамі, і доўгія залатыя валасы ўжо не так прыцягвалі ўвагу.

З 1969 г. Каталіцкі Касцёл ужо не называе Магдалену жанчынаю, якая каецца, але ў мастацкім увасабленні яна застаецца сімвалам жаночай прыгажосці, пакаяння і абрання новага шляху веры. У жніўні 2017 года на захаванне ў Мінск прыбыла частка мошчаў Марыі Магдалены, што яшчэ раз сведчыць пра ўплыў гэтай святой на духоўнае жыццё ўсіх хрысціянаў.

Каменная статуя над фасадам катэдральнага сабора св. Паўла ў Тыране (Албанія).



Жанна Некрашэвіч-Кароткая

# Алюзіі на Пасланні апостала Паўла ў паэме Мікалая Гусоўскага «Пра жыццё і подзвігі святога Гіяцынта»

*Апостал народаў* — такое метафарычнае азначэнне шырока ўжываецца ў дачыненні да святога Паўла[1]. Аднак той выраз у тэксце Вульгаты — *apostolus gentium* (Rom 11, 13), — які паслужыў грунтам гэтай парафразы, перакладаецца найперш як *апостал язычнікаў*[2]. Сапраўды, не толькі сачыненні, але і сама асоба святога Паўла — унікальны і найбольш пераканаўчы для кожнага чалавека прыклад навяртання. Павел быў юдэем з Тарса (Дз 21, 39) і пры нараджэнні атрымаў імя Саўл (па-габрэйску — «пакліканы»). Фактычна яго бацькі далі свайму сыну імя першага цара юдэяў (Саўла), які паходзіў з калена Веніямінава. Пра сябе як пра габрэя з племя Веніяміна гаворыць і сам Павел (Флп 3, 6; Рым 11, 1), аднак пры гэтым ён не засяроджваецца на догматах Закона, праяўляючы талерантнасць да інстытута дзяржаўнай улады. З іншага боку, ён даволі часта выказвае нецярпімасць да тых, хто «выкрыўляе» вучэнне Хрыста. Фрыдрых Ніцшэ назваў выкладзеную ў Бібліі гісторыю жыцця Апостала «*гісторыяй адной з самых амбіцыйных і палкіх душаў, розуму настолькі ж забабоннага, колькі й дасціпнага*». Далей нямецкі філосаф даводзіць: «*Аднак без гэтай выключнай гісторыі, без аблудаў і віхураў гэтага розуму, гэтай душы не было б хрысціянства: мы толькі краем вуха пачулі б пра маленькую юдэйскую секту, правадыр якой памёр на крыжы*»[3]. Ужо ў сярэднявечных помніках усходнеславянскага пісьменства ўзгадванне апостала Паўла робіцца адным з літаратурных топасаў[4].

Важным фактарам выключнай папулярнасці Пасланняў св. Паўла ў хрысціянскім літаратурным дыскурсе з'яўляецца таксама наступная акалічнасць. У каталіцкай літургіі слова ўрыўкі з Пасланняў св. Паўла складаюць прыкладна чвэрць ад агульнай колькасці біблійных чытанняў. Так, паводле нашых падлікаў, за адзін літургічны год (прычым толькі для нядзельных набажэнстваў) чытанні з Пасланняў апостала Паўла складаюць 27 %; у астатнія 73 % уваходзяць чытанні з розных кніг Старога і Новага Запаветаў, у тым ліку Саборныя Пасланні іншых Апосталаў (агульным лікам каля 45-ці біблійных кніг)[5]. Адпаведна, у пропаведзі ўслед за евангельскім чытаннем менавіта ўрыўкі з Пасланняў апостала Паўла каментаваліся часцей за ўсё. Такім чынам, перадусім у святароў-прапаведнікаў, а таксама ў актыўных парафіянаў у працэсе іх рэгулярнага ўдзелу ў набажэнствах заканамерна фарміравалася ўяўленне пра Пасланні св. Паўла як найважнейшую крыніцу навучання ў веры.

Апостал Павел, паслядоўнік паслядоўнікаў, быў надзелены асаблівым дарам: не проста абвяшчаць (*praedicare*) Евангелле, але і нагадваць (*notum facere*) пра яго (1 Кар 15, 1), калі вучэнне Хрыста ўжо ўвайшло ў розумы і сэрцы многіх вернікаў, але, з іншага боку, заўсёды існавала небяспека скажэння Евангелля. Менавіта св. Павел у большай ступені і

---

**Жанна Некрашэвіч-Кароткая** — доктар філалагічных навук, прафесар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Закончыла філалагічны факультэт БДУ, аспірантуру пры кафедры гісторыі беларускай літаратуры, дактарантуру пры кафедры тэорыі літаратуры. Даследуе праблемы гісторыі беларускай літаратуры і культуры XI–XIX стст. Перакладае з лацінскай, польскай, царкоўнаславянскай і старабеларускай моваў. Аўтар манаграфій «Нясвіжская Мельпамена: Драматургія Францішкі Уршулі Радзівіл» (Мінск, 2002), «Беларуская лацінамоўная паэзія: ранні Рэнесанс» (Мінск, 2009), «Беларуская лацінамоўная паэма: позні Рэнесанс і ранняе Барока» (Мінск, 2011); укладальніца кнігі «Ян Вісліцкі. Пруская вайна» (Мінск, 2005), суаўтар акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратуры XI–XVIII ст.» (т. 1; Мінск, 2006), вучэбна-метадычных дапаможнікаў па беларускай літаратуры і лацінскай мове. Навуковы рэдактар перакладу Бібліі, зробленага кс. Уладзіславам Чарняўскім.

часцей, чым многія іншыя прапаведнікі Евангелля, выкрывае і дыскрэдытуе (часам радыкальна) тых, каго ён іранічна называе «вялікімі апосталамі» і хто насамрэч з'яўляецца «фальшывым апосталам», «крывадушным працаўніком», «паслугачом шатана» (2 Кар 11, 5, 11, 13–15). Матыў фальшывага апостальства, а таксама звязаныя з ім развагі пра прыроду самой веры ў Бога, тэма сапраўднай веры былі актыўна запатрабаваныя беларускімі пісьменнікамі-гуманістамі ў XVI ст.

Сямён Падокшын звярнуў увагу на важную асаблівасць беларускай гуманістычнай літаратуры: вучоны адзначаў, што «айчынны рэнесансавы гуманізм часцей за ўсё прымаў выгляд хрысціянскага гуманізму»[6]. Менавіта ў гэтым рэчышчы прачытваецца творчасць беларускага лацінамоўнага паэта Мікалая Гусоўскага. Першапачаткова ён заявіў пра сябе элегічнай паэмай «Песня пра зубра» (1523), ідэйная дамінанта якой абумоўлена задачай абароны хрысціянства ў Еўропе. У «антытурэцкай» па сваёй сутнасці «Песні пра зубра» тэма супрацьстаяння чужой (мусульманскай) веры і культуры ва ўмовах пагрозы з боку імперыі султана Сулеймана Вялікага пададзена ў выглядзе адмысловага алегарычнага супрацьпастаўлення лепшых айчынных традыцый рыцарскага выхавання (увасобленых у постаці зубра — волата беларускай пушчы) духоўнаму заняпаду і карупцыі, якія набылі пашырэнне ў краінах Захаду. У наступным творы — эпінікіі «Перамога над туркамі» (1524) — паэт паказаў, як шчырая вера ў Хрыста дапамагла здабыць перамогу над варожым войскам пад Цérабоўляю ў зусім, здавалася б, безнадзейнай сітуацыі. Пра неабходнасць захавання той веры, за якую пралівалася кроў продкаў, Мікалай Гусоўскі нагадваў рымлянам, назіраючы адраджэнне паганскіх звычаяў у сусветным цэнтры хрысціянства — Рыме (верш «На ахвярапрынашэнне чорнага быка ў Рыме»).

У 1525 г. у сувязі з працэсам кананізацыі манаха дамініканіна XIII ст. Яцка (Гіяцынта) Адрованжа Мікалай Гусоўскі піша і выдае ў Кракаве паэму «**Пра жыццё і подзвігі святога Гіяцынта**». Кампазіцыйна твор падзяляецца на дзве часткі: уласна агіяграфічную і палемічную, а аб'ядноўвае гэтыя часткі і служыць своеасаблівым кампазіцыйным скрэпам усяго твора матыў чысціні («несапсаванасці») веры — адзін з ключавых у сачыненнях апостала Паўла. Носьбітам чыстай веры ў паэме Мікалая Гусоўскага з'яўляецца святы Гіяцынт.

Сваю задачу падзвіжнік бачыў у тым, каб пашыраць веру Хрыста, навучаючы ёй. Падчас свята Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі святы Гіяцынт, адчуваючы набліжэнне смерці, звяртаецца да братоў дамініканаў.

*Тут, абвясціўшы, што Бог да сябе яго*
*хутка пакліча,*
*Сціпла пра **гэтыя тры** ім гаворыць*
*у словах нямногіх.*
*«Будзьце пакорнымі ў сэрцы, прашу,*
*хай вас вечна злучае*
*Повязь любові ўзаемнай, да беднасці*
*майце памкненне,*
*Шчыра ў душы захавайце яго, і вось гэта адзіны*
*Мой запавет вам, які склаў калісь Дамінік,*
*наш фундатар.*
*Словы навукі яго вам пры сконе маім пакідаю».*
(*Hussov. De vita,* 326–331)[7].

Выраз «**гэтыя тры**» (у арыгінале — *haec tria*) — алюзія на знакамітыя словы з *Першага паслання да Карынцянаў*: «nunc autem manet fides, spes, caritas, **tria haec**, maior autem his est caritas» (*А цяпер трываюць вера, надзея і любоў — гэтыя тры, але найбольшая з іх любоў*, 1 Кар 13, 13). Аднак паэт актуалізуе змест Боскай трыяды ў адпаведнасці з манаскім уставам: у дадзеным выпадку гаворка ідзе пра *пакорлівасць, узаемную любоў і імкненне да беднасці.*

Адзначаючы палемічную накіраванасць другой часткі паэмы Мікалая Гусоўскага, польскія даследчыкі Раман Пілат і Стэфан Заблоцкі бачылі ў ёй перадусім крытыку вучэння Марціна Лютэра[8]. Аднак сам спосаб увядзення антылютэраўскай тэмы сведчыць пра тое, што паэт актуалізуе намнога больш шырокае кола маральных аспектаў хрысціянства — прычым менавіта тых, на якіх канцэнтраваў увагу апостал Павел у сваіх Пасланнях.

Віктар Дарашкевіч справядліва адзначаў, што арыгінальная канцэпцыя Мікалая Гусоўскага ў яго паэме пра святога Гіяцынта «грунтуецца на сцвярджэнні адзінства лепшых прынцыпаў раннехрысціянскай маралі, ідэалаў народнай этыкі і рэнесансных элементаў»[9]. Гэта паэтычнае сачыненне не абмежаванае вузкаканфесійнай і нават міжканфесійнай праблематыкай, не закранае складаных дагматычных праблемаў. Усе адступленні маральна-этычнага характару надзіва блізкія да духоўных паўсядзённых развагаў свецкага чалавека — менавіта так гэтыя развагі прадстаўлены ў сачыненнях апостала Паўла.

Святых (праведнікаў) Мікалай Гусоўскі характарызуе наступным чынам:

*Гэта спадзвіжнікі Збаўцы, якіх Ён абраў*
*для саўдзелу,*
*З імі Хрыстос Валадарства Айца*
*ўспадкаеміў супольна,*
*Іх аб'яднаў непарушным саюзам крыві*
*беззаганнай,*
*Сілай Айца напаўняючы, з імем сваім чалавечым*
*Божую моц праявіў, і ўсё сталася з волі Ягонай.*
*Слова было: «Вы багі», прадказана было,*
*бо Ўсявышні*
*Мае, як быццам бы цела, усе прыналежныя*
*члены,*
*Збаўца ж Хрыстос — галава, непаўторная*
*ў велічы годнай.*
(*Hussov. De vita,* 430–437).

Перад намі — арыгінальная паэтычная інтэрпрэтацыя прынятага ў хрысціянскай дагматыцы

ўяўлення пра непасрэдную (цялесную і кроўную) сувязь паміж Богам і Яго сапраўднымі паслядоўнікамі. Найперш гэтая сувязь ажыццяўляецца праз Эўхарыстыю. Сведчанне св. Паўла ў гэтым сэнсе мае асаблівае значэнне. Адна справа, калі пра перамяненне хлеба і віна ў Цела і Кроў Хрыста распавядаюць Евангелісты, якія асабіста прысутнічалі на Апошняй Вячэры (Мц 26, 26–29, Мк 14, 22–25, Лк 22, 17–20). Іншая справа, калі пра гэта піша Апостал, які не ведаў Хрыста ў Яго зямным жыцці, падкрэсліваючы: «*Я прыняў ад Пана тое, што і вам перадаў, што Пан Езус у тую ноч, калі быў выданы, узяў хлеб, узнёс падзяку, паламаў і сказаў...*» і г. д. (1 Кар 11, 23–24). Менавіта св. Павел выказаў думку, што пакліканыя адкрываюць Хрыста як Божую моц і Божую мудрасць (*Dei virtutem et Dei sapientiam*, 1 Кар 1, 24), далучаючыся да гэтага дару праз Эўхарыстыю. Выраз *virtus Dei* (*Божая моц*) у апостала Паўла супастаўляльны з уяўленнем пра Божую моц (*robur Divinum*) у Мікалая Гусоўскага прымяняльна да Хрыста. Менавіта ў такім кантэксце лягчэй зразумець думку паэта пра тое, што Хрыстус напоўніў сваіх паслядоўнікаў сілаю Айца.

Словы «вы багі» (*Vos estis Di*) Ян Пельчар суправадзіў спасылкай на кнігу прарока Ісаі[10]. Аднак у адпаведным фрагменце выраз «вы багі» мае іранічны падтэкст: Ісая разважае пра тое, што балваны, створаныя рамеснікамі, не могуць быць багамі. Прарок як быццам звяртаецца да балванаў: «Абвясціце, што мае стацца ў будучыні, каб пазналі мы, што вы багі» (гл. Іс 41, 23). Выраз «вы багі» адрасуецца таксама суддзям, якія чыняць суд імем Бога (Пс 81, 6, Ян 10, 34), але ўсе яны паўстануць на Божым Судзе. У паэме ж пра святога Гіяцынта ўяўленне пра супольнасць з Богам увасабляецца праз алюзію на вобраз Містычнага цела Хрыста[11], найбольш адэкватнае ўяўленне пра якое сфарміраваў апостал Павел (1 Кар 12, 12–27). Праз гэты вобраз Мікалай Гусоўскі аб'яднаў праведнікаў са Стваральнікам і з Хрыстом.

Для асацыятыўнага аб'яднання Бога Айца і Бога Сына Мікалай Гусоўскі, як і апостал Павел, прыбягае да разнастайных кантэкстаў. Так, выкарыстаўшы біблійны сімвал парасткаў вінаграднай лазы, з якімі Мікалай Гусоўскі параўноўвае праведнікаў, паэт адзначае: «*у іх Сын праяўляе сваю сілу ў той ступені, у якой Айцец усяго сябе разліў у Ім*» (*in eis sua robora profert / filius, ut genitor totum se fundit in illo*; *Hussov. De vita*, 380–381). Імкненне да адзінства, уяўленне пра гэтае адзінства — тое, што, на думку паэта, неабходна вернікам. Адначасова гэта менавіта тое, чаму супрацьстаіць дактрына Марціна Лютэра.

*Кроў Найсвяцейшая Збаўцы мацуе*
*ўсе справы людскія,*
*Лучыць смяротных, і сілы нябёсаў яднаюцца*
*з намі.*
*Я ж слупянею ад жаху тым часам:*
*зусім відавочна*
*Гэтая новая вера, якую вунь Лютэр прыдумаў,*
*Мае на мэце цяпер святатацкія правілы ўвесці,*
*Золата з нашых святыняў забраць*
*і аздобаў пазбавіць.*
(*Hussov. De vita,* 442—447).

Уяўленне пра Найсвяцейшую Кроў Збаўцы, якая мацуе людскія справы і яднае смяротных, асацыятыўна ўзыходзіць да словаў апостала Паўла: «*Цяпер у Хрысце Езусе вы, якія калісьці былі далёка, сталіся блізкімі дзякуючы крыві Хрыста*» (Эф 2, 13).

Асаблівым чынам апостал Павел акцэнтуе факт прыходу Збаўцы ў свет людзей: «***Christus Iesus venit in mundum*** *peccatores salvos facere*» («*Езус Хрыстус прыйшоў у свет, каб збавіць грэшнікаў»;* 1 Цім 1, 15). Далей Павел раскрывае «вялікую таямніцу пабожнасці»: «*Той, хто з'явіўся ў целе, быў апраўданы ў Духу, з'явіўся анёлам, быў абвешчаны язычнікам, знайшоў веру ў свеце і быў узнесены ў славе*» (1 Цім 3, 16). Гэты матыў «аб'яўлення ў целе» Збаўцы, які стаўся сувязным звяном паміж чалавекам і Богам, важны для Мікалая Гусоўскага. Пры гэтым пачатак вершаванага фрагмента нават лексічна набліжаецца да адпаведнага ўрыўка з *Паслання да Цімафея*:

***In mundum Christus ueniens*** *legatus ab alto etc.*
(*Hussov. De vita,* 518–521).

*Вось і з'явіўся Хрыстос як пасланнік*
*з высокага неба.*
*Велічна творачы цуды для ўсіх паасобных*
*народаў,*
*Так і не змог да канца іх павесці дарогаю праўды,*
*Толькі чаму ж? Бо вучыў Ён нязвыклым*
*для свету парадкам.*

Думка пра тое, што Хрыстус так і не здолеў да канца наставіць душы людзей, карэлюе з першай главою Першага Паслання да Карынцянаў: тут св. Павел іранічна супрацьпаставіў Хрыста, які выратаваў вернікаў «вар'яцтвам» прапаведніцтва (*per stultitiam praedicationis*), юдэям, якія патрабуюць знакаў (*signa petunt*), і грэкам, якія шукаюць мудрасці (*sapientiam quaerunt*) (1 Кар 1, 21–22). З усіх чатырох Евангелляў вынікае, што людзей у першую чаргу вабілі цуды Хрыста або адрасаваныя Яму мудрагелістыя пытанні кніжнікаў і фарысеяў, а для самога Збаўцы нашмат важней было навучыць людзей цаніць слова Божае. Менавіта пропаведзь у выглядзе перасцярогаў (*monita*) была асноўным сродкам распаўсюджання вучэння Хрыста для дамініканаў — тых, хто называў сябе Ордэнам Братоў Прапаведнікаў (*Ordo fratrum praedicatorum*).

Мікалай Гусоўскі прызнае, што шлях спасціжэння вучэння Хрыста не такі лёгкі: «*nam mundo contraria quaeque docebat*» («*бо Ён вучыў таму, што было варожым свету*»; *Hussov. De vita,* 517). Насамрэч, цягам стагоддзяў у хрысціянстве ўзнікалі шматлікія цячэнні, якія па-рознаму тлумачылі асноўную для «свету» (*mundo*) праблему выратавання душы. Гэта было дабром для адных і ліхам для іншых. Мікалай Гусоўскі падкрэслівае, што і ў яго час «*mos est mixta bonis mala uendere*» («*ёсць звычай гандляваць ліхам, перамяшаным з дабром»; Hussov. De vita,* 529). Томас Ветэйкіс мяркуе, што гэтыя

словы — алюзія на факт продажу індульгенцый з мэтаю збірання сродкаў для аднаўлення базылікі святога Пятра ў Рыме[12]. Аднак сам кантэкст указвае на тое, што паэт закранае больш агульную праблему — «сапсаванасць» веры. Узгадванне Лютэра ў 528-м радку патрэбна аўтару паэмы пра св. Гіяцынта перадусім для таго, каб заклікаць хрысціянаў берагчы сваю веру і засцерагаць яе ад заняпаду: «*lapsa ruinam / relligio trahat ingentem*» («*вера, якая прыйшла ў заняпад, цягне за сабой вялізную катастрофу*», *Hussov. De vita,* 533–534). Апостал Павел, у сваю чаргу, шмат разважае як пра саму веру (перш за ўсё — Гбр 11), так і пра апраўданне вераю: менавіта гэтае апраўданне ён лічыць сродкам прымірэння з Богам, сувязным звяном паміж Законам і Божай ласкай: «*Апраўданыя паводле веры, мы маем мір з Богам праз Пана нашага Езуса Хрыста*» (Рым 5, 1). Менавіта ў Пасланнях апостала Паўла актуалізуецца паняцце пустой/дарэмнай веры (*exinanita/inanis fides*) (Рым 4, 14; 1 Кар 15, 14) — той веры, якая не прыводзіць да апраўдання, да прымірэння з Богам. Такім чынам, «*вера, якая прыйшла ў заняпад*» (*lapsa relligio*), найбольш небяспечная; з'яўленне вучэння Марціна Лютэра, з пункту гледжання Мікалая Гусоўскага, — найбольш актуальная, блізкая па часе праява гэтага заняпаду, якая павінна выклікаць трывогу.

Як большасць Пасланняў апостала Паўла, так і паэма «Пра жыццё і подзвігі святога Гіяцынта» акцэнтуюць праблему чыста чалавечага — эмацыйнага, псіхічнага, нават пачуццёвага — успрыняцця хрысціянскага веравучэння. «Гармонію паміж фізічным і духоўным аспектамі асобы Паўла дэманструе прадстаўленая ў яго лістах лексіка — антрапалагічная, псіхалагічная і афектыўная»[13], — адзначае Р. Фабрыс. Аўтар падкрэслівае характэрныя факт: з 157-мі выпадкаў ужывання слова «сэрца» ва ўсіх тэкстах Новага Запавету 52 выпадкі прыпадаюць на лісты св. Паўла.

У сваю чаргу, Мікалая Гусоўскага цікавяць тыя аспекты спасціжэння Бога, якія звязаны з фізіялогіяй чалавека, перш за ўсё са зрокам і слыхам. Т. Ветэйкіс адзначаў: «У паэме Гусоўскага пра Гіяцынта ідзе размова не толькі пра наследаванне жыцця Хрыста (*imitatio vitae*), але таксама пра ўнутраную работу, пра стварэнне храма Божага ў сэрцы, чаму павінна садзейнічаць уладкаваная належным чынам сістэма касцёльных абрадаў, зрокава адчувальныя прыклады з жыцця святых (іконы, спевы, арганная музыка)»[14]. Літоўскі даследчык справядліва лічыць, што Мікалай Гусоўскі не абмяжоўваецца крытыкаю дактрыны Марціна Лютэра, а выказвае сваю прыхільнасць да ідэяў аскетычнай набожнасці ў духу *devotio moderna* і вучэння Тамаша Кемпійскага.

На думку Апостала, выратаванне могуць заслужыць не толькі хрысціяне, але і язычнікі, бо да выратавання вядзе не веданне закона, а сумленнае яго выкананне (гл. Рым 2, 14–15). У сваіх разважаннях св. Павел акцэнтуе не канфесійны, а эстэтычны аспект: Божае тварэнне самадастатковае і не патрабуе дадатковага ўмяшальніцтва чалавека: «*назіранне над тварэннем прыводзіць натуральны розум да прызнання быцця Бога*»[15]. Аглядаючы плён тварэння, можна «ўбачыць» Бога: «*Ад стварэння свету Яго нябачныя [рысы]: адвечная Яго моц і боскасць, заўважальныя ў чынах, бачныя, таму няма ім апраўдання*» (Рым 1, 20). Але калі людзі нават «*славу нятленнага Бога замянілі на вобраз тленнага чалавека, птушак, чатырохногіх і паўзуноў. Таму і аддаў іх Бог праз пажадлівасць іхніх сэрцаў нячыстасці, каб яны самі зняславілі свае целы*» (Рым 1, 23–24).



Статуя св. Паўла ў Ватыкане.

Пра няслушнасць ідалапаклонніцтва — перш за ўсё эстэтычную — актыўна разважае Мікалай Гусоўскі, супрацьпастаўляючы прымітыўнасці паганскіх культаў веліч і прыгажосць хрысціянскай літургіі. У апісанні язычніцкага абраду (*Hussov. De vita, 542–545*) адавочны момант дээстэтызацыі: голас паганскага вешчуна — жудасны (*horridus*), ён не гучыць, не лунае, але круціцца і мармыча (*volvitur et murmurat*). Паганства адштурхоўвае аўтара перадусім сваёй грубай прымітыўнасцю; стварэнню адпаведнага ўражання спрыяюць аўтарскія алітэрацыі. З іншага боку, паэт засяроджвае яшчэ раз пільную ўвагу на тым, што Лютэр, крытыкуючы каталіцкую дагматыку, прапанаваў пазбавіць набажэнства пышнасці і каштоўнай атрыбутыкі. Але без гэтага, лічыць паэт-гуманіст, будзе аслаблены выхаваўчы ўплыў хрысціянскай веры.

*Мы ж дазваляем іконы, арганы, касцёльныя спевы,*
*Гучны, на многа ладоў шматгалосы харал.*
*Боскай песняй*
*Марныя вушы свае мы лагодзім. І ўсё гэта трэба*
*Дзетачкам нашым — няхай прывыкаюць*
*да Бога з маленства,*
*Веры пачаткі яшчэ з малаком сваёй маці*
*засвояць,*
*Будуць дужэць, падрастаць, гэтаксама*
*акрэпне і вера.*
(*De vita, 554–559*)[16].

Прызнанне веры ў Бога найвышэйшай духоўнай каштоўнасцю часта ў той ці іншай форме выказваецца ў Пасланнях святога Паўла, напоўненых аптымістычнымі і пазітыўнымі для простага чалавека думкамі пра апраўданне за грахі праз веру (гл. Рым 2, 12–16), праз веру, якая дзейнічае праз любоў (гл. Гал 5, 6); яны тлумачаць саму прыроду веры (гл. Гбр 11). Найвыйшэйшы аксіялагічны ранг набывае вера і ў паэме Мікалая Гусоўскага «Пра жыццё і подзвігі святога Гіяцынта», у якой, на нашу думку (не ў меншай ступені, чым у «Песні пра зубра») паэт рэалізаваў сваю мастацкую праграму. Нездарма ў канцы кракаўскага першадруку з паэмаю пра св. Гіяцынта 1525 года ён змясціў верш «Да чытача», пачатак якога («Нос opus exegi» — «*Я скончыў гэты твор*») нагадвае фінал «Метамарфозаў» («Jamque opus exegi» — «*Вось і скончыў я твор*») — паэмы, якая з'яўляецца цэнтральнай у творчасці Авідзія. Цікавая і наступная заява аўтара:

*Гэткія словы сабраў, што не сцёрты старанная шліфоўкай.*

*Веру іх сэнсам зрабіць — гэта і быў мой намер.*

Такім чынам Мікалай Гусоўскі выразна акцэнтуе хрысціянскую дамінанту свайго твора, якая важнейшая для яго нават за паэтычную вытанчанасць («старанную шліфоўку»).

На прыкладзе святога Гіяцынта паэт паказаў канкрэтныя шляхі дасягнення духоўнай дасканаласці, не ідэалізуючы гэтыя шляхі, пазначыў тую небяспеку, якая падсцерагае на іх хрысціяніна. «Выказаўшы думку пра тое, што душа не павінна пакутаваць з-за сапсаванасці чыноўнікаў і духавенства, паэт выказаў перакананне, што хрысціянін павінен надаваць больш за ўсё ўвагі ўнутранаму самаразвіццю»[17]. Такая ўстаноўка адпавядае настаўленню, сфармуляванаму Апосталам, які сам прайшоў пакутлівы шлях ад Саўла да Паўла: «*Выпрабоўвайце саміх сябе, ці вы трываеце ў веры? Саміх сябе правярайце*» (2 Кар 13, 5). Праз апісанне нялёгкага жыццёвага шляху святога Гіяцынта Мікалай Гусоўскі дасягнуў мэты, сфармуляванай на пачатку паэмы: спалучаць зямную песню са святымі рэчамі (*miscere calamos profanos sacris rebus*). Задача прымірэння *sacrum* і *profanum*, падкрэслівае паэт, не вырашаецца радыкальным шляхам пазбаўлення святыняў іх залатых аздобаў або шляхам скарачэння колькасці святых таямніцаў, што ажыццявілі пратэстанты. Гэтая задача можа быць вырашана нават у межах літаратурнай / прапаведніцкай творчасці. Гэта дэманструюць сачыненні Паўла Тарсяніна, які заяўляў: «*Кажу праўду і не хлушу*» (1 Цім 2, 7). Называючы сябе прапаведнікам, Апосталам і настаўнікам у веры, св. Павел не праяўляў нігілізму ў адносінах да літаратурнай спадчыны антычнасці: цытаваў вершы Эпаменіда, Менандра, Арата. У сваю чаргу, Мікалай Гусоўскі, адштурхоўваючыся ад здабыткаў класічнай літаратурнай спадчыны, апранаючы свае творы ў «шаты» антычнай метрыкі і паэтыкі, шчыра прапагандуе ў сваіх лацінскіх вершах нормы і прынцыпы хрысціянскай маралі.

Як і святы апостал Павел, беларускі лацінамоўны паэт абураецца выпадкамі людской малаверласці або бязвер'я; малітву лічыць найлепшым сродкам, які дапамагае ў вырашэнні складаных жыццёвых сітуацый. Уплыў літаратурнай спадчыны Паўла Тарсяніна адчуваецца найперш у тым, што паэзія Мікалая Гусоўскага (перадусім паэма пра святога Гіяцынта) дыхае жывым словам прапаведніка. Але рэлігійны светапогляд аўтара, які добра ведае жыццё, дастаткова шырокі, таму праз цэнтральную тэму хрысціянскага абавязку выпраменьваюцца патрыятызм і гуманізм паэта. Ён, як і апостал Павел, не перастае захапляцца гармоніяй навакольнага свету, які з'яўляецца плёнам творчай працы Усявышняга; не перастае дзівіцца з самага дасканалага Яго стварэння — чалавека. Праз прызму сачыненняў Мікалая Гусоўскага, падсвечаных ідэямі Пасланняў св. Паўла, чытач атрымліваў шанц усвядоміць сябе чалавекам, які выратаваны Богам і пры гэтым мае права і магчымасць зразумець сутнасць гэтага выратавання, усвядоміць сваю індывідуальнасць, не рэфармуючы веру продкаў, але мадэлюючы ўласны вопыт спасціжэння праўды Хрыста — нярэдка такі ж складаны, як і вопыт самога апостала Паўла.

---

1 Гл., напр.: Святыя Пётр і Павел, апосталы, http://old.catholic.by/2/liturgy/saints/100552.html.

2 У перакладзе Уладзіслава Чарняўскага — «апостал паганаў».

3 Nietzsche F. Morgenröte. Gedanken über die moralischen Vorurteile / Hrsg. M. Holzinger, I, § 58. — München: Hanser, 1954. — S. 50. Пераклад з нямецкай мовы наш. – *Ж. Н.-К.*

4 Гл.: Менцаль Т. «Пяць хростаў Русі» ў помніках даўняга ўсходнеславянскага пісьменства // Наша вера, 2015, № 3, с. 28.

5 Падлікі ажыццяўляліся з апораю на інфармацыю, размешчаную на нямецкім каталіцкім сайце «Das Bibelwerk», гл.: *https://www.bibelwerk.de/home/sonntagslesungen?show=all*. Дзякую за кансультацыйную падтрымку настаўніку гімназіі ў Гарміш-Партэнкірхен (Баварыя) Мацiасу Менцалю. *Für nützliche Hinweise bin ich Herrn Matthias Menzel, Lehrer (Mathematik und katholische Religionslehre) am Werdenfels-Gymnasium in Garmisch-Partenkirchen zu Dank verpflichtet.*

6 Падокшын, С. А. Беларуская думка ў кантэксце гісторыі і культуры. — Мінск: Беларус. навука, 2003. — С. 75.

7 Навуковае перавыданне тэксту паэмы гл.: Nicolai Hussoviani carmina, edidit, praefatione instruit, adnotationibus illustravit Joannes Pelczar, Cracoviae: Typis Univesitatis Jagellonicae, 1894. Тут фрагменты з паэмы «Пра жыццё і подзвігі святога Гіяцынта» прыводзяцца ў нашым паэтычным перакладзе.

8 Pilat R. Historya poezyi polskiey w. XVI i w trzech pierwszych dziesiątkach lat w. XVII (1500 – 1632). Rozwój poezyi łacińskiej w pierwszej połowie XVI w. Rej – Kochanowski — Lwów – Warszawa: Filomata, 1909. — S. 78; Zabłocki S. Hussowski M. // Literatura polska: przewodnik encyklopedyczny, t. 1. — Warszawa: PIW, 1984. — S. 367.

9 Дорошкевич В. И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы: первая половина XVI века — Минск: Наука и техника, 1979. — С. 147–148.

10 Nicolai Hussoviani carmina, edidit, praefatione instruit, adnotationibus illustravit Joannes Pelczar, Cracoviae: Typis Univesitatis Jagellonicae, 1894. — P. 83.

11 Библия. Книги Священного Писания Ветхого и Нового Завета в синодальном переводе с комментариями и приложениями (далее — Библия). — Москва: Российское Библейское Общество, 2004. — С. 1775, прим. 5.

12 *Nicolaus Hussovianus, Opera*, transtulerunt Benediktas Kazlauskas, Sigitas Narbutas, Eugenija Ulčinaitė, Tomas Veteikis — Vilnius: Lietuvių literatūros institutas, 2007. — P. 274, заўв. 173.

13 Фабрис Р. Павел. Апостол народов; пер. с итал. В. Тимофеевой, Москва: Паолине, 2008. — С. 50.

14 Veteikis T. Mikalojus Husovianas epochų ir tapatybių sankirtose // *Mikalojus Husovianas, Raštai* / iš lotynų kalbos vertė Benediktas Kazlauskas, Sigitas Narbutas, Eugenija Ulčinaitė, Tomas Veteikis = *Nicolaus Hussovianus, Opera*, Vilnius: Lietuvių literatūros institutas, 2007. — P. 274.

15 Библия..., с. 1758.

16 Упершыню гэты і іншыя фрагменты перакладу паэмы пра святога Гіяцынта быў апублікаваны ў часопісе «Наша вера» (2007, № 3).

17 Veteikis T. Op. cit. P. 273.




21 том факсімільнага ўзнаўлення кніжнай спадчыны Францішка Скарыны.

# Слова Францішка Скарыны гучыць па ўсім свеце

*9 студзеня сярод лаўрэатаў прэміі «За духоўнае адраджэнне» высокую ўзнагароду за факсімільнае ўзнаўленне і папулярызацыю кніжнай спадчыны Францішка Скарыны атрымаў калектыў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Намеснік дырэктара бібліятэкі па навуковай працы і выдавецкай дзейнасці, старшыня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, кандыдат культуралогіі Алесь Суша адказаў на нашыя пытанні.*



Алесь Суша

*— Алесь Аляксандравіч, вельмі важным вынікам святкавання 500-годдзя беларускага кнігадруку быў выхад 21-га тома факсімільнага ўзнаўлення кніг Францішка Скарыны. Раскажыце, калі ласка, якія ўстановы Беларусі атрымалі гэтыя кнігі? У бібліятэкі якіх краін яны паступілі?*

— Раённыя, абласныя бібліятэкі, установы культуры атрымалі кнігі бясплатна. Выданні трапілі ў самыя буйныя музеі краіны, у акадэміі, інстытуты, навуковыя ўстановы, якія носяць імя Францішка Скарыны. Кнігі былі перададзеныя ў замежныя зборы нацыянальных бібліятэк іншых краін, у беларускія інфармацыйныя цэнтры за мяжой. У нас захоўваюцца прыязныя стасункі з многімі нацыянальнымі бібліятэкамі свету, і факсімільнае выданне стала выдатнаю магчымасцю актуалізаваць усе нашыя кантакты. Кнігі перадаваліся падчас сімпозіумаў, сустрэч і прэзентацый. У далёкіх краінах уручэнне адбывалася праз нашыя дыпламатычныя службы. Акрамя таго, наладжваліся культурныя стасункі, якія ў далейшым паўплываюць на супрацоўніцтва нашай краіны з замежжам. Такім чынам факсімільнае выданне трапіла ва ўстановы 60-ці краінаў свету. З кнігамі Францішка Скарыны можна будзе пазнаёміцца ва ўсіх краінах Еўропы. Прэзентацыі «Кніжнай спадчыны» прайшлі ў Маскве, Кіеве, Рызе, Таліне, Празе, Марціне (там знаходзіцца Нацыянальная бібліятэка

Славакіі), Берліне, Мадрыдзе. Акцыі па святкаванні 500-годдзя беларускага кнігадруку адбыліся ў прадстаўніцтве ААН у Швейцарыі, мерапрыемствы праводзіліся таксама з удзелам беларускай дыяспары.

*— Яшчэ ў 2012 годзе Вы з калегамі распачалі велізарную працу па даследаванні, апісанні і алічбоўцы ўсіх асобнікаў кніг нашага першадрукара, якія знаходзяцца ў Расіі, ва Украіне, у Германіі, Вялікабрытаніі, ЗША. Нацыянальная бібліятэка ініцыявала навукова-даследчую працу «Кніжная спадчына Францыска Скарыны». Аўтарам ідэі факсімільнага ўзнаўлення выступіў дырэктар бібліятэкі Раман Сцяпанавіч Матульскі. Ці не было ў той час звычайных чалавечых сумневаў: а ці знойдуцца сучасныя Багдан Онкаў і Якуб Бабіч, каб фінансава падтрымаць выданне?*

— У 2012 годзе мы праводзілі наш першы Міжнародны кангрэс, прымеркаваны да 90-годдзя Нацыянальнай бібліятэкі. На кангрэсе была агучаная думка пра тое, што набліжаецца 500-годдзе беларускага кнігадруку і трэба добра да яго падрыхтавацца. На працягу апошніх дзесяці гадоў бібліятэка займалася праектамі па факсімільным узнаўленні кніжнай спадчыны. Мы перавыдалі самыя старажытныя рукапісы: «Полацкае Евангелле», «Слуцкае Евангелле», «Баркалабаўскі летапіс». Было зроблена факсімільнае выданне шэрагу твораў Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, літаратурных зборнікаў рознага зместу. Мы шукалі спосабы папулярызацыі кніжнай спадчыны і сем гадоў таму склалі праграму інвестыцыйных праектаў, у якіх былі ўлічаныя самыя розныя магчымасці. Выданне спадчыны Францішка Скарыны здавалася вельмі значным, але рызыкоўным праектам. Мы стварылі адпаведную канцэпцыю, абмеркавалі яе ў сваім калектыве, пакрысе пачалі збіраць кола зацікаўленых людзей. З боку дзяржавы таксама адчувалі падтрымку. У 2011 г. рэалізавалася дзяржаўная праграма «Культура Беларусі», мэтаю якой было стварэнне лічбавай бібліятэкі Францішка Скарыны. Фінансаванне было невялікім, але падтрымка дала важны стымул для далейшых дзеянняў.

У 2013 г. мы заключылі пагадненне з банкам «БелВЭБ», які стаў нашым спонсарам і партнёрам праекта. Звычайна фінансавыя ўстановы працуюць дзеля камерцыйнай ці якой-небудзь іншай выгады, а ў дадзеным выпадку была бачная персанальная зацікаўленасць работнікаў банка: яны чыталі і глыбока аналізавалі выданні Скарыны. Гэты праект пачаў рэалізавацца акурат тады, калі моцна адчуваўся сусветны эканамічны крызіс, праходзілі банкаўскія рэформы, але наш крок быў правільным, ён паўплываў на імідж банка ў краіне. Нам прыемна было папрацаваць з прафесіяналамі.

*— У Вас было благаслаўленне Мітрапаліта Філарэта на гэтую дзейнасць?*

— Так, мы атрымалі благаслаўленне Мітрапаліта Філарэта. Праект мае дачыненне не проста да кніжнай спадчыны, але да Бібліі. Адбывалася ўзнаўленне не простых кніг, а Святога Пісання. Калегі, партнёры і Царква маглі дапамагчы ў навуковым асэнсаванні пытанняў Бібліі.

*— Адкрыццём «Кніжнай спадчыны Францыска Скарыны» стала поўная публікацыя яго прадмоваў, праз якія ён паўстае перад намі як глыбока духоўны пісьменнік. Гэта падаецца вельмі каштоўным. Ці адчулі Вы моцны імпульс веры Францішка Скарыны як хрысціянскага багаслова?*

— Натуральна, што выданне кніг Францішка Скарыны не магло абысціся без аналізу аўтарскіх тэкстаў, створаных самім першадрукаром. Ён пісаў прадмовы і пасляслоўі, дзе тлумачыў не толькі сэнс той ці іншай біблійнай кнігі, але і яе ролю ў жыцці кожнага хрысціяніна. Уражвае глыбокая рэлігійнасць аўтара. Францішак Скарына як тэолаг яшчэ недастаткова адкрыты. Кнігі Скарыны даследаваліся ў кантэксце мастацтвазнаўства, літаратуразнаўства, мовазнаўства. У багаслоўскім жа аналізе яго тэкстаў зроблена няшмат. Публікацыя гэтых твораў (іх можна пабачыць у факсіміле і прачытаць у перакладзе на рускую, беларускую і англійскую мовы) была вельмі патрэбнаю і актуальнаю. На беларускай мове перакладаў прадмоваў Францішка Скарыны не выходзіла ніколі. Алесь Бразгуноў выдатна папрацаваў як перакладчык, захаваўшы стылістыку і вельмі дакладна перадаўшы стыль аўтара.

Прыемна, што гэтая зладжаная праца дала вынік. Над факсімільным узнаўленнем працавала цэлая каманда. Я быў адказным рэдактарам. Навуковыя тэксты да кожнага тома рыхтаваліся супольна мною і Галінай Уладзіміраўнай Кірэеевай, загадчыцай навукова-даследчага аддзела кнігазнаўства. Спецыялісты рыхтавалі пераклады тэкстаў на англійскую мову. Усім працэсам кіраваў наш дырэктар, доктар педагагічных навук, прафесар Раман Сцяпанавіч Матульскі. Добра, што слова Скарыны будзе даступным і зразумелым для шырокай аўдыторыі.

*— Ваша дысертацыя «Культурная спадчына Грэка-каталіцкай Царквы ў Беларусі ў кантэксце дыхатаміі „Усход — Захад“» вызначыла хрысціянскую культурную стратэгію, якую Вы паспяхова працягваеце праз выданне кніг, рэалізацыю выставачных праектаў.*

— Любое дысертацыйнае даследаванне — гэта адказнасць. Маё рашэнне было прадуманым,

бо я абраў прадметам вывучэння культурную спадчыну Грэка-каталіцкай Царквы. Я ўсведамляў, што яна слаба вывучаная. Разуменне таго, што наша краіна страчвае шмат магчымасцяў з-за недастатковай увагі да сваёй багатай культурнай спадчыны, прымушала развіваць гэтую тэму. Яна была для мяне вельмі блізкаю і цікаваю, я шмат падарожнічаў па Беларусі, кантактаваў са святарамі, якія служаць у грэка-каталіцкіх святынях. Для таго, каб знайсці пацвярджэнне сваіх ідэй і гіпотэз, мне даводзілася шмат працаваць у музеях, бібліятэках і архівах Беларусі і замежжа. Прыступючы да «Кніжнай спадчыны Францыска Скарыны», мы не баяліся, што бяром непасільны крыж, бо разлічылі ўсе чалавечыя рэсурсы, далучылі да гэтай справы навукоўцаў, перакладчыкаў і мастакоў, прааналізавалі ўсё вельмі дэталёва.

— *Мастацкае афармленне выдання рабіў сын Гаўрылы Вашчанкі?*

— Вельмі плённым было наша супрацоўніцтва з дызайн-студыяй «*Collection*», якую ўзначальвае Канстанцін Вашчанка. Ён прыдумаў асноўныя мастацкія элементы выдання. Нам вельмі пашанцавала папрацаваць разам.

— *У 2016–2017 гадах Вам удалося ў трох кнігах для дзяцей школьнага ўзросту гарманічна паказаць асобу Францішка Скарыны як навукоўца, медыка, першадрукара, чалавека эпохі Рэнесансу. Вы добра выявілі розныя грані яго асобы.*

— Для мяне ўсё было проста. Па адукацыі я — культуролаг. Культуралогія прадугледжвае агляд розных сфераў культуры. Калі я вывучаю кніжную спадчыну, то заглыбляюся ў яе і ў мастацтвазнаўчым плане, і з пункту гледжання мовазнаўства, літаратуразнаўства, філасофскага і тэалагічнага зместу. Тое ж можна сказаць пра асобу Францішка



Дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі падчас цырымоніі ўручэння прэміі «За духоўнае адраджэнне».

Скарыны: яна была вельмі шматгранная. Для мяне першадрукар быў цікавы як перакладчык, мовазнаўца, паэт, філосаф. Такі падыход дэманструе нам багацце спадчыны Францішка Скарыны.

— *Вы пішаце навуковыя працы па-беларуску. Як сфармавалася Ваша беларусацэнтрычнасць?*

— Я нарадзіўся ў Беларусі, таму не магу не цікавіцца роднаю зямлёю і яе моваю. Мае артыкулы друкаваліся на розных мовах: і па-польску, і па-англійску, і па-ўкраінску, аднак я лепш адчуваю беларускую мову — мову маёй маці, родную і блізкую для мяне. На ёй мне выказвацца нашмат прасцей, таму я пішу менавіта па-беларуску. Праз мову продкаў можна выявіць свой культурны код, закладзены стагоддзямі, і сваю, бацькамі ўзгадаваную асабістасць. Гэта натуральнае пакліканне душы.

— *Якія традыцыі веры і любові да беларускага слова захоўваюцца ў Вашай сям'і?*

— Мае бацькі былі актыўнымі вернікамі, хадзілі ў царкву, вера мела для іх вялікае значэнне. Агульнакультурны фон выхавання перадаваўся праз пакаленні. У школьныя і студэнцкія гады адной з любімых завядзёнак у мяне было наведваць кнігарні, хадзіць на прэзентацыі. Маці была журналістам, працавала ў Белтэлерадыёкампаніі, у Інстытуце культуры Беларусі. Для яе культурная тэматыка была надзвычай важнаю, таму я таксама захапіўся пытаннямі культуры і ў гэтым кірунку атрымаў адукацыю.

Для нашай сям'і традыцыі слова і кнігі вельмі значныя. Мая жонка Ксенія таксама бібліятэкар, мы з ёй супольна працавалі ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, а цяпер яна выхоўвае дзетак — Кастуся і Караліну. Яна была каардынатарам шэрагу кніжных праектаў, звязаных з гістарычнымі кнігазборамі, з бібліятэкай Сапегаў, працавала як складальнік зборніка «Здабыткі». Яе маці была выкладчыцаю, бацька — выдаўцом, таму традыцыі слова для яе з дзяцінства таксама былі блізкімі і важнымі.

— *Шчыры дзякуй за размову, Алесь Аляксандравіч.*

*Гутарыла Эла Дзвінская.*
*Фота аўтара.*



Кс. Юрый Санько, Аляксей Яроменка

# Мінская некраполія «Залатая Горка»

Парафіяльныя каталіцкія могілкі Мінска, якія потым атрымаюць назву «Залатагорскія»[1], былі закладзеныя ў 1793 годзе. Месца пад пахаванні вылучылі на ўсход ад горада на землях роду Вайніловічаў, па Барысаўскім тракце, за скрыжаваннем, дзе ад тракту адыходзіла адна з дарогаў на Сляпянку (1, 2, 19).

Да канца XVIII ст. у Рэчы Паспалітай могілкі традыцыйна знаходзіліся на цвінтарах — агароджанай тэрыторыі касцёлаў і цэркваў. І толькі ў 1770 г. Станіслаў Любамірскі, вялікі маршалак каронны, запатрабаваў ад касцёльных уладаў выносіць месцы пад пахаванні па-за межы гарадоў і мястэчак. А ў 1792 г., 18 лютага, Камісія паліцыі Абодвух Народаў выдала Заканадаўчы Універсал для вольных гарадоў адносна могілак, дзе магістрам гарадоў загадвалася дамовіцца з касцёльнымі ўладамі аб стварэнні могілак за гарадскімі межамі ў кароткі тэрмін — на працягу трох месяцаў (4).

У Мінску не сталі доўга цягнуць, і ўжо ў наступным 1793 годзе новая некраполія была ўтвораная, саступіўшы першынство Гродна, дзе заснаванне новых фарных могілак адбылося адразу, у 1792 годзе. Дарэчы, знакамітыя Росы ў Вільні былі закладзеныя толькі ў 1796 г., а кракаўскія Ракавіцы і ўвогуле ў 1801 годзе. Кальварыйскія ж могілкі ў Мінску былі далучаныя да катэдральнай парафіі горада ў 1798 г.

Ёсць меркаванне, што пахаванні на Залатой Горцы існавалі і раней, нават у XVII ст.[2] і першапачаткова, у 1793 г., могілкі былі заснаваныя як грэка-каталіцкія (24).

Напачатку тэрыторыя Залатагорскіх могілак[3] была падобная ў плане да квадрата памерамі 63 на 63,2/3 сажні (каля 134 х 135 м), пры гэтым плот могілак ад Барысаўскага тракта (сёння пр-т Незалежнасці) знаходзіўся на адлегласці каля 30 м, а паўднёва-заходняя мяжа могілак цягнулася ўздоўж дарогі на Сляпянку (вул. Казлова) (10, 15). У сярэдзіне XIX ст. адзначалася, што могілкі падзяляліся ровам на рыма-каталіцкі і ўніяцкі сектары (24).

У 1796 г. у цэнтры могілак была ўзведзена драўляная капліца, асвечаная пад тытулам Усіх Святых — у стылі класіцызму, з 4-калонным порцікам, вежачкаю-званіцаю над галоўным фасадам і сігнатуркаю над вільчыкам даху алтарнай часткі; у алтары быў змешчаны абраз Найсвяцейшай Марыі Панны з Дзіцяткам; пад капліцаю была створаная крыпта *«для захоронений давних фундаторов и духовных лиц»*. Тытул Найсвяцейшай Тройцы быў нададзены гэтай капліцы ў 1842 г., калі яна, у сувязі са знікненнем фарнага Траецкага касцёла ў Мінску, была ўзведзена ў статус новага самастойнага парафіяльнага касцёла. Драўляны касцёл Найсвяцейшай Тройцы стаяў фронтам да Сляпянскай дарогі, таму можна меркаваць, што галоўны ўваход на могілкі ў той час знаходзіўся з боку сённяшняй вул. Казлова[4] (1-а, 2, 19, 20).

Справа ад уваходу ў касцёл, на адлегласці каля 20–25 м, бочным фасадам да Сляпянскай дарогі, пабудавалі капліцу ў

гонар святога Роха, таксама драўляную, крытую гонтай і з выяваю Усёбачнага Вока Божага на франтоне. У яе алтары змясцілі цудадзейную статую святога, якая, згодна з гарадскім паданнем, уратавала Мінск ад эпідэміі халеры — яна была перанесеная сюды са скасаванага ў 1833 г. кляштара баніфратраў[5] (знаходзіўся на сённяшняй пл. 8 сакавіка перад ракою) (3, 16).

Уласна «халерныя могілкі» знаходзіліся тут жа, на Залатой Горцы, на адлегласці ў 53 сажні (каля 110 м) на ўсход ад адпаведнага кута могілак — сёння гэта месца каля скрыжавання вуліц Чырвоназоркавай і Залатая Горка. Тэрыторыя могілак была невялікаю, а па форме гэта быў прастакутнік памерамі каля 20 на 30 сажняў (прыкладна 40 x 60 м) (10, 15).

Пасля сярэдзіны XIX ст. паўстала пытанне аб пашырэнні могілак, а драўляны касцёл быў прызнаны «зусім струхлелым». У 1861 г. пан Эдвард Ваньковіч,




Фрагмент праекта пашырэння тэрыторыі Залатагорскіх могілак у 1861 г.

уладар маёнтка Сляпянка, згадзіўся ўдвая пашырыць пляц пад пахаванні, дадаўшы са сваёй зямлі трапецыяпадобны надзел у паўночна-ўсходнім напрамку (усходні вугал даходзіў да «халерных могілак»[6]), па плошчы амаль роўны першапачатковай тэрыторыі. У той час тут яшчэ стаяла леснічоўка, гаспадару якой, верагодна, быў выдадзены іншы будынак. Увогуле гэтыя землі знаходзіліся па-за межамі горада. У раёне сённяшняй пл. Перамогі на той час дзейнічала гарадская «Борисовская караульная застава» — кантрольна-прапускны пункт на ўездзе ў горад з боку Барысава: такім чынам мяжа Мінска ў гэтым напрамку пачыналася менавіта адсюль. Як бачна на праекце пашырэння могілак, у той час квартал паміж сённяшнімі вуліцамі Казлова і Захарава займалі землі парафіі касцёла Найсвяцейшай Тройцы; тут змяшчаўся шпіталь-«багадзельня» (прыкладна там, дзе сёння крама «Акіян»; а другі парафіяльны шпіталь стаяў па дыяганалі праз скрыжаванне — тут, у «жаночым» і «мужчынскім» будынках, вернікі даглядалі старых парафіянаў, якія засталіся без родзічаў і сродкаў на жыццё)



Фотаздымак Залатагорскіх могілак Х. Руефа, зроблены з самалёта. Верасень 1941 г.

і шэраг гаспадарчых пабудоваў (10, 15).

На вылучанай зямлі ў тым жа 1861 г. пачалося і ўзвядзенне новага касцёла, цяпер мураванага, у стылі неаготыкі, які мы добра ведаем і сёння, атынкаванага набела, з высокаю спічастаю вежаю-званіцаю па-над выцягнутым аб'ёмам малітоўнай залы, падтрыманай моцнымі контрфорсамі. Будаўніцтва, якое вялося паводле праекта акадэміка Санкт-Пецярбургскай акадэміі мастацтваў М. Сівіцкага, было скончанае праз тры гады, і 1 лістапада 1864 г. новая святыня была асвечаная пад трайным тытулам — у гонар Найсвяцейшай Тройцы, Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны і святога Роха. Касцёл узнёсся на мяжы першапачатковай і новай частак могілак і цяпер быў разгорнуты галоўным фасадам на Барысаўскі тракт. Сюды ж быў перанесены і галоўны ўваход на могілкі — яго ў 1893 г. пазначыла мураваная неагатычная брама, фланкаваная дзвюма брамамі і завершаная стромкімі пінаклямі з крыжамі. Уся тэрыторыя могілак была абнесеная штыкетным плотам (7, 17).



Мецэнатка,
дзяячка беларускай культуры
Магдалена Радзівіл.

Драўляны касцёл быў прыстасаваны пад жалобную капліцу, а каплічка святога Роха — пад «склад церковных вещей, оставшихся после упразднения в городе Минске монастырских церквей [т.е. костелов]»; (цудадзейная статуя знайшла сваё месца ў правым бочным алтары новага касцёла); пры гэтым у 1893 г. залатагорская некраполія была афіцыйна зачынененая для новых пахаванняў (24).

Капліца святога Роха дастаяла да 1901 г., на яе месцы і была пабудавана драўляная каплічка «Укрыжаванне». Мінск жа працягваў разрастацца, і тэрыторыя Залатагорскіх могілак была аточаная кварталамі прыватных сядзібаў. Пры гэтым напрыканцы XIX ст. цалкам зніклі «халерныя могілкі», аб чым сведчаць мапы горада — у гэты час уся тэрыторыя была забудаваная прыватнымі жылымі хацінамі з гаспадаркамі[7] (3, 10, 17, 24).

Працягвала развівацца і Траецкая парафія — пры касцёле дзейнічалі школа арганістаў, Траецкае брацтва, а колькасць вернікаў складала амаль 9 000 чалавек. Касцёл Найсвяцейшай Тройцы, разлічаны на 500 парафіянаў, ужо не мог змясціць усіх сваіх вернікаў, і ў 1910-я гг. варшаўскі архітэктар Дзяконьскі распрацаваў праект новай велічнай дзвюхвежавай трохнававай базылікі з чырвонай вонкавай цэглы ў стылі неаготыкі, разлічанай на 3 000 вернікаў. Аднак здзейсніцца гэтым планам перашкодзіла Першая сусветная вайна, рэвалюцыя і ваяўнічы атэізм... (3, 9).

У 1937 г. касцёл быў зачынены савецкімі ўладамі, са святыні былі вынесеныя алтары, арганы, касцёльнае начынне; знікла і знакамітая статуя святога Роха. Пры пабудове Дома спецыялістаў (цяпер тэрыторыя д. 44 па пр-це Незалежнасці) быў зрыты рэльеф перад касцёлам і знішчана прыгожая неагатычная брама. Другая сусветная вайна пашкодзіла Траецкі касцёл больш за астатнія святыні горада — ад яго застаўся толькі перыметр абгарэлых сценаў; тэрыторыя ж могілак, як сведчаць фотаздымкі, была моцна разрытая варонкамі ад выбухаў[8]. Пасля вайны будынак былой святыні трошкі падлаталі і зрабілі тут кнігасховішча (1, 11).

У 1949 г. творчы калектыў дойлідаў пад кіраўніцтвам архітэктара М.В. Баршча спраектаваў забудову кварталаў уздоўж галоўнага праспекта нашай сталіцы ад пл. Перамогі да пл. Я. Коласа (на той час — Камароўская плошча)[9]. Як бачна на праекце, трасіроўка вуліц, якія атачалі квартал За-




Фрагмент мапы горада Мінска, 1892 г.
Урочышча Доўгі Брод і Залатагорскія могілкі (РДГА).



Выгляд Залатагорскіх могілак. Фотаздымак пач. XX ст.

латагорскіх могілак, амаль не змянілася: Барысаўскі тракт у гэтым месцы стаў вул. Савецкай (сёння пр-т Незалежнасці); дарога ў Сляпянку, яшчэ ў XIX ст. стаўшы вул. Даўгабродскай[10], так і засталася Даўгабродскай, страціўшы толькі пачатак пад вул. Казлова; вул. Залатагорская стала Чырвоназоркавай (Краснозвёздной); а завулак Кладбішчанскі стаў вул. Радыста (потым — Радыстаў, сёння — вул. Залатая Горка). Пры гэтым здадзены ў 1954 г. дом № 44 па пр-це Незалежнасці не закрануў гістарычнай тэрыторыі могілак (21, 22, 24), чаго нельга сказаць аб забудове вул. Казлова — тут планавалася ўзвесці жылёвую забудову кшталту дамоў 34–38 на пр-це Незалежнасці, а ў выніку пазней, у 1973 г., пабудавалі Палац мастацтва (вул. Казлова, 3). Створаная пры гэтым капітальная падпорная сцяна знішчыла паўночна-заходні схіл залатагорскага ўзвышша. Паўднёва-ўсходняя частка могілак была забудаваная, паводле праекту 1949 г., дамамі № 1 і 3 па вул. Залатая Горка[11]. Усходняя, большая, частка могілак адышла ў ведамства Мінскіх тэлефонных сеткаў, частку паўночнай занялі прыватныя гаражы (22, 24).

Такім чынам, будынак былога Траецкага касцёла, акружаны высокімі дамамі, апынуўся ўнутры квартала. А між тым яшчэ на пачатку XX ст. адзначалася, што касцёл, невялікі па аб'ёме, успрымаецца велічным дзякуючы добраму праглядванню ў навакольнай забудове. З іншага боку, трэба адзначыць, што менавіта прыхаванасць касцёла ў сярэдзіне квартала дапамагла зберагчы будынак святыні ад знішчэння.

Пасля рэстаўрацыі 1983 г. (праект быў выкананы напрыканцы 1970-х гг., арх. А. Малахоўскі)[12] будынак былога касцёла, атрымаўшы статус помніка архітэктуры рэспубліканскага значэння, быў прыстасаваны пад залу камернай музыкі Белдзяржфілармоніі. Што ж датычыцца тэрыторыі могілак, ад іх на паверхні зямлі не засталося анічога (5, 24).

Аднак не прайшло і 10-ці гадоў як становішча цалкам змянілася. З 1991 г. у Траецкім касцёле ў вольны ад канцэртаў час аднавіліся набажэнствы, а 16 жніўня 1998 г. статуя святога Роха, выкананая з бронзы скульптарам Валяр'янам Янушкевічам, ізноў заняла сваё месца ў правым бочным алтары[13] (1).



Каплічка «Укрыжаванне», пабудаваная на месцы капліцы св. Роха. Фотаздымак пач. XX ст..

Нарэшце 5 ліпеня 2006 г., згодна з распараджэннем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 5 мая таго ж года, будынак святыні быў перададзены вернікам цалкам. З-пад зямлі былі выкапаныя



Фрагмент праекта забудовы вул. Даўгабродскай, 1949 г. (22).

і размешчаныя каля касцёла некалькі надгробкаў. У верасні 2017 г. з Прылукаў былі вернутыя каля дзясятка надмагілляў, вывезеныя туды за савецкім часам; яшчэ адно надмагілле было знойдзена ў сутарэннях д. № 44. З гэтых матэрыялаў і плануецца зрабіць мемарыял страчаным Залатагорскім могілкам.

31 кастрычніка 2017 г. рашэннем Адміністрацыі Савецкага раёна г. Мінска № 1068 за парафіяй Траецкага касцёла была замацаваная тэрыторыя[14], якая дагэтуль належала Мінскім тэлефонным сеткам і апошнія гады была пакінутая без карыстання — пляц з вышкаю і параю будынкаў. Менавіта тут вернікі парафіі, разам са сваім пробашчам кс. Юрыем Санько, марацъ ствараць і мемарыял страчаных могілак, і малітоўны вулічны пляц.

Траецкая парафія працягвае сваё жыццё. Новы эпізод упісаны і ў гісторыю Залатагорскай некраполіі: 17 лютага 2018 г. у касцёле знайшоў вечны супакой прах Магдалены Радзівіл (+1945)[15]; згодна з яе тэстамэнтам, вядомая мецэнатка і дзеячка беларускага культурнага руху нарэшце пахавана ў Мінску: урна з яе прахам умураваная ў левую бочную сцяну малітоўнай залы касцёла Найсвяцейшай Тройцы.

**ЛІТАРАТУРА І ІНШЫЯ КРЫНІЦЫ**

1. Залатагорская святыня. Юбілейны альбом з нагоды 150-годдзя пасвячэння касцёла. — Мінск, 2014.
1-а. Каталіцкія святыні. Мінска-Магілёўская архідыяцэзія, I частка. — Мінск, 2003.
2. N. Rouba. Przewodnik po Litwie i Bialejrusi. — Wyd. III. — Wilno, 1908.
3. Ks. J. Żyskar. Nasze kościoły. — Warszawa, 1913.
4. Я. Розмус, Ю. Гардзееў. Фарныя могілкі ў Гродне, 1792-1939. // Наша вера. — № 3, 2003.
5. Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. — Мінск, 1985–1988.
6. I. B. Chodźko. Diecezja Mińska około 1830 roku. T. 1–2. Wyd. Marian Radwan. — Lublin, 1998.
7. Калекцыя фотаздымкаў канца XIX — пач. XX ст. з аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.
8. Памятная книжка виленского генерал-губернаторства на 1868 г. под ред. А.М. Сементовского. — С.-Пб., 1868.
9. Порядок богослужения для духовенства римско-католического исповедания Виленской епархии на: а – 1878 г., б – 1885 г., в – 1895 г., г – 1929 г., д – 1937 г.
10. Калекцыя мапаў г. Мінска XVIII–XX стст. Прыватны архіў Паўла Растоўцава.
11. Артыкул, прысвечаны гісторыі Залатой Горкі [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу: https://www.svaboda.org/a/zalatahorskija-mohilki/28005166.html.
12. T. Czerniawska i A. Jaroszewicz. Rzymsko-katolicki cmentarz Kalwaryjski w Mińsku na Białorusi. — Warszawa, 1996.

***Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі***

13. Геометрический план Долгобродской улицы. 1896 г. — Ф. 1, воп.1, спр. 2657, с. 35.
14. Описание недвижимых имуществ квартала № 318 г. Минска. 1910 г. — Ф. 1, воп. 1, спр. 5061, с. 213.
15. План местности римско-католического кладбища, называемого Золотая Горка, состоящего за чертою г. Минска <…> при Борисовской почтовой дороге <…>. Составлен 06.05.1861 г. Землемер Артемьев. — Ф. 24, воп. 1, спр. 1203, с. 30–30а.
16. О постройке нового костела на Минском католическом кладбище Золотой Горке. 1856 г. — Ф. 136, воп. 1, спр. 27294.
17. Аб рамонце касцёла на могілках Залатой Горкі. 1849–1869 гг. — Ф. 1781, воп. 24, спр. 3383.
18. Инвентарное описание Минского Св. Троицкого Золотогорского костела. 1908 г. — Ф. 1781, воп. 26, спр. 1497, с. 30.
19. Інвентары парафіяў і касцёлаў Мінскага павета за 1807–1810 гг. — Ф. 1781, воп. 27, спр. 311.
20. Записка о древности Минского костела на Троицкой горе. — Б.д. (1840-е гг.). Ф. 1781, воп. 32, спр. 20, с. 14–15.

***Беларускі дзяржаўны архіў навукова-тэхнічнай дакументацыі***

21. Проект застройки южной стороны Комаровской площади. 1954 г. — Ф. 3., воп.3. спр.1167, с. 1.
22. Проект застройки ул. Долгобродской, генплан. 1949 г. — Ф. 10, воп. 1, спр. 80, с. 1.

23. РУП «Минское городское агентство по государственной регистрации и земельному кадастру». Отдел по технической инвентаризации. Архив (технические паспорта домовладений).
24. Праектны філіял ОАО «Белрэстаўрацыя». Краткая историческая справка «Территория костела Найсвятейшей Троицы (св. Роха) на Золотой Горке (пр-т Независимости, 44-а)». Ведущий специалист В. Н. Первышин. — Мінск, 2016.

---

1 «Існуюць розныя паданьні пра паходжаньне назвы. Найбольш трапную версію ... дае наш зямляк Павал Шпілеўскі, які ў сярэдзіне XIX стагодзьдзя рыхтаваў гістарычны нарыс, прысьвечаны Менску. Піша, што калісьці менчукі любілі адпачываць на лясістай ускраіне гораду, землі якой належалі абшарніку Ванькавічу. Усё ўзвышша займалі бярозы. І калі ўвосень падарожнікі ўяжджалі ў Менск — тут праходзіла галоўная траса, якая зьвязвала горад з Лагойскам, Барысавам, Смаленскам, — яны бачылі фантастычную карціну, „залатую горку“. Усе бярозы ўбіраліся ў жоўтае лісьце. Адсюль і пайшла назва» *(11).* «Паводле іншай версіі, у гэтых мясцінах нібы знаходзілі шмат залатых скарбаў. Рэлігійнае тлумачэнне паходжання гэтай назвы звязана з тым, што калі ксёндз пасля Імшы абвясціў збор сродкаў на пабудову святыні, людзі склалі на зняты ім арнат цэлую горку залатых манетаў» *(1).*

2 Мажліва, менавіта з гэтым звязаны вядомы здымак траўня 1943 г. з Бундэсархіва, на якім Вільгельм Кубэ разам з нямецкімі вайскоўцамі разглядае старажытныя залатагорскія пахаванні. Вядома, што гаўляйтар цікавіўся старажытнасцю і нават падтрымліваў археалагічныя даследаванні ў акупаваным Мінску.

3 «По сведениям 1856 г. золотогорское кладбище разделялось рвом на «католический» и «православный» участки. Захоронения католиков занимали территорию перед костелом, православных — заднюю часть кладбища за храмом» *(24).* Праваслаўны сектар на Залатагорскіх могілках утварыўся з пауніяцкага. Вядомыя нават спрэчкі паміж уніяцкім і каталіцкім духавенствамі аб тым, каму першапачаткова належалі гэтыя могілкі. Тым не менш, на мапе Мінска, датаванай каля 1800 г. (у гэты час аб скасаванні Уніі нават гаворка не ідзе), могілкі пазначаныя як «католиц. Кладбище» *(10, 24).* Хутчэй за ўсё, Залатагорскія могілкі спачатку пазіцыянаваліся як сумесныя для абодвух абрадаў Каталіцкай Царквы (і грэцкага, і рымскага), у той час як Кальварыйскія лічыліся толькі рыма-каталіцкімі.

4 «Кладбище с деревянными костелом и часовней представлено на панорамном рисунке северо-восточных окрестностей Минска, выполненном в 1840-х гг. Чеславом Монюшко» *(24).*

5 У сваю чаргу статуя святога Роха трапіла да баніфратраў з мінскага кляштара рахітаў, які дзейнічаў у горадзе з 1752 г., але ў 1821 г. быў аб’яднаны з кляштарам баніфратраў. Галоўным алтаром у рахіцкім касцёле лічыўся алтар менавіта св. Роха, верагодна, у ім і была ўсталяваная статуя святога *(1-а).*

6 Так планавалася паводле праекта 1861 г., аднак у выніку паміж «халернымі» і Залатагорскімі могілкамі ўсё ж засталася адлегласць каля 50 м *(10).*

7 Апошні раз на мапах горада «халерныя могілкі» пазначаныя ў 1888 г.*(10).* Калі ж дакладна яны ўзніклі, невядома. Эпідэміі халеры фіксаваліся ў Мінску і ў XVII, і ў XVIII, і ў XIX стст. (1603, 1655, 1706 гг.); найбольшымі ахвярамі вызначылася эпідэмія 1848 г., калі загінула больш за 1000 жыхароў горада *(24).* Верагодна, у раёне Залатой Горкі «халерныя» пахаванні рабілі пасля заснавання аднайменных каталіцкіх могілак, паколькі «халерныя» былі дакладна па-за імі. Аднак, хутчэй за ўсё, заснаваныя яны былі да 1848 г., таму што цудадзейная статуя св. Роха, якая, як сведчыла паданне, «уратавала Мінск ад халеры», з’явілася на Залатагорскіх могілках у 1830-я гг., пасля закрыцця гарадскога кляштара баніфратраў у 1833 г., імаверна ў 1836 г., калі будынкі баніфратраў былі прададзеныя «с публичного торга» *(1-а).* Цяжка ўявіць, што культ святога Роха быў створаны ў Мінску на працягу 10-ці гадоў пры адсутнасці баніфратраў і рэпрэсіях з боку царскіх уладаў Каталіцкага Касцёла пасля паўстання 1831 года.

8 Вядомы здымак 1940-х гг., на якім бачна, што тэрыторыя могілак ад праспекта адгароджаная калючым дротам на слупах. Аднак хто і з якой нагоды гэта рабіў, застаецца пакуль нявысветленым. Мажліва, гэта агароджа руінаў Дома спецыялістаў.

9 На праекце, на добраўпарадкаванні каля касцёла, бачна скарачэнне «КЛ» — верагодна, так праектанты пазначылі былое «кладбище». Мажліва, паводле праекта планавалася пакінуць каля касцёла хоць некаторую частку старажытных пахаванняў *(22).*

10 Гэтыя мясціны, у складзе маёнтка Сляпянка, што належалі роду Ваньковічаў, былі вядомыя як урочышча Доўгі Брод каля в. Камароўка *(10).*

11 На месцы крамы «Акіян», праз вуліцу ад могілак, стаяў дом працаўнікоў Кінастудыі (па інш. зв. — інтэрнат Наргаса). Будынкі, значна пашкоджаныя падчас вайны, былі цалкам разабраныя напрыканцы 1940-х гг. *(«Вячэрні Мінск», 14.12.2005).*

12 У 1979 г. быў выкананы і першы праект ахоўнай зоны помніка; аўтар І. Царыкаў *(24).*

13 Ён жа аўтар і статуі Найсв. Марыі Панны ў левым алтары, насценных стацый, Укрыжавання ў нартэксе. Пазней ён выканаў барэльефны круглы медальён у гонар зніклых могілак пры ўваходзе на пляцоўку касцёла.

14 У 2017 г. праектанты ОАО «Белрэстаўрацыя» распрацавалі новы праект ахоўнай зоны, згодна з якім увесь квартал былых Залатагорскіх могілкаў павінен ахоўвацца ад забудовы.

15 Магдалена Радзівіл (1861–1945) належала да графскага каталіцкага роду Завішаў; нарадзілася 26 чэрвеня (8 ліпеня па новым стылі) 1861 г. у Варшаве ў сям’і графа Яна Завішы (1822–1887) і графіні Марыі Квілецкай. Была ахрышчана, атрымаўшы імя Марыя Магдалена. Дзяцінства правяла ў Ігуменскім павеце Мінскай губерні — у родавых маёнтках Жарноўкі і Кухцічы. У Мінску доўгі час арандавала сем пакояў першага паверха ў даходным доме Абрампольскага (дом знаходзіцца справа каля Чырвонага касцёла на пл. Незалежнасці, вул. Савецкая, 17). М. Радзівіл мела дачыненне і да Залатагорскай парафіі горада: перад Першай сусветнай вайной яна для дабрачынных мэтаў набыла будынак на Кладбішчанскім завулку, 3 (т. зв. дом Баравіка; сёння на гэтым месцы — жылы дом № 3 па вул. Залатая Горка).

У час падарожжа па Еўропе Магдалена пазнаёмілася ў Вялікабрытаніі з маладым князем Мікалаем Радзівілам (1880–1914), які быў пляменнікам нясвіжскага ардыната Антонія Радзівіла і стаў яе мужам.

Фінансавала выдавецтва «Загляне сонца і ў наша аконца», Беларускае выдавецкае таварыства, газету «Беларус», таварыствы цвярозасці, шпіталі, сельскія крамы і інш. Адкрыла беларускамоўныя школы ў сваіх уладаннях у Кухцічах, Уздзе, Каменцы. Яе маёнтак у Кухцічах (цяпер пас. Першамайск Уздзенскага р-на) наведвалі Вацлаў Іваноўскі, Іван і Антон Луцкевічы, Раман Скірмунт і інш. дзеячы нацыянальнага беларускага руху. Аказвала матэрыяльную падтрымку ў выданні першых кніг Максіма Багдановіча, Канстанцыі Буйло і інш.

З канца 1918 г. жыла у эміграцыі ў Польшчы, Літве, Германіі. З 1932 г. жыла ў Швейцарыі. Дапамагала беларускім арганізацыям у Заходняй Беларусі, літоўскаму і габрэйскаму культурным рухам. Памерла ў 1945 г. у Фрыбургу (Швейцарыя). Сям’я выканала апошнюю волю памерлай — быць пахаванай у Мінску, з якім была звязаная вялікая і найлепшая частка яе жыцця.



Ігар Сурмачэўскі

# Палескі іканастас

Да разумення сакральнай сутнасці абразоў я прыйшоў доўгім шляхам рэстаўрацыі, якая стала справаю майго жыцця па дзвюх прычынах: першая — гэта захапленне з самага дзяцінства светам прыгожага; а другая — сам час падштурхнуў мяне да гэтага карпатлівага і цікавага занятку. Гэта было ў канцы 1980-х. Дызайн інтэр’ераў і вітражы, якімі я займаўся пасля інтстытута на мастацкім камбінаце ў Мінску, сталі непатрэбным творчым заняткам у час вялікіх пeратрусаў у грамадстве. Трэба было шукаць нешта новае, каб проста выжываць. У былой краме «Філатэліст», якая мясцілася насупраць нашага мастацкага музея, адчынілася першая прыватная антыкварная крама. Вось там, у авантурным асяроддзі дылераў і калекцыянераў, я ўпершыню навобмацак адчуў, што такое рэстаўрацыя, што такое наогул сапраўднае сакральнае мастацтва.

Вядома, у інстытуце я вывучаў і іканапіс, тым больш, што ўвесь жывапіс старых майстроў Еўропы абапіраецца на біблейскія сюжэты. Але на пачатку 1980-х натхненне маладых талентаў БДТМІ лунала недзе ў абстрактных кампазіцыях Кандзінскага і Мандрыяна, корпалася ў падсвядомасці сюррэалістычных летуценняў Далі і Магрыта, а іканапіс успрымаўся хутчэй як падмурак, на якім развіваўся жывапіс эпохі Адраджэння і Барока, ці як аснова для творчасці Казіміра Малевіча. Ніхто з выкладчыкаў нашай ВНУ ў перыяд развітога сацыялізму не браў на сябе смеласць развіваць у сваіх вучнях пачуццё малітоўнага суперажывання.

І вось у краме «Філатэліст», які ператварыўся ў «антыкварную Мекку» беларускай сталіцы, я заняўся цалкам новай для сябе справаю — рэстаўрацыяй. Я атрымаў магчымасць мець зносіны з іконаю не толькі як абстракны глядач у музеі, але і як непасрэдны «лекар» старасвет-

**Ігар Сурмачэўскі** — мастак, рэстаўратар, калекцыянер. Нарадзіўся 3 кастрычніка 1961 года ў вёсцы Вязань Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці (былы маёнтак Багдашэўскіх). У 1979–1984 гг. вучыўся ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце на кафедры «Інтэр’ер і абсталяванне». З 1988 года ўвайшоў у склад моладзевай секцыі Саюза мастакоў БССР. З 1980 года збірае калекцыю рэчаў і дакументаў па гісторыі беларускай культуры, якой цікавіўся яшчэ з дзяцінства. З 1988 года займаецца рэстаўрацыяй абразоў і жывапісу. У 2010 годзе ўзнагароджаны ордэнам святой Еўфрасінні Полацкай за заслугі перад Беларускай Праваслаўнай Царквою.

чыны. Я мог узяць абраз у рукі, уважліва разгледзець жывапіс, адчуць цяжар кіпарыснай дошкі, падзівіцца ззянню сусальнага золата. Дзесьці з далёкай падсвядомасці пачалі выплываць забытыя словы выкладчыка па матэрыялазнаўстве: крэйдавы ляўкас на асятровых лушпайках, «вытрыманы» бялок для палімента; успомнілася, як трэба «падпусціць» гарэлку пад лісток сусальнага золата, як навесці люстраное ззянне агатавым зубком — усё гэта было ў нас, студэнтаў БДТМІ, толькі на словах і ў занатоўках згубленых канспектаў. На практыцы, на жаль, нічога з сакрэтаў старых майстроў мы не выкарыстоўвалі. Мне давялося пачынаць усё з нуля, на ўласным вопыце спасцігаць асновы іканапіснай граматы, без якой немагчыма было прыступіць да працы з сакральнымі рэчамі. Аднак першая думка, якая прыйшла мне ў галаву, калі я ўзяў у рукі сапраўдную старую ікону на рэстаўрацыю: «А ці не падробка гэта?» Першы абраз, які трапіў да мяне на рэстаўрацыю, быў кшталту «хутканапісаных»: ліпавая дошка выглядала так, быццам яе змайстравалі ўчора... У той час, а гэта быў 1990 год, мне здавалася, што кожная ікона павінна быць шэдэўрам не ніжэй за Тройцу Андрэя Рублёва ці працаю сапраўды таленавітага іканапісца. А ў мінскую антыкварную краму пайшоў проста вал абразоў з Расіі канца XIX — пачатку XX стагоддзя так званага сярэдняга кшталту, да якіх рукі савецкіх рэстаўратараў проста не дайшлі. Падчас рэлігійнага нігілізму музейныя работнікі ратавалі з зачыненых храмаў у першую чаргу толькі шэдэўральныя рэчы. І наогул, у калекцыянераў з новаспечаных беларускіх бізнесменаў, якіх былі адзінкі, попытам карысталіся яркія расейскія іконы, дзе фон зіхаціць ад залатога бляску, — «сусалкі». Беларуская інтэлігенцыя, яшчэ больш збяднелая падчас пераменаў, таксама жадала «далучыцца да старажытнасці», але ў межах сваіх магчымасцяў — за 10-20 долараў, таму часта на мой рэстаўрацыйны стол траплялі «хутканапісаныя» іконы з вёсак Сярэдняй Русі і Паволжа. Але маю ўвагу прыцягнулі іншыя абразы — незвычайныя, упрыгожаныя па вуглах букетамі і нават гірляндамі з велізарных яркіх кветак. Іх прывозілі мясцовыя антыкварныя дылеры з Віцебска, Бабруйска, Рэчыцы і Гомеля. Абразы былі напісаныя на тонкіх сасновых дошках, змацаваных дзвюма невялікімі шпонкамі; радзей аснова была з дуба, і ўсе яны былі амаль аднаго памеру — 53х42 см. Такія іконы ў асяроддзі антыкварных дылераў, дакладней — «купі-прадай», мелі своеасаблівыя назвы: народныя, «народкі», вуніяцкія, беларускія, украінскія, палескія, вясковыя... Гэтыя іконы прыцягвалі мой позірк сваёю дзіцячаю адкрытаю наіўнасцю і душэўнаю цеплынёю. Трыццаць гадоў таму я не бачыў такіх «народных» іконаў у нашых музеях, таму гэтыя простыя сакральныя творы я мог параўнаць толькі са сваім «нагледжаным» вопытам на пачатак 1990-х: з наіўным жывапісам Пірасмані, з роспісамі «агоўскіх куфраў», з давыд-гарадоцкімі кветкамі Д. Цубера, з таямнічым светам Я. Драздовіча і А. Кіш.

Народныя іконы для мяне былі роднымі і зразумелымі. У іх прачытвалася кампіляцыя таго прыгожага, дзіўнага і нават казачнага, што атачала жыццё палешукоў: роспісы майстроў віленскага барока ў касцёлах і цэрквах, яркія кветкі насценных дываноў і фляндраваны арнамент мясцовых касонэ-куфраў для пасагу, гравюры ў сакральных кнігах з манастырскіх друкарняў Куцейны і Пачаева, залатыя і маляўнічыя кветкі стараверскіх абразоў Веткі і нават шматвяковыя народныя паданні аб замагільным свеце лясоў і балотаў Палесся. На іконах у вобразах святых лёгка пазнаваліся прататыпы еўрапейскай культуры эпохі Адраджэння і Барока. Святая Барбара нагадвала венецыянскіх прыгажунь пэндзля Тыцыяна, у якога мажная постаць італьянкі хаваецца ў шматлікіх складках белай кашулі-шамізэ, падкрэсленай кантрастам цёмна-чырвонай шалі, якая ахутвае рукі святой. Экспрэсіўная пастава архістратыга Міхала, апранутага ў панцыр, з вогненным мячом у руцэ на тле чорна-сініх навальнічных аблокаў нагадвала пра трансцэндэнтальны жывапіс перыяду маньерызму, Эль Грэка і Якаба Панторма. Святы Георгій на поўным скаку забіваў людажэрнага дракона, падобнага хутчэй на мясцовага палескага «цмока» — гадзюку з прыпяцкіх балотаў. Святыя Флор і Лаўр у старадаўнім панцырным узбраенні нагадвалі летапісных нашчадкаў рымскага Аўгуста Кесара — Панямона і Рурыка, ад якіх пайшлі ўсе «ліцары» Кіеўскай Русі. А вялікі італьянец Рафаэль Санці так лёг на сэрца мясцовым палескім багамазам, што быў цалкам «працытаваны» імі ў працы «Madonna Della Sedia» («Мадонна ў фатэлі»).

Нягледзячы на самабытнасць, народныя абразы доўгія гады і нават цяпер лічацца антыкварнымі дылерамі некамерцыйным таварам — на іх немагчыма зарабіць вялікія грошы, бо аматараў на такія іконы няшмат. Яны напісаныя не прафесіяналамі, а аматарамі-багамазамі, якія арцеллю цягаліся па вёсках і збывалі свой нязграбны тавар за капейкі. Беларуская праваслаўная Царква таксама не вельмі прыязна ставіцца да палескай народнай творчасці ў сакральным мастацтве, тым больш што замацавалася думка, што гэта спадчына «мужыцкай» веры — вуніяцкай.

Асноваю іканаграфіі рускай праваслаўнай іконы заўсёды быў візантыйскі канон, таму праваслаўныя святары, нават маючы народны шэдэўр у сваёй царкве, успрымалі яго не больш як самабытную ілюстрацыю да Святога Пісання і стараліся схаваць яго далей. Палескія шэдэўры асядалі ў невялічкіх зборах беларускай інтэлігенцыі і там, як родныя, вельмі міла глядзеліся побач з іншымі народнымі артэфактамі: ручнікамі, посцілкамі і г. д. Такім жа чынам палескія іконы сталі трапляць і ў маю калекцыю. Я не ставіў сабе мэту сабраць вялікую колькасць народных абразоў, але нейкім чынам яны самі, адзін за адным, «прыходзілі» да мяне і найбольш ўпадабаныя я набываў у дылераў: то сваім незвычайным каларытам зачэпяць, то цікавым сюжэтам здзівяць і спыняць позірк такою душэўнаю наіўнасцю, што немагчыма прайсці міма. Такіх упадабаных народных абразоў за чвэрць стагоддзя ў мяне назбіралася больш за сотню.

Рэгіён бытавання самабытных абразоў можна акрэсліць межамі Усходняга і Паўднёвага Палесся — там нараджаліся мае улюбленыя палескія абразы. Іканаграфія палескіх абразоў мае сваю асабліваcць. Каб разабрацца ў гэтым пытанні, лепш за ўсё ў думках пабудаваць своеасаблівы палескі іканастас. Уявіце сабе, што час ідзе па крузе і год у прасторы мае выгляд замкнёнага кола, пачатак якога адлічваецца не арыфметычна, а па законах прыроды — ад зімовага сонцастаяння, ад самага кароткага зямнога дня і праз дзень летняга сонцастаяння, праз самы доўгі дзень у годзе, да самага кароткага дня. Так і ўсё жыццё палешука: праца і побыт сям'і прывязаныя да гэтага прыроднага круга — ад зімы да зімы, з лета ў лета. За стагоддзі на Палессі склаўся народны каляндар, які ўвабраў у сябе ўсе назіранні і народную мудрасць многіх пакаленняў. Гэтак жа і сакральны літургічны год палешука пачынаецца ў дзень зімовага сонцастаяння, з Раства Хрыстова, і па крузе часу заканчваецца падрыхтоўкаю да гэтага светлага свята. Таму віртуальна палескі іканастас можна пабудаваць кругам услед за народным календаром, і палескія іконы святых становяцца ў гэтым іканастасе адпаведна народнаму календару Палесся. Цікава, што іканаграфія асноўных дванадзясятых святаў у палескім іканастасе сустракаецца рэдка. За чвэрць стагоддзя ў маю калекцыю з Палесся траплялі толькі адзінкавыя іконы: Дабравешчанне (хутчэй як сакральны напамін пра нараджэнне ў сям'і першынца), Уваскрасенне (уніяцкі абраз 1797 г. з Гомеля) і Укаранаванне Багародзіцы (на мой погляд, кампіляцыя іканаграфіі цудатворнага абраза Успення Багародзіцы з Кіева-Пячэрскай Лаўры). Але затое наместны рад гэтага віртуальнага іканастаса багата ўпрыгожаны абразамі першых хрысціянскіх пакутнікаў, якія выступалі нябеснымі абаронцамі і памочнікамі ў штодзённым зямным жыцці палешукоў. Разгледзім жа, як народны каляндар суіснуе з сакральным мастацтвам у своеасаблівым палескім іканастасе.

Першая ікона, якая ўпрыгожвае чырвоны кут палескай хаты, — абраз Бога-Айца, Саваофа — з тэалагічнага пункту гледжання гэта правільна. Іканаграфія Першай іпастасі Святой Тройцы адлюстроўвае важнае свята ў царкоўным і ў народным календары — Богаяўленне, або Вадохрышча (19 студзеня). У цэнтры іконы мы бачым сівога старца, Бога-Айца, які благаслаўляе свайго Сына Святым Духам у выглядзе белай галубкі, што ад цэнтра іконы накіроўваецца ўніз, амаль да верніка, які моліцца на ікону. Ніз іконы, як даніна еўрапейскаму сакральнаму жывапісу, упрыгожваюць пасланцы нябёсаў — хэрубімы. У вобразе Саваофа палешукі бачылі мудрае бацькоўскае стаўленне Нябеснага Айца да сваіх зямных дзецей. Па народным календары Богаяўленне — гэта пераход ад лютай зімы да вясны («Трашчы, не трашчы — ужо прайшлі Вадохрышчы»). Важны абрад гэтага сакральнага свята — асвячэнне вады, гэта памяць аб святым хросце Езуса Хрыста ў Ярдане. Свянцоная вада, «ярданская», лічыцца гаючаю, таму яе стараліся назапасіць на цэлы год (ёю лячылі хворых, праганялі спалох і нячысцікаў, асвячалі жытло, давалі ў далёкую вандроўку).

Далей за абразом Бога-Айца па календары, 11 лютага, ідзе абраз святога Уласія, біскупа Севасційскага, або святога Уласа, які лічыцца заступнікам хатняй скаціны, асабліва кароваў, таму гэты дзень у народзе празвалі «кароўім святам». У гэты дзень да святога звярталіся з наступнай малітвай: «Святы Улас, дай шчасця на гладкіх цялок, на тоўстых быкоў, каб з двара ішлі граючы, а з поля скачучы». У гэты дзень карову акраплялі свянцонаю вадою, каб яна не хварэла. Гаспадыні на святога Уласа пяклі вялікія аладкі, якія асвячалі ў царкве, і ўвечары ўся сям'я збіралася за сталом і вячэрала асвячоным пачастункам са сметанковым маслам. «На Уласа бяры каўшом масла!» — казалі ў народзе. Адну аладку абавязкова пакідалі як «гаючую» і хавалі за абразом святога Уласа (калі карова захварэла, ёй давалі «гаючую» аладку).

*Працяг будзе.*

Андрэй Красоўскі



Касцёл у Фашчаўцы (нямецкі здымак часоў апошняй вайны).

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў ФАШЧАЎСКІМ КАСЦЁЛЕ

Каталіцкі асяродак з цэнтрам у в. Фашчаўка сучаснага Шклоўскага р-на пачаў фармавацца ў XVII ст. Прывілеем караля Жыгімонта III Вазы з Магілёўскай каралеўскай эканоміі ў 1612 г. на фундуш калегіума езуітаў у Оршы было вылучана 5 вёсак[1]. Ужо ў 1630-х гг. у новым езуіцкім маёнтку існавала капліца з цудатворным абразом Найсвяцейшай Панны Марыі; каля 1668 г. быў збудаваны першы драўляны касцёл, а ў 1754 г. — вялікі мураваны. Нават у пач. XX ст. сяляне былых езуіцкіх вёсак трымаліся каталіцкай веры і складалі пераважную большасць парафіянаў фашчаўскага касцёла, утвараючы своеасаблівы анклаў сярод навакольнага праваслаўнага насельніцтва [1, с. 247–252].

У тыя часы літургічнай мовай Рыма-каталіцкага Касцёла была лацінская. Менавіта на лаціне цэлебравалася святая Імша, на гэтай жа мове гучалі малітвы Брэвіярыя. Нацыянальныя мовы ўжываліся ў казаннях, паралітургічных абрадах, малітвах і рэлігійных спевах. Пэўныя гістарычныя прычыны прывялі да таго, што значнае распаўсюджанне ў каталіцкім рэлігійным жыцці на беларускіх землях атрымала польская мова. Менавіта яна доўгі час ужывалася ў якасці нацыянальнай мовы ў тутэйшых касцёлах. Мерапрыемствы царскай улады па распалячванні касцёла і ўвядзенні расійскай мовы ў «дадатковае» набажэнства ў другой палове XIX ст. не мелі значных поспехаў.

Характарызуючы гэтую сітуацыю, кс. Язафат Фрыдэрык Жыскар — гісторык Касцёла і публіцыст — падаваў у 1913 г. ва ўводзінах да каталіцкай энцыклапедыі «Nasze Kościoły» наступныя звесткі:

*«Зближаючыся з беларускім народам, цяжка не заўважыць яго дзіўнае стаўленне да роднай мовы. Заўсёды ў хатнім побыце беларус карыстаецца ўласнай мовай, але толькі не ў касцёле. Там ён моліцца, спавядаецца, і хоча слухаць казанні на польскай мове. Польская культура так укаранілася сярод беларусаў, што надта дзіўнай стала б для*

**Андрэй Красоўскі** працуе ў сферы інфармацыйных тэхналогій. Нарадзіўся ў 1992 г. у Мінску. Вышэйшую адукацыю атрымаў у Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі. Абараніў магістарскую дысертацыю (2015). Даследуе гісторыю касцёла і парафіі ў в. Фашчаўка Шклоўскага р-на, працуе з дакументамі XVII-XX стст. у архівах Беларусі, Літвы і Расіі. З 2015 г. удзельнічае ў рэгіянальных гісторыка-краязнаўчых канферэнцыях з дакладамі пра фашчаўскі каталіцкі асяродак. Жыве ў Мінску.

*іх беларуская прамова ксяндза ў касцёле. Выключэннем з'яўляюцца дзве парафіі — Фашчаўка і Ула, дзе здаўна ўведзена навука па-беларуску. Сваю мову беларус называе „простай“ (казаць „па-простаму“), а польская мова — гэта мова „панская“, „ксяндзоўская“. Адмаўленне такога традыцыйнага разумення польскай мовы будзіць у беларусе непрыязнасць. Асабліва з ксяндзом хоча беларус размаўляць па-польску ці прынамсі жадае, каб ксёндз да яго звяртаўся на польскай мове, а іначай абражаецца. Не раз даводзілася аўтару чуць: „Я ж, папунечка (ойча), па-польску разумею“*» [2, с. 32].

На падставе гэтай інфармацыі ў некаторых публікацыях сцвярджаецца, нібыта літургія ў Фашчаўцы і Уле таксама адпраўлялася па-беларуску, што не адпавядае рэчаіснасці у варунках надзейна замацаванай лацінскай мовы. Аднак сам факт ужывання ў фашчаўскай і ульскай парафіях беларускай мовы падчас навукі (казанняў), на фоне амаль паўсюднага панавання ў касцёлах польскай мовы, быў рэдкай з'явай для тых часоў, асабліва калі ўзяць пад увагу тое, што самі католікі аддавалі перавагу польскай мове, якая ў іх свядомасці мела рысы элітарнасці і сакральнасці.

Пра касцёл у м. Ула[2] Лепельскага дэканата ў гэтым жа выданні маецца асобны артыкул, у якім кс. Жыскар падрабязна расказаў гісторыю мястэчка і парафіі. І хаця папярэдне ён пісаў пра заведзеныя тут здаўна казанні на беларускай мове, але ў самім артыкуле мы сустракаем толькі кароткую згадку пра аднаго ксяндза, які выкарыстоўваў беларускую мову ў душпастырскай дзейнасці:

«*Цяжка не затрымацца даўжэй на асобе аднаго з ульскіх пробашчаў, які, праўда, нядоўга быў у Уле, але добрую пасля сябе пакінуў памяць. Быў гэта кс. Уладзіслаў Міржвінскі. Не раз называлі яго вар'ятам, чалавекам неўраўнаважаным, але меў ён толькі адну хваробу, якая так рэдка сустракаецца ў наш час, — любіў Касцёл і народ больш за самога сябе, больш за ўласныя выгоды. Гэтым можна растлумачыць шалёную прывязанасць народа да яго, якую ён здабыў паўсюль. Ужо мінула шмат часу пасля таго, як кс. Міржвінскі выехаў з Улы, прымушаны да гэтага акалічнасцямі, якія не залежалі ад духоўнай улады, а народ і цяпер помніць дзейнасць таго Божага апостала.*

*Найбуйнейшы плён прынесла ягоная энергічная барацьба з п'янствам, якое паменшала сярод людзей. Добра ведаючы беларускую мову, ён прамаўляў да сэрца народа, і яго заўсёды разумелі*» [2, с. 417].

Пэўныя парасткі беларушчыны былі ў гэтай парафіі і раней. Праз кс. Адама Станкевіча стала вядома пра чатыры сшыткі з казаннямі на беларускай мове, якія паходзілі з Віцебскай губерні. У рукапісах было пазначана, што ў 1870 і 1872 гг. гэтыя казанні чыталіся ў м. Ула [3, с. 64]. Прыкладна ў той жа час — у 1876 г. — лепельскі павятовы спраўнік[3] у адным з данясенняў паведамляў віцебскаму губернатару, што ульскі касцёл — адзіны ва ўсім Лепельскім павеце, дзе гавораць казанні па-беларуску, а ва ўсіх астатніх — па-польску [4, арк. 33].

Калі ўпершыню былі заведзены казанні па-беларуску ў фашчаўскім касцёле, дакладна невядома. Дакументальна засведчаны той факт, што 2 ліпеня[4] 1894 г. біскуп-суфраган Францішак Альбін Сымон, які прыбыў у Фашчаўку з душпастырскай візітацыяй, «*прамовіў экспромтам казанне на простай беларуска-польскай мове*». Пра гэта даносіў горацкаму павятоваму спраўніку сведка тых падзеяў — станавы прыстаў[5] Г.П. Пара-Леановіч [5, арк. 34]. У гэтым жа рапарце адзначалася, што фашчаўскія парафіяне «*проста размаўляюць па-беларуску, і вельмі рэдкі селянін разумее чыстую польскую мову*» [5, арк. 35 адв]. Цяжка вызначыць, ці прамаўляў біскуп па-беларуску з польскімі цытатамі са Святога Пісання, ці, наадварот, гаварыў па-польску з беларускімі каментарамі. Польскую мову біскуп Сымон, канечне, ведаў, а вось пра ўзровень яго валодання беларускай мовай можна толькі здагадвацца, бо паходзіў ён з ваколіцаў Жытоміра і ніколі на беларускіх землях не служыў [6, с. 1193–1194]. Акрамя таго, не ясна, што разумеў пад беларуска-польскай мовай сам станавы прыстаў.

Загадам ад 18 лістапада 1894 г. магілёўскі губернатар абавязаў паліцыю два разы на год падаваць звесткі пра ўсіх каталіцкіх святароў, якія жывуць на тэрыторыі даручанага таму ці іншаму спраўніку павета [5, арк. 42]. Згодна з чарнавіком першага такога рапарта, горацкі павятовы спраўнік, акрамя інфармацыі пра кс. Іосіфа Вайцахоўскага, планаваў напісаць, што дзеці фашчаўскіх парафіянаў «*польскай пісьменнасці вучацца ад сваіх бацькоў настолькі, каб умець маліцца Богу, а размоўная мова між сялянамі-каталікамі выключна беларуская*» [5, арк. 44]. Падобная інфармацыя змешчана ў данясеннях станавых прыставаў за 1895 і 1898 гг. — яны сцвярджалі, што тутэйшыя сяляне моляцца Богу на польскай мове, але размаўляюць між сабою па-беларуску [5, арк. 56, 145]. Што датычыцца польскай пісьменнасці, то, паводле складзеных у 1896 г. станавымі прыставамі спісаў, зусім нязначная колькасць сялянаў умела чытаць па-польску. Напрыклад, у вёсках Слабодка, Княжыцы і Крывель, агульная колькасць насельніцтва



Біскуп Францішак Альбін Сымон.

якіх дасягала 800 чалавек, валодалі навукай чытання і пісьма па-расійску толькі дзевяць мужчын, з якіх чацвёра ўмелі таксама чытаць па-польску і адзін — чытаць і пісаць [5, арк. 77–112].

Некаторыя цікавыя звесткі пра тагачасную фашчаўскую парафію захаваліся дзякуючы кс. Жыскару. Ён меў магчымасць пазнаёміцца з гэтым каталіцкім асяродкам яшчэ ў 1911 г., бо нейкі час служыў вікарыем у магілёўскім фарным касцёле св. Казіміра [7, с. 111–114]. Верагодна, менавіта ў той час ён наведваў фашчаўскія фэсты, што пазней адлюстравалася ў яго публікацыях [2, с. 52–55]. Надта ўразілі кс. Жыскара фашчаўскія парафіяне сваёй пабожнасцю падчас пілігрымкі, што рушыла ў 1912 г. з Магілёўскай рыма-каталіцкай архідыяцэзіі, да Маці Божай Чэнстахоўскай. У брашуры пра гэтае падарожжа ён пісаў наступнае:

*«Першымі далучыліся да нас 13 чалавек з Фашчаўкі, той веруючай і адзінай у сваім родзе парафіі. Мала хто мае пра яе паняцце. Калісьці працавалі тут ксяндзы езуіты, вялікі, цудоўны касцёл перажыў пасля іх шмат небяспечнасцяў. Парафія складаецца з сялян, якія размаўляюць па-беларуску, на гэтай жа мове спяваюць у касцёле, убіраюцца ў народныя строі. Такая ў іх моцная вера і памяць пра даўнія часы, што калі папытаць кагосьці, ці ходзіць на Імшу ў нядзелю, то той вытарашчыць вочы, усміхнецца і скажа: «Папунечка, я ж з Фашчаўкі!» А калі папытаць маленькую дзяўчынку, ці ведае пацеры, то атрымаеш адказ: «Я з Фашчаўкі».*

*Пабожныя і прывязаныя да касцёла, яны былі прыкладам для іншых, ехалі ўрачыста, а спеў у іхным вагоне не сціхаў, хацелі маліцца і спяваць цэлую ноч, і толькі зважаючы на тых, што ўжо спалі, замыкалі вусны»* [8, с. 10].

Калі цягнік ненадоўга спыніўся ў Беластоку, то пілігрымы з Магілёўшчыны праспявалі на станцыі па-беларуску касцёльны гімн «Ах, мой Божа, веру Табе…» [8, с. 16].

У асобным артыкуле пра Фашчаўку ў энцыклапедыі «Nasze Kościoły» кс. Жыскар зноў са шчырым замілаваннем і цеплынёй выказваў захапленне гарачай верай і любоўю тутэйшых людзей да Касцёла і не абмінуў увагаю адметныя нацыянальныя асаблівасці парафіі:

*«Народ тутэйшы не гаворыць па-польску, але захаваў сваю чыстую беларускую мову. Вялікія намаганні даклалі айцы езуіты, каб не страціў беларус сваёй мовы. Яны выдалі беларускі катэхізіс, прамаўлялі казанні да людзей на іх мове, увялі ў касцёле беларускія спевы. І нават сёння кожны селянін выдатна ўмее спяваць беларускую песню «Ах, мой Божа, веру Табе…». Асабліва велічнае і глыбокае ўражанне робіць гэты гімн падчас фэстаў, калі вялікі натоўп людзей быццам аднымі грудзямі заспявае яго і прыгожая мелодыя запаўняе ўвесь храм і цвінтар.*

*Фашчаўка да такой ступені захавала свой нацыянальны беларускі характар, што і па сённяшні дзень яе жыхары апранаюцца ў беларускія строі. Саматканая спадніца, белая вышываная кашуля, адметным спосабам завязаная на галаве хустка — гэта тыповы строй фашчаўскай жанчыны, які вылучае яе амаль сярод усіх суседак.*

<…>

*Некаторыя ксяндзы прамаўлялі да людзей у касцёле па-беларуску і так гэтым прывязалі да сябе парафіян, што тыя для іх што заўгодна гатовыя былі зрабіць. Два гады служыў тут ужо вядомы чытачам кс. Міржвінскі, які сваёй руплівай працай і адданасцю людзям заслужыў нечуваную прывязанасць да сябе»* [2, с. 52–54].



Кс. Язафат Фрыдэрык Жыскар.

Чытаючы сведчанні кс. Жыскара, перш за ўсё трэба звярнуць увагу на яго думку пра значны ўплыў езуітаў на захаванне мовы і традыцыйнай культуры фашчаўскімі парафіянамі. Фашчаўка з навакольнымі вёскамі сапраўды належала аршанскім езуітам з 1612 па 1820 гг. — яны сталі тут першымі каталіцкімі місіянерамі, заснавальнікамі касцёла і парафіі [9, с. 1055–1068; 10 с. 351–354]. Цяжка



Пілігрымы з Магілёўскай архідыяцэзіі ў Чэнстахове, 1912 г.

сказаць, чаму кс. Жыскар лічыў, што менавіта езуіты пачалі прамаўляць казанні па-беларуску ў Фашчаўцы. Магчыма, такое меркаванне ў пачатку XX ст. існавала ў асяроддзі тутэйшых вернікаў ці духавенства, а кс. Жыскар проста яго пераказаў. Што датычыцца ўвядзення ў касцёл спеваў на беларускай мове, то вядомы ў Фашчаўцы беларускамоўны гімн «Ах, мой Божа, веру Табе…» сапраўды некаторыя крыніцы прыпісваюць увядзенню езуітаў. Пра езуіцкія карані гімна пісаў паэт і фальклярыст Аляксандар Рыпінскі (1809–1900). Ён надрукаваў па памяці тэкст гэтай песні яшчэ ў 1840 г. сярод рэлігійных спеваў у фальклорным зборніку «*Białoruś*» [11, с. 34–35]. Аўтар адзначаў, што спеў «Ах, мой Божа, веру Табе…» — новы і надта папулярны сярод уніятаў. Складальнікамі названай песні А. Рыпінскі лічыў езуітаў:

*«Гэты цудоўны напамін*[6] *пакінулі па сабе езуіты, і няма цяпер ніводнага касцёла, дзе б тая песня не была шырока распаўсюджаная: як сваімі чулымі словамі, так і кранальнымі нотамі»* [11, с. 38].

Калі ўлічваць тое, што А. Рыпінскі пакінуў родную Віцебшчыну і выехаў у Францыю пасля паўстання 1830–1831 гг., то вельмі верагодна, што ўсе звесткі пра гімн «Ах, мой Божа, веру Табе…» можна адносіць да перыяду ягонага дзяцінства і юнацтва. Праўда, існуе яшчэ адно меркаванне, паводле якога гэты слынны каталіцкі спеў склаў полацкі ўніяцкі біскуп Якуб Мартусевіч. Пісаў пра тое ў 1889 г. вядомы фальклярыст, літаратуразнаўца і педагог Браніслаў Эпімах-Шыпіла [12, арк. 3]. Ужо ў XX ст. збіральнік і даследчык рэлігійных спеваў у Заходняй Беларусі Адольф Клімовіч сцвярджаў, што гімн «Ах, мой Божа, веру Табе…» быў *«зложаны ў 1829 годзе полацкім біскупам Мартусэвічам»* [13, с. 49]. Калі гэтая інфармацыя адпавядае рэчаіснасці, то спеў не мае ніякага дачынення да дзейнасці езуітаў, бо ўжо ў 1820 г. царскі загад змушаў іх выехаць з Расійскай Імперыі. Меркаваны час складання самога спеву ўскосна пацвярджаецца стылем, які характэрны менавіта для XIX ст. [13, с. 49]. Прыкладна ў той жа час — у 1835 г. — названая песня ўпершыню друкуецца на старонках каталіцкай беларускамоўнай катэхізмоўкі [14, с. 22–24]. Некаторыя даследчыкі лічылі, што спеў «Ах, мой Божа, веру Табе…» быў ці не самым папулярным беларускім каталіцкім гімнам у XIX ст. і меў шырокае практычнае бытаван-

не (найдаўжэй на Віцебшчыне і Магілёўшчыне) [12, с. 49]. Выкарыстоўваў гэты гімн і класік беларускай літаратуры Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч у сваёй паэме «Вечарніцы». З гэтай песні пачынаў сваю «Беларускую хрэстаматыю» Б. Эпімах-Шыпіла. Спяванне гімна «Ах, мой Божа, веру Табе…» ў Фашчаўцы можна лічыць адметным толькі з пункту гледжання яго трываласці ў гэтай парафіі, бо сам спеў не быў унікальным і нейкі час меў шырокае распаўсюджанне на беларускіх землях. Дакладна вызначыць аўтара гімна пакуль немагчыма, але на падставе вядомых крыніцаў часам яго стварэння можна назваць першую трэць XIX ст.

Такім чынам, пакуль няма дакладных звестак, на падставе якіх можна пацвердзіць спрычыненасць езуітаў да ўвядзення беларускіх спеваў і казанняў у Фашчаўцы і праверыць інфармацыю кс. Жыскара. Аднак, трапіўшы ў друк, меркаванне пра заслугі езуітаў ва ўвядзенні беларускай мовы ў фашчаўскім касцёле хутка распаўсюдзілася і нават сёння сустракаецца на старонках публіцыстычна-краязнаўчых выданняў, а часам і ў навуковых працах.

На нашу думку, зафіксаваныя ў пач. XX ст. беларускія казанні ў Фашчаўцы і Уле — гэта след душпастырскай працы кс. Уладзіслава Міржвінскага, хаця нельга абсалютна адмаўляць езуіцкі ўплыў у гэтым кірунку. Паводле звестак кс. Жыскара, неардынарны і энергічны кс. Міржвінскі прамаўляў па-беларуску ў мястэчку Ула. У артыкуле пра фашчаўскую парафію той жа аўтар хаця і піша пра кс. Міржвінскага, але не звязвае яго з беларускамоўнымі казаннямі і піша неканкрэтна: «*Некаторыя ксяндзы прамаўлялі да людзей у касцёле па-беларуску…*» Між іншым, першыя сведчанні пра



Кс. Караль Слівоўскі (справа) і кс. Уладзіслаў Міржвінскі (злева). Фрагмент здымка. Уладзівасток, 1922 г. (з архіва парафіі Найсвяцейшай Багародзіцы ва Уладзівастоку).

беларускія казанні ў Фашчаўцы з'яўляюцца ў прэсе менавіта тады, калі ўзначаліў парафію кс. Міржвінскі. Калі ў ульскай парафіі гэты святар мог працягваць традыцыю, якая ўжо існавала ў 2-й палове XIX ст., то верагодна, што ў Фашчаўцы кс. Міржвінскі стаў ініцыятарам увядзення казанняў на беларускай мове.

Уладзіслаў Аляксандравіч Міржвінскі (Мяжвіньскі)[7] нарадзіўся ў 1880 г. у Віленскай губерні ў дваранскай сям'і. У 1892–1897 гг. вучыўся ў першай гарадской вучэльні Дзвінска[8], у 1898–1903 гг. — у Магілёўскай духоўнай каталіцкай семінарыі ў Санкт-Пецярбургу. Пасвечаны ў святарскі сан у 1903 г. біскупам Гаспарам Цыртаўтам у Коўне. 16 снежня 1903 г. кс. Міржвінскі быў скіраваны ў мястэчка Ракаў[9] Мінскай губерні, каб выконваць абавязкі вікарнага ксяндза, а 4 лютага 1904 г. быў прызначаны пастаянным вікарыем. Пазней ён служыў вікарыем у Санкт-Пецярбургскім касцёле св. Станіслава, пасля — вікарыем у Варонежы. У хуткім часе кс. Міржвінскі быў пераведзены на пасаду вікарыя ў Бабруйск, акрамя таго, прызначаны настаўнікам Закону Божага ў тутэйшую мужчынскую гімназію. 6 чэрвеня 1906 г. кс. Міржвінскага прызначылі вікарыем у катэдральны касцёл Магілёва і адміністратарам парафіі ў в. Свяцілавічы[10]. 7 жніўня 1907 г. ён быў прызначаны адміністратарам парафіі ў м. Ула, але ўжо 18 красавіка 1908 г. пераведзены на пасаду вікарыя ў Фашчаўку, а з 28 чэрвеня 1908 г. узначаліў фашчаўскую парафію. Акрамя таго, з 26 верасня 1908 г. выкладаў Закон Божы ў фашчаўскай народнай вучэльні [7, с. 122; 15, с. 155–158].

Кс. Уладзіслаў Міржвінскі быў досыць актыўным святаром, і ягоная дзейнасць заўсёды прыцягвала ўвагу царскай улады і Праваслаўнай Царквы. Шмат разоў на яго скардзіліся — абвінавачвалі ў празелітызме сярод праваслаўных, парушэнні расійскага заканадаўства ў сферы рэлігіі, адкрыцці нелегальных каталіцкіх школак, варожым стаўленні да пануючай веры [7, с. 122–124; 15, с. 155–158].

Парафіяне прыхільна ставіліся да свайго душпастыра. Пра гэта красамоўна сведчыць хаця б той факт, што калі духоўныя ўлады вырашылі перавесці кс. Міржвінскага з Ракава, вернікі даслалі мітрапаліту ліст з просьбаю, пад якой стаялі 263 подпісы за тое, каб ксяндза пакінулі на гэтай пасадзе. Ракаўскі маянтковец К. Здзяхоўскі таксама пісаў мітрапаліту, што ў парафіі «*яшчэ не было такога руплівага святара*» [7, с. 122].

Ужыванне кс. Міржвінскім у казаннях беларускай мовы знайшло сваё адлюстраванне ў тагачаснай прэсе. 14 верасня 1908 г. у Фашчаўцы адбыўся традыцыйны фэст на свята Узвышэння Святога Крыжа, якое з даўніх часоў збірала шмат пілігрымаў. У хуткім часе ў віленскай літоўскай газеце «*Viltis*» з'явіўся артыкул, напісаны невядомым пілігрымам-літоўцам пра гэтую

ўрачыстасць:

*«Фашчаўка, Магілёўская губ. На адлегласці 30 вёрст ад Магілёва ёсць вёска Фашчаўка, дзе знаходзіцца парафіяльны касцёл. Гэтая парафія вылучаецца сярод іншых тым, што тут няма ні шляхты-палякаў, ні апалячаных гараджанаў, а ўсе 3 300 парафіянаў — сяляне-беларусы. У гэтым годзе падчас фэсту на свята Узвышэння Святога Крыжа я быў у Фашчаўцы і таму тое, што я там пачуў і пабачыў, хачу расказаць чытачам* [*газеты*] *"Viltis"»*.

*Сабралася вельмі многа людзей. Цудоўны вялікі касцёл не змог змясціць усіх паломнікаў. Галоўным чынам была чутна беларуская мова, нярэдка польская, дзе-нідзе літоўская. Набажэнства ў касцёле праводзілася на трох мовах, як таго і патрабавала справядлівасць. Раніцаю літоўцы спявалі гімны і слухалі казанне на сваёй роднай мове.*

*Перад Сумай працэсія спявала па-польску, а пасля было казанне таксама на польскай мове.*

*У канцы Сумы сам фашчаўскі плябан прапаведаваў па-беларуску. Я першы раз чуў казанне на гэтай мове, таму здзівіўся. Прапаведнік даволі весела і хораша гаварыў па-беларуску. Некаторыя слухачы, у асноўным прыехаўшая здалёк «шляхта», смяяліся з таго, што святар прамаўляе казанне «па-простаму». Беларусы слухалі з асаблівай уважлівасцю, на іх тварах блішчэлі слёзы, большасць у канцы заплакала. Было відавочна, што яны вельмі высока ацанілі казанне на сваёй роднай мове.*

*Пасля працэсія спявала беларускую песню "Ах, мой Божа, веру Табе…", складзеную яшчэ езуітамі. Спявалі ўсе: і мужчыны, і жанчыны, і дзеці — усе ведаюць гэтую песню на памяць.*

*Так што цяпер у фашчаўскім касцёле набажэнства праводзіцца па-беларуску. Я вырашыў даведацца, ці не перашкаджаюць*



Біскуп Стэфан Антоні Дзенісевіч

*гэтаму палякі. Плябан адказаў мне, што «эндэкі»*[11] *вельмі злуюцца на яго за гэта. А вось польскія святары Пецярбурга, Варшавы і кракаўскія езуіты ў адзін голас раяць вучыць у беларускіх касцёлах па-беларуску, пацвярджаючы, што Апостальская Сталіца нічога не мае супраць гэтага.*

*Князь Яўген Любамірскі*[12] *піша фашчаўскаму плябану наступнае: "…Я ма́ю вялікую павагу да Вас за Вашую асветніцкую працу сярод сялянаў, якая можа мець поспех толькі пры выкарыстанні роднай мовы, як кажа святы Павел — "якая карысць ад пропаведзі, калі слухач яе не разумее"…»*

*Скацікас*» [17, с. 2]

Аўтар падпісаўся псеўданімам *Skatikas*, што перакладаецца з літоўскай мовы як «грош». Цікава, што праз некалькі гадоў у беларускамоўнай каталіцкай газеце «Białarus» (№ 30, 17.10.1913) нехта пад псеўданімам «Грош» пісаў пра аднаўленне касцёла ў в. Пагост Аршанскага павета, пра казанні езуітаў на беларускай мове, пра ўжыванне тут гімна «Ах, мой Божа, веру Табе...» і навучанне праўдам каталіцкай веры па-беларуску. Верагодна, аўтар абедзвюх нататак — кс. Вінцэнт Грашыс (літ. *Vincentas Grašis*, 1870–1930), які з 1908 г. па 1919 г. быў пробашчам у Оршы і Аршанскім дэканам. Прозвішча *Grašis* таксама перакладаецца з літоўскай як «грош». Сустракаюцца няпэўныя звесткі, што кс. Грашыс быў карэспандэнтам «Нашай Нівы».

Гэтая газетная нататка выклікала пэўны розгалас у краёвым друку. У скарочаным варыянце яе перадрукавалі ў польскамоўнай віленскай газеце «*Kurjer Litewski*» [17, с. 3] і (сцісла) — у беларускамоўнай «Нашай Ніве» [18, с. 6].

Хаця імя фашчаўскага плябана ў газетным артыкуле не называецца, але вядома, што кіраваў фашчаўскай парафіяй на той час менавіта кс. Міржвінскі. Трэба думаць, што выкарыстанне кс. Міржвінскім беларускай мовы ў душпастырскай дзейнасці мела ўстойлівы характар, бо ён прамаўляў па-беларуску не толькі ў Фашчаўцы.

Так, 25 лістапада 1908 г. адбылася ўрачыстасць асвячэння новага касцёла ў Чавусах. Горад не меў каталіцкай святыні ажно цэлых 45 гадоў і толькі дзякуючы намаганням некаторых парафіянаў і пробашча суседняй радамльскай парафіі кс. Францішка Будрыса новы касцёлік нарэшце быў пабудаваны. Цырымонію яго асвячэння правёў шклоўскі пробашч кс. Нікадзім Дзядуль, але кс. Міржвінскі таксама ўдзельнічаў ва ўрачыстасці. Невядомы чавускі парафіянін сведчыць пра гэта так:

«*Падчас саленнай святой Імшы ксёндз Ул. Міржвінскі, пробашч з Фашчаўкі, прамовіў прыгожае казанне на беларускай мове, чым моцна ўсіх уразіў. Асабліва тых слухачоў, якія прыбылі здалёк, бо для іх гэтая мова была лепш зразумелай*» [19, с. 4].

Цяжка вызначыць, ці быў кс. Міржвінскі свядомым прыхільнікам беларусізацыі



Аляксандр Сак (здымак з судовай справы).

Касцёла, ці проста не цураўся «простай» мовы, каб данесці слова Божае да тых парафіянаў, якія дрэнна разумелі польскую мову. Пра ўдзел гэтага святара ў беларускім рэлігійным, грамадска-палітычным ці асветніцкім руху няма ніякіх звестак. Вядома, што кс. Міржвінскі меў пэўныя сувязі з польскімі гурткамі. Так, у 1908 г. ён разам з магілёўскім дэканам кс. Пятром Зялінскім уваходзіў у склад кіраўніцтва магілёўскай арганізацыі «Польскае таварыства асветы і дабрачыннасці» [20, с. 42].

Надоўга затрымацца ў Фашчаўцы кс. Міржвінскаму не давялося. 6 снежня 1908 г. архідыяцэзія атрымала ліст з Дэпартамента духоўных спраў замежных веравызнанняў, дзе паведамлялася, што, паводле атрыманых Дэпартаментам звестак, «*святар Міржвінскі на новым месцы службы працягвае шкодную дзейнасць: 28 верасня 1908 г. ён арганізаваў патаемную польскую школу ў в. Дуброўка, у хаце селяніна Кульбіцкага, дзе былі выкрытыя 34 каталікі ва ўзросце ад 9 да 14 гадоў. А 6 кастрычніка святар Міржвінскі арганізаваў такую ж школу ў Фашчаўцы ва ўласнай кватэры. Там ён праводзіць узмоцненую прапаганду супраць праваслаўя, пераконвае сялян, каб яны не выпраўлялі сваіх дзяцей-католікаў у народную школу. Просім звольніць айца Уладзіслава Міржвінскага з гэтай пасады і паведаміць нам пра гэта*» [15, с. 158].

Патаемныя школкі служылі перш за ўсё для каталіцкай адукацыі — катэхізацыі дзяцей, падрыхтоўкі іх да першай споведзі і Камуніі, вывучэння малітваў. Але верагодна, што малітвы дзеці вучылі па-польску і на гэтай жа мове спасцігалі навуку чытання. Духоўныя ўлады не маглі ігнараваць просьбу Дэпартамента, і 11 снежня 1908 г. кс. Міржвінскаму загадваюць выехаць у Выбарг, дзе ён мусіў чакаць далейшых распараджэнняў [6, с. 158]. Аднак запісы ў метрычных кнігах сведчаць, што ён да 4 студзеня 1909 г. заставаўся ў Фашчаўцы [21, арк. 24–35 адв, 50–50 адв].

Пасля кс. Міржвінскага парафію ўзначаліў кс. Антоні Мацулевіч. Дакладна невядома, ці працягваў новы святар практыку ўжывання беларускай мовы ў казаннях, прыхільнікам якой быў ягоны папярэднік, але сама парафія ўжо паспела займець пэўную рэпутацыю. Пра гэта сведчаць хаця б звесткі пра душпастырскую візітацыю, якую выканаў біскуп-суфраган Магілёўскай рыма-каталіцкай архідыяцэзіі прэлат Стэфан Антоні Дзенісевіч увосень 1909 года.

Біскуп прыехаў у Фашчаўку 19 верасня 1909 г. і прабыў тут да 21 верасня. За гэтыя тры дні сакрамэнт бежмавання атрымалі 1 239 вернікаў. Але душпастырская праца біскупа Дзенісевіча не абмяжоўвалася ўдзяленнем сакрамэнтаў — ён часта і горача прамаўляў да народа, катэхізаваў дзяцей. У Фашчаўцы ксёндз-біскуп гаварыў казанні на беларускай мове [22, с. 9, 138].

Праз некалькі гадоў, ужо пасля смерці біскупа, кс. Францішак Будзька — дзеяч беларускага каталіцкага руху — пісаў пра тыя падзеі так:

«*Будучы ўжо цяпер біскупам, [Дзенісевіч] паспяшыў на ўлюбляную Беларусь, каб адбыць візітацыю парахвій. Тутака ў чыста беларускай парахвіі Фашчоўка ня толькі казаў свайму капеляну гаварыць навукі па-беларуску, але і сам меў навуку ў гэтай мове. Трэба ж было відзець вялікую радасць парахвіян, што біскуп прагаварыў да іх у іх бацькоўскай, спрадвечнай мове!*» [23, с. 2].

Цікава, што менш чым праз паўгода пасля візітацыі ў архідыяцэзіяльным друку з'явіўся артыкул пра катэхізацыю беларусаў. Ананімны аўтар[13] пісаў, што падчас наведвання Фашчаўкі біскуп і ксяндзы, якія суправаджалі яго, прамаўлялі казанні на беларускай мове, бо іначай іх проста не зразумелі б. Сучаснік, а можа і ўдзельнік, тых падзей сведчыць, што фашчаўскія парафіяне дрэнна разумеюць польскую мову і з гэтай прычыны нават папрасілі біскупа садзейнічаць адкрыццю польскай школы. Заяву з такой просьбай яны яшчэ раней падавалі апекуну навучальнай акругі [24]. Дакладныя абставіны гэтага звароту невядомыя,

але такія памкненні сведчаць пра статус польскай мовы ў свядомасці католікаў, нягледзячы на тое, што іх родная мова ўжо пачала гучаць з амбоны.

Згодна з інфармацыяй інвентара фашчаўскага касцёла, на пасаду пробашча з 20 красавіка 1911 г. заступіў кс. Ян Баравік [25, арк. 169–169 адв]. Ён апекаваўся парафіяй не менш за дзесяць гадоў. Пад датаю 21 студзеня 1922 г. ягоны подпіс апошні раз сустракаецца на старонках кнігі перадшлюбных экзаменаў фашчаўскага касцёла [26, арк. 196 адв]. На час душпастырства гэтага святара прыпалі цяжкія выпрабаванні войнамі і рэвалюцыямі. У ваколіцах Фашчаўкі з восені 1915 г. асела значная колькасць палякаў — уцекачоў з ахопленых вайною мясцінаў. Яны прынеслі з сабою жывую польскую мову, што мела ўздзеянне на тутэйшае насельніцтва. «Цэнтральны абывацельскі камітэт Царства Польскага» апекаваўся польскімі выгнанцамі. Фашчаўка ўжо ўвесну 1916 г. стала цэнтрам інструктарскай акругі Цэнтральнага абывацельскага камітэта. Прыкладна ў гэты ж час для польскіх выгнанцаў былі заснаваныя ў вёсках Башкіраўка і Дуброўка дзіцячыя прытулкі, а ў вёсках Фашчаўка, Дуброўка і Княжыцы — школы [27, с. 4]. Надта дбайным і актыўным інструктарам быў ксёндз Вітальд Гратоўскі — пробашч з Плоцкай дыяцэзіі, які разам з усёй сваёй парафіяй асеў у Фашчаўцы. Узначаліўшчы фашчаўскую інструктарскую акругу, кс. Гратоўскі пры энергічнай дапамозе кс. Яна Баравіка заснаваў тут не толькі школы і дзіцячыя прытулкі, а яшчэ курсы для непісьменных і краму, ладзіў чытанні і лекцыі. Установамі для польскіх выгнанцаў карысталіся таксама беларусы [28, с. 57]. Тым не менш, у артыкуле пра Магілёўшчыну[14] ў выданні польскіх уцекачоў Фашчаўка ўважалася за выключна беларускую парафію:



Кс. Пётр Януковіч (1910-я гг. ?).

*«У прамянях вялікага каталіцкага касцёла жыве ў сямі вёсках беларускі каталіцкі народ, які захаваў свае звычаі, мову і строй. Яны прывязаныя да сваёй веры, моляцца па-беларуску, спяваюць у касцёле, а таксама падчас працэсій і пілігрымак, вядомы з XVII ст. (sic! — Аўт.) прыгожы гімн "Ах, мой Божа, веру Табе…"»* [29, с. 9].

У 1917 г. для дапамогі кс. Баравіку на пасаду вікарыя быў прызначаны беларус кс. Аляксандар Мікалаевіч Сак. Ён нарадзіўся 14 жніўня 1890 г. у в. Сёгда[15] Навагрудскага пав. Мінскай губерні. Паходзіў з праваслаўнай сям'і. Атрымаў пачатковую адукацыю ў мясцовай народнай вучэльні, пасля вучыўся ў Навагрудскай гарадской вучэльні, а яшчэ пазней паступіў у рэальную вучэльню Пінска, дзе правучыўся тры з паловаю гады. Быў выключаны ў 1907 г. па падазрэнні ў рэвалюцыйнай дзейнасці. А. Сак быў чытачом і падпісчыкам беларускай газеты «Наша Ніва». Некалькі разоў ён наведваў рэдакцыю газеты, дзе пазнаёміўся з Самуілам Плаўнікам (Змітраком Бядулем), Антонам Лявіцкім (Ядвігіным Ш.), Вацлавам Ластоўскім. У 1911 г. А. Сак паступіў у Пецярбургскі лясны інстытут. Падчас вучобы ён пазнаёміўся з выбітнымі беларускімі дзеячамі — Браніславам Тарашкевічам, Антонам Грыневічам і прафесарам Браніславам Эпімахам-Шыпілам, а праз апошняга — з Іванам Луцэвічам (Янкам Купалам) і Зміцерам Жылуновічам (Цішкам Гартным). Праз два з паловаю гады А. Сак пакідае вучобу, а ўвесну 1914 г. паступае ў Магілёўскую духоўную каталіцкую семінарыю ў Санкт-Пецярбургу [30, с. 297–298].

У біяграфіі, напісанай пасля арышту ў 1930 г., А. Сак апісваў атмасферу ў семінарыі наступным чынам:

*«Пасля паступлення майго ў семінарыю я захаваў сваю беларускую нацыянальнасць, але гэта выклікала шэраг непаразуменняў з таварышамі па семінарыі і часта прыходзілася спрачацца наконт пытання, ці могуць ксяндзы быць беларусамі — гэта ўсё больш замацоўвала мой намер у наступнай маёй працы ксяндзом прысвяціць сябе служэнню каталікам-беларусам. Маё адмоўнае стаўленне да абшарнікаў і польскай шляхты было ўжо, верагодна, вядома ў семінарыі»* [30, с. 298].

У 1917 г. А. Сак прыняў святарскі сан. 24–25 мая 1917 г. ён браў удзел у з'ездзе ксяндзоў-беларусаў у Мінску. З 21 чэрвеня 1917 г. быў прызначаны вікарным ксяндзом у Фашчаўку, але праз тры месяцы пераведзены на пасаду адміністратара Мікуліна-Руднянскай капліцы. Напрыканцы 1918 г. жыў у мястэчку Сянно. У 1919–1921 гг. выконваў абавязкі пробашча ў Свяцілавічах і адначасова быў адміністратарам парафіі ў Шклове [31, с. 71]. Прыкладна ў 1922 г. кс. Сак узначаліў

фашчаўскую парафію. Пад датаю 19 лютага 1922 г. ёсць яго подпіс у кнізе перадшлюбных экзаменаў фашчаўскага касцёла [26, арк. 199 адв], што пацвярджаюць і афіцыйныя крыніцы [32].

Заспеў кс. Сака ў Фашчаўцы экзарх Грэка-каталіцкай Царквы а. Леанід Фёдараў, які прыбыў у Магілёў 11 чэрвеня 1922 г. на запрашэнне магілёўскага каталіцкага дэкана кс. Іосіфа Белагаловага. 13 чэрвеня адзначалася свята ў гонар св. Антонія Падуанскага, цудадзейны абраз якога знаходзіўся ў магілёўскім катэдральным касцёле. У Магілёў сышліся пілігрымы з ваколічных парафій. Пасля літургіі, якую адслужыў а. Леанід, працэсія рушыла на могілкі. Там адбылася ўрачыстая літургія, а фашчаўскі пробашч кс. Сак прамовіў казанне на беларускай мове пра з'яднанне Каталіцкай і Праваслаўнай Цэркваў. Як адзначаў а. Леанід, кс. Сак *«казаў проста, захапляльна, чулліва, але, мабыць, надта агітацыйна»* [33, с. 489–490].

Каля двух гадоў кс. Сак апекаваўся фашчаўскай парафіяй. Касцёльныя ўлады планавалі перавесці яго ў Петраград, і з гэтай прычыны 9 лютага 1924 г. ён быў вызвалены ад абавязкаў пробашча ў Фашчаўцы. Аднак кс. Сак прасіў пакінуць яго ў Беларусі. У лісце пад датаю 23 сакавіка 1924 г. ён пісаў адміністратару Магілёўскай архідыяцэзіі: *«... ма́ю маці, якую не магу пакінуць на волю лёсу. Акрамя таго, ёсць у мяне яшчэ адна маці — мая Айчына. Так дзіўна да недарэчнасці складваецца, што на Беларусі няма аніводнага беларускага святара. Таму шкада мне і яе»*. Кс. Сак некаторы час жыў у Мінску, пасля некалькі гадоў служыў у розных беларускіх парафіях. У канцы 1929 г. ён публічна выракся святарскага сану [31, с. 71]. На допытах у ГПУ А. Сак не адмаўляў таго, што паўсюдна карыстаўся беларускай мовай у казаннях і частых размовах з парафіянамі [30, с. 298].

Маюцца няпэўныя звесткі, што пасля кс. Сака ў Фашчаўцы служыў кс. Война. Пра гэта згадваў 29 чэрвеня 1924 г. Вацлаў Ластоўскі ў лісце да аднаго з кіраўнікоў камуністычнай партыі:

*«Як Вам ведама, пасля выезду біскупа Роппа і высылкі біскупа Лазінскага кіравецтва Магілёўскай Архіепіскапіяй апынулася ў руках кс. Зелінскага б[ылога] магілёўскага дзекана, які зьяўляецца па пераканаўню польскім эндэкам. Згодна са сваімі поглядамі, ён замяніў на Беларусі ўсіх ксяндзоў-беларусаў палякамі (прыкл. высланы ў Вялікаросію кс.кс. І Жалнеровіч, А. Ермаловіч, В. Кундэ, А. Сак і інш.). Нават у Фашчоўцы (каля Магілёва), дзе ніколі не было казаньняў і малітваў па-польску, цяпер кс. Война завёў польскую мову. У выніку ва ўсёй Савецкай Беларусі, праз касьцёл ідзе нечуваная па размаху полёнізацыя»* [34, с. 74].

Трэба думаць, што маецца на ўвазе кс. Стэфан Война (нар. у Варшаве). У 1926–1928 гг. ён служыў у г. Рагачове [35, с. 516–517]. Магчыма, кс. Война толькі часова ўзначальваў фашчаўскую парафію, бо ў тым жа 1924 г. у Фашчаўку быў прызначаны ксёндз беларус Альбін Шаціла.

Кс. Альбін Шаціла нарадзіўся 2 студзеня 1887 г. у в. Сёмкава Слабодка Ігуменскага павета Мінскай губерні ў сялянскай сям'і. У 1912–1917 гг. вучыўся ў Магілёўскай духоўнай каталіцкай семінарыі ў Санкт-Пецярбургу. Прыняў святарскі сан у 1917 г. і быў накіраваны ў парафію мястэчка Чачэрск Рагачоўскага павета, а ў 1924 г. пераведзены ў Фашчаўку. Абслугоўваў таксама і суседнія парафіі, якія не мелі душпастыра. Прамаўляў казанні на беларускай мове [36, с. 446].

У сярэдзіне 1926 г. у Магілёў прыбыў новы Апостальскі адміністратар Магілёўскі і Мінскі — біскуп Баляслаў Слосканс. У пасляваенным эміграцкім друку беларускі рэлігійны дзеяч а. Леў Гарошка пісаў, што для таго, каб паведаміць сваім вернікам аб яго прызначэнні, біскуп выдаў свой першы пастырскі ліст, які быў апублікаваны на дзвюх мовах: беларускай і польскай. Пры рэдагаванні беларускага тэксту пастырскага ліста яму нібыта дапамог кс. Пётр Януковіч [37, с. 8].

У той жа час кс. Шаціла дапамог біскупу Баляславу Слоскансу знайсці ў Магілёве кватэру, але Эксцэленцыя рэдка затрымліваўся ў Магілёве на доўгі час, бо да першага арышту ў верасні 1927 г. актыўна візітаваў парафіі. Наведваў біскуп Слосканс і Фашчаўку. Як успамінае а. Леў Гарошка, казанні падчас візітацый біскуп пераважна гаварыў па-беларуску і нават на допытах у ГПУ спачатку адказваў на пытанні па-беларуску [37, с. 8–11].

Звесткі са спасылкаю на а. Л. Гарошку досыць сумнеўныя, бо не маюць пацвярджэння ў іншых крыніцах пра жыццё і дзейнасць гэтага каталіцкага іерарха. Артыкул а. Гарошкі ў значнай ступені абапіраецца на дыярыуш біскупа Слосканса (у некаторых месцах — даслоўна), але ў арыгінале няма згадак пра карыстанне біскупам беларускай моваю.

З восені 1926 г. у Шклове служыў кс. Януковіч, але жыў ён у Фашчаўцы. У прыватным асобніку рубрыцэлі на 1917 г. кс. Адам Станкевіч пазначыў, што кс. Януковіч быў звязаны з беларускім нацыянальна-рэлігійным рухам[16] [31, с. 492–494]. Хутчэй за ўсё, гэты святар прабыў тут нядоўга, бо ў рубрыцэлі на 1928 г. ён значыцца ўжо пробашчам парафіі св. Францішка ў Ленінградзе. Праз некалькі гадоў кс. Януковіч зноў вярнуўся ў Фашчаўку.

У верасні 1929 г. быў арыштаваны кс. Шаціла. Некалькі месяцаў ён прабыў у няволі, а пасля вызвалення служыў у мінскім касцёле святых Сымона і Алены [37, с. 446]. Памяць пра кс. Шаціла доўга жыла ў фашчаўскай парафіі. Яшчэ ў пачатку 1990-х гг. некаторыя жыхары в. Княжыцы ўспаміналі, што ён казаў ім: «Вучыцеся хрысціць, бо не стане ксяндзоў» [39, с. 12–13].

Хто быў фашчаўскім пробашчам у 1930–1932 гг., дакладна невядома. Прыкладна з канца

1933 г. у шклоўскую парафію вярнуўся кс. Пётр Януковіч. Хутчэй за ўсё, ён апекаваўся і фашчаўскай парафіяй. Яго арыштавалі ў Фашчаўцы 9 чэрвеня 1937 г. [7, с. 138; 37, с. 477]. У хуткім часе парафію скасавалі. Касцёльны будынак не пераажыў часы ваяўнічага атэізму — ён быў знішчаны ў 1960-я гг. Парафію аднавілі толькі ў 1990-х гг.

Такім чынам, у канцы XIX–пач. XX ст. у фашчаўскай парафіі выспела спрыяльная сітуацыя для ўвядзення казанняў на беларускай мове. На той час абсалютную большасць сярод парафіянаў складалі беларусы, якія вылучаліся сярод іншых католікаў Магілёўшчыны гарачай верою, пабожнасцю і любоўю да Касцёла. Магчыма, менавіта дрэннае разуменне парафіянамі польскай мовы стала адным з вырашальных фактараў, які паўплываў на ўвядзенне ў касцёл мовы беларускай. Першыя спробы ўжывання беларускай мовы ў фашчаўскім касцёле маглі рабіць яшчэ езуіты, але дакладных звестак пра гэта няма. Нельга таксама адмаўляць магчымасць эпізадычнага выкарыстання беларускай мовы ў казаннях у XIX ст. — ужо ў 1894 г. біскуп Сымон звяртаўся па-беларуску да фашчаўскіх вернікаў. Амаль бясспрэчна, што ініцыятарам увядзення казанняў на беларускай мове ў 1908 годзе стаў кс. Уладзіслаў Міржвінскі, дзякуючы якому Фашчаўка набыла рэпутацыю выключна беларускай парафіі. Дакладна вядома, што ў 1920-я гг. гаварылі па-беларуску казанні ў Фашчаўцы кс. Аляксандр Сак, а пасля яго кс. Альбін Шаціла. Апошні фашчаўскі пробашч кс. Пётр Януковіч таксама мог прамаўляць па-беларуску.

У гэтай публікацыі не разглядалася праблема нацыянальнай самасвядомасці фашчаўскіх парафіянаў, бо для паўнавартаснага даследавання пакуль недастаткова матэрыялаў.

**Літаратура**


1. А.В. Красоўскі. Да пытання ўзнікнення рыма-каталіцкага асяродка і парафіі ў вёсцы Фашчаўка Шклоўскага раёна // Гісторыя Магілёва: мінулае і сучаснасць: зборнік навуковых прац удзельнікаў X Міжнароднай навуковай канферэнцыі, 25–26 мая 2017 г. — Магілёў: МДУХ, 2017.
2. Ks. J. Żyskar. Nasze Kościoły. — Warszawa: druk Piotra Laskauera, 1913. — T. 1.
3. Ks. A. Stankiewicz. Rodnaja mowa ŭ światyniach. — Wilnia: biełaruskaja drukarnia im. Fr. Skaryny, 1929. — 192 s.
4. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ), ф. 1430, воп. 1, спр. 35861.
5. НГАБ, ф. 2005, воп. 1, спр. 472.
6. Католическая энциклопедия. — Москва: издательство францисканцев, 2011. — Т. IV.
7. С.Г. Козлов-Струтинский. Материалы к истории Римско-католического прихода во имя Посещения Пресв. Девой Марией св. Елисаветы и к истории католического кладбища выборгской стороны в Санкт-Петербурге. — Санкт-Петербург, 2010. — 262 с.
8. Ks. J. Żyskar. Wspomnienia z pielgrzymki z Mohylowskiej archidyecezyi do Częstochowy w 1912 r. — Warszawa: druk Piotra Laskauera, 1912. — 40 s.
9. Ks. S. Zalęski TJ. Jezuici w Polsce. — Kraków: drukarnia W.L. Anczyca i SP, 1905. — T. IV. — cz. III.
10. Ks. S. Zalęski TJ, «Jezuici w Polsce». — Kraków: drukarnia W.L. Anczyca i SP, 1906. — T. V. — Cz. I.
11. Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, ф. 66, воп. 1, спр. 1256.
12. A. Rypiński. Białoruś. Kilka słów o poezji prostego ludu tej naszej polskiej prowincji, o jego muzyce, śpiewie, tańcach, etc. — Paryż: w księgotłoczni J. Marylskiego, 1840. — 231 s.
13. І. Багдановіч. Шлях да святыні: вобраз святыні ў беларускай паэзіі // Наша вера. — 2000. — №4 (14).
14. Krótkie zebranie nauki chrześciańskiey dla wieśniaków mówiących językiem polsko-ruskim wyznania rzymsko-katolickiego. — Wilno: w drukarni dyecezalnej, 1835.
15. М. Ефимова. Вера сквозь века. История римско-католической церкви Дальнего Востока России. — Владивосток, 2007. — 244 с.
16. Viltis. — № 111 (146). — 24.09.1908.
17. Kurjer Litewski. — № 221. — 26.09.1908.
18. Наша Ніва. — № 21. — 09(22).10.1908.
19. Kurjer Litewski. — № 282. — 07.12.1908.
20. Памятная книжка Могилевской губерніи на 1909 годъ. — Могилевъ губ.: губернская типографія, 1909.
21. НГАБ, ф. 1781, воп. 48, спр. 22.
22. M. Radwan. Kościół w Rosji i na Białorusi w relacjach duszpasterzy (1892–1926). — Kraków: wydawnictwo «SCJ», 1999. — 270 s.
23. Ś.P. Biskup Stefan Denisewicz // Biełarus. — №5. — 30.01.1914. — S. 2–3.
24. O katechizowaniu Białorusinów // Wiadomości Archidyecezyalne. — №1. — 1910. — S. 20–21.
25. НГАБ, ф. 1718, воп. 26, спр. 1500.
26. НГАБ, ф. 1781, воп. 48, спр. 23.
27. Wygnańcy na Mohylowszczyźnie // Godzina Polski. — Łódź. — № 67. — 06.03.1916.
28. M.A. Nowakowski. Z działalnosci C.K.O. w Mohylewszczyznie // Odrodzenie. — Kijów: drukarnia polska w Kijowie.
29. T. Chrucki. Szlakami Mohylewszczyzny // Odrodzenie. — Kijów: drukarnia polska w Kijowie.
30. А. Лебедев, В. Пинчуков, С. Лясковски. Костел и власть на Гомельщине (20–30-е годы XX в.). — Варшава-Люблин-Гомель: Instytyt Pamięci Narodowej; Instytut Europy Środkowo-Wschodniej, 2009. — 470 с.
31. Ю. Гарбінскі. Беларускія рэлігійныя дзеячы XX ст. — Мінск-Мюнхен: «Беларускі кнігазбор», 1999. — 752 с.
32. Directorium divini officii et missarum pro archidioecesi mohiloviensi in annum domini 1923 [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://www.petergen.com/bovkalo/sp/mohylow1923.html
33. Диакон Василий ЧСВ (В. фон Бурман). Леонид Федоров: жизнь и деятельность. — Рим, 1966. — 835 с.
34. Я. Траццяк. Беларускае духавенства ў першай палове XX ст. // Białoruskie Zeszyty Historyczne. — 1999. — № 12.
35. R. Dzwonkowski. Losy duchowieństwa katolickiego w ZSSR 1917–1939: martyrologium. — Lublin: Towarzystwo Naukowe KUL, 1998. — 664 s.
36. Л. Маракоў. Рэпрэсаваныя каталіцкія духоўныя, кансэкраваныя і свецкія асобы Беларусі 1917–1964. — Мінск, 2008. — 776 с.
37. А. Л. Гарошка. Старонкі з крыжовае дарогі Каталіцкае Царквы на Беларусі (да 60-х угодкаў Я.Э. Балеслава Слосканса) // Божым Шляхам. — Парыж. — № 56, верасень-кастрычнік 1953 г.
38. Elenchus cleri ecclesiarum archidioceseos Mohiloviensis in Russia in diem 1 januarii 1928 [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://www.petergen.com/bovkalo/sp/mohylow1928.html
39. Кс. К. Тамэцкі, К. Бендаў. Гісторыя каталіцкага касцёла ў Фашчаўцы. — Мсціслаў, 2002. — 23 с.
40. Biełarus. — № 5. — 30.01.1914.


---

[1] Фундуш складаўся з вёсак Чарніца (цяпер Фашчаўка), Княжычка (цяпер Княжыцы), Чална (цяпер Саськаўка), Чамаданы (цяпер Старыя Чамаданы) і Крывель. У 1634 г. была далучана в. Дубраўка. Пазней на землях фашчаўскага маёнтка ўзнікла в. Слабодка. Усе паселішчы цяпер знаходзяцца на тэрыторыі Фашчаўскага і Гарадзецкага с/с Шклоўскага р-на.

[2] Цяпер аг. Ула Бешанковіцкага р-на Віцебскай вобл.

[3] Павятовы спраўнік (рас. дарэф. уѣздный исправникъ) — начальнік паліцыі ў павеце ў Расійскай Імперыі.

[4] Усе даты ў артыкуле да 26 студзеня 1918 г. падаюцца паводле Юліянскага календара.

[5] Станавы прыстаў (рас. дарэф. становой приставъ) — паліцэйская службовая асоба ў Расійскай Імперыі, якая ўзначальвала стан — паліцэйска-адміністратыўную акругу з некалькіх валасцей.

[6] Маецца на ўвазе гімн «Ах, мой Божа, веру Табе…».

[7] У польскамоўных крыніцах прозвішча падаецца як *Mierzwiński*, а ў расійскамоўных — *Миржвинскій*.

[8] Сучасны Даўгаўпілс, Латвія.

[9] Цяпер аг. Ракаў Валожынскага р-на Мінскай вобл.

[10] Цяпер аг. Свацілавічы Бялыніцкага р-на Магілёўскай вобл.

[11] Скарачэнне ад першых літар польск. *Narodowa Demokracja* (Нацыянальная Дэмакратыя) — прастамоўная назва ідэйна звязаных польскіх нацыяналістычных арганізацый к. XIX – пач. XX стст. У гэтым кантэксце — польскія нацыянал-шавіністы.

[12] Хутчэй за ўсё, маецца на ўвазе князь Яўген Адольф Любамірскі (1825–1911), гаспадарчы і палітычны дзеяч, уладальнік маёнтка Дуброўна ў Горацкім пав. Магілёўскай губ.

[13] Магчыма, аўтарам быў той жа кс. Францішак Будзька. Артыкул падпісаны крыптанімам *X*. Гэтак жа падпісваў свае пераклады на беларускую мову кс. Будзька.

[14] Аўтар артыкула — Тэадор Хруцкі — магчыма, быў мясцовым жыхаром.

[15] Цяпер вёска знаходзіцца ў Райцаўскім с/с Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл.

[16] У рубрыцэлі адзначаны цэлы шэраг ксяндзоў, у тым ліку кс. Шаціла і Сак.

Юры Лаўрык

# БІБЛІЯТЭКА ДАМІНІКАНСКАГА КАНВЕНТА Ў НЯСВІЖЫ

Звесткі пра нясвіжскі дамініканскі канвент небагатыя: яны грунтуюцца, галоўным чынам, на інфармацыі, змешчанай У. Сыракомлем ў кнізе «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах»[1]. Людвік Кандратовіч, працуючы бібліятэкарам у нясвіжскім замку, цікавіўся мінулым мястэчка і меў доступ да архіўных дакументаў. Ён часта наведваў касцёлы і кляштары Нясвіжа, знаёмячыся з іх мастацкім аздабленнем і са зборамі; пазней гэтае зацікаўленне знайшло свой адбітак у напісанні прысвечанага Нясвіжу раздзела згаданай кнігі.

Дамініканскі канвент быў асабліва блізкі аўтару, бо ў яго мурах некалі размяшчалася павятовая школка, якую ў дзяцінстве наведваў будучы пісьменнік[2]. З эсэ «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах» мы даведваемся, што кляштар знаходзіўся на рынку і быў заснаваны ў 1672 г. смаленскім падчашым Базылём Бакановічам; пазней фундуш быў павялічаны нясвіжскім ардынатам кн. Міхалам Казімірам Радзівілам, таму ў дамініканскім касцёле былі змешчаны партрэты абодвух фундатараў. У. Сыракомля паведамляе, што яшчэ ў ягоны час у кляштары зберагалася «невялікая бібліятэка, дзе сабраны творы маральнага і аскетычнага зместу»; у яе фондах захоўвалася 1-е выданне вершаў Яна Каханоўскага, а таксама быў аддзел забароненых кніг[3].

На пачатку XX ст. гістарычныя звесткі пра нясвіжскі дамініканскі канвент падсумаваў аўтарытэтны даследчык мінуўшчыны лацінскіх законаў на Беларусі і ва Украіне Я. М. Гіжыцкі, дапоўніўшы іх інфармацыяй з даступных яму дакументаў[4]. Навуковец высвятліў, што апошні раз канвент згадваецца ў афіцыйных спісах Мінскай дыяцэзіі за 1873 г., а значыць гэтым годам можна датаваць заканчэнне яго існавання; пасля гэтага будынак кляштара яшчэ нейкі час выкарыстоўваўся як вязніца для непакорнага расійскім уладам каталіцкага духавенства[5].

Пасля ліквідацыі канвента кляштарны кнігазбор (ці, прынамсі, істотная яго частка) мусіў увайсці ў склад бібліятэкі Нясвіжскай ардынацыі князёў Радзівілаў, дзякуючы чаму нямала выданняў з дамініканскімі правенецыямі захаваліся да нашых дзён у фондах айчынных бібліятэк. Ва ўмовах Беларусі, дзе кляштарныя бібліятэкі нішчыліся ўладамі на працягу стагоддзяў, захаванасць значнай часткі фонда кнігазбору — даволі рэдкая з’ява. У такой сітуацыі выяўленне пост-дамініканскіх кніг у сучасных фондасховішчах і суаднясенне іх са згаданым вопісам канвентуальнай бібліятэкі (а таксама з іншымі інвентарамі, калі яны будуць выяўлены) можа скласці грунтоўны падмурак для віртуальнага бібліяграфічнага рэканструявання гэтай гістарычнай калекцыі.

Сёння кнігі дамініканаў з Нясвіжа найбольш шырока прадстаўлены ў зборах Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі[6] і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі[7]. Адна кніга з уладальніцкім надпісам нясвіжскіх дамініканаў была выяўлена ў фондах Прэзідэнцкай бібліятэкі[8] падчас пошуку, зробленага згодна з нашай просьбай колішнім загадчыкам аддзела рэдкай кнігі гэтай установы М. Герасімавым, якому мы выказваем шчырую падзяку за дапамогу.

На вялікі жаль, у кнігах былой бібліятэкі Нясвіжскай ардынацыі, што захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь, правененцый нясвіжскага дамініканскага кляштара не выяўлена.

* * *

Вопіс канвентуальнага кнігазбору дамініканаў у Нясвіжы ўваходзіць у склад адзінкі захавання, якая змяшчае інвентары шэрагу беларускіх кляштарных кнігазбораў — пераважна дамініканскіх і бэрнардынскіх[9]. Кнігі ў вопісе бібліятэкі нясвіжскіх дамініканаў (а значыць і ў бібліятэчных шафах) згрупаваныя паводле жанрава-тэматычнай прыкметы і ўтвараюць сем раздзелаў рознай велічыні: «Concionatores et Catechistae» («Прапаведнікі і катэхісты»), «Theologi» («Тэолагі»), «Conversistae» («Палемісты»), «Philisophi» («Філосафы»), «Ascetae» («Аскеты»), «Historici et Miscellanei» («Гісторыкі і пісьменнікі розных жанраў»), «Rethores et Poetae» («Аратары і паэты»).

Такая сістэматызацыя, па-першае, адлюстроўвае асноўныя кірункі ў чытанні нясвіжскіх дамініканаў, а па-другое, дэманструе іерархію прыярытэтаў, цалкам адпаведную мэтам і задачам

**Юры Лаўрык** — старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі. Закончыў бібліятэчна-бібліяграфічны факультэт Мінскага ўніверсітэта культуры, тэалагічны і гістарычны факультэты Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта. Даследуе гісторыю беларускай кнігі і бібліятэк.


R. P. VINCENTII HOUDRY
E SOCIETATE JESU
BIBLIOTHECA
CONCIONATORUM
THEOLOGICA
COMPLECTENS
MYSTERIA DOMINI NOSTRI, ET B. VIRGINIS:
INSUPER
ET CÆREMONIAS, CONSUETUDINES, ET ECCLESIÆ
PLACITA.
TOMUS QUARTUS
IN QUO CONTINETUR
SUPPLEMENTUM
AD EADEM MYSTERIA.
OPUS E GALLICO IN LATINUM TRANSLATUM.
CUM PRIVILEGIO SACRÆ CÆSAREÆ MAJESTATIS.
ET APPROBATIONE SUPERIORUM.
AUGUSTÆ VINDEL. & OENIPONTI
SUMPTIBUS JOSEPHI WOLFF. MDCCLXIV.

Тытульная старонка 4-га тома з падрыхтаванага езуітам Вінцэнтам Гудры шматтомнага зборніка «Тэалагічная бібліятэка прапаведнікаў» («Bibliotheca Concionatorum Theologica». Аўгсбург, 1764).

закону.

1mo. Concionatores et Catechistae. Згадаем, што афіцыйная назва ордэну дамініканаў гучыць як «Ordo Praedicatorum» («Ордэн Прапаведнікаў»), і што гэты ордэн быў створаны менавіта з мэтаю евангелізацыі, прапаведніцтва і барацьбы з ерасямі. Менавіта таму на першае месца вынесены раздзел, у якім сабраныя творы найбольш вядомых казнадзеяў.

Тут мы сустракаем папулярнае ў мендыкантаў шматтомнае выданне «Bibliotheca Concionum» Вінцэнта Гудры, двухтомнік Шпанэра «Polyanthea», «Niebo Sprawiedliwym, Piekło Grzesznikom» Антона Даўгялы, «Gody Baranka» Венгрыновіча, «Annus Apostolicus» Лясэльва, «Głos Pasterza» Яна Пашакоўскага, «Exorty Postne»* Пятра Трухновіча, зборнікі казанняў езуітаў Пятра Скаргі (ажно ў 3-х асобніках!), Младзяноўскага і Вайніловіча, піяра Самуэля Высоцкага, дамініканіна Біркоўскага і францішканіна Ласеўскага і нават уніяцкага мітрапаліта Іпата Пацея.

Аўтараў гэтага раздзела можна пералічваць бясконца, і большасць імёнаў будуць нам знаёмыя, бо тут сабраныя творы ці не ўсіх найпапулярнейшых на той час прамоўцаў. Разам з тым, у пераліку асобаў пераважаюць усё ж прапаведнікі беларускія і польскія, хоць не бракуе і замежных (у тым ліку, такіх аўтарытэтных, як Бесэй, Бурдалу, Гартунг, Лаўксмін або дэ ля Вега). Падобная сітуацыя і з мовамі — пануе польская, але і лаціна прадстаўлена дастаткова шырока; іншыя ж мовы (як, напрыклад, французская, Gallica Lingua) — толькі паасобнымі выданнямі. Некалькі кніг надрукавана гатычным шрыфтам (Typo Gottico).

З жанравага пункту гледжання, апрача ўласна зборнікаў казанняў сустракаюцца і дапаможнікі па прапаведніцтве. Усяго ў раздзеле паказана 189 пазіцый, але з улікам дублетных асобнікаў і шматтомнікаў змешчаныя там кнігі (друкаваныя выданні і, зрэдку, рукапісы) перасягаюць дзве сотні тамоў.

2do. Theologi. Цалкам лагічна на другім месцы ў гэтай іерархіі апынуўся менавіта раздзел, прысвечаны тэалогіі, бо немагчыма навучаць веры, не ведаючы грунтоўна, напрыклад, яе дагматыкі. Да таго ж, дамініканe ад самага пачатку славіліся як найвучонейшыя сярод лацінскіх законаў, і толькі езуіты змусілі іх крыху пацясніцца на сваім п'едэстале.

Гэты раздзел змяшчае 122 пазіцыі, але колькасць тамоў перасягае далёка за 300 з прычыны шматтомных выданняў. Сярод гэтых кніг, насуперак загалоўку, можна сустрэць не толькі ўласна тэалагічныя трактаты, але і нарматыўныя дакументы Касцёла — пастановы Трыдэнцкага Сабору, сінодаў Віленскай дыяцэзіі (у прыватнасці, праведзеных біскупамі Міхалам Зянковічам і Казімірам Бжастоўскім), дапаможнікі па кананічным праве, творы айцоў Касцёла, працы па біблеістыцы і ўласна тэксты Святога Пісання (ёсць тут і адно нясвіжскае выданне — «Wykład Pisma S. wierszem X. Korzenieckigo S. J.»). Разам з тым, некаторыя змешчаныя кнігі з большым


CHWAŁA
Chwalebnego w Swiętych swoich
Boga, y Swiętych w Bogu
uwielbionych,
Kazaniami nà wszystkie w Roku całym dni Swięte, y niektore Akty publiczne po rożnych Katedrach
Chrześciańskiey dla nàsladowania Pobożności
OGŁOSZONA.
J. W. Jmći PANU
P. JERZEMU AUGUSTOWI
S. P. R. Hrabi z Wielkich Kończyc,
y Olsownicy
WANDALINOWI
MNISZCHOWI
MARSZAŁKOWI Nàdwornemu Koronnemu,
Sanockiemu, Lubaczowskiemu, Grudziądzkiemu &c. Starościè
S. Jędrzeia, y białego Orła Kawalerowi
Nà dowod uprzeymey Imieniowi Temu życzliwości
przyszłych dla pamięci wiekow
ZAPISANA.
Przez X. Samuela od S. Floryana Scholarum Piarum
Prowincyi Polskiey Konsultora
Roku Pańskiego 1747.
TOM PIERWSZY
W WARSZAWIE
w Drukarni J. K. M. y Rzpltey XX. Scholarum Piarum.

Тытульная старонка 1-га тома зборніка казанняў піяра Самуэля Высоцкага «Хвала Богу, слаўнаму ў сваіх святых» («Chwała Chwalebnego w Swiętych Swoich Boga». Варшава, 1747).

правам знайшлі б сваё месца ў іншых раздзелах (напрыклад, кнігу Яна Пашакоўскага «Absurda Jansenistica» больш лагічным было б шукаць у наступным раздзеле, а «Catechismus Romanus Andreae Leodii» і «Catechismus Concilii Tridentini» — у папярэднім).

Кнігі гэтага раздзела, за вельмі рэдкім выключэннем, напісаны на лаціне, а айчынных аўтараў можна злічыць па пальцах (апроч названых вышэй, згадваюцца «Compendium Theologiae Moralis» Францішка Прылуцкага, «Questiones Theologiae Canonico-Morales» Аляксандра Бакаyоўскага і некалькі іншых твораў).

У гэтым раздзеле ўжо ў значна большай ступені, чым у папярэднім, прадстаўлены працы вучоных дамініканаў, пачынаючы ад Альберта Вялікага з «Пастылай на Евангелле паводле Лукі» і ягонага славутага вучня Тамаша з Аквіна са сваёй «Summa Theologiae» (прычым, у некалькіх выданнях), і заканчваючы такімі паслядоўнікамі апошняга, як Жан Ганэт ці Марцін Віганд. Натуральна, што і тут сустракаецца нямала аўтараў езуітаў (з найбольш вядомых назавём Белярмі-




«Духоўныя рэкалекцыі» францішканіна Францішка Прылуцкага («Rekollekcye Duchowne». Нясвіж, 1774).

на і Баўмгартнера); ёсць таксама кнігі бэнэдыктынаў, францішканаў, кармэлітаў, ерамітаў св. Паўла і прадстаўнікоў іншых законаў.

3tio. Conversistae аб'ядноўвае кнігі па хрысціянскай апалагетыцы. Гэтая дысцыпліна з'яўляецца такой жа часткай агульнай тэалогіі, як, напрыклад, тэалогія маральная або дагматычная. Таму вылучэнне гэтае галіны ў асобны раздзел можна растлумачыць тым, што некалі яна павінна была быць грунтам для выканання адной з галоўных задачаў закону — барацьбы з ерасямі і неадпаведным трактаваннем догматаў і Святога Пісання. Гэта было актуальна ў XIII ці ў XVI стст., але ў XVIII ст. праблема ўжо страціла падставы свайго існавання, таму ў нашым вопісе гэты раздзел найменшы — ён налічвае толькі 14 пазіцый прыкладна ў 40 тамах і мае кірунак, хутчэй, антыюдэйскі.

Раздзел не змяшчае выданняў іншаверцаў XVI ст., на прысутнасць якіх у бібліятэцы спадзяваўся У. Сыракомля, а асобны фонд забароненых кніг у вопісе зусім не згадваецца. Сярод аўтараў выразна пераважаюць езуіты (Ян Пашакоўскі, Альберт Каяловіч, Марцін Каранецкі і інш.), хоць часам ёсць і прадстаўнікі іншых ордэнаў, як, напрыклад, дамініканін Пётр Дарагашэўскі з «Tarczą wiary Xsowej» ці францішканін Фр. Прылуцкі з «Theologią Duchową». За выключэннем адной кнігі («De Scientia et Voluntate Dei F. Joannis Thomae Boxadors O.P.»), усе творы з гэтага раздзела напісаныя па-польску.

4to. Philisophi. Гэты раздзел мае, хутчэй, вучэбнае прызначэнне, бо ў той час філасофія, якая ўключала ў сябе курсы прыродазнаўчых і дакладных навук, з'яўлялася апошняй прыступкай да вывучэння тэалогіі. Філасофскі раздзел не належыць да самых вялікіх — ён змяшчае толькі 54 пазіцыі (каля сотні тамоў), сярод якіх трактаты і падручнікі (а таксама, відаць, студэнцкія рукапісныя «скрыпты») па філасофіі ў яе тамістычна-арыстоцелеўскім выглядзе.

Большасць кніг напісана на лаціне, але зрэдку сустракаюцца і паасобныя тэксты па-польску (напрыклад, «Algebra początkowa Xª Więgleńskiego» або «Nauka o Sferze y Cyrkułach pisana»); аўтары таксама пераважаюць заходнееўрапейскія, нярэдка дамініканe або езуіты. Сярод найбольш вядомых імёнаў можна згадаць францішканіна Фартуната з Брыксіі, бэнэдыктына Альфонса Вэнзля, езуіта Максімільяна Гела або нашага земляка Якуба Накцыяновіча, які таксама рэпрэзентуе Таварыства Езуса.

5to. Ascetae. У гэтым раздзеле прадстаўлены кнігі па аскетыцы, або іначай кажучы, па спірытуальнай тэалогіі, што, як і апалагетыка, уваходзіць у склад тэалагічных дысцыплін. Размяшчэнне гэтага раздзела ў вопісе нават пасля філасофіі можна растлумачыць толькі тым, што для дамініканаў — пры іх скіраванасці на інтэлектуальнае развіццё — аскетыка мела дапаможнае значэнне (у адрозненне ад бэнэдыктынаў або бэрнардынаў).

Гэты раздзел дастаткова вялікі і змяшчае амаль усе найбольш важныя творы згаданай тэматыкі; у ім прастаўлена 159 пазіцый у амаль 200-х тамах на лацінскай і польскай мовах. Сярод аўтараў кніг ёсць і замежныя, і айчынныя духоўныя пісьменнікі, а з увагі на прыналежнасць да таго ці іншага ордэну пераважаюць езуіты.




Зборнік жыццяпісаў святых, падрыхтаваны езуітам Пятром Скаргам («Exorty Postne». Вільня, 1747).

Сярод пералічаных у гэтым раздзеле знайшлі сабе месца такія класічныя хрысціянскія тэксты як, напрыклад, «Listy S. Franciszka Salezyusza», «Collationes Patrum Joannis Cassianae Eremitae», «Ćwiczenia Duchowne S. Ignacego, pisane przez X Ludv: Bourdaloue S.J.», «Rozmyślania Nabożne Św. Augustyna» ці «O Naśladowaniu X Tomasza á Kempis Exemplarzów 7». З менш вядомых сёння, але папулярных у свой час кніг назавем «Sermones Ascetici» Шротэра, «Pamiątka Pasterskiego Affektu» Мансі, «Rekollekcye Duchowne» Прылуцкага, «Zbior Powinności Xtiańskiej» Вітвіцкага, «Soloquia Xtiana» Тылькоўскага.

Прадстаўленыя ў двух апошніх раздзелах вопісу творы маюць вучэбнае значэнне: яны ахопліваюць літаратуру па гісторыі і рыторыцы, а таксама ўключаюць паэтычныя творы.

6to. Historici et Miscellanei. Усяго тут прадстаўлена 163 пазі-



Пачатак 1-га раздзела «Статута Вялікага Княства Літоўскага» («Statut Wielkiego Księstwa Litewskiego». Вільня, 1693).

цыі ў болей чым 200-х тамах на польскай і лацінскай мовах (у некаторых выпадках, магчыма, і па-італьянску). Сыходзячы з пералічаных у раздзеле кніг, на першае месца ў загалоўку больш слушным было б вынесці слова «Miscellanei» — настолькі яны разнастайныя.

Не здаецца выпадковасцю, што раздзел пачынаецца славутым нясвіжскім выданнем, якое прысвечана фундатарам канвента — «Icones Familiae Radivilianae». Ёсць там і іншыя выданні, тым ці іншым чынам звязаныя з гэтым магнацкім родам: «Kazania y Mowy na Pogrzebie Anny Radziwiłłówny Xiężny», «Peregrynacya J. O. Xcia Mikołaja Radziwiłły» і г.д.

Гісторыі іншага славутага беларускага роду была прысвечана кніга «Historia Chodkieviczów. Miscellanea», а зададзеная творам Альбрыхта Станіслава Радзівіла агіяграфічная тэматыка працягвалася ў такіх творах як «Żywoty Świętych X. Skargi S.J.», «Żywoty S.S. Zak. Kazn.» і «Martyrologium Romanum». Больш шырока гісторыю Касцёла нясвіжскія дамінікане вывучалі па славутых працах Баронія («Dzieie Kościelne X. Baroniusza Kardynała») і Амата («Historiae Eccles.ae Utriusque Testam. Fris Hyacinti Amat de Graveson Vol. 6»), а пра мінуўшчыну і дзейнасць розных законаў даведваліся з кніг «Historia Conscripta Societtis Jezu á P. Sacchino», «Liber miraculor. B. V. Mae Luceriensis O.P.», «Sacrum Theatrum Dominicarum, Fris Vinc. Mariae Fontanae O.P.», «Historia Peruana Ord. S. Augustini P. Ioachimi Brutlio eiud Ordis», «Kroniki Zakonu Franciszkańskiego X. Bernarda Saniga eusd. Ordis».

Мінуўшчына Рэчы Паспалітай асвятлялася ў такіх працах з дамініканскай бібліятэкі, як «Annales Poloniae» Веспасіяна Ціхоўскага ці «Historia Królów Polskich», а таксама ў «Historyi Polskiey» Нарушэвіча. Дамінікане маглі чытаць і кнігі па антычнай гісторыі (напрыклад, Тацыта), і па сучаснай («Historia Powszechna», «Historia Germanica Turcar»). Патрэбы ведання права забяспечвалі юрыдычныя выданні: «Statut WXLittgo, za Zygmunta, Władysława, Jana Trzeciego czwarty raz wydany») і «Instituti et Constitutionum S.J.».

Нясвіжскія дамінікане разумелі і неабходнасць адпачынку — нездарма некаторыя кнігі ў гэтым раздзеле мы сёння аднеслі б да мастацкай літаратуры («Tysiąc Nocy y iedna w Tomach 3», «Dworzanin Polski» Лукаша Гурніцкага) ці да літаратурных дапаможнікаў, як вельмі папулярны ў той час слоўнік сімвалаў аўтарства Пічынэлі («Libri Mundi Symbolici Dni Piccinelli. Exemp. 2»). Больш за тое, у зборы былі нават кнігі з апісаннем гульняў («Zabaw Przyjemnych y Pożytecznych Tomów 4»).

7mo. Rethores et Poetae. Тут прысутнічае 49 пазіцый, некаторыя з якіх — у колькасці двух ці болей асобнікаў. Як вынікае з загалоўка, гэты раздзел павінен змяшчаць творы свецкае рыторыкі і паэзіі. Часткова так і ёсць, і мы сапраўды можам заўважыць тут імёны Цыцэрона, Авідзія, Вергілія, Грацыяна, а таксама падручнікі па рыторыцы і паэтыцы («Rethorica Cypriani Soarij S.J.», «Historia Poeticae», «Gradus ad Parnasus, Elegantias Poeticas contines»). Не менш шырока ў раздзеле прадстаўлены традыцыйныя граматычныя (Альвар) і лексіграфічныя (Кнапіус, Вагнер, Шырвінд) выданні, граматыкі і слоўнікі сучасных моваў — французскай, нямецкай.

Такім чынам, мы коратка азнаёміліся з колам чытання, якое забяспечваў нясвіжскім дамініканам іх канвентуальны збор. У далейшых публікацыях рубрыкі мы спадзяемся працягнуць тэму кляштарных бібліятэк.

* Тут і далей назвы кніг даюцца ў той форме, у якой яны зафіксаваныя ў вопісе; арыгінальная форма назвы гэтага выдання: «Exhorty Postne».

[1] Вандроўкі па маіх былых ваколіцах // Сыракомля, Ул. [Кандратовіч, Людвік] Добрыя весці: Паэзія, проза, крытыка / Уладзіслаў Сыракомля. — Мінск: Маст. літ., 1993. — С. 173–321.
[2] Тамсама, с. 284.
[3] Тамсама, с. 229.
[4] Wołyniak [Giżycki, J. M.]. Wiadomości o dominikanach Prowincyi Litewskiej / Zebrał Wołyniak; poprzedził przedmową O. Woroniecki OP. — Cz. 1. — Kraków, 1917. — S. 133–137.
[5] Тамсама, с. 136–137.
[6] Garzoni, T. Il Theatro de vari e diversi cervelli mondani / Nuouamente format, & posto in luce da Tommaso Garzoni. — In Venetia, 1598. — [4], 98, [2] f. (Шыфр ЦНБ НАНБ: Д16-18/Нр327 Нр5628); Czerniewski, A. Strzały Jonathy Słowa Boskie... / Antoniego Czerniewskiego. — Wilno, 1728. — [36], 578, [22] s. (Шыфр: О616-18/Нр165 Нр4736); Cicero, M. T. Epistolarum selectarum libri IV. Olim commentationibus Benedicti Herbesti illustrati nunc in commodiorem Ordinem digesti ad usum scholarum Societatis Jesu / M. Tullii Ciceronis. — Nesvisis, 1761. — [20], 314, [3] p. (Шыфр: О616-18/Нр124 Нр3429); Ambschell, A. Dissertatione de centro gravitates in subsidium suorum discipulorum conscripta / ab Antonio Ambschello. — Labacum, 1779. — 239 p., 2 tab. (Шыфр: О616-18/Нр513 Нр6615); і інш.
[7] Zienkowicz, M. J. Synodus Diocesana Vilnensis ... / ab Illustissimo, Excelcissimo ac Reverendissimo D. Michaele Joanne Zienkowicz … celebrate. — Vilnae, 1744. — [14], 194 s. (Шыфр НББ: 096/4943); Zrzelski, J. Bolesław albo Król Boleści Jezus Chrystus ... / Podany przez W. X. Jana Zrzelskiego... — Wilno, 1740. (Шыфр: 096/4967); і інш.
[8] Агентов, М. И. Краткая немецкая грамматика, в пользу российского юношества / переводчиком Михаилом Агентовым… — Москва, 1762. — [8], 196, [2] с. (Шыфр Прэзідэнцкай б-кі: 1328390 рф).
[9] Cathalogus Librorum Bibliothecae Conventus Nesvisiensis Ordinis Praedicatorum // НГАБ: Фонд 1781. — Воп. 32. — Спр. 186. — Арк. 113–120.

*На ілюстрацыях прадстаўлены выданні са збораў Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь. Гэтыя кнігі з'яўляюцца аналагічнымі тым, што прадстаўленыя ў вопісе бібліятэкі нясвіжскіх бэрнардынаў, хоць і паходзяць з іншых кляштарных кнігазбораў.*






**Ірына ЖАРНАСЕК** — пісьменніца, рэдактар часопіса «Маленькі рыцар Беззаганнай». Нарадзілася ў вёсцы Чаранкі на Глыбоччыне. Скончыла Мінскі інстытут культуры (1976). Піша прозу, публіцыстыку, перакладае з польскай мовы. Аўтар кніг прозы «Ліст да сына» (1986), «Гульні над студняй» (1993), «Гадара» (2002), аповесці-казкі «Спрэчка анёлаў» (2004), рамана «Будзь воля Твая» (2005), кнігі вершаў «Шукаю Цябе» (2008). Жыве ў Наваполацку.

## Няскладзеная ода

Калі б я мела талент складаць оды, я абавязкова склала б адну з іх і праславіла б ёю гладыш мёду, бутлю гарэлкі і кабана-кормніка. Уяўляю цяпер зморшчаны носік якой-небудзь эстэткі! Ды няхай яна супакоіцца, бо оды я не ўмею складаць, а значыць і чытаць іх ёй не давядзецца.

Замест тае няскладзенае оды я на ўсё жыццё зберагла ў душы ўдзячнасць майму тату. За тое, што ён у той дзень, калі яму добрыя людзі падказалі, што ягоную сям'ю плануюць раскулачыць і выслаць у невядомую страшную далеч, мой тата не бедаваў, не ўпадаў у роспач, ні з кім не раіўся, але забіў здаравеннага кабана, асвяжыў яго і яшчэ цёплага ўскуліў на калёсы. Побач з ім тата прыладзіў бочачку гарэлкі літраў на пятнаццаць і ладны гладыш духмянага мёду. Усё гэта прыкрыў дзяругай, сеў сам спераду і рушыў з нашых Чаранкоў у сельсавет, які, дарэчы, знаходзіўся зусім побач з касцёлам, куды тата з мамай ды нашы старэйшыя ездзілі штонядзелі. У касцёл ездзілі, а ў сельсавет калі не клікалі, то дзвярэй, зразумелая рэч, без патрэбы не адчынялі. Ды вось давялося…

Быў канец працоўнага дня. Сельсаветчык змяніўся з твару, калі ўбачыў на парозе тату.

Іхняя размова была нядоўгай. Гаворачы, выйшлі ў двор. Гаварыў з большага тата: пра Чаранкі казаў, пра нашу маму, якая часта хварэе, пра тое, што сам ён не баіцца ні сцюжы, ні рознай цяжкай працы, але Александрына то нікуды не даедзе. Потым ён казаў пра дзяцей, якія яшчэ зусім малыя — куды ж, маўляў, з імі ў свет кідацца? Зазначу, што пра мяне там гаворкі не было, бо тады яшчэ мяне і на свеце таксама не было. Сельсаветчык слухаў, пазіраў некуды ўбок, сумаваў… Потым чагосьці зморшчыўся, і ў таты трывожна зайшлося сэрца. Ды сельсаветчык пазяхнуў, яшчэ раз азірнуўся і лянівым такім крокам падышоў да павозкі. Ён падняў край дзяружкі, зазірнуў пад яе і на трывожнае татава: «Ці хопіць?» кінуў коратка: «Хопіць». Такая была цана за тое, што наша сям'я засталася жыць у сваёй хаце, у нашых зялёных Чаранках, а не паехала ў туманную далеч. Зямлю, вядома ж, абрэзалі, пакінуўшы нам некалькі сотак у садзе, імшару адабралі, каня ды некалькі кароваў з падцёлкамі таксама. Але што гэта ў параўнанні з тым, што ўсю сям'ю не выгналі з уласнае хаты ў невядомы ды няветлы свет?



# Нашых дзён крыгаход

У кнігах, вядома, мне даводзілася чытаць пра тыя страшныя дарогі, але ці не найбольш ўразіў мяне ў свой час аповед нашага калгаснага каваля Шумана. Аднойчы на мехтаку, дзе мы, падлеткі, разам з дарослымі ўначы сушылі калгаснае зерне, ён, зазвычай маўклівы ды пахмурны, неспадзявана разгаварыўся і пачаў расказваць мужчынам пра сваю дарогу ў Сібір. Памятаю, як сядзела я, забіўшыся ў кут, на пыльным цёплым зерні, слухала, а з вуснаў нашага каваля спадалі цяжкія, страшныя словы. Я душылася слязьмі, а ўваччу бегла бясконцая снежная далеч пад цяжкі стук колаў цягніка… Потым раздаваўся працяжны, рэзкі сігнал — і цягнік спыняўся… Тады дзверы вагонаў расчыняліся, канваіры сыпалі мацюкамі і скідвалі на ўзбочыну чыгуначнага палатна мёртвыя целы тых, чыя дарога ўжо скончылася. У душныя смярдзючыя вагоны ўрываліся шызыя клубы марознага паветра, і тыя, што заставаліся яшчэ жывымі, сквапна хапалі яго. Але гэта доўжылася вельмі каратка. Паравоз зноў даваў гудок, і цягнік спачатку паволі, а потым усё шпарчэй і шпарчэй набіраў хуткасць — вёз да пункту прызначэння тых, каго трэба было «перавыхоўваць». А на белым снезе заставаліся ляжаць тыя, што паспелі ўжо «перавыхавацца» за час гэтай дарогі…

У кнігах я чытала пра гэткія дарогі. Але цяжкія, нібы камяні, словы дзядзькі Шумана ў тую ноч сталіся для мяне ці не найстрашнейшымі і ці не найбольш пераканаўчымі.

Дзякуючы татаваму адчайнаму ўчынку, дзякуючы таму кабану, бутлю гарэлкі ды гладышу мёду, якія ён завёз сельсаветчыку, наша сям'я не зведала гэткай дарогі. Неверагодна? Ды вось жа здараліся і гэткія неверагодныя гісторыі.

Шкада ўсё ж, што я не ўмею складаць оды.



### Сячкарня

Вельмі гэта цікавы агрэгат — сячкарня. Не раўня секачу. Праўда, быў у нас і сякач, але яго мы ўжывалі больш тады, калі трэба было надта ж ужо дробна пасекчы ахрап'е — курам ды віскатлівым парасятам. Не любіла я гэтай працы. Стаіш сабе пры карыце і тупа так цюкаеш насаджанай на палку жалязякай у форме знаку даляра па тым, што яшчэ нядаўна было травой. Ды яшчэ калі гэта не парасятам, а курам альбо гусям, то мама загадвае здрабніць на крошкі, бо якія там глоткі ў тых курэй- гусей — смех адзін! Дык і цюкаеш, перамешваеш і зноў: цюк-цюк, цюк-цюк…

Не, сячкарня — гэта ўжо прагрэс! Назбіраем з Ягусяй ахрап'я, прывалачэм кошыкі да сячкарні, а там і мама падаспее. Яна падае ў карытца пасмы лебяды, асоту, малочніку, а ты круціш ручку: уверх-уніз, уверх-уніз… Шах-шах-шах… Чым не фітнес?

Мама дазволіла Ягусі таксама падаваць траву ў карытца, калі тая ўжо старшакласніцай стала, ну, калі мы ўжо яе Марыяй звалі і не блыталіся пры гэтым. Яно, па-добраму, можна было б і раней яе зрабіць падавачкай пры сячкарні — не надта там і вялікі спрыт патрэбны. Але гэта калі па-добраму, бо з Ягусяй здарылася жудасць у раннім маленстве менавіта праз сячкарню.

Пяцігадовая Ягуся, значыцца, гасцявала ў бабулі Францішкі. А разам з ёю жыла тады таксама сям'я цёткі Ганкі, маёй хроснай. У цёткі былі дочкі — Тэся і Янка. Меншых, Караліны з Лёняй, тады яшчэ не было. А Тэся з Янкай былі яшчэ трохі меншыя за нашу Ягуську. Ну і заманулася гэтым траім пры сячкарні пагуляць у гаспадарлівых дарослых — узяліся нейкую там наскубаную траву рэзаць. Ягуся з Янкай падавалі па чарзе, а Тэся круціла ручку. Трава ж засела ў пашчы сячкарні — ні ўзад ні ўперад. Такое здараецца, калі трава занадта мяккая або зляжалая. Макрыца то нізавошта не хоча пралазіць, яе трэба ці то з асотам, ці з малочнікам пускаць. А тыя ж асэсаркі… што яны там ведалі! Дык засела трава, наша Ягуся пачала спераду, там, дзе два паўкруглыя нажы, выцягваць траву, а Тэся ў гэты час і… крутнула ручку!

Праз шмат гадоў пасля таго здарэння, ды нават і цяпер, мая сястра саромеецца падаваць незнаёмаму чалавеку правую руку без вялікага пальца і з пакалечаным указальным. У касцёле на Імшы на «знак спакою» яна і цяпер мінтрэжыцца, калі раптам побач стаіць хтосьці незнаёмы.

Кожны раз, калі яна распавядала, як тата вёз яе тады на кані спачатку да нашага фельчара, а потым — у Лужкі, як у часе аперацыі яе трымалі дзве мажныя цёткі санітаркі, узлёгшы на яе, пяцігадовую малечу, як яна ўсё ж адпомсціла і пакусала

іх, кожны раз мне пры гэтым робіцца млосна.

Мабыць, і маме было б млосна, бо тата пасля таго здарэння ёй не прызнаўся, што дачка ўжо без пальца на правай руцэ. Сказаў, што так сабе, трохі пакалечылася, дык во трэба падлячыцца. І малая ж таксама маўчала! Прызналіся толькі тады, калі доктар пасля шматлікіх перавязак, недзе праз месяц зняў нарэшце бінты.



### Зімовымі вечарамі

Найбольшая загадка тых даўжэзных вечароў — як мы ўсе змяшчаліся адначасна ў нашай хаце і чаму нам зусім не было цесна. Прынамсі, я не памятаю, каб хто-кольвечы наракаў на цеснату. Нават тады, калі да Герці з Аляй прыходзілі яшчэ іхнія сяброўкі, прыхапіўшы з сабой вышыванне ды вязанне.

Пасядуць дзяўчаты вакол лямпы і шчыруюць: адны — звычайным крыжыкам, другія — балгарскім, трэція — гладдзю, а хтосьці пруткамі мільгае альбо шыдэлкам карункі выводзіць. Я то адно звычайны, самы просты крыжык засвоіла. Гэтага ўмення мне хапіла, каб вышыць некалькі макатак з кветкамі, а яшчэ — «Дзяўчынку з кацянём». На той маёй макатцы дзяўчынка абеуруч трымала вялізны жбанок, з якога ліўся струмень малака — проста на пыску кацяняці, а тое спрытна лавіла яго. Ух, вялізная была гэта карціна! Для яе потым тата знарок выштукаваў рамку. Але пакуль справа дайшла да рамкі, давялося мне добра пашчыраваць, так пальцы наколвала голкай, што рабіліся падобныя да скуркі апельсіна. Праўда, тады я гэтак не сказала б, бо і апельсіна таго ў вочы не бачыла. Горбілася я над той дзяўчынкай з кацянём, злавалася на абоіх і не раз думала, што ніколі сваёй макаткі не скончу, бо яно ж гэтак з нашымі макаткамі было: калі бярэшся — усё здаецца хутка пойдзе, проста пабяжыць, а як засядзеш над якім лістком, кветкай, лапкай, то й ахвота тая кудысьці неўпрыкмет выпырхне. Самае кепскае, калі адкладзеш вышыванне ўбок, нібыта на дзянёк-другі, а насамрэч выйдзе, што і месяц неўпрыкмет праляціць, і другі, а там і зімовыя вечары пацiху зменшацца, потым зусім змарнеюць — якое ўжо там крапанне-вышыванне. Колькі гэтак ляжала нашых нясконачаных працаў ды чакала, калі рукадзельніца зноў прыгадае пра іх!.. Вісела гэткая небяспека і над маёй «Дзяўчынкай з кацянём». Ажно не, так-сяк усё ж вырабіла. Вельмі шкада, што не захаваўся гэты мой твор. Не тое што Герціны «Алені на лужку» на чорным палатне, якія і цяпер узіраюцца ў далёкую далеч са сцяны іхняе з Петраком ужо даўнавата апусцелай хаты… Альбо Аліны яркія браткі на дарожцы, што доўга ўпрыгожвала наш ложак з пухнатымі падушкамі, альбо Марыіны «Папугаі», што сядзелі ў чырвона-ружовай квецені…

Макаткі. Вышытыя рознакаляровымі ніткамі мулінэ, яны красаваліся на нашых сценах ажно да таго часу, пакуль ім на змену не пачалі з'яўляцца напачатку невялікія фабрычныя маляваныя дыванкі з казачнымі сюжэтамі, чый век, на шчасце, быў нядоўгі. Ну раздражнялі яны мяне чамусьці! Ды іх у хуткім часе выцеснілі фанабэрыстыя арнаментальныя дываны, што мусілі засведчыць заможнасць тутэйшага люду. Яны пазней не без падставаў атрымалі назоў пылазборнікаў. Асмелюся сцвярджаць, што і адны, і другія не раўня былі нашым макаткам, што з'яўляліся на свет даўжэзнымі зімовымі вечарамі.

Ды толькі, мабыць, дзеля таго, каб жыццё не здавалася мне суцэльнай ідыліяй, была яшчэ адна работка для зімовых вечароў. Вось яе то я люта ненавідзела. Скубанне пер'я. О, гэта быў самы сапраўдны жах! Пасадзіць мама нас на лавы вакол вялікага стала ў «горшай хаце», а на сярэдзіну таго стала выкуліць з мяха кучу курынага альбо гусінага пер'я. І неўзабаве перад кожнай з нас з'явяцца маленькія кучкі ўжо паскубанага нашымі рукамі пер'я. Сядзіш ты, такая ўся няшчасная, над сваёй, вядома ж, найменшай кучкай ды скубеш, пакідаючы ад кожнага пёрка адно стрыжань пасярэдзіне ды мале-е-енечкі такі хвосцік. Такая нудота, скажу я вам, хоць ваўчанём узвый. А недзе ж там, на стале альбо пад падушкай, чакае цябе які-небудзь «Рабінзон Круза»!..

І хто гэта толькі прыдумаў, каб замуж ісці з гэтымі падушкамі-пярынамі?! Вось бы сустрэць такога хлопца, які пажадаў бы спаць на сенніку, а пад галаву фуфайку класці! Не ведала я тады пра Рахметава, а то марыла б пра гэткага мужа, які на цвіках спіць. А каб нават і ведала, то мама з маіх мараў адно пасмялася б, падхапіла б вялізны мех з кута, каб вытрасці з яго новы жмут скамечанага пер'я на сярэдзіну стала. О людзі! І вы хацелі, каб я пасля гэтага ўсяго любіла гусей-курэй-качак?!.

Не дапамагала мне нават спаборніцтва за большую кучку наскубанага пер'я. У мяне яна заўсёды была найменшай, і таму я час ад часу ратавалася крадзяжом: падпільную, калі Ягуся заглядзіцца кудысьці ўбок, а я — цыўк! — і скраду жменьку з яе кучкі, перанясу ў сваю. Ягуся заўважыць — узніме крык. А надта ж крычаць, а тым больш рукамі махаць пры той справе ніяк не выпадала, бо ўся наша праца магла б тады веерам разляцецца па хаце. Таму на кожную нашу такую разборку спяшалася мама, і за сталом зноў усталёўвалася нудотная ціша.

Просімся, памятаю, у мамы, угаворваем яе больш не вытрасаць пер'я на стол, а яна нам:

— От жа, гультайкі якія! А што ж я вам дам, калі замуж пойдзеце? З чаго пярыну ды падушкі для пасагу зробім?

Я ўмольна крычу:

— Мне не трэба пярына! Я свой сяннік забяру!

Мама смяецца:

— Каму ты патрэбная будзеш, з сенніком? Хто на цябе з ім паквапіцца?

І выглядала на тое, што нікому, ну зусім нікому не патрэбныя былі мы ў гэтым свеце без тых пярынаў. А таму сядзі во ды скубі да мятлікаў у вачох гэтае ненавіснае пер'е! Скубі ды спадзявайся, што прыйдзе тата ды загадае згарнуць нашае «прадпрыемства», бо ў яго свая пільніца — валёнкі качаць. І нават калі ён пакліча дапамагчы яму шлёпаць па мокрай аснове, то ўсё адно гэта не так апрыкла, як «варажыць» над пухнатымі кучкамі пер'я. А іх жа столькі трэба для тае пасажнае пярыны, што лепш пра гэта і не думаць!

## Верны кавалер

Яго звалі Янакам. А калі правільна — Іванам Іванавічам. У нас шмат чаго было тады з таго, што «правільна» і «няправільна». Няправільным вось аказалася імя маёй сястры Ягусі. Няправільнымі сталі таксама імёны нашых стрыечных сясцёр і брата з Чаранкоў Данкі, Юзі ды Рэнюся, якія, выехаўшы, зрабіліся спачатку ў Празароках, а потым і ў Полацку Дашай, Юляй ды Раманам. У разрад няправільных трапілі многія нашы словы — зэдаль, шварка, сцізорык, снягоўцы. Іх неяк вельмі хутка замянілі: лаўка, куртка, ножык, боцікі.

У майго ж першага кавалера дык і ўвогуле не было ніякіх шанцаў застацца Янакам, бо ён працаваў рахункаводам у калгаснай канторы, той самай, што мясцілася ў доме дзядзькі Эдварда, насупраць нашай хаты. А быць калгасным начальнікам і адначасна — Янакам?!. Гэта ўжо ні ў якія вароты не ўтаўчэцца! Вось Іванам Іванавічам — гэта па-начальніцку, па-савецку. Але гэта, зноў жа, для папераў, у якіх усё павінна быць правільна. Сярод жа сваіх ён, вядома, заставаўся Янакам.

Ды была адна драбнюткая перашкода для таго, каб лёсіла нам з Янакам зведаць шчасцейка. Яму ў той час перакуліла за трыццатку, а мне не было й дзесяці. І ў той час, калі Янак, наш Іван Іванавіч, лоўка так — ажно ўваччу мільгала — шчоўкаў на сваіх лічыльніках ды кумекаў, як даць найспрытнейшыя лічбы поспехаў калгаса «Рассвет» у райцэнтр, каб потым пра гэта засведчыла раёнка «Шлях перамогі», я пасвіла сабе гусей, гойсала разам з Рэняй, Толікам ды Норбэртам па Гойдышаве і мне зусім не было ў галаве, што хтосьці можа па мне сохнуць. А вось жа і сох! І сам не пабаяўся гэта засведчыць. Бо калі хто з мясцовых пустабрэхаў лез яму асой у вочы і дапытваўся, чаму ён, трыццацігадовы кавалер, ніяк не ажэніцца, ён заўсёды меў гатовы адказ: «Падрасце — і ажанюся!» А падрастаць, як можна здагадацца, хто мусіў? Я!

Быў ён увогуле даволі зайздросным кавалерам, гэты Янак — не трактарыст жа які вам, не пастух і не палявод, а ра-хун-ка-вод. Меў матацыкл, фотаапарат і чорныя нарукаўнікі, якія заўсёды адзяваў, калі сядаў шчоўкаць на сваіх лічыльніках альбо пісаць там штосьці ў вялізных канторскіх палінееных удоўж і ўпоперак кнігах. А калі яму рабілася млосна ад тае пісаніны ды лічыльнікаў, ён выходзіў прайсціся туды-сюды каля клуба-канторы. І ў гэты самы час мог Іван Іванавіч нас прыкмеціць дый паклікаць. Мы прыбяжым, а ён папытае штосьці, пагамоніць з намі, калі мае ў кішэні якія смактулькі, дасць нам па адной, а мяне папросіць вершык расказаць — культурніцкі, так бы мовіць, адпачынак сабе наладжваў. А часам і сам мог нам якую казку расказаць. Асабліва Янак любіў страхоцце пра ваўка і дзяўчынку ў чырвоным каптурку. Чаму? Ды таму, што ў мяне быў чырвоны берэцік, і мой кавалер часта з гэтае прычыны называў мяне Чырвоным каптурком. Дык сфатаграфаваў ён аднойчы мяне ў гэтым чырвоным каптурку, фотку зрабіў. Не сказаць каб надта ўдалая ў яго атрымалася тая фотка — надта ж нейкая цёмная: адны вочы блішчаць з тае цемры і зусім не бачна, што на мне чырвоны каптурок, бо пра каляровыя фоткі мы тады яшчэ нават і марыць не здагадваліся. А можа яны і ўсе гэткія ў яго выходзілі? Можа ён увогуле не быў фахоўцам у гэтай справе? Не ведаю. Ну а дзе ж там ужо быць ва ўсім фахоўцам? Досыць, што на лічыльніках гэтак спрытна шкоўкаў!

Дык зрабіў ён тую маю цёмную фотку, абрэзаў яе акуратна, паклаў у нейкі там свой дакумант і заўжды насіў пры сабе, у нагрудней кішэні. Пачне які зубашчэр чапляцца да яго: «Дакуль ты, Янак, бабылём будзеш блындацца?», а ён важна так дастане з кішэні маю фотку, тыцне таму пад нос і патлумачыць: «Я сабе дзяўчыну гадую. Во! Падрасце — і пажэнімся. Абы толькі не перадумала!»

Як бы на цяперашні час, дык маглі б майго кавалера трасянуць дзе-кольвечы ды гнеўна-праведна запытаць, што гэта за нездаровая ў яго сімпатыя да малалетак. А тады хоць бы сабе што! Тады ні пра якія гэткія жахі ніхто й падумаць не мог. Калі ж каторая кабета пасмяецца мне: «Ну, Ірка, пойдзеш за Янака замуж?», я адно бадзёра так адкажу: «Пайду! Толькі ненадоўга. Пагуляю трохі там — і вярнуся».

Чым скончыўся гэты наш гойдышаўскі раман? А нічым. З Янакам мы не пабраліся. Калі я падрасла, калгасную кантору перанеслі ў новы будынак, можа, за кіламетр ад нашай хаты. Янак нейкі час яшчэ пашчоўкаў у ёй на лічыльніках, потым невядома з якой прычыны выехаў з нашага Гойдышава. На Расоншчыну, казалі. А потым неяк зусім неспадзявана для ўсіх… памёр. Так і не ажаніўся. Памёр маім верным кавалерам.

Такая вось трохі дзіўная і можа трохі смешная для кагосьці гісторыя. Але толькі не для мяне. Бо хіба магу я кпіць з таго, хто насіў маю фотакартку ў нагруднай кішэні, каля сэрца?



## Кніжкі з Вільні

У Вільню я трапіла ўпершыню ўжо дарослай. А ў маленстве адно чула пра яе ад таты, якому часта шчасціла быць у ёй. І ў Вільні, і ў яе ваколіцах. Тату выпраўлялі з калгаса купляць у Літве пародзістых кароў — была ў яго свойчас такая адказная місія. Афіцыйна такая купля-продаж з нейкіх прычынаў не дазвалялася. Тата заўсёды распавядаў пра свае прыгоды з тых падарожжаў з адценнем таямнічасці, і мы чарговы раз радаваліся, што яму зноў пашанцавала — карову альбо дзве яны і на гэты раз прывезлі з Літвы ў наш «Рассвет». Выпраўлялі ж яго на тыя гешэфты, як я разумею, таму, што ён добра ведаў польскую мову і без праблемаў мог дамовіцца з тамтэйшымі палякамі. Ну а тыя ўжо і з літоўцамі дамаўляліся, калі трэба было.

У часе тых паездак тата займеў сябра ў Літве — настаўніка польскай мовы. Здарылася так, што той настаўнік, якога я ніколі на ўласныя вочы не бачыла, адыграў у маім жыцці немалую ролю, бо ён прысылаў для мяне праз тату, а адзін раз нават поштай, кніжкі на польскай мове: «Elementarz»[1], «Czytanka dla klasy 1»[2] і «Czytanka dla klasy 2»[3]. А яшчэ некалькі дзіцячых ярка ілюстраваных кніжак. І сярод іх — казку «Bajka o zbójniku Janosiku i królu Janu»[4]. Не памятаю я ўжо тых прыгодаў малога разбойніка і караля, а вось ілюстрацыі — яркія, нечаканыя, смелыя — і цяпер уваччу. Я ж звыклася, што на малюнках у нашых казках «блукаюць» сабе з кніжкі ў кніжку заяц у валёнках, ліса ў фартушку, мядзведзь у капелюшы, а разам з імі дзед ды баба ў лапцёх. А польскі малы разбойнік ды ягоны кароль мелі выгляд не абы-якіх франтаў: у бліскучых ботах, бела-чырвоных сурдутах, на галовах — зухаватыя шапкі. А чаго вартыя былі па-заліхвацку закручастыя вусы караля Яна! О, з такім каралём нідзе не прападзеш! А як шаблямі размахвалі мае героі — на ўсю старонку альбо й разгортку!

Ну а буквар ды чытанкі, трэба прызнаць, мала чым адрозніваліся ад маіх падручнікаў. Чорна-белыя, на шэрай паперы, з някідкімі малюнкамі. Некаторыя вершыкі памятаюцца і цяпер. Напрыклад:

Ty nosisz książkę do szkoły.
Podobnie nosi Griszka.
Tylko ty mówisz «książka»?
A Griszka mowi «kniżka».

Ty mowisz na czapkę «czapka»?
A Griszka «szapka» znów.
Bo w obu naszych językach
Jest wielu podobnych słów.

Jest jedno ważne słowo.
Zapomnij jego ty:
On mówi «brat» po rosyjsku,
«Brat» mówisz po polsku ty[5].

Ідэйны такі вершык. Але ж запамятаўся вось! Вершы, якім вучыла мама ў сваёй польскай школцы, а потым і я ад яе навучылася — як, напрыклад, пра Касцюшку, што на кракаўскім рынку складае прысягу, — памятаюцца толькі абрыўкамі, а гэты во трымаецца ж у памяці. Не выветрыўся.

А чаму таму настаўніку з Вільні так хацелася, каб я навучылася чытаць па-польску? Хто яго ведае. Спадзяюся, што не для таго ж, каб тая дзеўчынёха з Беларусі, гэта значыць я, зрабіла сабе некалі карту паляка.

Ніхто ў сям'і не ўбіваў мне ў галаву, што я полька, хоць у пасведчанні аб нараджэнні і было запісана, што мае тата Францішак і мама Александрына палякі. І таму, калі пазней я атрымлівала пашпарт, ну што ж — запісана было ў ім, што полька і я. Але, між іншым, наша Аля раней была запісаная беларускай. Хоць у яе тата з мамай тыя ж самыя. Палітыка такая вось у нас была. Смешная часам, але не бяскрыўдная.

А кніжак у мяне было і бібліятэчных, і сваіх шмат і розных — выбірай ды чытай сабе ўдосталь. Хочаш — польскія, хочаш — рускія, хочаш — беларускія. Апошніх было найбольш. Чытай, дачка! Вядома, калі толькі да гэтага ты назбірала ўжо ахрап'я свінкам, прыгнала карову з поля, загнала гусей, прынесла дроваў. А так… чытай сабе, дачушка! Не надта й бойка я там чытала па-польску, а размаўляла дык і ўвогуле кепска, што мог засведчыць мой сябра Норбэрт, які любіў пацвельвацца з маёй пальшчызны. Няўдзячны! Я ж для яго, а ні для каго іншага старалася! Але паколькі прыязджаў Норбэрт у Гойдышава толькі на пару летніх месяцаў, то й мой язык ледзьве варочаўся ў роце па-польску.

Вільня ж заставалася для мяне таямнічым краем, у якім ёсць пародзістыя каровы, друкуюцца цікавыя кніжкі, працуюць спагадныя настаўнікі.

А яшчэ ў Вільні ёсць Вострая Брама!

Аднойчы ў сваю чарговую паездку ў Вільню тата ўзяў з сабой нашу Герцю. Гэта было напярэдадні яе вяселля. Трэба ж было апрануць маладую, а што ты купіш у нашых крамах? Дык і паехалі. Купілі Герці адрэз прыгожага крэпжаржэту, альбо крэпдышыну, — я іх увесь час блытала. Словам, Герця была шчаслівая. А калі яны распавядалі, як хадзілі ў Вострую Браму, мама плакала. Мама ніколі не была ў Вострай Браме, але гэта ёй зусім не перашкаджала моцна любіць Маці Божую Вастрабрамскую.

Тата з Герцяй сфатаграфаваліся ў Вострай Браме. Яны такія маленькія на тым здымку! Мабыць, фатограф баяўся, каб хоць у кадр патрапіла брама — найважнейшая яна там, вядома. А яшчэ тата часта смяяўся, як хтосьці тады сказаў яму, што ён вось малайчына — разам з сястрой прыехаў у Вострую Браму. Тата да глыбокай старасці выглядаў значна маладзей за свае гады.



## Патэфон

Вельмі шкада мне яго, наш патэфон, які мама аднойчы ўзяла ды за некалькі там рублёў аддала студэнтам, што прыехалі ў калгас капаць бульбу. І адкуль тыя праныры даведаліся пра наш патэфон? Падказаў нехта.

Жылі яны ў Гаравых. Ну і аднаго вечара завіталі да мамы, пачалі распытваць пра патэфон. Маме зрабілася іх шкада, бо вось ішлі ж хлопцы знарок, ажно з Гаравых… Мы з Марыяй на той час ужо вылецелі з бацькоўскага гнязда, дахаты прыязджалі не надта часта. Дык і падумала мама, што дочкі калі і прыязджаюць дахаты, то ўсё роўна ж ніколі не маюць часу слухаць таго патэфона, а тым больш, танчыць пад яго ўжо не будуць. Герця з Аляй, зноў жа, у замужжы, ім не да песняў — дзяцей люляюць. Дык і пашкадавала яна студэнцікаў, якія вось жа знарок перліся дзеля таго патэфона, якога ўжо ніхто не слухае...

Яна пашкадавала студэнтаў. А калі потым распавяла мне тое, то ўжо я ледзь не разрумзалася. Ды перад мамай, вядома ж, не падала выгляду. А што ўжо было пасля той куплі-продажу махаць рукамі: студэнты выкапалі бульбу ды й з'ехалі сабе ў свае інстытуты-ўніверсітэты — шукай ветру ў полі.

У серванце засталося ляжаць некалькі знямелых кружэлак. Праз нейкі час, калі мне трохі адлягло, я перагледзела іх і зразумела, што самыя каштоўныя таксама паехалі ў сталіцу разам з патэфонам.

…А патэфон мы найчасцей заводзілі зімовымі вечарамі. Паставіш яго на стол, адкінеш вечка, замацуеш, дастанеш стос кружэлак… Я найбольш любіла польскую «Cicha woda brzegi rwie»[6]. Не ўсё ў ёй разумела, але любіла. Тую ціхую ваду я зусім не ўспрымала як народную прыказку. Мне, малой, уяўлялася, як ціхая вада раптам з невядома якой прычыны, незразумелай сілаю сапраўды пачынае рваць берагі ды выклікае бурную паводку.

А ўвогуле патэфон быў для мяне нейкім цудам. Круціш-круціш ручкай, пакуль тая не ўпрэцца, потым паціху бярэш вялікую бліскучую галаву, ставіш у яе іголку, замацоўваеш яе, павернеш галаву ды асцярожна так, не дыхаючы, апускаеш на самы беражок кружэлкі:

Cicha woda brzegi rwie,
Nie wiesz nawet jak i gdzie.
Nie zdążysz nawet zabezpieczyć się…[7]

Як я любіла тую жыццярадасную песеньку! Потым, ужо дарослай, калі здольная была ўспрымаць яе вобразна, прыдумала нават «тэорыю», чаму яна мне так падабалася: бо, маўляў, яна пра нас, беларусаў. Нібы яна з таго ж раду, што і ў нашага Якуба Коласа: «Я маўчу, маўчу, трываю, але хутка загукаю…» Лухта, вядома, гэта, мае фантазіі, бо ў той лірычнай песні не было і намёку на які-кольвечы вызвольны рух. Але песня файная. Як і шмат іншых, што несліся з нашага патэфона.

Мама плакала пад «Rozkwitały pąki białych róż»[9]. У гэтай песні я зусім нічога не разумела, але верыла, што яна вельмі жаласная, пра нейкае няздзейснёнае каханне. Тата асабліва любіў «Rotu», але і шмат іншых таксама — «O mój rozmarynie»[10], напрыклад. Мама пад той «размарын» зноў выцірала слёзы…

А тата не толькі слухаў, але і спяваў разам з кружэлкай. Слухае-слухае, спявае, а потым раптам: «Ну, усяго з вамі тут не перапяеш! Пастаўце мне Русланаву ды й пайшоў я ў ружжо!» Гэта азначала, што зараз будуць «Валенкі» Русланавай, ён падцягне трохі ёй: «Валенки, валенки, эх, да не подшиты, стареньки!» і пойдзе сабе катаць валёнкі. Ну а мы слухаем ужо Уцёсава:

Крутится, вертится шар голубой,
Крутится вертится над головой,
Крутится, вертится — хочет упасть,
Кавалер барышню хочет украсть!

Ах, якое ж прыгожае каханне нясецца з нашага патэфона! І які адважны той кавалер, што не баіцца ўкрасці сваю барыньку, над галавой якой круціцца нейкі блакітны шар! Нашмат пазней давялося пачуць, што ніякі гэта быў не шар, а трэба было спяваць «шарф», а па-нашаму было б: шалік. Ды тое «ф» згубілася недзе, у часе, мабыць, тых гуллівых любошчаў.

Многія кружэлкі патрэскваюць — заслухалі мы іх ужо добра.

Ды неўзабаве з той паловы хаты тата гукне нам: «Ну, каторая там ужо наслухалася ўволю? Можа і да мяне проша ў помач?» І тады, зразумелая рэч, ужо не да песняў…

---

1 Буквар (польск.).

2 Чытанка для першага класа (польск.).

3 Чытанка для другога класа (польск.).

4 Казка пра разбойніка Янку і караля Яна

5 Ты носіш кніжку ў школу
І гэтак носіць Грышка.
Толькі ты кажаш «ксёнжка»,
А Грышка кажа «кніжка».

Ты кажаш на шапку «чапка»,
А Грышка «шапка» зноў,
У абедзвюх нашых мовах
Ёсць шмат падобных слоў.

Адно ёсць важнае слова,
Запамятай яго ты:
Ён кажа «брат» па-расейску,
«Брат» кажаш па-польску ты (польск.).

6 Ціхая вада рве берагі (польск.).

7 Ціхая вада бераг рве,
Не ведаеш нават, як і дзе.
Не зможаш нават забяспечыцца… (польск.).

8 Расцвіталі бутоны белых ружаў (польск.).

9 О мой размарыне (польск.).

# Ксёндз Ежы Шымік



**Ксёндз Ежы Шымік —** вядомы польскі тэолаг, доктар дагматычнай тэалогіі, паэт, эсэіст. Нарадзіўся 3 красавіка 1953 г. у Пшове ў Сілезскім ваяводстве на поўдні Польшчы. Закончыў Сілезскую вышэйшую духоўную семінарыю. У 1979 г. атрымаў святарскае пасвячэнне.
Аўтар звыш 50-ці навуковых і паэтычных кніг, у тым ліку — 2-томнай працы «Тэалогія Бэнэдыкта» (2010–2012 гг.).
З 2004 г. — член Ватыканскай міжнароднай тэалагічнай камісіі.
Жыве ў Катавіцах і родным Пшове.

## Адрачэнне Бэнэдыкта XVI

У Вестфаліі — зіма,
канец лютага, ноч,
мокры снег, парывісты вецер.
Ойча Святы,
мы, польскія святары, молімся тут за Цябе,
сёння — цэлы Ружанец —
аб Тваім умацаванні і сіле,
удзячныя за Тваю мудрасць і адвагу,
за тое, што быў Ты намеснікам, вікарыем Хрыста,
добрым і лагодным чалавекам.
Няхай беражэ Цябе Бог, Ойча.
Тут, у *Katholische Akademie*, Твае землякі
якраз ладзяць выставу «Зялёная сіла».
Яны шмат разважаюць аб трансцэндэнтнасці,
тузе і аблоках.
І радуюцца, што Ты адыходзіш.
Іх ажно распірае *Schadenfreude*[1]:
пяцьсот гадоў яны чакаюць новага Лютэра
і як бы нічым нічога
выводзяць на шпацыр сваіх сабачак…
Мы молімся за Цябе, Ойча,
Ты ведай пра гэта.

*Schwerte, 19 лютага 2013 г.*

## Dios solo basta[2]

Гэта заўсёды было маё асабістае свята:
ноч, калі чэрвень пераходзіў у ліпень.
Калісьці гэта былі дні бесклапотных вакацый,
апошнім часам — дні цяжкай працы.

Але заўжды — пад усыпаным зоркамі небам,
недалёка ад мора, у цёплым паветры,
з духоўным брызам.
Калі й плакаў у якую з тых начэй —
цяпер не прыпомню.

Што я зраблю без цябе, маё зямное жыццё?
Без тваіх пачуццяў і азарэнняў?
Нават з болем не магу я расстацца
і змрочных хвілінаў таксама шкадую.

Хопіць мне толькі Цябе, праўда?
Ані вока, ані вуха[3]?
Даверуся і тады зразумею, спасцігну?
Перайду з жыцця ў смерць, як з чэрвеня ў ліпень?

Божа мой, Божа:
ці дасі Ты рады са мною?

## Люблін, малітва

Шарэнгі бярозаў і соснаў, выпаленая трава,
грукат рэек і сэрца.
На сёмым дзясятку жыцця еду ў Люблін.
Як Рубікон, перакрочваю Віслу,
бязлюдныя вёскі,
бясхмарнае неба,
сонца.

Што ў цябе ёсць, чаго б ты не атрымаў, сыне?

Мушу прызнацца: усяго мне хапае, Пане.
Ніколі не падмануў Ты мяне няспоўненым
абяцаннем,
усё ў мяне так, як быць і павінна, —
знак, што з Тваёй рукі я паходжу.
Беражы мяне і ахоўвай.
Дапільноўвай дарогі,
на якой для Цябе я згасаю,
выпраствай яе,
лічы мае крокі і не разлічвай занадта на мяне,
будзь ля мяжы гэтак, як быў ля вытоку.
Няхай радуе Цябе роўны стук рэек,
па якіх я зближаюся да Цябе,
і няроўны стук майго сэрца,
бярозы і сосны, якія Ты стварыў,
і я — спаленая трава.

*Пёнкі Заходнія, Налэнчуў, Люблін, Пшуў, Катавіцы,
21 красавіка 2012 г. – 23 сакавіка 2014 г.*

## Пра суцяшэнне

«Цяпер чувацъ цвыркуноў.
І месяц, як і ўчора гэтай парою,
ужо ўзыходзіць над Люблінам
па голлі нашых тапаляў».

Не бойся,
бо належыш Богу.

Як тады, гэтак і цяпер,
як з Паўлам, гэтак і з табою:
звонку змагання, унутры асцярогі.
І месяц — той самы.

Бог, Суцяшальнік пакорных,
як тады, гэтак і цяпер:
як уздымаў іншых,
так і цябе падбадзёрыць.

Каб мог Ты суцяшаць тых,
каго бяда прыгнятае,
суцяшэннем, якое спазнае́ш
ад Яго.

Надзея сыходзіць з таго,
што вера праўду гаворыць.

Не бойся,
толькі вер,
і будзе яна ўратавана.
А з ёю — цвыркуны і горад,
месяц і голле
нашых тапаляў.

*Пшуў, 1–22 жніўня 2010 г.*

## Дастаеўскі і Папа

Іван Карамазаў
вяртае Богу «білет»[4],
бо замардаваныя былі дзеці,
бо яны білі сябе кулачкамі ў грудзі
і маліліся ў смуроднай прыбіральні
неадкупленымі слёзкамі «да Бозі».

Я заўсёды думаў, што гэта сентыментальны фальш,
што Дастаеўскі гэтакі ж, як Расія:
вялікі, хворы і небяспечны.

Бэнэдыкт XVI пярэчыць яму.
Ён піша:
«Пратэст супраць Бога ў імя справядлівасці
нічога не дае.
Свет без Бога — гэта свет без надзеі.

Адзін Бог можа здзейсніць справядлівасць.
І вера пераконвае нас, што Ён гэта робіць»
(гл. *Spe salvi*, 43–44).

Шмат чаго мы не ведаем, але гэта акурат ведаем:
Без Бога забітыя дзеці — адкіды гісторыі.
З Богам — у іх ёсць будучыня.
Вось і ўсё.

*Il Papalino, 29 лістапада 2011 г.*
*(Асаблівая падзяка Т. Тэрлікоўскаму за кнігу*
*«Бэнэдыкт XVI. Змаганне за душу свету».)*

## Галасы

Блакіт горада пацямнеў,
як гетры *azzuri*[5],
набрынялыя потам
напрыканцы матча.

І адгукнуліся галасы Рыма:
званкі мабілак і *dialette*[6] ў адказ,
і магутны, разлівісты звон у майскім паветры,
і верны спадарожнік гарадскіх няшчасцяў —
сігналы «хуткай»…

Усё мінае, ёсць і мінае —
празрыстасць.

Да ўсяго — саксафон вулічнага музыкі
ў суседнім *vicolo*[7];
праз два скрыжаванні —
сварка нарвежскай па́ры
і баварскі дыялект
землякоў Папы;
плач з адчыненага акна
з крэмаваю фіранкаю,
і шолах анёльскіх крылаў,
і роспачнае мяўканне кошкі,
і хрыплы крык чаек;
дотык шклянкі да шклянкі
і сэрца да сэрца…

ніводнага фальшывага тону.

*Il Mozzicone, 30 мая 2012 г.*

## Urbi et orbi

«Мушу змяніць сваё жыццё», —
сказаў гэта так нечакана,
як бы сварыўся з ёю
альбо яднаўся з Богам.
Альбо — наадварот.

Побач некалькі жанчын вярталіся з офісаў, з працы.
Ішлі стройныя, прыгожыя, бяздзетныя,
сумныя сумам вялікай метраполіі
і хваравітай здаволенасцю светам.

Ішло вялікае цярпенне.
Сівая імгла яго хавала
ад горада і свету,
як у песнях Кіляра[8].

Ціха, цішэй, найцішэй
кралася
ў рай
душа.

## Пшуў у Рыме

Рым тут усюды, ажно празмерна,
асабліва за Тыбрам, у *Rugantino*,
на *via della Lungaretta*, ва ўсёй сваёй сутнасці
цяпер, чэрвеньскай ноччу.

А я сумую па Пшове.
Па працяглай старапартугальскай песні *Madre de Deus*
з дванаццатага стагоддзя — *cantiga de Maria*, —
якая трымцела ў майскім паветры
базылікі, на прыміцыі Войтка,
калі ўсхліпы ішлі разам з намі
ў працэсіі, у па́ры, але без болю,
з пяшчотаю, з захапленнем.

Сумую
па сакавіцкай вільгаці,
па чырвані барбарысаў,
па кастрычніцкім золаце,
па брудным, мокрым снезе,
па вясновым бяссіллі.
Па братках і пчале ў садзе,
па грубаватасці гаворкі,
па людской пакоры.
Па запозненым лістападзе,
калі апошняя ружа,
каралева сезону, духмяная і бледна-ружовая,
зазірае да мяне ў акно.

«Бачыш, гэта любоў, — кажа мама. —
Любіць цябе гэтая зямля, — паўтарае мама. —
Любоў, — кажа, — любоў».

Езу Назарэцкі…

Сумую
па мясціне, дзе іронія і цвёрдасць
не падмяняюць праўды,
але існуюць для яе;
дзе можна беспакарана
плакаць і смяяцца,
нікога не ўдаючы.

Сумую
па мясціне,
дзе найвышэй пастаўлены
касцёл.

*Rugantino, 1 чэрвеня 2012 г.*

## Экзекуцыя і тэалогія

*«Сын Чалавечы павінен шмат выцерпець і быць адкінутым»* (Лк 9, 22).

Тут жа,
перада мною, — зялёна-блакітная сцяна свету
вібруе пад пэндзлем Творцы-Імпрэсіяніста:
пініі, блакіт неба, сакавітасць травы,
дасканаласць людзей…

але
яшчэ бліжэй, ува мне,
іншая сцяна, іншы вобраз —
яны ўтрох:

голы чалавек
з лапатаю ў руцэ
капае яму
ў глiністай глебе;

паўголы чалавек
у нагавіцах з мундзіра,
з карабінам у руцэ
выцірае пот і сплёўвае;

і Бог
з пустымі рукамі, адкінуты.
Створца іх абодвух ці таксама
Збаўца іх абодвух?

Яны ўтрох:
голы, паўголы і Бог.
Што адчуваюць?
Што думаюць?
Што зробяць?
Што будзе далей — праз хвіліну, праз вякі?
Калі прамінуць пініі і трава, зелень, блакіт і людзі?

І мая цьмяная трывога:
я мог бы апынуцца на месцы
кагосьці з іх.

*Casa Santa Marta, 5 снежня 2012 г.*

## Справядлівы і веруючы

Вось сінтэз двух ідэалаў чалавека,
сума жаданняў двух Запаветаў:
справядлівы веруючы.
Гэта хто? Гэта які?
Шчыры, сумленны, просты.
Той, хто задавольваецца малым
і спадзяецца толькі на Бога.

У Бібліі іх хапае,
хоць і там трэба іх вылавіць
у моры зайздрасці і пыхі.

У з’яднанай Еўропе
яны — як экзатычныя матылі.

Кроў пульсуе хутка —
у жыцці, у Бібліі, усюды.

Толькі ў непрыгожых касцёлах
з бетону і пенапалістыролу,
збудаваных за ўдовін грош
сярод аблупленых блокаў
пробашчамі, падобнымі да Бога тым,
што робяць штосьці з нічога,
я заўважаю іх прысутнасць.

І калі іх распазнаю,
з імі малюся часам,
слёзы глытаю — заўсёды.

*Antico Borgo, 8 снежня 2012 г.*

*Пераклад з польскай мовы*
*Крыстыны Лялько.*
*Паводле: Ks. Jerzy Szymik. Hílasteríon.*
*Księgarnia Św. Jacka. – Katowice, 2014.*

---

[1] *Schadenfreude* (ням.) — зларадн асць (тут і далей заўвагі перакладчыка).
[2] *Dios solo basta* (ісп.) — Хопіць толькі Бога.
[3] «Ані вока, ані вуха» — алюзія на словы св. Паўла: «Чаго вока не бачыла і вуха не чула…» (1 Кар 2, 9).
[4] Алюзія на словы Івана Карамазава: «Слишком дорого оценили гармонию, не по карману нашему вовсе столько платить за вход. А потому свой билет на вход спешу возвратить обратно» (Ф. Дастаеўскі. «Браты Карамазавы»).
[5] Azzuri (іт.) — блакітныя.
[6] Dialette (іт.) — гаворкі.
[7] Vicolo (іт.) — завулак.
[8] Войцех Кіляр (17.07.1939 – 29.12.2013) — польскі кампазітар, найбольш вядомы як аўтар музыкі да шматлікіх айчынных і замежных фільмаў.



**Дзмітро Паўлычка —** украінскі паэт, эсэіст, перакладчык, мемуарыст. Аўтар звыш 50-ці кніг паэзіі і прозы. Закончыў філфак Львоўскага ўніверсітэта. Працаваў загадчыкам аддзела паэзіі ў часопісе «Жовтень», на кінастудыі імя А. Даўжэнкі, у Саюзе пісьменнікаў УССР. Быў галоўным рэдактарам часопіса «Всесвіт», адным з заснавальнікаў Народнага Руху Украіны, першым кіраўніком Таварыства ўкраінскай мовы імя Т. Шаўчэнкі, дэпутатам Вярхоўнай Рады, амбасадарам Украіны ў Славакіі і Польшчы. Лаўрэат Дзяржаўнай Літаратурнай прэміі імя Т. Шаўчэнкі, міжнародных прэмій імя Гвездаслава (Славакія) і Хрыста Боцева (Балгарыя), мае званне «Герой Украіны». Пераклаў на ўкраінскую мову творы Я. Купалы, Р. Барадуліна, Н. Гілевіча, Г. Бураўкіна ды інш.

Дзмітро Паўлычка

# «ПРА БЭТЛЕЕМ СПЯВАЎ Я ГОСПАДУ...»

### РАСТВО

За вечар хату белай ватаю
Па вокны ўхутаў снегавей.
І я спяваў пад тою хатаю,
Калядаваў, як салавей.

Сняжынкі да вакон туліліся,
У промнях яснага святла
Анёлы-дзеці там маліліся,
Гасподзь сядзеў каля стала.

Мароз не меў у хату доступу,
Хадзіў прыцішаным сялом.
Пра Бэтлеем спяваў я Госпаду —
Сівому дзеду за сталом.

Я і дасюль жыву прыгадкаю
Тае дзівоснае зімы,
Калі, узнесены калядкаю,
Я бачыў Бога на зямлі.

### ЖАРАБЯ

Пераступаюць ледзь сівыя коні,
У возе пахавальным ідучы.
Ім нехта начасаў на вочы грывы,
Каб не запомнілі дарогу на клады.

Але яны праз грывы трошкі бачаць,
Сляпыя яны — толькі для людзей.
Іх дабрыня не разганяе смутак,
Іх мудрасць не развейвае журбы.

А каля воза жарабя гарцуе,
То смыкне канюшыну з-пад труны,
То апярэдзіць і шукае вымя,

То заіржэ і наўкруга — галопам.
І ўжо звініць пад капытом гарэзы
Чыясь павесялелая сляза.

## ВАР'ЯТКА

У двор турмы ў драбінах параконных
Прывезлі мёртвых воінаў УПА*.
Да іх вачэй, да ранаў іх чырвоных
Злятала з неба белая крупа.

Знайшлі яе ў сяле, у Прыкарпацці:
«Пазнай сваіх! Тваёй няма віны».
І адказала сплаканая маці:
«Забітыя — усе мае сыны.

Пяцёра тут і ў лесе — тысяч трыста,
Жывыя ўсе, ты ж згінь і прападзі!»
І страх з'явіўся ў голасе чэкіста:
«Ты, баба сумасшедшая, уйди!»

* * *

Калі б я страціў вочы, Украіна,
То змог бы жыць, не бачачы лугоў,
Палесся і дняпроўскіх берагоў,
І сёлаў пад аховай тапалінай.

У цемрыве начэй і дзён, і сноў
Я наталяўся б мовай салаўінай,
І свет, закрыты чорнай палатнінай,
Яснеў бы ад яе святлістых слоў.

А глухаты — нязносныя вярыгі,
Бо немагчыма паказаць на мігі
Шум Чарамоша, спевы салаўя.

Глядзець з уцехай на жыцця абновы,
Не чуючы пры гэтым роднай мовы, —
Вось дзе была б пагібель-смерць мая!

* * *

Дзе вуллі пад назіркам аблачын,
Прылёг мой дзед на схіле дня.
І лазяць пчолы між яго маршчын,
Як па патрэсканым зрэзе пня.

І лазяць пчолы між яго павек,
А ён ляжыць, за дзьмухаўцоў сівей.
Здаецца, вочы яго навек
Зашыты белай ніткаю вей.

Не варухнецца яго рукаў,
Хай пчолы ўзятак бяруць як след.
Мой дзед да смерці сваёй звыкаў,
Як звыкае да славы паэт.

## НАПАРСТАК

У Празе, на Залатой вулачцы,
вузенькай, закрытай, як напарстак,
я купіў напарстак
і радаваўся, як дзіця.

Мая маці, калі я быў маленькім,
згубіла напарстак і наказала мне
шукаць яго ў кветніку на падворку,
але я не знайшоў…

Яна паказвала праколаты палец
з чорнай зямлёй пад пазногцем
і злавалася на мяне,
бо я не знайшоў напарстак.

Маёй маці ўжо няма,
і мяне ўжо амаль няма,
але ў маёй руцэ ёсць напарстак,
ён поўны жывога цяпла,
нібы яго толькі што зняла з рукі
мая маці.

Яна ніколі не была ў Празе
на Залатой вулачцы,
але я заглядаю ў акенцы
чужых будынкаў
так, нібы мая маці ў адным з іх
вось-вось з'явіцца і скажа:
«Нарэшце ты знайшоў мой напарстак,
а казаў, што яго няма!»

## ФОТАЗДЫМКІ

На старых фотаздымках,
дзе я яшчэ такі малады,
мяне няма.
Там нейкія падобныя да мяне людзі,
але мяне няма.
Няма там ні маёй сівізны, ні стомы, ні смутку.
А дзе яно ўсё было, калі я фатаграфаваўся?
Хлопчык, які глядзіць на мяне з тых здымкаў,
не ведае, як азвацца да мяне.
Ён звяртаецца так пяшчотна: «Тата!»
Не бацька я табе, хлопча, і ты мне не сын.
Што праўда, мы калісьці сустракаліся,
але калі, дзе і навошта,
не памятаю.

*Пераклаў з украінскай мовы*
*Міхась СКОБЛА.*

* Украінская паўстанцкая армія.



Віктар Жыбуль

# «СЭРЦА REQUIEM СПЯВАЕ...»

## Невядомыя вершы Ядвігі Бяганскай

Пісьменніца Ядвіга Бяганская вядомая ў літаратуры як аўтарка кніг прозы для дзяцей, а таксама перакладчыца з некалькіх славянскіх моваў. Аднак пачынала свой творчы шлях яна з вершаў яшчэ ў 1920-я гг. амаль адначасова з такімі паэткамі, як Зінаіда Бандарына, Наталля Вішнеўская, Яўгенія Пфляўмбаўм. У тагачасным друку Я. Бяганская здолела апублікаваць толькі тры вершы ў часопісе «Маладыя араты» (1926, № 12, 15), адзін з іх — пад псеўданімам *Ядвіга Рута*. Наступныя публікацыі пісьменніцы, калі не ўлічваць некалькіх перакладаў, належаць да часу яе рэабілітацыі пасля сталінскіх рэпрэсій і датуюцца ўжо 1954 годам. Можа скласціся ўражанне, што ў ранні перыяд творчасці паэтка пісала мала, аднак нядаўняя архіўная знаходка сведчыць, што гэта зусім не так.

Знаходка гэтая — рукапісны нататнік Ядвігі Бяганскай, выяўлены Ганнай Запартыкай некалькі гадоў таму пры разборы і апрацоўцы асабістага фонду пісьменніцы Валянціны Коўтун (1946–2011), які паступіў у Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва неўзабаве пасля яе смерці. На аранжавай скураной вокладцы нататніка зроблены загаловак «Архіў», напісаны рукой самой паэткі. Змест нататніка складаецца з двух раздзелаў. Першаму з іх — істотна большаму па аб'ёме — папярэднічае аўтарскі каментар: «*Вершы розных гадоў, якія ўдалося сабраць пасля доўгіх год майго выгнання. 1925–1930 гады*». Гэты раздзел налічвае 44 вершы, з якіх пры жыцці аўтаркі публікаваліся два: «Аб сабе» і «Бягуць гады, бягуць…». Вершы размешчаны пераважна ў храналагічнай паслядоўнасці, якая, аднак, строга не вытрымліваецца.

Звяртаюць на сябе ўвагу дакладныя даты напісання, прастаўленыя над кожным творам. Хутчэй за ўсё, вершы ў нататнік Я. Бяганская перапісвала з іншых рукапісаў, якія захоўваліся ў яе асабістым архіве, або нават аднаўляла па памяці: радкі, якія не ўдалося ўзгадаць, у некаторых вершах замененыя на шматкроп'і.

Самы ранні верш, змешчаны ў нататніку, — «Прызнанне» — датуецца *5/V–25 г.*:

*Любіла я свой край маленства,*
*Любіла шнур высозных гор,*
*Любіла бор стары шумлівы,*
*Байкала сонечны прастор.*
*Тайгі суровай, векавечнай*
*Любіла я тужлівы спеў.*
*Ў ім чула смутак я адвечны,*
*Ў ім чула я грымотаў гнеў.*
*Любіла я той край далёкі.*
*Любіла, з гэтым не таюся.*
*Бо я не ведала, не знала,*
*Што край мой родны*
*Беларусь…*

Паводле сваіх кампазіцыйных і рытмічна-інтанацыйных асаблівасцяў гэты твор перагукаецца з хрэстаматыйна вядомым вершам «Люблю» Канстанцыі Буйло («Люблю свой край, старонку гэту, // Дзе я радзілася, расла…»), аднак распавядае Ядвіга Бяганская пра ўласна перажыты вопыт: нарадзілася яна 16 (29) лютага 1908 г. сапраўды пасярод тайгі, у далёкім Верхне-Удзінску (цяпер Улан-Удэ), куды яе бацька, беларус Іосіф Вікенцьевіч Бяганскі, сын малазямельнага селяніна з-пад Барысава, яшчэ сямнаццацігадовым юнаком прыехаў на заробкі. Там ён уладкаваўся працаваць на чыгунку, даслужыўся да машыніста і пабраўся шлюбам з дзяўчынай з-пад Менска, якая прыехала ў адведкі да сястры. А ў 1922 г. Бяганскія, разам з сем'ямі іншых землякоў-перасяленцаў, вярнуліся на Беларусь.

**Віктар Жыбуль** – літаратуразнаўца, архівіст, паэт. Кандыдат філалагічных навук. Нарадзіўся ў 1978 годзе ў Мінску. Закончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (2000), аспірантуру (2003). Працаваў у рэдакцыях часопісаў «Першацвет», «Роднае слова», «Arche». З 2009 г. – вядучы навуковы супрацоўнік Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва. Аўтар некалькіх кніг паэзіі, каля 150 навуковых і навукова-папулярных артыкулаў.

Тэма нацыянальнага ўсведамлення працягваецца ў вершы «Я дачка беларускай зямлі…» *(18/VI–25 г.)*, дзе паэтка з гонарам клянецца:

*Беларускай старонцы сваёй*
*Я аддам ўсё жыццё і ўсе сілы,*
*Роднай мовы сваёй і зямлі*
*Не зракуся да самай магілы.*

Патрыятычным настроем напоўнены таксама вершы «Жаданне» (*20/XII–25 г.)*, «Вітаю песняй маладою…» *(19/I–26 г.)*. Тэматычна з імі звязана і пейзажная лірыка, прасякнутая любоўю да роднай прыроды, з якой лірычная гераіня адчувае асаблівую, непадзельную лучнасць:

*Восень, забыцце і ціша,*
*Вечнасці песня чуваць,*
*Ветрык ціхутка калыша*
*Дрэвы, што ў сонцы гараць.*
*Ліст залаценькі апошні*
*Сонца цалуе і смерць.*
*Так на жыцця майго пожні*
*Сэрца канае, а верыць.*

*30/VI–25 г.*

Але адухоўленыя карціны прыроды і надвор'я — хутчэй не непасрэдныя пейзажныя замалёўкі «з натуры», а адлюстраванне ўнутранага стану самой лірычнай гераіні, яе інтымных перажыванняў. Гэта пацвярджае той факт, што, напрыклад, верш «За акном зажурылася восень…» пісаўся не ўвосень, а ўлетку — 29 чэрвеня 1930 года. Падобна, што верш створаны пад уплывам «Трыпціха» Уладзіміра Дубоўкі, для якога характэрныя не толькі падобныя настроі і матывы, але нават кампазіцыйныя элементы. Вось як намалявала свой унутраны пейзаж Я. Бяганская:

*За акном зажурылася восень,*
*Неба шэрымі плешча крыламі.*
*Я не ведаю, мабыць, здалося,*
*Што ў душу нехта*
*кінуў камень.*
*Я не ведаю, мабыць, здалося.*
*Вецер нудныя правіць літанні,*
*І заплакана шэпчуць бярозы.*
*Мо здалося, што сэрца*
*паранена,*
*Што з вачэй пакаціліся слёзы.*
*Мо здалося, што сэрца*
*паранена…*



Ядвіга Бяганская з мужам Міхаілам Леберфарбам, сынам Уладзіславам і белым медзведзянём. Чукотка, пасёлак Певек, 1948 г.

Нагадаем: той падобны Дубоўкаў верш уяўляе з сябе аўтарскую інтэрпрэтацыю малайскай паэтычнай формы пантума. Вось яго першая частка:

*Журавінамі плача восень,*
*апавіўся тугою абшар.*
*Я не ведаю, можа здалося, —*
*надзвычайна баліць душа.*

*Апавіўся тугою абшар,*
*а верасень сэрца нявечыць.*
*Надзвычайна баліць душа,*
*быццам цісне цяжар адвечны.*

*А верасень сэрца калечыць*
*пальцамі жоўтых кляновых*
*лістоў.*
*Той цяжар непазбыўны*
*адвечны*
*галаву схіляе на дол.*

У адрозненне ад свайго славутага сучасніка, Я. Бяганская звярнулася не да «чыстага» пантума, а да спрошчанага, да таго ж з «абсечанай на палове» апошняй страфой. Магчыма, журботны, неспакойны настрой верша быў выкліканы трагічнымі прадчуваннямі: ён пісаўся ў час, калі на Беларусі распачалася масавая хваля арыштаў інтэлігенцыі па вядомай сфальсіфікаванай справе «Саюза вызвалення Беларусі». Неўзабаве, 24 ліпеня 1930 г. быў арыштаваны і муж Ядвігі Бяганскай — рэлігійны і грамадскі дзеяч, паэт Аляксандр Сак. Вершы, якія паэтка напісала пасля гэтай даты («І ці шмат яшчэ прыйдзецца жыць…», «Не дары мяне, восень, слязамі…», «Ў белых далях халодная ціш…», «Ўсё міне, як з сонейкам туман…», «Даўно ужо я радасці не піў…», «Прыйдзеш ты, калі вясна ударыць…») прысвечаны пераважна А. Саку, і яны прасякнуты болем расстання і спадзяваннем на магчымую сустрэчу, якая верне закаханым шчасце і радасць жыцця. Вылучаецца верш «Даўно ужо я радасці не піў…» *(15/XII–30 г.)*, напісаны ад мужчынскага імя, дзе лірычны герой, трэба думаць, сам зняволены муж аўтаркі, настроены, нягледзячы на ўсе нягоды, «нязломным быць у роспачы і горы»:

*Даўно ужо я радасці не піў.*
*Я так даўно не усміхаўся*
*людзям.*
*Ўвесь свет здаецца сёння мне*
*чужы,*
*Ад болю страшнага*
*закамянелі грудзі…*

Увогуле, паэтычную спадчыну Ядвігі Бяганскай 1925–1930 гг. складае пераважна глыбока асабістая лірыка. І, думаецца, адна з



Ядвіга Бяганская
з малодшым сынам Яўгенам.
Рэчыца, 1950 г.

толькі тры. Так, у вершы «З мінулага» распавядаецца пра цяжкі лёс селяніна, які ў свой час шмат працаваў, «*здабыў панам багацце, збудаваў двары*», а цяпер, хворы і нікому не патрэбны, ціха паміpae на халоднай печы. Верш «Грэшніца» — сюжэтны гумарыстычны абразок пра бабульку, якая, рыхтуючыся да споведзі, так захапілася пералічэннем сваіх грахоў, што заснула і праспала саму споведзь:

*І прыйшлося нашай бабцы*
*Споведзь адлажыць*
*І яшчэ грахоў з дзясятак*
*Розных прылічыць.*

А верш «Замалёўка» *(29/XII/25 г.)* адлюстроўвае радасць сялянскай сям'і з нагоды выпраўлення маленькага хлопчыка Данілы ў школу.

Твораў за 1931–1937 гг. у нататніку няма: магчыма, яны ў архіве Я. Бяганскай не захаваліся, а магчыма, яна іх тады і не пісала. Гэта быў нялёгкі перыяд у жыцці пісьменніцы: у 1931–1934 гг. яе муж незаслужана адбываў пакаранне на будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага канала. (У жніўні 1937 г. яго арыштуюць паўторна і расстраляюць.) Мабыць, асцерагаючыся публікаваць уласныя вершы, яна, жонка «ворага народа», занялася перакладамі: у 1932–1933 гг. пераствapыла з польскай мовы аповесць «Палю Парыж» Бруна Ясенскага, а з рускай — «Аповесць пра нафту» Льва Вайзенберга, зборнік матэматычных галаваломак «Цікавыя задачы» Якава Перэльмана і кнігу нарысаў «Героіка будняў» (апошнія дзве — у суаўтарстве з М. Каравайчык). Працавала Я. Бяганская на той час выкладчыцай беларускай мовы і літаратуры ў сярэдняй узорнай чыгуначнай школе № 25 імя А. Чарвякова і на курсах павышэння кваліфікацыі настаўнікаў, пакуль сама не была беспадстаўна арыштаваная 6 лістапада 1937 года. 4 студзеня 1938 г. яе асудзілі на 10 гадоў пазбаўлення волі і саслалі ў лагер на Калыму. Дачку Ядвігі Бяганскай



Ядвіга Бяганская
з сынам Яўгенам. Мінск, 1985 г.

і Аляксандра Сака, трохгадовую Галіну (у будучым — вядомага архітэктара), узяла на выхаванне цётка…

*«1938 год, Калыма»* — менавіта такі загаловак мае другі раздзел нататніка, якому папярэднічае аўтарскі каментар: «*Тое вельмі нямногае, што захавалася пасля вобыскаў, якія час ад часу праводзіла ў бараках лагернае начальства*». У раздзеле змешчаны 11 вершаў. Магчыма, некаторыя з іх былі адноўленыя паэткай па памяці. Даты пазначаны толькі пад трыма тэкстамі, але пры жаданні можна ўстанавіць і час стварэння некаторых іншых. Напрыклад, верш, адрасаваны Кузьму Чорнаму ў адказ на яго ліст, напісаны не пазней за лістапад 1944 г., час смерці пісьменніка, а верш «Памёр Купала…» не мог з'явіцца раней за 28 чэрвеня 1942 года. Пад вершам «Сярод жывых цябе даўно няма…», прысвечаным A. S. (А. Саку), стаіць дата *1942–1945 гг.* Думаецца, у гэты прамежак часу пісаліся і верш «Бацьку», што пачынаецца такімі самымі радкамі («*Сярод жывых цябе даўно няма. Сярод магіл няма тваёй магілы…*»), а таксама верш «Дачушцы», канцоўка якога часткова супадае з канцоўкаю

прычынаў таго, што паэтка не імкнулася публікаваць свае вершы, іх занадта інтымны характар. Некаторыя творы маюць характар вершаў-прысвячэнняў. Два з іх — з пазначэннямі «*На магілу К.*» і «*На магілу А.*» — адрасаваны заўчасна памерлым блізкім сябрам. Цікава, што сваімі матывамі і вобразамі паэзія Я. Бяганскай набліжаецца месцамі да нашаніўскіх традыцый («*Вітаю песняй маладою // Цябе, мой родны мілы кут. // Навек з'яднана я з табою, // Мой слаўны беларускі люд*», «*Ноч. Поўны шэптаў і казак таемных // Поле, балоты, лясы*»), а месцамі — да эстэтыкі мадэрнізму і дэкадансу («*Маўчаць палі ў хітоне змроку*», «*Хвіля — і ноч ўсё навокал // Чорным цалункам накрые*», «*Сэрца Requiem спявае*», «*Ўстану я з магілы // Белая, бы фея*», «*Нехта чорны глядзіць і з сабою заве, // На чало маё з міртаў ўскладае вянок*»).

Вершаў на запатрабаваную ў 1920-я гг. сацыяльную (і сацыяльна-класавую) тэматыку ў нататніку амаль няма. Твораў, дзе так ці інакш адбівалася б жыццё грамадства, а не асабістыя пачуцці аўтаркі і яе захапленне прыродай, у першым раздзеле

верша «Бацьку».

У адрозненне ад першага раздзела нататніка, вершы з другога публікаваліся, прычым двойчы ў адным і тым самым выданні — газеце «Літаратура і мастацтва». Першы раз гэта адбылося 15 чэрвеня 1990 г. — яшчэ пры жыцці Я. Бяганскай. Падборка мела назву «З Калымскага сшытка (1938–1948 гг.)», а публікацыю суправаджаў уступны артыкул самой аўтаркі «Вечны смутак і боль» — своеасаблівы рэквіем па бязвінна загубленых блізкіх людзях: бацьку Іосіфу Бяганскім, мужу Аляксандру Саку, матчыным стрыечным браце Аляксандру Гайдукевічу і яго сястры Ядвізе Гайдукевіч-Саяпінай, бацькавых пляменніках Вікторыі Навіцкай і Іосіфу Сайкоўскім… Другі раз тыя самыя вершы (+ яшчэ два) убачылі свет праз сем гадоў — 4 красавіка 1997 г., калі аўтаркі ўжо не было ў жывых (а памерла яна 3 сакавіка 1992 г.), — гэтым разам ужо пад агульнай назвай «Над Калымой ні воблачка, ні хмаркі...» і з прадмовай Алы Канапелькі, дзе і распавядалася пра сшытак-нататнік з недрукаванымі вершамі.



Ядвіга Бяганская ў Каралішчавічах.
Другі справа — Сяргей Грахоўскі. 1960-я гг.

Зразумела, што гэтая частка паэтычнай спадчыны Я. Бяганскай — з другога раздзела — убачыла свет на хвалі агульнага вяртання ў літаратуру рэпрэсаваных пісьменнікаў, калі асаблівая ўвага надавалася творам, дзе непасрэдна распавядалася пра рэпрэсіі (перажытые ў турмах, лагерах, высылках). Тады ў часопісе «Полымя» (1990, № 3) выйшлі і ўспаміны Я. Бяганскай «Мая Галгофа: Старонкі перажытага», дзе пісьменніца падрабязна расказала пра сваю маладосць, студэнцкія гады, настаўніцкую працу, але больш — пра жудасную атмасферу неапраўданых арыштаў 1930-х гг., уласнае зняволенне, невыносныя этапы, цяжкі лагерны побыт... А вось на інтымную лірыку Ядвігі Бяганскай, створаную яшчэ да рэпрэсій, быццам бы і забыліся: крыху не да таго было, хоць гэта і не зусім так: разам з нататнікам паэткі ў архіве В. Коўтун знайшоўся і машынапісны перадрук некаторых вершаў 1925–1930 гг. — відаць, і яны таксама чакалі сваёй публікацыі, але чамусьці не дачакаліся…

Звяртае на сябе ўвагу цікавы факт: з рукапісамі Ядвігі Бяганскай адначасова мелі справу Валянціна Коўтун і Ала Канапелька. Імёны гэтых дзвюх пісьменніц усплываюць у сувязі і з яшчэ адной «рэпрэсаванай паэткай», якая ўрэшце аказалася містыфікацыяй, — Лесяй Беларускай (Ларысай Марозавай). У свой час артыкулы пра такую асобу публікаваліся ў газетах і часопісах, яе вершы трапілі на старонкі паэтычных анталогій, а навукоўцы распачалі спробы адшукаць якія-небудзь дакументы, звязаныя з Л. Марозавай…

Цяпер ужо вядома, што прыдумаў Лесю Беларуску ўкраінскі паэт і мастак Васіль Малагуша (1911–2007), які з пачатку 1990-х гг. жыў у Мінску; біяграфію Ларысы Марозавай аформіла ў дакументальны нарыс Ала Канапелька (гл. «Полымя», 1997, № 12), а вершы яе пісала Валянціна Коўтун — урэшце, яна сама і прызналася ў гэтым, выдаўшы кнігу «Малітва да Калымы» (2009). Цяпер мы можам выказаць меркаванне, што вытокі творчасці Лесі Беларускі варта пашукаць не толькі ў рамане «Крутой маршрут» Яўгеніі Гінзбург, але і ў «лагернай» паэзіі і прозе Ядвігі Бяганскай. Скажам, арыгінальны і ўражвальны сваім трагізмам вобраз — «арган свяшчэннай Калымы», «арган касцей, прадзьмутых сцюжай лёсу» Лесі Беларускі — ці не натхнёны «магутным, велічным арганам» узбуранай стыхіі ў Я. Бяганскай? Некаторыя вершы маюць падобныя подпісы і даты: «*Магадан, 1938*», «*Бухта Нагаева, 1938*» — гэта можна пабачыць у абедзвюх паэтак: і ў прыдуманай, і ў рэальнай.

Леся Беларуска аказалася таленавіта зробленай містыфікацыяй, якая была прынятая на веру многімі беларусамі, неабыякавымі да аднаго з найбольш трагічных перыядаў нашай гісторыі, — сталінскіх рэпрэсій. Аднак найчасцей рэальная, непрыдуманая гісторыя выглядае не менш цікавай і кранальнай за любыя містыфікацыі. Гэта пацвярджае і выпадак з Я. Бяганскай і яе творчасцю — як ужо вядомай, так і невядомай. Некаторыя не апублікаваныя раней вершы Ядвігі Бяганскай нядаўна ўжо ўбачылі свет у анталогіі жаночай паэзіі міжваеннага перыяду «Бліскавіцы». Цяпер, у юбілейны для паэткі год, хацелася б пазнаёміць з яе невядомымі творамі і чытачоў «Нашай веры».

## Ядвіга БЯГАНСКАЯ

# Песні мае — гэта птушкі крылатыя

* * *

Песні мае — гэта птушкі крылатыя,
З родных палёў каласкі.
Песні мае — гэта хмаркі калматыя
З сіняй нябёс вышыні.
Песні мае — гэта хвалі шумлівыя,
Шэпты зялёных палёў,
Ветру асенняга песні тужлівыя,
Казкі цяністых лясоў.
Песні мае — гэта слёзы гарачыя,
Літыя сэрцам ў цішы.
Песні мае — гэта радасці светлыя
Кволай дзявочай душы.

*12/V–25 г.*

* * *

Льецца песня веснавая,
Песня волі, кліч жыцця.
Зноў душа мая спявае,
Поўна мар і забыцця.
Звонкі гоман ў полі, ў лесе,
Даль ў праменнях зіхаціць.
Сонца кросны тчэ на стрэсе,
Сонца ў хвалях ўсцяж гарыць.

*15/VI–25 г.*

**ЛЕТА**

Ў полі ціха, толькі ветрык
Каласамі ледзь шуміць.
То ён кветку пацалуе,
То ў траве зашамаціць.
Сонца промні залатыя
Шле з блакітаў вышыні,
Песціць шчыра зямлю-маці
Сярод гэтай цішыні.
Ўсюды свет, цяпло, прыволле,
Ўсюды мір і супакой.
І здаецца, ўсе шчаслівы
Гэтай летняю парой.

*23/XI 25 г.*

**ЖАДАННЕ**

Ой, хацела б я тым вольным
Вецярочкам быць,
З траўкай, з кожным каласочкам
Ў полі гаманіць.

З кожнай кветкай цалавацца,
З хвалькай жартаваць,
Між галінак затаіўшысь,
Лісце калыхаць.

Слухаць казкі сініх даляў,
Хмаркі ў небе гнаць
І аб роднай Беларусі
Песні ўсцяж спяваць.

*20/XII 25 г.*

* * *

Вітаю песняй маладою
Цябе, мой родны мілы кут.
Навек з'яднана я з табою,
Мой слаўны беларускі люд.
Вітаю вас, дзядоў загоны,
І вас, засценкі родных хат,
І лесу вабныя заслоны,
Садочкаў мілых ветлы рад.
Прасторы сэрцу дарагія,
Я вам на вернасць прысягаю.
Нясу вам сілы маладыя
І вольнай песняй вас вітаю.

*19/I–26 г.*

## НОЧ

Ноч. Поўны шэптаў і казак таемных
Поле, балоты, лясы.
Кветкі свой пах разліваюць прыемны,
Ззяючы срэбрам расы.
Сціхла на поплаве песня начлежнікаў.
Толькі ў прасторы палёў
Конь часам пырхне, забразгае путам,
Хвіля – і ціха ўсё зноў.
Месячык срэбны плыве над зямлёю,
Далі вартуе, глядзіць.
Ветрык-гарэзнік ледзь-ледзь павявае.
Ноч. Ўсё заціхла. Ўсё спіць.

*1/II – 26 г.*

## ЗАВІРУХА

Зашумела завіруха,
Хмары неба агарнулі
І рагоча вецер глуха,
Люты правіць гулі.

Хіляць дрэвы стан свой голы,
Жаляцца галінкі.
І ў шалёным карагодзе
Кружацца сняжынкі.

Мора белае бушуе,
Ўсё з вачэй знікае.
Ой ты, злая завіруха!
Ой, зіма ліхая!

*14/II–26 г.*

## ПРАЛЕСКА

Яшчэ дзе-недзе снег бялее
І ў лесе свежы халадок,
А ўжо вясне на прывітанне
Расцвіў пралесачкі цвяток.
Ківае сіняю галоўкай
І усміхаецца, бы ў сне.
Люблю я мілую пралеску.
Яна мне шэпча аб вясне.

*4/III–26 г.*

* * *

*A. S.*

Мілы дружа, я плакаць не буду,
Думкі чорныя прэч адганю
. . . . . . . . . . . .
Ў маім сэрцы шмат сіл і агню.
Не спалохае злосная бура,
Крылаў ясных не зломе віхор.
Не схілюсь перад горам панура:
Пакахала я моцна прастор.
Перапоўнена сэрца каханнем,
Бачыш, любы, няма ўжо слёз.
Выйдзем разам вясне на спатканне,
Песню выснуем з сонечных кроз.

*12/IV 28 г.*

* * *

*A. S.*

Прыйдзеш ты, калі вясна ударыць,
Смехам бэзавым зазвоніць сад.
Маладосць рассыпле цуда-чары,
Агняцветных песняў вадаспад.
Прыйдзеш ты, калі ў праменнях сонца
Расцвіце, абудзіцца прастор.
Будзе радасць гэтакай бясконцай,
Будзе шчасце аж да самых зор!
Прыйдзеш ты ў вясновы ціхі вечар,
Калі сэрца стукае мацней,
Расцалуеш валасы і плечы,
Усміхнешся сінявой вачэй.

*21/XII 30 г.*

* * *

Ой, упалі з неба слёзкі,
Ясныя упалі
На кляновыя лісточкі,
На рабін каралі.

Ой, упалі, ой, упалі
На палі-даліны.
Загарэліся, скаціліс
Нізкай журавіннай.

Загарэліся расою
У віргінь пялёстках.
Ой, упалі, ой, упалі
Дыяменты-слёзкі.

*20/XI–27 г.*

Уладзімір Сіўчыкаў



У Пружанах. 17 сакавіка 2017 г. Фота Міхася Кенькі.

# З нізкі «Уладзевы гісторыі»

**Нямецкі прынц — беларускі магнат**

Бывае, што сацыяльныя сеткі забіраюць замнога часу, але нярэдка прыносяць яны і найкарыснейшую інфармацыю.

Дазнаўся, да прыкладу, з Фэйсбука, што заўчора і ў Харкаве прэзентавалі гістарычны раман-эпапею Ірыны Данеўскай пад назваю «Нямецкі прынц Багуслаў Радзівіл». Дзякуючы кіеўскай пісьменніцы чытач зможа павандраваць разам з адным з найцікавейшых прадстаўнікоў магутнага магнацкага роду па Заходняй Еўропе першай паловы XVII стагоддзя, наведаць Нідэрланды «Залатога стагоддзя», Францыю часоў кардыналаў Рышальe і Мазарыні, Англію падчас рэвалюцыі, «узяць удзел» у баталіях Трыццацігадовай вайны і ў трагічных падзеях у Вялікім Княстве Літоўскім часоў «Крывавага патопу», дазнацца пра палітычныя інтрыгі дый амурныя прыгоды, пра малазнаныя цікавосткі з жыцця славутых гістарычных асобаў.

На прэзентацыі аўтарка прызналася, што працавала над раманам пра складаную і супярэчлівую гістарычную постаць, творчую асобу і мецэната, сына віленскага кашталяна Януша Радзівіла і Лізаветы Сафіі Гагенцолерн каля пяці гадоў і выкарыстоўвала ўсю наяўную інфармацыю пра тую эпоху, да якой змагла падступіцца, што значную дапамогу аказалі ёй працы і парады маладых беларускіх навукоўцаў Міколы Волкава і Кірылы Карлюка. Прызналася Ірына Данеўская і ў тым, што сталічнае выдавецтва «Tempora» змяніла прапанаваную ёю назву кнігі «Нямецкі прынц з Вялікага Княства Літоўскага» на тую, што значыцца на вокладцы. (Мне гэтаксама не даспадобы правакацыйная выдавецкая назва, бо, відавочна, не зусім адпавядае задуме дый сутнасці твора. Тым болей, што Багуслаў Радзівіл, сярод тытулаў якога і «князь Свяшчэннай Рымскай імперыі», можа лічыцца немцам толькі па кудзелі!)

Крыху збянтэжыла і тое, што не прагучала выразна, не было акцэнтавана, што раман базуецца найперш на кнізе «Багуслаў Радзівіл. Аўтабіяграфія», якая выйшла ў 2009 годзе ў Мінску па-беларуску ў выдавецтве «Радыёла-плюс», якое дагэтуль ачольваю. Гэтаксама меў я гонар укладаць тое адметнае і вельмі інфарматыўнае выданне і напісаць да яго пасляслоўе. І сёння ўдзячны за прадмову да «Аўтабіяграфіі» гісторыку і тагачаснаму амбасадару Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь Генрыку Літвіну. Мая заўсёдная падзяка — гэтаксама дыпламату і паланісту, перакладчыку тэкстаў кнігі Анатолю Бутэвічу, навуковаму рэдактару Андрэю Янушкевічу, рэцэнзенту Пятру Васючэнку. Дзякую дызайнеру Міхаілу Драко, мастаку Аляксею MaRa за дазвол скарыстаць на франтыспісе парадна-рамантычны партрэт выбітнага дзяржаўнага і ваеннага дзеяча ВКЛ, князя слуцкага і капыльскага, якога лічу фактычным заснавальнікам майго роднага Жодзіна, харунжага ВКЛ (з 1638 года), канюшага ВКЛ (з 1646 года), а таксама дзякую ўсім, хто спрычыніўся да выхаду тае кніжкі. Значыць, працавалі не дарма!

Сведчаннем таму і гістарычна-мастацкая эпапея, што пабачыла свет па-ўкраінску ў братняй краіне. Той важкі, амаль што на 700 старонак фаліянт пастараюся неадменна набыць праз калегаў-выдаўцоў альбо ад самой аўтаркі. Тым болей, што з каментароў да фэйсбукавай публікацыі вынікае — прэзентаваны том прысвечаны юначым гадам князя

---

**Уладзімір Сіўчыкаў** — пісьменнік, мастак, выдавец. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Жодзіне. Скончыў Мінскую мастацкую вучэльню імя А. К. Глебава (1977) і філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта (1986). Аўтар кнігі апавяданняў і п’есаў «Гульня ў тастамант» (1992), кнігаў прозы «Лісты да брата» (1998), «Бювар» (2009), «Уладзевы гісторыі» (2015), кніг паэзіі «Высакосны год» (2004), «Кошык Велікодны (2014), слоўніка-даведніка «2000 русских, 2000 белорусских идиом…» (сумесна з А. Баярынай, 2006). Укладальнік (разам з А. Марачкіным) і адзін з аўтараў альбомаў «Жодзінцы. Жывапіс. Графіка. Мастацкае слова» (2008), «Рыцары Пагоні і Арла» (2010). Жыве ў Мінску.



У базыліцы святога Пятра ў Рыме пры надмагіллі Язафата Кунцэвіча. Верасень 2015 г. Фота Алесі Сіўчыкавай.

Багуслава Радзівіла (1620—1669), а эпапея пра яго неадменна будзе мець працяг.

*21 лістапада 2016 г.*

**Гасцінны палацык**

На вандроўку падгаварыў мяне літаратуразнаўца і перакладчык Міхась Кенька. На маю замову два гады таму ён пераглядзеў, «асвяжыў» свой пераклад аднаго з самых беларусацэнтрычных твораў Юзафа Ігнацыя Крашэўскага (1812—1887) — гістарычнай аповесці «Кароль у Нясвіжы. 1784».

Аповесць выйшла ў серыі «Мая беларуская кніга» і сярод іншых кніг серыі не раз была прадстаўлена чытачам на прэзентацыях у сталіцы. А тут прыспела нагода — 130-я ўгодкі з дня адыходу пісьменніка — пагаварыць пра яе і ў музеі-сядзібе «Пружанскі палацык», дырэктар якога Юры Зялевіч ласкава пацвердзіў сваё запрашэнне па тэлефоне і праз Фэйсбук. Якраз там была запланаваная прэзентацыя перакладаў твораў Юзафа Ігнацыя Крашэўскага — празаіка, філосафа, публіцыста, гісторыка, мастака, кампазітара, грамадскага дзеяча… Як вядома, Крашэўскі быў узгадаваны на Пружаншчыне, у маёнтку Доўгае, а вучыўся ў Свіслацкай гімназіі і ў Віленскім універсітэце. Творчая спадчына яго не можа не ўражваць: яму належаць больш за 600 (!) тамоў твораў, прычым больш за трацiну з іх — гэта раманы, аповесці, навуковыя працы па гісторыі, філасофіі, літаратуразнаўстве…

Прыехалі мы са спадаром Кенькам заранеей, а таму паспелі прагуляцца па алеі ў парку пейзажнага тыпу, дзе пераважаюць ясень, вольха, граб і дуб, пабачыць аранжарэю. У ёй і ў цяплііцах калісьці расло больш за 100 найменняў кветак і 60 дрэваў ды кустоў, у асноўным экзатычных — пальмы, апельсіны, лімоны, міртыы, камеліі, агавы… Этнограф Міхал Федароўскі ў свой час пісаў: «На ўсю Літву была вядома аранжарэя Швыкоўскіх. Падобнай ёй не мелі і Радзівілы».

Ведалі мы, што «Пружанскі палацык» — помнік сядзібна-паркавай архітэктуры неарэнесансу, адзіны такога тыпу, аднoўлены ў Беларусі. Пасля апошняга падзелу Рэчы Паспалітай пружанская сядзіба перайшла ва ўласнасць Румянцавых і была даволі вялікім гаспадарчым комплексам. За Швыйкоўскімі, новымі гаспадарамі, займела яна абсалютна адрозны ад планаў пачатку XIX стагоддзя выгляд. Маршалак Валенці Швыйкоўскі збудаваў у маёнтку і бровар з цагельняй. Пры ім сядзіба набыла стан, вельмі блізкі да сённяшняга. Аўтарам праекта сядзібы ў стылі «венецыянскага палацца» лічыцца дойлід італьянскага паходжання Францішак Марыя Ланцы. Ансамбль сядзібы ўлучае мураваны дом, які складаецца з дзвюх групаў двухпавярховых аб'ёмаў, аб'яднаных аднапавярховым корпусам, і два флігелі.

Напрыканцы мінулага стагоддзя ў сядзібе размясціўся мясцовы краязнаўчы музей. Ягоны дырэктар неяк паказаў сваю гаспадарку даўняму знаёмцу дый наракаў, што, як заўсёды, у культурніцкай сферы не стае музею фінансавання. А той пахадзіў-пахадзіў паўсюль, а потым і кажа напаўжартам: «Ды ты, спадару Юрасю, проста балюеш тут, раскашуеш, нібыта магнат! Як на добры лад, дык ты дзяржаве яшчэ і даплочваць павінен!»



У Медным (Цвярская вобласць), у мемарыяле беларусаў і палякаў, ахвяраў сталінізму. Верасень 2008 года. Фота Таццяны Сямёнавай-Сіўчыкавай.

Да пачатку імпрэзы паспелі са спадаром Кенькам вывесіць у парадней зале постары ды плакаты «500-годнасць», прысвечаныя слаўнаму юбілею беларускага кнігадруку, раскласці кнігі ды іншыя падарункі музейшчыкам.

«Пружанскі палацык» папраўдзе быў рады вітаць усіх, хто прыйшоў на сустрэчу з творчасцю слыннага пісьменніка-«шматстаночніка», а распачаў імпрэзу струнны калектыў выкладчыкаў Дзіцячай школы мастацтваў імя Рыгора Шырмы «Аркі» пад кіраўніцтвам Вольгі Барысюк.

У музейнай зале сабралася шмат людзей, якія цікавяцца творчасцю Крашэўскага — тытана XIX стагоддзя, бо яго ўплыў на грамадска-культурнае і навуковае жыццё тагачаснай Еўропы цяжка пераацаніць, яго можна паставіць у адзін шэраг з такімі знакамітымі асобамі нашай гісторыі як браты Тышкевічы, Адам Кіркор, Ян Чачот...

Пяць гадоў таму ў сувязі з 200-гадовым юбілеем тут ладзілася шмат разнастайных мерапрыемстваў, прысвечаных славутай асобе. Нягледзячы на тое, што сёлета такой маштабнасці няма, тым не менш, даследчыц-

кая праца і збор матэрыялаў працягваюцца.

Значную дапамогу пружанцам яшчэ ў 2003 годзе аказаў польскі музей Ю. І. Крашэўскага ў Раманаве па ініцыятыве яго тагачаснага дырэктара Ганны Чабадзінскай-Пшыбыслаўскай: перадаў «палацыку» больш за 130 копій фотаздымкаў і дакументаў, малюнкаў і карцінаў. З таго часу колькасць прадметаў, якія захоўваюцца ў «Пружанскім палацыку», значна ўзрасла. Але распавед аб шматграннасці Крашэўскага чалавека, які шмат гадоў займаецца даследаваннем яго спадчыны, ганаровага госця імпрэзы Ганны Чабадзінскай-Пшыбыслаўскай, слухалі з вялікай цікавасцю і павагаю.

Да сённяшняга дня творы Крашэўскага не страцілі сваёй папулярнасці. Яны пастаянна перавыдаюцца па-польску. У апошнія гады з'явіўся шэраг перакладаў твораў класіка на беларускую мову. Аб гэтым, як і наогул аб становішчы ў беларускай літаратуры расказаў я як выдавец і як сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Найбольш падрабязна спыніўся на папулярнай серыі айчыннай класікі «Мая беларуская кніга», якая за апошнія два гады разгарнулася ўжо ў 51 том.

У чым жа сакрэт папулярнасці Крашэўскага? Што прываблівае да яго твораў сёння? На гэтыя пытанні быў запрошаны адказаць кандыдат філалагічных навук, тэкстолаг і перакладчык Міхась Кенька. У ягоным творчым даробку і чатыры перакладзеныя аповесці Крашэўскага, але, натуральна, найпадрабязней спыніўся ён на свежавыдадзенай — «Кароль у Нясвіжы. 1784». У ёй расказваецца пра паездку на сейм у Гародню ў 1784 годзе апошняга караля Рэчы Паспалітай і вялікага князя ВКЛ Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Падчас падарожжа ён спыняўся і ў Нясвіжскім палацы наймагутнейшага магната Караля ІІ Станіслава Радзівіла, знакамітага Пане Каханку, які наладзіў Панятоўскаму неверагодна пышны і ўрачысты, феерычны і фантасмагарычны прыём. Спадар Міхась адзначыў таксама, што да перакладаў твораў Крашэўскага звяртаўся і нараджэнец пружанскай зямлі Васіль Сёмуха, з якім ён творча спаборнічаў і талент якога цэніць вельмі высока. Напрыканцы свайго выступлення 70-гадовы юбіляр, вядомы і як складальнік зборнікаў анекдотаў, атрымаў ад дырэктара музея падарунак і пажартаваў: «Дата мая даволі важкая, а таму святкаваць можна цэлы год!»

У 2012 годзе выйшла паэма Крашэўскага «Вёска», пераклад якой на родную мову зрабіў паэт Мікола Папека з вёскі Лінова. Ён гэтаксама падзяліўся вопытам судакранання з творчай спадчынай свайго вялікага земляка, адзначыў яе ўплыў на Янку Купалу і на Уладзіміра Караткевіча.

Удзел у імпрэзе бралі і госці з Брэста, на жаль, скрозь рускамоўныя. Даследчыца і журналістка Руслана Гусева выступала як аўтарка чатырох кніг, прысвечаных Крашэўскаму. Кандыдат педагагічных навук, прафесар Марыя Жыгалава, чамусьці гаварыла пераважна пра Каэтана Крашэўскага. Паэтка Любоў Красеўская не адмаўляла імавернасці далёкага сваяцтва са сваім амаль што цёзкам па прозвішчы, але мімаволі задаваўся я пытаннем, ці дадаюць хоць што-небудзь рускай ці беларускай літаратурам яе паэтычныя пераклады на рускую мову?

На заканчэнне госці — слухачы і выступоўцы — агледзелі музейную экспазіцыю: кветкавую залу, паляўнічы кабінет і пакой трафеяў, этнаграфічны куток, залу друкаваных выданняў XIX—пачатку XX стагоддзяў, а таксама *Res Sacrae* — выставу твораў сакральнага прызначэння Пружаншчыны з найстарэйшым экспанатам музея — унікальным абразом XVI стагоддзя «Тайная Вячэра».

Але, мабыць, найболей затрымаліся ў зале, прысвечанай братам Крашэўскім. Сярод самых цікавых экспанатаў там — прыжыццёвыя выданні кніг Ю. І. Крашэўскага — «Сакрэт пана Чурылы» (Варшава, 1877 г.) і «Стах з Конар» (Кракаў, 1879 г.), два арыгінальныя памятныя медалі ў гонар 50-годдзя літаратурнай творчасці Крашэўскага 1879 года. Пачэснае месца на сцяне заняў новастворany барэльеф (таніраваны гіпс, бо на бронзу ў музея грошай не хапіла) Ю. І. Крашэўскага разца 85-гадовага юбіляра, славутага мэтра Івана Міско. (Праўда, у першапачатковым, цнатліва-белым варыянце, які ўдалося пабачыць яшчэ ў майстэрні, барэльеф падабаўся мне болей.) Папоўніліся музейныя фонды і саліднай аўтаманаграфіяй, якую перадаў скульптар.

Адмыслова з'ездзілі за паўдзясятка кіламетраў на ростані, дзе пры паваротцы, што вядзе ў Доўгае, сфатаграфаваліся на памяць каля гранітнага памятнага знака з надпісам:

«Славутаму земляку Юзэфу Ігнацы Крашэўскаму

28.07.1812—19.03.1887. Пісьменніку, мастаку, гісторыку, выхадцу з маёнтка Доўгае».

Графік аднадзённай вандроўкі быў вельмі напружаны, але хацелася б куды болей увагі і часу аддаць яшчэ адной славутасці Пружанаў — касцёлу Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Гэта цудоўная святыня была пабудавана ў 1883 годзе, а знакамітая яна тым, што тут у сане святара служыў Казімір Свёнтэк — будучы кардынал, першы ў гісторыі Беларусі.

...Развіталіся з гаспадарамі на чыгуначнай станцыі з фацэтнаю назваю Аранчыцы, да якой крыху раўніва ставіцца ліновец Мікола Папека. Мужчыны пасмакавалі моцнага свойскага напою, які тут жа ахрысцілі «папекаўкаю», а кабеты — медавухі на, зноў жа, свойскім, гатунку кшталту «ізабэлы», вінаградзе і на мёдзе! Больш за тое, атрымалі ад паэта-пчаляра, заснавальніка і фундатара знакамітай Мядовай прэміі для літаратараў Брэстчыны Міколы Папекі важкія прэзенты — слоікі-паўлітровікі з плёнам руплівіцаў з ягонай пасекі.

*17 сакавіка 2017 г.*

Вера Лойка

# «ГОЛАС, ЯКІ ЖЫВЕ Ў НАС»

*«Добрыя дні выпадаюць на долю разважлівых людзей, але найлепшыя дні дастаюцца таму, хто адважыцца быць вар'ятам!»* Такія вось словы прачытала я — не памятаю ў якой кніжцы — яшчэ ў дзяцінстве. Словы гэтыя леглі на душу, бо ўзрост быў якраз той, калі мары і мроі сягаюць далёка за родныя ваколіцы. Тыя самыя мары, якія рэдка збываюцца, але абавязкова павінны быць. Словы гэтыя я запомніла, а галоўнае, запомніла імя аўтара — Сігрыд Унсет, нарвежская пісьменніца. І доўгія гады яна заставалася для мяне толькі аўтарам гэтых некалькіх радкоў, пакуль аднойчы знаёмае імя не глянула з вокладкі на бібліятэчнай паліцы — «Крысцін, дачка Лаўранса». З таго часу мінула каля дваццаці гадоў, а я так і чытаю гэтую кнігу. Вядома, бібліятэчны асобнік я здала і пасля настойлівага наведвання букіністычных крамаў набыла свой, і не толькі «Крысцін…», але і раман «Улаў, сын Аўдуна з Хествікена». Гэтымі творамі я, здараецца, «частую» сяброў, бо ў нашай краіне імя Сігрыд Унсет малавядомае, і кожны раз мне радасна адчуваць, што вось і яшчэ адзін прыхільнік (а часцей прыхільніца) з'явіўся ў цудоўнай пісьменніцы, якая стала апалагетам хрысціянства праз сваю мастацкую прозу. Але да гэтага быў доўгі і няпросты шлях, і на пачатку яго пісьменніца



прытрымлівалася атэістычных поглядаў.

Сігрыд Унсет нарадзілася 20 мая 1882 года ў Даніі, адкуль родам была яе маці Шарлота Гют. Бацька ж — Інгвальд Унсет — быў вядомым нарвежскім археолагам, і гэта паўплывала на цікавасць яго дачкі да гісторыі, вынікам якой сталіся выдатныя гістарычныя раманы. А як магло быць інакш, калі ў дзяцінстве маленькая Сігрыд мела за цацку тэракотавае жарабя, знойдзенае пры раскопках старажытнай Троі і падоранае бацьку яго калегам, выдатным археолагам Генрыхам Шліманам. А любімымі чытанкамі былі нарвежскія і ісландскія сагі з іх акцэнтам на сюжэт, а не на разважанні апавядальніка. Менавіта гэты метад яна ў будучыні выкарыстае ў сваіх гістарычных творах.

Бацька будучай пісьменніцы займаў пасаду дырэктара Музея старажытнасці, таму дзяўчынка часта гуляла сярод экспанатаў музея, слухала аповеды пра мінуўшчыну Нарвегіі. Усё гэта з часам дасць свой плён.

Але шчаслівае дзяцінства скончылася рана: Сігрыд было 11 гадоў, калі горача любімы бацька памёр. Маці і тры дзяўчынкі, старэйшай з якіх была Сігрыд, засталіся без сродкаў для існавання. Толькі праз два гады ўдаве прызначылі пенсію, якая складала 800 кронаў на год, але гэтага было вельмі мала.

Сігрыд захапляецца батанікай, піша вершы, трагічныя гісторыі пра каханне, малюе пейзажы, ставіць хатнія пантамімы і ролевыя гульні. Яна думае, кім ёй стаць — актрысай або мастаком. Але ўсё вырашыла маці — ёй трэба набыць прафесію, якая б карміла, і Сігрыд паступае ў Гандлёвае вучылішча. Яна вывучае сакратарскую справу і марыць вучыцца жывапісу, але пасля заканчэння вучылішча паступае на працу ў нямецкую электратэхнічную фірму на мес-

**Вера Галубовіч** — пісьменніца. Нарадзілася ў вёсцы Батурынка на Смалявіччыне. Вучылася ў Літаратурным інстытуце імя М. Горкага. Друкавалася ў «ЛіМе», у «Дзеяслове», у анталогіі «Насустрач Духу». Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве і працуе ў Мінску.

ца сакратара. Ёй 16 гадоў. 30 кронаў на месяц, дзевяцігадзінны працоўны дзень, двухтыднёвы летні адпачынак… Заробкам яна дзеліцца з сям'ёю, а па начах піша кнігу — пра Сярэднявечча.

Сяброўцы па перапісцы ў Швецыі яна паведамляе, што ад веры ў Бога яна «вылечылася» яшчэ да канфірмацыі і што для свайго пакоя набыла карціну маладога нарвежскага мастака Андэрса Кастуса Сварстада… Пройдуць гады і гэта інфармацыя адыграе ў яе лёсе вялікую ролю.

…Выдавец не прыняў рукапіс яе гістарычнага рамана, параіўшы маладой дзяўчыне напісаць што-небудзь сучаснае. І яна піша. Раман «Фру Марта Оўлі» пачынаецца з фразы: «Я здраджвала свайму мужу». Гэты раман не аўтабіяграфічны — у Сігрыд яшчэ не было ні мужа, ні каханага, але гэта разумелі толькі тыя, хто блізка ведаў пісьменніцу. З пэўнымі перашкодамі раман быў выдадзены. Гэта быў 1907 год. У гонар дэбюта маці падарыла Сігрыд кніжку сваіх любімых вершаў, на якой напісала: «…будзь такой жа бездакорна сумленнай, гэтак жа смела глядзі ў вочы жыццю і праўдзіва апісвай тое, што бачыш».

З першай жа кнігаю да яе прыйшоў поспех, але ганарар, які быў на сотню кронаў больш за гадавы заробак сакратаркі, яна патраціла на кнігі і працягвала працаваць у электратэхнічнай кампаніі і па начах пісаць раманы, апавяданні, вершы. Кнігі выходзяць адна за другой, і нарэшце яна атрымлівае стыпендыю нарвежскага Саюза пісьменнікаў на паездку за мяжу. Пасля дзесяці гадоў у электратэхнічнай кампаніі Сігрыд пакідае абрыдлую працу — цяпер яна можа пісаць не толькі ноччу, але і днём, калі захоча і дзе захоча. І Сігрыд Унсет едзе ў горад сваёй мары — Рым.

Пра гэты горад ёй шмат расказваў бацька, і яна цудоўна сябе там адчувае: знаходзіць вясёлую кампанію, а суседнюю з ёй кватэру здымае таксама нарвежац, і гэта — мастак Андэрс Кастус Сварстад. Вось тут і стала знакаваю, невыпадковаю карціна, некалі купленая Сігрыд для свайго пакоя. А вось рэлігія нават тут, у горадзе, дзе мноства помнікаў хрысціянства, яе не кранае. Праўда, Сігрыд наведвае Імшу, але здараецца гэта часцей за ўсё пасля працяглай начной гулянкі і асаблівых уражанняў не пакідае. Яна лічыць сябе няверуючай, яна прыехала з пратэстанцкай краіны і, нарэшце, яна не ведае італьянскай мовы…

Неўзабаве Сігрыд Унсет і Андэрс Сварстад «уцякаюць» у Парыж. Гэта было б падобна да «мядовага месяца», калі б не адна акалічнасць — Сварстад жанаты, і ў яго трое дзяцей, малодшаму з якіх няма і двух гадоў. Але пакуль што гэта не бянтэжыць Сігрыд. Андэрс разводзіцца, яны жэняцца і, нарэшце, Сігрыд нараджае сына! Яна хацела нараджаць толькі сыноў, нават у друку прызнавалася ў гэтым — занадта цяжкая доля жанчыны. Але другой нарадзілася дзяўчынка. Яе нараджэнне кардынальна зменіць жыццё сям'і...

Жаданне стварыць моцную сям'ю змусіла Сігрыд Унсет узяць на сябе клопаты і пра трох дзяцей Сварстада ад першага шлюбу, хоць ён быў супраць, як і яе родныя. І аказалася, што яна пераацаніла свае сілы. Сын Сварстада ад першага шлюбу і іх агульная дачка былі псіхічна нездаровымі дзецьмі. І Сігрыд не вытрымала: цяжарная трэцім дзіцем, яна пакідае мужа і з'язджае ў Ліллехамер. Меркавалася — адпачыць, аказалася назаўсёды. Там нарадзілася яе трэцяе дзіця — сын. І менавіта там яна публічна пагадзілася з хрысціянскімі догмамі і адмовілася ад перакананняў вольнага юнацтва.

Каб лепш зразумець гісторыю і культуру Сярэднявечча, якое заўсёды вабіла Сігрыд, трэба было зразумець і вучэнне Каталіцкага Касцёла. І калі напачатку яна гатова была «ледзь не дзякаваць Богу, што вырасла сапраўднай язычніцаю», то крыху пазней прыйшла да такой высновы: «*Ва ўсялякім разе, абрады Рымска-каталіцкага Касцёла не раздражняюць разумнага чалавека, у адрозненне ад вынаходніцтваў усіх гэтых шматлікіх "пратэстанцкіх" сектаў*».

Сыну яна дала імя Ханс Бэнэдыкт Х'ю Сварстад. Ханс — у гонар святога Яна, Бэнэдыкт — у гонар заснавальніка ордэну бэнэдыктынаў, Х'ю —у гонар англійскага каталіцкага пісьменніка Роберта Х'ю Бенсана.

Шлях акрэслены, і ў далейшым яе жыцці няма месца мужу, бо шлюб іх несапраўдны — Каталіцкі Касцёл не прызнае разводу. Пэўна, былі і іншыя, больш прыземленыя прычыны, і пра іх яна раскажа ў сваім новым рамане, які пачынае пісаць менавіта ў гэты час. Гэта — галоўная кніга яе жыцця «Крысцін, дачка Лаўранса» (1920–1922).

Гэты раман не аўтабіяграфічны, ды і дзеянне ў ім адбываецца ў XIV стагоддзі. Але пазней Сігрыд Унсет скажа, што ўвасаблялася ў сваіх персанажаў да такой ступені, што, здавалася пакідала сваё цела і станавілася іншым чалавекам. І найбольш моцна яна адчула гэта, калі стварала вобраз Крысцін, дачкі Лаўранса. «*Ніхто не значыў для мяне столькі, колькі значыла яна*», — сказала Сігрыд Унсет пазней, падчас свайго пяцідзесяцігадовага юбілею. Гэтыя словы гучаць як прызнанне ў тым, што Крысцін — гэта яна, і хай сабе іх аддзяляе шэсць стагоддзяў — «*у жыцці ёсць нешта такое, што ніколі не мяняецца*».

Калі я зусім нядаўна прачытала кнігу Слапгард Сігрун «Каралева слова» пра жыццёвы і творчы шлях Сігрыд Унсет, мяне не пакідала пачуццё, што я гэта ўсё аднекуль ведаю. А гэта я добра ведала Крысцін і пазнавала яе рысы ў Сігрыд, і часам іх проста немагчыма было раздзяліць. «*Калі б я нічога не напісала, я была б зусім іншым чалавекам — не ведаю, якім*», — скажа Сігрыд

Унсет напрыканцы жыцця…

Лютэранства, якое панавала ў Нарвегіі, яе не задавальняла. У адным з лістоў яна пісала: «*Мне адчайна не хапае даўняга Касцёла, які ніколі не вучыў: вось гэта добра, таму што старое, або — таму што новае, але ён меў віно для Камуніі, якое чым старэй, тым лепш, і хлеб, які лепш за ўсё спажываць свежым*».

Крыніцамі навяртання пісьменніцы сталі яе гістарычныя напрацоўкі і любоў да культуры Сярэднявечча. Яна называла гэта «*голасам, які жыве ў нас*». Голас, які жыў у ёй, быў сугучны каталіцкаму вучэнню, і Сігрыд хацела яго слухаць. У лісце да шведскай пісьменніцы Хелены Нюблум яна піша: «*Кожны раз, калі жыццё сутыкае мяне з нечым незразумелым або на першы погляд бессэнсоўным, мне нязменна прыходзіць у галаву, што толькі Каталіцкі Касцёл, і ён адзін, здольны адказаць на ўсе пытанні. Гэтыя адказы могуць здавацца як прыемнымі, так і непрыемнымі, але як бы ні было, толькі яны могуць задаволіць патрабаванні маёй логікі*».

Але гэта ў лісце. Тым жа, хто знаходзіўся блізка, пісьменніца даверыць свае думкі не магла, бо гэта выклікала іронію і неразуменне. Ну і яна часам пераходзіла на самаіронію, каб хоць паўсловам выказаць тое, што яе хвалявала і зведаць рэакцыю на гэта. Старой сяброўцы яна піша: «*А ўвогуле я зрабілася заядлай рэакцыянеркай… Накупіла цэлую гару каталіцкай дагматыкі і апалагетыкі*».

Відаць, якой самотнай яна была са сваімі новымі поглядамі сярод людзей, што былі побач здавён. Але яна больш не лічыць, што чалавек стварыў Бога як ідэальнае ўяўленне аб самім сабе, яна чуе Яго голас.

Шлюб давялося скасаваць. Зрэшты, ён быў не касцёльным, а гэтак званым грамадзянскім, і развод быў толькі канстатацыяй таго, што даўно сталася фактам. Вось толькі думка, што сям'ю трэба было захаваць дзеля дзяцей раз-пораз наведвала Сігрыд Унсет — яна не магла не адчуваць адказнасці не толькі за сваіх дзяцей, але і за трох прыёмных, адарваных ад сваёй маці. Да канца сваіх дзён яна будзе падтрымліваць іх матэрыяльна, ды і не толькі іх, а вельмі многіх людзей, якія мелі ў гэтым патрэбу. У яе з'явілася такая магчымасць, бо кнігі выходзяць штогод і добра прадаюцца, а ў 1928 годзе яна атрымала Нобелеўскую прэмію па літаратуры за раман «Крысцін, дачка Лаўранса». Ёй было 46 гадоў — толькі Кіплінг быў маладзейшы за яе, калі атрымаў Нобелеўскую прэмію. І толькі дзве жанчыны былі гэтак уганараваныя да яе — шведка Сельма Лагерлёф і італьянка Грацыя Даледа. На той час ужо выйшаў і раман «Улаў, сын Аўдуна» (1925), якім пісьменніца прадоўжыла хрысціянскую тэму ў сваёй творчасці. Сюжэты і героі раманаў розныя, і дзеянне адбываецца за пакаленне да «Крысцін…», але пісьменніца звязала іх невялікім штрышком — напрыканцы «Улава…» на некалькіх старонках з'яўляецца малады Лаўранс, бацька Крысцін.

У сувязі з вялікім поспехам дачкі яе маці Шарлота Унсет дала інтэрв'ю. Яна сказала, што заўсёды адчувала сябе чужой у сучасных раманах Сігрыд Унсет, але была нібыта дома ў яе сярэднявечных раманах. На пытанне, ці ганарыцца яна сваёй дачкой, маці адказала: «*Так, толькі мой вопыт падказвае, што ніхто нічога ў гэтым жыцці за так не атрымоўвае. Жыццё не казка. І калі атрымліваеш нешта, за гэта даводзіцца заўсёды плаціць*». Тут міжволі прыгадваюцца словы з рамана «Крысцін…»: «*У свой час ад вас запатрабуюць, каб вы расплаціліся за ўсё, што вамі ўзята ад жыцця, можаш не турбавацца!..*»

Пакуль што Сігрыд Унсет расплачваецца грашыма — на сродкі з Нобелеўскай прэміі яна заснавала «Фонд Марэн Шарлоты Унсет Сварстад», яе псіхічна хворай дачкі, для дапамогі бацькам, якія даглядаюць дзяцей-інвалідаў дома. Вялікая сума была ахвяраваная ў фонд падтрымкі пісьменнікаў, і яшчэ Унсет заснавала фонд, сродкі з якога ішлі на навучанне дзяцей з незабяспечаных сем'яў у каталіцкіх школах. Апроч фондаў, Сігрыд Унсет займалася і ўласнаю дабрачыннасцю: перш за ўсё яна старалася дапамагчы сваім калегам пісьменнікам і заўсёды сачыла, каб чэк быў ананімны. Зрэшты яна рабіла гэтак яшчэ задоўга да атрымання Нобелеўскай прэміі.

Нельга сказаць, што Сігрыд Унсет ішла па шляху да святасці. Яна б, вядома, хацела, але… Цяжка было змагацца з пыхаю, гняўлівасцю. Пісьменніца шмат працавала, вельмі стамлялася і ў выніку паказвала сябе не з лепшага боку перад тымі, хто трапляў пад руку. Заставалася маліцца, што яна і рабіла. Вядома, што малітвы яна ўзносіла, стоячы на каленях, да пяці разоў на дзень. Складана было з уласнымі дзецьмі. Старэйшы сын быў далёкі ад рэлігіі і патрабаваў ад маці паважаць яго выбар, што было для Сігрыд Унсет вельмі складана. Усё ж яе характар быў хутчэй уладны, чым мяккі. Тым не менш яна не прызнае аўтарытарных рэжымаў і вельмі крытычна ставіцца да дзвюх краін — Савецкага Саюза і Германіі, у якой якраз пры актыўнай падтрымцы народу прыходзіць да ўлады Гітлер.

Сігрыд Унсет была адным з самых папулярных аўтараў у Германіі, яна атрымлівала нядрэнныя грашовыя паступленні ад выдання там сваіх кніг, але пакрывіць душою не змагла — у яе выклікае агіду ідэя аб перавазе германскай расы. Заклікі да захавання толькі здаровых немаўлятаў і знішчэння хворых выклікаюць у яе жах. Яе дачка псіхічна хворая, значыць, калі б яна нарадзілася ў Германіі, то таксама не мела б права на

жыццё? Вядома, дзяўчынка прыносіла ёй шмат турботаў і хваляванняў, але не менш і радасці. Трывожылі Сігрыд Унсет і факты пераследу габрэяў у Германіі. Яна гучна заяўляе аб гэтым, але не ўсе падзяляюць яе перакананні. Не менш таленавіты і славуты нарвежскі пісьменнік Кнут Гамсун, таксама лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1920 г.), адкрыта выказвае сваю падтрымку палітыцы Гітлера. Нават свой нобелеўскі медаль Гамсун падорыць Гебельсу. Гэта здарыцца ў 1943 годзе, калі вайной будзе ахоплена вялікая частка Еўропы. Унсет жа свой медаль прадасць і грошы накіруе ў Фінляндыю, якая змушана абараняцца ад Чырвонай Арміі.

А пакуль што Унсет і Гамсун адстойваюць кожны свае перакананні і нарвежскія пісьменнікі мусяць стаць на нейкі бок. Вынік відавочны — у 1935 годзе Сігрыд Унсет абраная старшынёю Саюза пісьменнікаў, і адзін з калегаў сказаў, што яна будзе першым «сапраўдным мужчынам» на гэтай пасадзе за доўгі час. Між тым Саюз пісьменнікаў падзяліўся на два лагеры — на тых, хто па-ранейшаму падтрымліваў сувязі з Германіяй, і тых, хто разарваў усялякія кантакты. Кнігі Сігрыд Унсет былі забаронены ў Германіі ў 1933 годзе, і яна была гэтым задаволеная, хоць гэта і быў адчувальны ўдар па фінансах. Але, «калі Бог зачыняе дзверы — акно адчыняе» (ксёндз Ян Твардоўскі) — яе кнігі выдаюцца ў ЗША і добра там прадаюцца, так што пакуль няма чаго турбавацца. Унсет нават катэгарычна адмаўляецца ад прапановаў з Амерыкі наконт пастаноўкі або экранізацыі яе твораў.

На пачатку 1939 года памерла дачка пісьменніцы — Марэн Шарлота, крыху пазней памерла маці. У 1940 годзе фашысцкая Германія напала на Нарвегію. Заставацца на радзіме Сігрыд Унсет не магла — яна была самай вядомай у краіне (і не толькі сваёй) антыфашысткаю. Але перад тым як пакінуць радзіму, яна запісала антыфашысцкую прамову на грампласцінкі, якія праз нейтральную Швецыю былі перасланыя ў Лондан і Вашынгтон — іх слухалі ў Нарвегіі. На наступны дзень на прамову зрэагавалі ў Германіі. Кнігі Сігрыд Унсет ужо даўно спальвалі там на вогнішчах, але цяпер у нямецкай прэсе было забаронена называць і яе імя.

Давялося стаць на лыжы і праз горы перайсці ў Швецыю. І там яна даведалася, што яе старэйшы сын, малодшы лейтэнант Андэрс Сварстад, загінуў у адным з першых баёў з гітлераўцамі: за год яна страціла дачку, маці і сына, і ў яе застаўся адзіны малодшы сын, які здолеў трапіць у Швецыю. Яны павінны былі адправіцца ў Амерыку, але ўсе білеты на параходы былі прададзены. І тады Сігрыд Унсет з сынам пачалі сваё доўгае падарожжа ў Амерыку праз Маскву, Сібір, Японію і Ціхі акіян. Сваімі ўражаннямі ад знаёмства з Савецкім Саюзам яна падзеліцца ў кнізе «Вяртанне ў будучыню». Уражанні былі не лепшыя, таму пасля заканчэння вайны кнігу не выдалі ў Нарвегіі. Савецкае пасольства выкажа пратэст з пагрозаю (у выпадку публікацыі кнігі Унсет) забараніць нарвежскім выдавецтвам друкаваць творы савецкіх пісьменнікаў. Праўда, на той час кніга ўжо выйшла ў Даніі, Швецыі і Ісландыі.

Некалькі гадоў, якія Сігрыд Унсет правяла ў ЗША, яна выкарыстоўвала свой аўтарытэт, каб абудзіць чытачоў, амерыканскі народ, у тым ліку і амерыканскага Прэзідэнта, бо Амерыка не спяшалася адкрыць другі фронт, і Унсет не можа з гэтым зміryцца — яна па натуры змагар. Яна выступае з лекцыямі і прамовамі, расказвае пра свае ўцёкі з акупаванай Нарвегіі, падарожнічае па Амерыцы, піша.

Таварыства «Абарона Амерыкі, Гарвардская група» даручыла славутай нарвежцы скласці спіс найважнейшых культурных каштоўнасцяў краіны, аб захаванні якіх саюзнікі павінны будуць клапаціцца ў першую чаргу, калі выступяць супраць нямецкіх захопнікаў. Унсет захапілася гэтай працаю. У прадмове яна піша: «*Менавіта Каталіцкі Касцёл увёў у звычай чалавецтва мастацтва дзеля мастацтва, гэта значыць мастацтва як сродак выяўлення вобразаў, што ўзнікаюць у свядомасці чалавека. Лютэранская Рэфармацыя на нейкі час спыніла будаўніцтва новых цэркваў і ўпрыгожванне старых*». Спіс ёй неаднойчы вярталі і выказвалі заўвагі, але Унсет упарта працуе над ім, каб адчуваць сябе карыснаю для Нарвегіі.

У Амерыцы яе застае сумная вестка пра смерць Андэрса Кастуса Сварстада. Нягледзячы на развод, яны заставаліся бацькамі для ўсіх сваіх дзяцей, родных і прыёмных, жывых і памерлых, і гэта іх аб'ядноўвала. Даходзілі весткі пра гібель на вайне сыноў яе сяброў, пра смерць сяброў і знаёмых. А яна была далёка і не магла нават развітацца. Не, яна не магла прабачыць немцам іхніх злачынстваў і не ўтойвала гэтага. У сувязі са сваімі поглядамі Унсет атрымлівала шмат лістоў, і не ўсе яны былі кампліментарнымі. Да прыкладу, нямецкія католікі сцвярджалі, што яе нежаданне прабачыць — гэта грэх. На гэта яна адказала: «*Магу толькі сказаць, што прабачаю ўсім, хто ўчыніў зло асабіста мне, а астатнім Бог прабачыць*». Не магла яна забыцца і пра тыя цяплушкі, забітыя зняволенымі, якія бачыла на чыгуначным вакзале ў Сібіры, яна паўтарала, што ўлада ў Савецкім Саюзе была і застаецца дыктатураю. А вось як яна звярнулася да тых, хто на сваіх плячах вынес увесь цяжар акупацыі: «*Мы, хто жыў за межамі Нарвегіі ўвесь гэты час, пакуль вы неслі крыж, што выпаў нашай радзіме, мы лічым, што ў нас няма права да вас звяртацца. Мы павінны чакаць, пакуль вы звернецеся да нас…*»

Адразу пасля вызвалення

Нарвегіі яна вярнулася на радзіму. Сігрыд Унсет узяла актыўны ўдзел у спрэчках пра пакаранне ваенных злачынцаў, уключылася ў справы Саюза пісьменнікаў, але… вайна спыніла яе старшынство, да ўлады прыйшлі новыя людзі. Яна была нібыта і не патрэбна. Яе яшчэ запрасілі пасядзець у першым радзе на святкаванні 50-годдзя Саюза пісьменнікаў, пасля чаго яна вярнулася ў Лілехамер, дзе і пражыла апошнія гады.

Пацiху аднаўляўся дом, сад, вярталіся прыхаваныя вернымі сябрамі кнігі — яе галоўнае багацце. Як і раней, прыходзіла шмат лістоў, у прыватнасці з Германіі. Нямецкія прыхільнікі яе творчасці не маглі змірыцца з тым, што Сігрыд Унсет ненавідзіць немцаў. Яе кнігі зноў чытаюць у Германіі, але ёй гэта ўжо нецікава. Яна ўсё часцей вярталася ў думках у Амерыку і прызнавалася, што нідзе так шмат не працавала, як там. Магчыма, гэта гаварыла крыўда на сваю незапатрабаванасць. Усё ж лепшыя свае творы — «Крысцін…» і «Улаў…» — яна напісала дома. Проста тады яна яшчэ была маладой, поўнай сілы, і побач былі блізкія, любімыя людзі. І ўсе яны яшчэ былі жывыя…

Здараліся і невялікія радасці: яе ўганаравалі вышэйшым ордэнам Нарвегіі — Вялікім крыжам святога Улава — «за заслугі ў галіне літаратуры і верную службу Айчыне». Сігрыд Унсет адказала: «*Не варта так ужо дзякаваць мне за напісанне "Крысцін, дачкі Лаўранса". Мне гэта было няцяжка, бо я пражыла ў гэтай краіне тысячу гадоў*».

Вайна скончылася, і неяк неўпрыкмет знік падзел паміж людзьмі. Вось і яе сын і падчарка сябруюць з тымі, хто ў вачах Сігрыд Унсет запляміў сябе падтрымкай нацыстаў. Ханс напісаў артыкул, у якім заклікаў працягнуць руку такім людзям, а яна не магла з гэтым пагадзіцца. Яна выступае за суровы суд і за смяротнае пакаранне, з адным выключэннем — для Гамсуна.

Яна адмовілася ад удзелу ў нямецкай акцыі «Маці гавораць са светам». Меркавалася, што гэта будзе кніга, напісаная ад імя розных маці, з аднаго і з другога боку. Унсет коратка і рашуча адказала, што хоць яна і страціла сына, а значыць, ніколі ўжо не зможа быць шчаслівай, усё ж у жыцці бываюць рэчы і горшыя. Напрыклад, убачыць свайго сына ў шэрагах гітлерюгенда або камсамола. Калі спаведнік прызначыў ёй за пакуту адпраўляць у Германію пасылкі з дапамогаю, яна абышлася дробязямі і падпісвацца не стала. У Нарвегіі таксама не хапала і ежы, і адзення, і іншых неабходных рэчаў. Для таго, каб прыстойна апрануцца, даводзілася выкарыстоўваць старыя шторы, мэблевую тканіну, цяжка было сабраць святочны стол у дзень Божага Нараджэння… Нястача для яе не навіна — сям'я Унсет зведала яе пасля смерці бацькі, але тады ўсё ж было адчуванне, што жыццё цудоўнае — куды яно дзелася? Сігрыд Унсет працягвае шукаць у сабе гэтае адчуванне і вырашае, што трэба наведаць дарагія сэрцу мясціны. Больш за ўсё ёй хацелася ў Англію, але на такое падарожжа сілы ўжо не хапала. Заставалася Данія, дзе яна нарадзілася. Магчыма, гэта будзе іх апошняя сустрэча. Так і сталася: у Даніі Сігрыд Унсет адчула сябе дрэнна, і яе пасадзілі на цягнік да Осла, дзе яе сустрэла сястра, каб перавезці ў Лілехамер. Яе лячылі вітамінамі і гармонамі, але хвароба была звязана не столькі з фізічным, колькі з псіхалагічным станам. Непаразуменні з сынам, праблемы з выдаўцамі, ды і проста навакольны свет, які імкліва мяняўся, а яна не магла яго — такі — прыняць. Яна чакала смерці, але не хуткай. «*Спадзяюся, што буду паміраць доўга і ў мяне хопіць часу пакаяцца ва ўсіх маіх грахах*», — сказала яна сябру. Спадзяванні былі дарэмнымі. У адзін дзень у яе перасталі працаваць і сэрца, і ныркі. Ніхто не чакаў такога хуткага канца, нават родных не выклікалі. Сігрыд Унсет памерла ноччу ў адзіноце. Раніцаю медсястра знайшла пісьменніцу на падлозе побач з ложкам. Ніхто не чуў, каб яна клікала на дапамогу. Яе пахавалі побач з дзецьмі на месцы, якое яна выбрала сама…

«*Усе агні ў рэшце рэшт дагараюць*». Гэтыя словы лейтматывам праходзяць праз апошнюю, трэцюю кнігу рамана «Крысцін, дачка Лаўранса» — «Крыж». Іх сказаў герой трылогіі Сіман Дарэ перад смерцю, жадаючы супакоіць Крысцін. «*Прыйшоў час, калі гэтыя словы Сімана Дарэ ізноў адгукнуліся ў сэрцы Крысцін*». Гэта час стратаў, старэння, адзіноты. Такі ж час прыйшоў і для самой Сігрыд Унсет. Адзін за адным яе пакідалі людзі, якіх яна любіла, якія былі блізкімі, і ўжо амаль не было каму засланіць яе ад бязлітаснага скразняку, што абавязкова ўтвараецца паміж прыадчыненымі дзвярыма. Адны — тыя, праз якія яна прыйшла ў гэты свет, і другія — праз якія мусіла пакінуць яго назаўсёды…

Агонь Сігрыд Унсет дагарэў 10 чэрвеня 1949 года, калі ёй было 67 гадоў. Не такі ўжо вялікі ўзрост, але ў межах свайго жыцця пісьменніца пражыла мноства іншых лёсаў — цяжкіх і шчаслівых адначасна. «*І ўсё ж яна любіла гэтае жыццё, яна радавалася і дрэннаму і добраму, і не было дня, які б яна пагадзілася вярнуць Пану Богу, не было такіх пакутаў, якімі б яна ахвяравала без жалю…*». Яна напісала гэта пра Крысцін. І пра сябе. Насамрэч, яна напісала гэта пра ўсіх нас.

**Выкарыстаная літаратура:**
Сигрид Унсет. Улав, сын Аудуна из Хествикена. — Москва, 1984.
Сигрид Унсет. Кристин, дочь Лавранса. — Петрозаводск, 1986.
Слапгард Сигрун. Сигрид Унсет. Королева слова. Б.С.Г. —Пресс ОГИ, 2009.

# «Дайсці да Каложы»

## *Пра новую кніжку Дануты Бічэль*




У снежні мінулага года, напярэдадні юбілею Дануты Бічэль, нашай сталай аўтаркі, лаўрэаткі Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы, у выдавецтве «Про Хрысто» ў Мінску выйшла новая кніжачка паэткі з добраю, мудраю назваю — «Дайсці да Каложы». Агорнутая ў цёплую, амаль бурштынавага колеру вокладку з выяваю знакамітай гродзенскай Каложы (мастак Сяргей Шэмет), кніжачка міжволі просіцца ў рукі. «*Магчыма, мае вершы будуць падтрымкаю людзям, якія з даверам аддаюцца Божай волі і, акрамя Божай, іншай падтрымкі не маюць*», — так кажа паэтка пра свае творы, змешчаныя ў гэтай кнізе: вершы-малітвы, ружанцовыя разважанні і паэтычныя медытацыі да набажэнства Крыжовага шляху.

Вяртаючыся да назвы кніжачкі, варта адзначыць, што ў ёй Данута Бічэль трымаецца аднаго з вызначальных вобразаў сваёй паэзіі — вобразу сцежкі, дарогі (*«Беларусь — гэта дарога»*) і выратавальнага духоўнага прыстанку на ёй — старадаўняй хрысціянскай святыні, у якой можна паразмаўляць з Маці Божай Каложскай, «*пагладзіць збанкі-галаснікі, гукнуць туды, у той далёкі час, у XII стагоддзе*». «*Каложа*, — піша Данута Бічэль ва ўступе да кніжачкі, — *адчуванне несмяротнасці і глыбіні народа, грэла, натхняла, вызначала шлях, пошукі слова, усё маё шчаслівае жыццё. Шчаслівае, бо праз Каложу прысвяцілі мне вершы два вялікія айчынныя паэты — Ларыса Геніюш і Уладзімір Караткевіч*».

Кніжачка (накладам у 100 асобнікаў) складаецца з трох раздзелаў: «Цішыня», «Ружанец і Крыжовы шлях», «Едзе-едзе на саначках Святы Мікалай». Чаму «Цішыня»? — думала я, у першы раз гартаючы кніжачку (яшчэ ў наборы). Тут жа столькі гукаў, руху, жыцця: вось радасць у вершы **«Вадохрышча»**, дзе ксёндз, Казімірас Жыліс, які «*на літоўскіх азёрах вырас*», «*перапыніць сваё лячэнне, распранецца ўвішна, як хлопчык, першы з крыжам у праламку ўскочыць*»; а вось верш **«Грамнічка»**, у якім «*цінькае зранку сінічка*»; і верш **«Папялец»** з усведамленнем, што «*ўсяму прыходзіць канец*»; і верш **«Звеставанне»** са шчаслівым буслiным клёкатам над Богам абраным краем; і **«Вербніца»**, калі «*найпрыгажэйшыя шчасця дарункі — дубчык свянцоны і маміны рукі*»; і верш **«Хрыстос уваскрос»** з заклікам: «*не выцірайце шчаслівых слёз*», бо «*хто адгавеўся, той і падрос*»; і верш **«Сёмуха»**, у якую «*зоркі ў званочкі звоняць, // перапёлкі купаюцца ў збожжы...// На зямельку сыходзіць // Дух Святы Божы!*»; а вось шумна-радасная урачыстая працэсія ў вершы **«Божае Цела»**, калі «*найсвяцейшая Гостыя сагнутых жыццём выпроствае, над узростам, над вёрстамі*»... Дык дзе ж у гэтых вершах цішыня? А вы не проста пагартайце, а пачытайце — і адчуеце, што яна, цішыня, лёгка, цёпла, прасветлена-радасна агортвае душу менавіта пасля чытання. Цішыня ў Дануты Бічэль — сінонім спакою, да якога заклікаюць святары падчас кожнай святой Імшы: «Спакой вам!». Жывіце ў спакоі, людзі, бо шчасце — гэта вера, і «*кожны чалавек мае шанец трымацца мацней за Ружанец*». Гэта радкі з верша **«Фаціма»**, у якой паэтка ніколі не была, але прысвяціла Мадонне з Фацімы і Яе пастушкам — Люцыі, Францішку, Жасінце — некалькі вершаў, запэўніваючы Маці Божую Фацімскую ў тым, што дзеля Яе ў нас «*квітнеюць кусты шыпшыны, дзікія ружы радзімы!*», і ва ўсіх старых беларускіх капліцах — у вянках Яе статуэткі, і для Яе — «*малітвы, ружанцы, кветкі*».

Духоўная паэзія Дануты Бічэль — цалкам новая для сучаснай беларускай літаратуры, яшчэ добра не асэнсаваная ні чытачамі, ні літаратуразнаўцамі. Гэта паэзія вельмі індывідуальная, можна сказаць прыватная, яна пакутліва вырастала з той таленавітай маладой Бічэль, якая напісала ўнікальны збор вершаў «Водар і шолах» (1969 год). Дарэчы, мне ў зборніку «Дайсці да Каложы» вельмі не хапае датавання вершаў, бо і яно, датаванне, як і веданне біяграфіі, таксама дапамагае асэнсоўваць шлях паэткі, зразумець яго логіку. Водарам і шолахам напоўненыя і яе духоўныя вершы, але ў іх над усім валадараць Святы Дух і Маці Божая.

«...*даспела гародніна і садавіна,*
*і жытцо-ярына на нівах,*
*у лесе ягадкі, грыбы, чабарок,*
*каб елі-пілі ды незнарок*
*не падалі з голаду...*
*і духмянае сенца, і кожная зёлка...*
*і з дванаццаці зорак*
*над Унебаўзятай вясёлка...*

Гэта радкі з верша **«Унебаўзяццe Найсвяцейшай Панны Марыі»** (таксама без даты), у якім згадваюцца і Аліўная гара ў Гетсіманіі, і духмяны пракос на беразе Гаўі, і герб Мінска, бо і на ім

*(«кожнаму дому людскому спакой»*) валадарыць Прачыстая Панна.

У вершах, сабраных у раздзеле пад назваю «Цішыня» Данута Бічэль выразна выявілася як Марыйная паэтка (першая на Беларусі!) — і не толькі таму што яна генетычная каталічка, народжаная на хутары, дзе з маленства натуральна адчувала Божую прысутнасць у свеце, але і таму што свядома, усё жыццё, праз грахі і непамыслоты ішла да Маці Божай, давяраючы Ёй, як дзіця, і нарэшце засведчыла свой давер у слове, канчаткова далучыўшыся да Яе войска (у тым ліку праз супрацоўніцтва з часопісамі «Ave Maria» і «Наша вера»).

Адметна, што будучая паэтка нарадзілася на пачатку Адвэнту — 3 снежня, пра што яна піша ў вершы **«Адвэнт»** (перадапошнім у раздзеле «Цішыня»). Па-дзіцячы наіўна гаворачы ў першых радках пра бусліка, які прынёс яе бацькам, застаўшыся *«зімаваць на пустым галлі»,* і мімаходзь па-жаночы наракаючы на тое, што *«жыццё мінае — я ўсё чакаю...»,* напрыканцы верша яна з удзячнасцю гаворыць пра тое, што яе жыццё напоўненае любоўю *(«Кожны колас на Яськавым полі // мне натрос асцючкоў любові»*) і завяршае верш словамі: «*Езус народзіцца для Беларусі — // Божа, а я да Цябе тулюся...*»

Заканчваецца раздзел «Цішыня» вершам **«Батлейка»**, які без перабольшвання можна назваць пярлінаю каляднай паэзіі. У гэтым вершы нязмушана, непасрэдна, па-дзіцячы светла спалучана асабістае і біблейскае, народнае, казачнае і прыпавесцевае, рэальнае, традыцыйнае і таямнічае, містычнае, неспасцігальнае.

*Святую батлейку святы Францішак*
*выразае з аблокаў-латкаў.*
*Кліча бяздомных звяркоў і птушак*
*на ламанне аплатка...*
<...>
*Пахне сенца ў стозе. Рабая свіначка*
*рохкае мовай людской.*
*Цуцык Бурык з бору нясе бярвіначку,*
*прыбраную зорнай луской...*

*Апякун святы Юзаф знайшоў каморку,*
*запрасіў гаспадыньку-ваверку —*
*з арэшкамі аладкі пячэ на алеі*
*ды корміць Божы Бэтлеем.*

*Так добра спыніцца ў малітве-сне*
*у Святой Сям'і, між радні...*
*Добры Божанька, прытулі мяне*
*да любові, да дабрыні!*

Другі раздзел кніжачкі «Ружанец і Крыжовы шлях» мае ў дужках пазнаку: прыватныя медытацыі. Гэта ўнікальная з'ява ў беларускай літаратуры — прыватнага, асабістага, свайго паэтычнага тэксту Ружанца яшчэ ніхто з нашых паэтаў не пісаў, хоць, пэўна ж, многія каталікі, асабліва творчыя, даўно разважаюць над таямніцамі радаснымі, таямніцамі святла, балеснымі і хвалебнымі сваімі словамі, асэнсоўваючы Божую Ахвяру дзеля нашага збаўлення і жыцця вечнага — «*мы таму і трымаемся тут, што Хрыстос уваскрос*». Пад сваім «Крыжовым шляхам» Данута Бічэль таксама зрабіла пазнаку: разважанні маці; і гэта менавіта яе вельмі асабістыя плачкі, яе асабісты крыж, але ж ніхто не жыве без крыжа, хоць, можа, яшчэ не ўсведамляе яго сэнсу, бясконца пытаючы, «за што», і «навошта». Пішучы пра свой асабісты крыж, паэтка з болем гаворыць і пра крыж усяго народа, пакорнага, цярплівага, які *«стаіць на каленях пад крыжам чатырыста год»* і ўжо амаль не ўсведамляе, што, губляючы сваю мову, душу губляе — *«дык як жа такім пакорным падняцца з каленяў?»* Можа, спачатку сапраўды стаць на калені? *«Упасці пад крыжам, падняцца і крыж падняць!»,* зразумець, што Езус і сёння «*пад крыжам падае за ўсіх нас*», і кожнаму самастойна пачаць дасканаленне ўласнай душы, не чакаючы прыкладу прарокаў, павадыроў і святых святароў...

У трэцім раздзеле кніжкі Данута Бічэль змясціла пераважна вершы-падзякі і прысвячэнні, каб сказаць цёплыя словы людзям, якіх, пэўна, сама Божая Маці паставіла на яе жыццёвым шляху, неаддзельным ад яе творчасці. Праўда, раздзел пачынаецца тужлівымі вершамі-ўспамінамі пра тых, каго ўжо няма на свеце — туга па іх адбілася і ў назвах вершаў: **«Пакідаю вам кветкі»**, **«Вечаровы смутак»**, **«Мама, тата і я — вінавата»**, **«Настальгія па драўляным доме»**.

Працуючы ў 1990-я гады ў Літаратурным музеі, водзячы экскурсіі па ўнікальнай выставе «Покліч» пра нашу рэпрэсаваную літаратуру, пра дэвальвацыю тых, каго ўлады пакінулі жыць, змушаючы пісаць ухвальныя савецкія «дрындушкі», як казаў Купала, я заўсёды запіналася, гаворачы пра клерыкальную паэзію — паэзію, створаную святарамі (у 1990-я ў музеі нават быў вечар, прысвечаны Казіміру Сваяку, — ціхі, нешматлюдны, з запаленымі ў Гасцёўні Уладзіслава Галубка свечкамі). Як жа добра, што ў літаратуры ўсё больш замацоўваецца паняцце «духоўная паэзія», і найбольшы ўнёсак у яе ў наш постатэістычны час зрабіла менавіта Данута Бічэль. Узяўшы за высокую метафару вобраз старажытнай гродзенскай Каложы, яна яшчэ раз засведчыла сваё жывое, дзейснае хрысціянства, сваё жаданне, імкненне *«дайсці да Каложы... не заблудзіць, не пераблытаць сцяжынку, якая вядзе да святыні, да Бога»,* і *«пакінуць гэты шлях сваім дзецям, унукам, сябрам, родным людзям, не страціць душы...»*

*Лідзія Камінская*

---

**Лідзія Камінская** — філолаг. Нарадзілася ў пас. Камсамольскі-на-Волзе Куйбышаўскай вобласці. Вучылася ў Бешанковіцкай СШ № 2 на Віцебшчыне. Закончыла філалагічны факультэт (рускае аддзяленне) Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1978). Працавала ў Чырвонадарскай васьмігадовай школе (Чэрвеньскі р-н; 1978-1980), у Літаратурным музеі Янкі Купалы (1980-1986), Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры (1986-1992), у часопісе «Роднае слова» (1992-2004). З 1997 г. супрацоўнічае з часопісамі «Наша вера» і «Ave Maria». Жыве ў Мінску.



# ПАНЕНКА З ВЁСКІ КАМАРОВІЧЫ

**ІМЯ** гэтай слаўнай жанчыны, нараджэнкі нашага краю, на жаль, падзабытае сёння ў Беларусі, хоць яно заслугоўвае значна большай да сябе ўвагі і ўдзячнасці.

Нарадзілася Эма Яленская ва Усходнім Палессі, у вёсцы Камаровічы Мазырскага павета Мінскай губерні 29 (паводле некаторых крыніц — 28) лютага 1864 г. у сям'і Амеліі (родам з Аскеркаў) і Зыгмунта-Гектара Яленскіх. У сямігадовым узросце дзяўчынка страціла бацьку. Дзіцячыя гады правяла пераважна на радзіме, а таксама ў маёнтку Глінцішкі, які належаў яе дзядзьку Мечыславу, пад Вільняю і ў самой Вільні. Навучалася дома пад наглядам маці і хатніх настаўнікаў. Адчуваючы ў Эме здольнасці да навукі, маці заўсёды клапацілася пра адукацыю дачкі, садзейнічала набыццю ёю ведаў не толькі на радзіме, але і за мяжою. У 1890 г. Эма выйшла замуж за двараніна Расійскай Імперыі доктара Казіміра Дмахоўскага і ў тым жа годзе разам з ім пераехала з родных Камаровічаў у Вільню, дзе ёй наканавана было пражыць усё астатняе жыццё — яшчэ 28 гадоў.

Рознабаковыя інтарэсы Эмы Яленскай выявіліся з маладога ўзросту. Чым бы ні займалася яна потым на працягу свайго жыцця, ва ўсім адчувалася яе шчырая зацікаўленасць і адданасць абранай справе, сур'ёзны падыход, глыбіня разважанняў, мэтанакіраванасць.

Дзейнасць Эмы Яленскай-Дмахоўскай выразна ўвасобілася ў трох кірунках.

З яе імем звязаны прыкметныя для таго часу набыткі ў польскай літаратуры. Як пісьменніца яна працягвала традыцыі Баляслава Пруса і Элізы Ажэшкі, з якімі вяла перапіску. Звычайна падпісваючы свае мастацкія творы дзявочым прозвішчам, Эма Яленская стварыла шэраг цікавых празаічных і драматургічных твораў. Яе аповесць «Паненка» ў 1897 г. на конкурсе імя Б. Пруса, што праводзіла папулярная газета «*Kurier Codzienny*», атрымала першую ўзнагароду. Затым былі кнігі «Матка», «Двор у Галінішках», «Ад кахання», зборнік навелаў «Бацяны» і іншыя. У 1903 г. на конкурсе драматургіі імя Генрыка Сянкевіча была адзначана яе драма «Сын», пастаўленая ў Лодзі і Вільні. А ў Варшаве ігралі яе п'есу «Крыўда». Пяру Эмы Яленскай належыць і прасякнутая ідэямі патрыятызму аднаактоўка «Хвіля». Творы пісьменніцы вызначаюцца займальнай фабулай, яны былі перакладзены на нямецкую, чэшскую, рускую мовы, і сёння, перажыўшы больш за стагоддзе, выдаюцца ў Польшчы і не губляюць свайго чытача.

Ад імя Эмы Яленскай-Дмахоўскай неад'емная і яе грамадска-палітычная, асветніцкая праца, якой яна актыўна займалася на працягу ўсяго свайго жыцця, да самых апошніх дзён: стварала рухомыя бібліятэкі, арганізоўвала школы і сама выкладала ў іх, дапамагала настаўнікам словам і грашыма, з самаахвярнасцю навучала народных настаўніц, клапацілася пра забяспечанасць навакольных школаў, падтрымліваючы з імі цесныя кантакты. Рэдагуючы часопіс «*Zorza Wileńska*», а пасля яго закрыцця — часопіс «*Jutrzenka*», неаднойчы трапляла ў канфліктныя сітуацыі з цэнзурай і паліцыяй. Выданне першага часопіса закончылася працяглым палітычным працэсам і заключэннем у 1911 г. Яленскай-Дмахоўскай на два месяцы ў Лукішскую турму. Падчас нямецкай акупацыі яна была звязаная з гэтак званым Адукацыйным камітэтам, была заснавальніцай і прэзідэнтам Патрыятычнага саюза полек.

Трэцяя істотная грань дзейнасці Эмы Яленскай-Дмахоўскай выклікае ў нас, яе землякоў найбольшую цікавасць, бо яна звязаная са збіраннем, публікацыяй і вывучэннем вуснапаэтычнай творчасці і быту беларускага народа. Набыўшы добрую адукацыю і застаючыся ў роднай вёсцы, яна, як і яе маці, не цуралася простага люду, а, як відаць з яе грунтоўнага этнаграфічнага нарыса «Вёска Камаровічы ў Мазырскім павеце», вельмі добра і ўсебакова ведала жыццё палескага селяніна. Ужо на раннім этапе сваёй творчасці Эма Яленская выпрацавала ў сабе рысы ўважлівага даследчыка, аналітыка, здольнага без сентыментальнасці ці паблажлівасці (што часам праяўлялася ў падобнага роду творах іншых аўтараў) аб'ектыўна расказаць пра свой народ з усімі яго вартасцямі і заганамі.

З усёй сур'ёзнасцю яна паставілася да пошукавай работы, пра што сведчыць не толькі разнастайнасць жанраў, якім яна

ўдзяляла сваю ўвагу, але і колькасць запісаў. Будучы знаёмая з найбольш значнымі зборнікамі беларускага фальклору, Эма Яленская ведала, на што можна арыентавацца і што трэба шукаць. Плён яе збіральніцкай дзейнасці быў даволі значны, асабліва калі ўлічыць, што ўсё яна рабіла без чыёйсьці дапамогі і рабіла на самым высокім узроўні. Нават пераехаўшы на сталае пражыванне ў Вільню і страціўшы непасрэдныя кантакты з беларускай вёскаю, яна не забывалася пра зробленыя на Палессі свае запісы, прыводзіла іх да ладу дзеля таго, каб праз краязнаўчы часопіс «*Wisła*» азнаёміць з імі чытача. І ўжо ў 1891 г. у сваіх лістах да славутага вучонага Яна Карловіча Эма Яленская паведамляе пра рукапісныя зборнікі вуснай народнай творчасці, якія ёй удалося сабраць і ўпарадкаваць. Аднак, нягледзячы на намаганні польскіх навукоўцаў, іх так і не ўдалося апублікаваць пры жыцці Эмы Яленскай.

Лёс гэтых рукапісаў склаўся па-рознаму. Адзін з двух пакінутых Эмай Яленскай зборнікаў, у якім былі сабраныя казкі, з вялікім спазненнем, але ўсё ж пабачыў свет. Маўклівае, бяздзейснае існаванне калекцыі казак Яленскай працягвалася роўна тры чвэрці стагоддзя. Ад забыцця яны былі ўратаваныя беларускімі даследчыкамі і неўзабаве сталі здабыткам сучаснага чытача. 62 тэксты казак пра жывёлаў, чарадзейных, сацыяльна-бытавых, анекдотаў і паданняў, сабраных Эмай Яленскай, былі выдадзены ў Мінску ў 1976 г. асобнай кніжкаю пад назваю «Беларускі казачны эпас» (склад. У. В. Анічэнка). З рукапісу ж казак, які складаецца са 150-ці старонак, відаць, што тэксты збіральніца рыхтавала найперш для польскамоўнага чытача, пра што сведчыць не толькі напісанне польскай графікай, але і тлумачэнне паасобных мясцовых словаў у падрадковых заўвагах польскімі адпаведнікамі. Відавочна, што творы запісваліся ад добрых казачнікаў, бо яны пазбаўленыя характэрных для выпадковых інфарматараў блытаніны, пераскокаў, паўтораў, кантамінацый. Наўрад ці Эма Яленская апрацоўвала іх — яна заўсёды была ўважліваю, беражліваю ў адносінах да слова.

Другі рукапісны зборнік «Песні, прыслоўі і загадкі з Камаровіч», які складаецца пераважна з 367-ці тэкстаў песняў розных жанраў, на вялікі жаль, да цяперашняга часу не апублікаваны.

Галоўная ж этнаграфічная праца Эмы Яленскай, на шчасце, своечасова дайшла да чытача: у 1891–1892 гг. у часопісе «*Wisła*» быў апублікаваны яе нарыс «Вёска Камаровічы ў Мазырскім павеце».

У многіх пытаннях Эма Яленская была для этнографаў свайго часу неаспрэчным аўтарытэтам. Так, падтрымліваючы намер Зыгмунта Глогера зрабіць выданне, прысвечанае 100-годдзю Адама Міцкевіча, Ян Карловіч звяртаецца менавіта да Э. Яленскай як найбольш кампетэнтнай знаўцы вуснай творчасці беларусаў з прапановаю ўдзельнічаць у падрыхтоўцы кнігі і просьбаю даслаць для яе штосьці з фальклорных ці этнаграфічных матэрыялаў, якія б перакліканіся з творчасцю вялікага паэта. У выніку ў юбілейны двухтомнік А. Міцкевіча ўвайшло эсэ Э. Яленскай «Свіцязь», пабудаванае на мясцовых легендах.

Можна без перабольшвання сцвярджаць, што палескі фальклорна-этнаграфічны перыяд жыцця Эмы Яленскай, а таксама прагрэсіўнае пісьменства сфарміравалі яе як асобу, падвялі да наступных жыццёвых кірункаў — мастацкай літаратуры і грамадскай дзейнасці.

З пераездам Эмы Яленскай у Вільню яе думкі пра Палессе, як і яе фальклорная і этнаграфічная праца, паступова аддаляліся, бо новае асяроддзе скіроўвала да іншых тэмаў. Аднак, калі абставіны сутыкалі Э. Яленскую з простым народам, то гэта не мінала яе ўвагі.

Прыкметным у творчасці на той час ужо вядомай пісьменніцы стаў нарыс «Кальварыя пад Вільняй» (1903), дзе яна распавяла пра пілігрымку да адной з самых славутых мясцовых святыняў. Адданая каталічка, Эма Яленская не магла не далучыцца да патоку вернікаў. Жывыя, дакладныя назіранні падчас паломніцтва дапамагалі ёй у гэтым творы выйсці за рамкі рэлігійнага зместу: тут ужо адчуваецца рука вопытнага літаратара, здольнага маляўніча падаць і апісанні прыроды, і яскравыя партрэты сустрэтых ёю ў дарозе людзей. Жывучы цяпер на скрыжаванні самых разнастайных традыцый, у гушчыні розных моваў і гаворак, Э. Яленская выказала сваё ўспрыманне кожнай з іх пры апісанні шматнацыянальнага людскога натоўпу пілігрымаў, якія з усяго свету сцякаліся да шанаванай каталіцкай святыні ў Верках. Пры ўсёй суб'ектаўнасці ацэнак нельга не заўважыць сімпатый Эмы Яленскай да блізкай ёй з маленства беларускай мовы, якую яна (што пацвярджаюць і сучасныя дыялектолагі) перадавала ў сваіх запісах з максімальнай дакладнасцю. <...>

Творчы шлях Эмы Яленскай-Дмахоўскай быў нядоўгім, але надзвычай плённым. Памерла Эма Яленская-Дмахоўская ў Вільні 24 студзеня 1919 г., праз два тыдні пасля таго, як бальшавікі першы раз занялі горад, і была пахаваная на могілках Росы.

*Уладзімір Васілевіч*

---

**Уладзімір ВАСІЛЕВІЧ** — фалькларыст, этнограф, перакладчык. Нарадзіўся ў 1952 годзе. Жыве ў Мінску. Закончыў філфак БДУ і аспірантуру пры Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі. Кандыдат філалагічных навук. Выкладаў у БДПУ імя М. Танка. Аўтар кніг па вуснай народнай паэзіі, міфалогіі, этнаграфіі: «Пахаванні. Памінкі. Галашэнні» (1886), «Збіральнікі» (1991), «Беларускі народны каляндар» (1993), «Міфы Бацькаўшчыны» (1994), «Беларуская міфалогія» (2001, 2002), «Чароўны свет» (2008, 2010, на англ. мове — 2012), трохтомнік народных прыкмет і павер'яў «Зямля стаіць пасярод свету...» (1996, 2010), «Жыцця адвечны лад» (1998, 2010), «Зямная дарога у вырай» (1999, 2010) і інш. Пераклаў з польскай мовы кнігі Я. Корчака «Кароль Мацюсь на бязлюдным востраве» (1982, 1998, 2012), разам з Л. Салавей — Ч. Пяткевіча «Рэчыцкае Палессе» (2004), «Грамадская культура Рэчыцкага Палесся» (2015) і інш.

Эма Яленская

# КАЛЬВАРЫЯ ПАД ВІЛЬНЯЙ

*(У скарачэнні)*

**I.**

Калі на палях завяршаюцца першыя веснавыя работы, калі засеяна ралля і пасаджаны грады, калі цёплы вецер павее па свеце, несучы з сабою адраджэнне пасля доўгага зімовага сну, новае жыццё, новую сілу, а касцёл апранецца ў светлае ўбранне пасля поснае жалобы, тады на дарогі і гасцінцы, што вядуць у Вільню, выязджаюць у адну калону шнуры вазоў і выходзяць грамады пешых, сагнутых пад цяжарам торбаў і падарожных карабоў. Гэта ідуць кальварыйцы. Ідуць дарогамі, што бялеюць сярод палёў, самі белыя і светлыя ў сваіх палатнянках і саматканках. Топчуць апаленымі ступнямі пясок і каменні і спяваюць набожныя песні.

А вазы коцяцца з грукатам і скрыпам, і на іх усе сем'і сядзяць разам. Маладыя жанчыны, старэнькія бабулі і дзятва з льнянымі чупрынамі, а спераду бокам, ляніва трымаючы лейцы, — самі гаспадары. Малыя, каржакаватыя, але моцныя конікі бягуць у чарзе адзін за адным. Спусцелыя вёскі чакаюць вяртання пілігрымаў, якія прынясуць з сабою са святога месца трохі святасці. І яны ідуць спякотнымі дарогамі, перабіраючы зярняткі ружанцаў, напяваючы прадаўнія малітвы і злучаючы свае галасы са звонам жаваронкаў над мяжою і са стракатаннем палявых конікаў, і з сумным кракатаннем жабаў у прыдарожных ручаях, і з усім гэтым вялікім розгаласам абуджанай прыроды, што спявае Пану Богу гімн хвалы і радасці.

Едуць і ідуць здалёк. Ажно са святой Жмудзі, з-пад Шавеляў і Палангі, ажно з магілёўскіх раўнінаў, ажно з-пад Навагрудка і Слоніма, ажно нават з чарнігаўскіх наваколляў. Шматмоўны гэта натоўп.

І тыпы таксама разнастайныя. Пляскатыя, шырокія твары ліцвінак з яснымі вачыма і бялявымі валасамі; загарэлыя, нібы чырвонае дрэва, мужчынскія галовы, што панура глядзяць, сціснуўшы вусны, заўзятыя і паважныя; дабрадушныя фізіяноміі заўсёды галодных навагрудцаў — знясіленых і жаласлівых; і гарадскія тыпы: старадаўнія шапкі з брылямі над сумным абвіслым вусам, і мястэчковыя капоты і венгеркі, і ўпрыгожаныя кветкамі чапцы, і вясковыя самаробкі; сівыя світкі і жмудскія карычневыя адзежы, клятчастыя спадніцы і вялікія белыя хусткі, і шэрыя балахоны з чорнымі зубчатымі нашыўкамі, і густа сабраныя ў поясе рускія сярмягі.

Імкнуцца да святых мясцін пехатою ці на возе, напакаваным запасамі і сенам, альбо, нарэшце — «пасля машыны [цягніка]» да Вільні. А думкі ва ўсіх скіраваныя да гэтай Кальварыі, якая свеціцца на самым высокім у наваколлі пагорку, умольна ўзносячы плечы сваіх вежак, бачная з усіх бакоў, па-над вянцом лясоў, стройная і чароўная на блакіце нябёсаў. Да яе з неадольнай сілаю звяртаецца позірк.

Дарогу з Вільні да Кальварыі пазначаюць мураваныя калоны з фігураю Езуса, які нясе крыж. Езус павернуты тварам да гары, на якой Ён павінен быць укрыжаваны. Такім чынам, Ён сам паказвае дарогу набожнаму люду, Ён суправаджае яго ад самага пачатку ў гэтай пілігрымцы. Першая з фігураў, што стаіць на пагорку, каля Зялёнага мосту, славіцца цудамі і вядомая пад назваю Пана Езуса Сніпіскага. Другая — на канцы прадмесця Сніпішкі, акружаная сёння збудаваннямі і амаль нябачная з дарогі. Трэцяя, што знаходзілася некалі ў маёнтку Балтупе, зараз дашчэнту зруйнаваная.

Галоўным Кальварыйскім святам з'яўляюцца дні Зялёных свят. На іх найбольш збіраюцца натоўпы сялянаў, хоць тэрмін пілігрымак не акрэслены дакладна, і працягваюцца яны амаль што ўсю вясну. Святочны панядзелак лічыцца прывілеяваным днём для жыхароў Вільні. Тады сыходзіцца «чысцейшы народ», як гавораць праваднікі, якія самі, належачы да класу тых, хто носіць сурдуты, глядзяць на вясковую грамаду пагардлівым вокам. Аднак той «чысцейшы народ» паводзіць сябе, на думку дасведчаных людзей, непараўнальна горш за сваіх вясковых братоў, ператвараючы набажэнства ў маёўку і часта вяртаючыся ў горад у стане моцнай, але зусім не набожнай узнёсласці.

Літоўскі селянін, наадварот, лічыць гэтую пілігрымку чыста рэлігійным актам і адбывае яе ў абсалютнай засяроджанасці і з вялікім ушанаваннем. Калі для некаторых, асабліва для маладзейшых, гэтае падарожжа ў шматлікім таварыстве суседзяў і родных праз новыя мясціны і сярод новых уражанняў — прыемнасць і забава, то ўласцівая

літоўскай душы суровасць супраціўляецца кожнай праяве весялосці і асуджае розныя, нават нявінныя выбрыкі. Калі па дарозе, падчас адпачынкаў і прыпынкаў на ўскрайку лесу, над ручаём ці пры студні, выбухне то тут, то там смех ці нейкі двухсэнсоўны жарт сарвецца з чыіх-небудзь вуснаў, то хутка і замаўкае сярод урачыстага настрою, што пануе тут. Паліцыя, якая конна аб’язджае дарогі падчас вялікіх зборышчаў і пільна назірае за ўсім пад касцёлам каля расстаўленых крамаў, наогул не мае ніякае работы. Узорны парадак падтрымліваецца сілаю вялікай набожнасці і ўзнёсласцю духу, якімі ахоплены гэтыя тлумы людзей.




Бо для простай, наіўнай веруючай душы народа няма тут ніякага сумнення, ніякага вагання. Абыходзячы алтары, перад якімі затрымліваецца працэсія ў часе набажэнства Крыжовай дарогі, ён выразна, амаль дакладна бачыць у сваім уяўленні гэтыя пакуты Хрыстовыя і цвёрда пераканаены, што яны адбываліся менавіта тут, ва ўсіх падрабязнасцях, пра якія яму праваднік чытае з кніжкі, — пранікае і ўжываецца ў іх, цалкам напаўняецца імі, нібыта ён і сапраўды бачыў іх сваімі вачыма. Рэальны свет усё мацней аддаляецца ад яго — адсоўваецца і знікае, і адразу свет містычны, духоўны, незямны, свет ахвяры і самаахвярнасці, свет надзеі, любові, захаплення напаўняе яго, падхоплівае, уздымае… З перамяшаных галасоў, са стогнучага ад спеваў лесу, з шэлесту старонак пацераў, з шуму соснаў, з жабрачых просьбаў, з абразоў на сценах капліцаў, са спякотных дарогаў, з уласнае стомленасці нараджаецца галюцынацыя — сумная і шчаслівая. Нібыта пагружаныя ў паўсон, адурманеныя, паўпрытомныя, залітыя потам, з засмяглымі вуснамі, заканчваюць пілігрымы абыход балючых дарогаў. А калі, нарэшце, пасядуць на траве, каб адпачыць і падсілкавацца, то хоць ужо і дазволена гаварыць, амаль ніхто не ў стане вымавіць ні слова. І далей працягваецца паважнае маўчанне, напалову экстатычная вычарпанасць. Бо не абы-якія сілы патрабуюцца, каб здзейсніць пілігрымку згодна з асвечаным у сялянаў звычаем. Пасля адбыцця зраніцы споведзі і праслухоўвання Імшы яны тройчы абыходзяць трыццаць пяць стацый, прысвячаючы гэтаму цэлы дзень, а здараецца, і да позняе ночы.

Ёсць сярод гэтых людзей, і менавіта сярод іх, такія, хто прыбываюць сюды штогод. Яны ведаюць усе прыдарожныя мястэчкі, вёскі, заезныя дамы і двары. Ведаюць таксама віленскія касцёлы, ксяндзоў і міласэрных асобаў, у якіх можна падмацавацца, адпачыць, а часам нават і ноч правесці. Яны перш за ўсё ведаюць, дзе што трэба заспяваць, дзе якія пацеры згаварыць, калі ўкленчыць, калі ўстаць. Яны — сапраўдныя майстры цырымоніі і адначасова кіраўнікі свайго гурту. Пад крыло гэтых дасведчаных асобаў горнуцца іншыя, паслухмяныя навічкі, якія аддаюцца іх апякунству.

Дзеля большае набожнасці ідуць часта «кальварыйцы» жабраваць хлеб. І няма выпадку, каб ім хто-небудзь пашкадаваў гэтага хлеба. Усюды іх гасцінна прымаюць, сардэчна вітаюць, сялянскія хаты шырока расчыняюцца перад імі як перад дарагім і святым госцем. Таму, выходзячы з дому, яны ў торбы свае кладуць толькі кавалак хлеба, а калі маюць пры сабе нейкую капейчыну, дык на ахвяру ў касцёл ці на тое, каб купіць медальёнікі, якімі абвешваюць свае ружанцы. Ім сам Бог дапамагае.

Памерці падчас пілігрымкі на Кальварыю і быць там пахаваным — гэта вялікая ласка Божая. Лежачы ў святой зямлі побач з Езусавай магілаю і за душу можна быць спакойным, бо штогод з вуснаў шматтысячнага люду льецца «Анёл Панскі» за тых, чые целы тут пахаваныя. Таму нават вельмі хворыя не адмаўляюцца ад такога цяжкога падарожжа, і нярэдка воз, высланы саломаю, вязе пакутнікаў, знясіленых, амаль мёртвыя целы.

Назваць дакладную колькасць тых пілігрымаў, якія прыбываюць штогод, немагчыма. Ніколі ніякая статыстыка тут не праводзілася. Пры гэтым трохразовае абыходжанне стацый амаль кожнай групай відавочна павялічвае іх колькасць. Неаспрэчны факт, што на працягу шасці тыдняў пяць-шэсць ксяндзоў, кожны год прысыланых на гэты час з Вільні, штодзённа спавядаюць каля тысячы чалавек. А колькі з іх з’яўляюцца пасля адбытай ужо ў Вільні споведзі! Таму нельга дапусціць больш нізкай лічбы, чым 50-60 тысяч кожны год падчас вясновай урачыстасці. А можа нават і гэтая лічба не адпавядае сапраўднай.

І так мінаюць гады і стагоддзі. Вакол змяняецца свет, праходзяць суровыя буры і навальніцы, шмат велічных гмахаў паволі ператвараецца ў руіны, шмат іскраў гасне, пакаленні адно за адным сыходзяць у магілы.

Але на вяршынях Веркаў, як бессмяротны сімвал, стаіць Кальварыя.

Стаіць, знікаючы ў небе сваёю вяршыняю, намоленая тысяччу галасоў, намоленая і асвечаная, і высока трымае свой сімвал — крыж збаўлення. А збаўлення гэтага прагнуць усе, і пад сімвалам гэтым аб'ядноўваюцца.

Таму штогод, калі сонца заблішчыць над краем, зноў вяртаецца веснавая хваля пілігрымаў, якая разрастаецца і імкнецца сюды, каб абмыць падножжа віленскай Кальварыі слязьмі пакуты і скласці пад крыжам свой невымерны цяжар.

Штогод з адраджэннем вясны адраджаецца ў сэрцах прыгнечаных, пакрытых земляным пылам людзей туга па нечым найвышэйшым, найпрыгажэйшым, нябесным; разломваецца абруч рэчаіснасці і нядолі, які скоўвае іх, — распірае душу імкненне да бясконцасці.

З бяздоннай глыбіні нязведаных таямніцаў чалавечае істоты паўстае разуменне яе Боскага пачатку — яе несмяротнага існавання…

І ідуць натоўпы людзей да Таго, Хто сказаў: «Я — уваскрасенне і жыццё. Хто верыць у Мяне, калі нават і памрэ, будзе жыць» (Ян 11, 25).

## II.
## У Вячэрніку

Езус з Апосталамі сеў за апошнюю бяседу — за развітальную вячэру перад смерцю. Яго чалавечае сэрца дрыжыць, душа Яго патанае ў смутку, а ў хвіліну растання вучні, з якімі тры гады Ён таптаў юдэйскую зямлю, гэтыя абраннікі з тысячаў, гэтыя, якім сваю справу даверыў, здаюцца Яму найбольш дарагімі і блізкімі. І Ён хоча з імі застацца, хоча быць заўсёды з імі! Разломвае хлеб, дае піць з келіха. «Гэта Цела Маё. Гэта Кроў Мая. Гэта чыніце на Маю памяць».

А вакол шумяць сосны, і яліны апускаюць да зямлі свае жалобныя галіны, і асіны дрыжаць дробнымі лісткамі пад нейкім містычным павевам, які пралятае праз лес…

«Задумаемся сёння, верныя хрысціяне…» — прамаўляе грубы голас з-пад светлых, як лён, валасоў.

«Як Пан Езус цярпеў за нас свае раны! — цягнуць далей шматлікія галасы. — Ад часу, калі быў схоплены, не меў спачыну ажно да скanання»…

І ўзлятае пад вершаліны хвояў песня.

Рухаемся. На чале ідзе праваднік з кніжкаю. Не патрэбна яна яму, бо ён на памяць «усё ведае, як трэба, але дзеля таго, каб усё было больш салідна». Пры сабе з вялікай значнасцю нясе падвешаную на парасоне чырвоную хустку нейкі старац. Кожная група мае такі свой знак, пад які збіраюцца разам, — гэта замяняе даўнейшыя штандары. Жанчыны, ціснучыся вакол, цягнуць за сабою і дзяцей. Босыя, у клятчастых спадніцах, у сярмягах і з палатнянымі мяхамі за плячыма. Многія з іх нясуць перавешаныя цераз плечы чаравікі, падвязаную ля торбы бляшанку на адну кварту ці гаршчочак на ваду, а часам і немаўля ў пялюшках. Ідуць усе з непакрытымі галовамі, і сонца праз дрэвы кладзе свой залаты бляск то на іх бялявыя валасы, то на голыя чарапы, на апаленыя твары — паважныя і строгія, на іх ілбы, узараныя барознамі.

Спяваюць амаль усе. На фоне грубых мужчынскіх галасоў вырываюцца яскравымі тонамі жаночыя сапрана. Часта фальшывяць. Аднак спеў плыве па лесе, нібы шырокакрылы птах па-над імхамі і папараццю, па-над кустамі ляшчыны, б'ецца аб чырвоныя ствалы сосная, патрасае карункавыя бярозкі — і ляціць… ляціць удалячынь. «*Naprzód w Ogrójcu wziął pocałowanie. Tam Judasz zdrajca dał był Żydom znamię. Oto, żydowie, mego mistrza macie, Tego ż imajcie…*»

Вочы звяртаюцца да неба, твары робяцца больш сур'ёзнымі. На грудзях асядае цяжар, бо ідзём мы за Ім, Ягонымі слядамі. А Ён ідзе з Вячэрніка ў Аліўны сад, а там Яго чакае пакута. Так ідзе Ён выразна папераду нас тою пясчанаю і камяністаю дарогаю ўніз да ракі, пад таямнічым ценем вялікіх ялінаў. Ідзе ў атачэнні сваіх вучняў, якія зараз адыдуць ад Яго, якія зараз адракуцца ад Яго…

«*Płaczmy też dzisiaj, wierni chrześcijanie, dziękując Panu za najdroższe rany…*»

## III.
## Аліўная гара

За Трынопалем, дзве невялічкія абрэзаныя і завершаныя купалка́мі вежачкі якога расказваюць пра даўнюю гісторыю, за мурамі саду, аблітая водамі Віліі, узносіцца Аліўная гара. Стаяць там пасярод дрэваў тры каплічкі. Мураваныя, з выбрукаванай падлогаю, намаляванымі на сценах абразамі.

У першай, ля падножжа гары, Езус прадказвае вучням сваю хуткую смерць, суцяшае іх і мацуе іх адвагу, і, пакінуўшы іх там, унізе, падымаецца вышэй і моліцца, кажучы: «„Ойча, калі Ты жадаеш, адхілі ад Мяне гэты келіх. Але не Мая воля, а Твая няхай станецца“. З'явіўся Яму анёл з неба, суцяшаючы Яго. І, моцна пакутуючы, Ён маліўся яшчэ больш. А пот Ягоны быў, быццам кроплі крыві, што падалі на зямлю» (Лк 22, 42–44).

І мы кленчым перад каплічкамі. Праваднік зычным загадным голасам, імкнучыся следаваць ксяндзу на амбоне, гаворыць казанне, затым малітву. Потым шэптам мы прамаўляем: «Ойча наш...» і «Вітай, Марыя...».

Устаём. Жанчыны і мужчыны ідуць па чарзе ў сярэдзіну каплічкі цалаваць на абразах Езусавы ступні, падымаюць да іх дзяцей, каб і яны пацалавалі. У грамадзе пануе маўчанне, ніякіх шэптаў, ніякіх заўвагаў. Нават дзеці не

адважваюцца ні пра што запытаць, ні ўсміхнуцца. Пад кожным з абразоў відаць стосы абаранкаў — ахвяра касцёлу.

Зноў узнікае песня і ляціць, ляціць па-над блакітнай Віліяй ажно туды, далёка на палі і сялянскія хаты. «*O, duszo wielka, nabożna, ku miłemu Bogu skłonna! Wejżyj na Syna Bożego, na Zbawiciela naszego!*»

З глыбіні лесу здалёк адгукаецца іншая песня — там ідзе і спявае іншая група. І ўвесь лес, і лугі, і палі, і блакітная Вілія плачуць разам з Езусам і дрыжаць перад блізкаю пакутаю, і кожнай набожнай душы робіцца трывожна і цяжка.

А там, унізе, ужо чакае подлы Юда з войскам і пацалункам выдае Пана. Сэрца скаланаецца ад гэтага ганебнага ўчынку, і думка адразу шукае спосабу пакараць здрадніка і адпомсціць за Пана. Такое не можа яму даравацца! Таму, перш чым ён сам павесіцца, самае меншае, што яму тут можна ўчыніць, — гэта на абразé выдрапаць яму вочы, а пасля яго — і тым жаўнерам-ка́там, якія служаць ліхой справе. Гэта прызначаная ім справядлівасць: усе яны маюць выбітыя вочы, што свецяцца на сцяне светлымі плямамі цэглы.

Але Езуса ўжо схапілі і павялі. Ідзём за Ім са сціснутым сэрцам. Ідзём за Ім цярністым шляхам, па краі поля, якое цешыць вока хвалямі засеянай збажыны. Павявае ветрык, і яшчэ зялёныя каласы нізка кланяюцца Яму да самых ног.

«О, душа! Якая ж ты дарагая, аплочаная вялікім мытам! Увесь скарб неба і зямлі Бог даў для цябе. Не прадавайся ж танна, дзеля грахоў, на ганьбаванне…»

**Кедрон**

У глыбокім яры, над якім, кідаючы жалобную пляму на блакіце неба, звісаюць яліны, плыве шпаркі ручай; бегучы па каменнях, ён штосьці мармыча і гаворыць, бліскае срэбранаю лускою і мігціць на сонцы. Гэта Кедрон — святая рэчка з жывою вадою, якая лечыць хваробы вачэй. Цераз яе кінуты масток. Але падобна да таго, як салдаты, што суправаджалі Хрыста, са збіццём і здзекамі скінулі Яго з моста ў раку і бязлітасна цягнулі, так і мы, адданыя Яму вернікі, не праходзім па мосце. Мы пойдзем долам, Яго слядамі, праз ваду, ступаючы па каменьчыках.



Ян Хруцкі. «Віленская Кальварыя» (палатно, алей, 1844–1849).
Нацыянальны музей у Варшаве.

Ля мосту стаіць касцельны служка ў белай комжы і падаé крыж для цалавання. Пры ім стаіць і паднос, на які складаюць медзякі ў ахвяру, а побач — кавалкі палатна і пасмы лёну, падобныя да дзявочых косаў. На касцёл!

Над Кедронам спевы сціхаюць. Вельмі цяжкая пераправа. Трэба сысці на дол па пакатым схіле, ступаючы, як па сходах, па старых карэннях. Потым пераход цераз ручай. Не адзін затрымліваецца ў вадзе, каб апаласнуць свае змучаныя ногі. Але голас праваднікá нагадвае: «Сораму не маеш! У святой вадзе вочы лечаць! А то, пагляньце! Ногі мые!» Няможна — трэба ісці далей.

А далей узвышаецца стромкая гара — высокая, пясчаная. А на яе, хто набожны, узыходзіць на каленях. Жанчыны прыўзнімаюць спадніцы, мужчыны закасваюць нагавіцы — і ідуць; у пыле ў спёку цягнуцца пад гару па пяску, што рассоўваецца з-пад каленяў, ранячы цела аб камяні і карэнні, раздзіраючы скуру, аблітыя потам, задыханыя, амаль што самлелыя. Цягнуцца паволі, абапіраючыся рукамі аб зямлю, цяжка дыхаючы, падобныя не на людзей, а хутчэй на паўзучых гадаў, з дзіўнымі і імклівымі рухамі, пнуцца доўгім ланцугом пад гару. Усе маўчаць, толькі цяжкія ўздыхі вырываюцца са змучаных грудзей, з напаўраскрытых вуснаў.

А ў адсутнасць спеваў адгукаюцца з абодвух бакоў дарогі заклíканні жабракоў, бо Кедрон — гэта іх прывілеяванае месца. Па ўсёй ваколіцы, пры ўсіх сцежках тырчаць яны, паўсюль параскіданыя. Але тут яны ўтвараюць непарыўны ланцуг. Тут збіраецца іх «смятанка», іх «цвет», іх арыстакратыя, знакамітыя і шанаваныя сярод сваіх старэйшынаў. Ёсць

тут сляпцы з белымі рыбінымі вачыма — пагаслымі і няўцямнымі; ёсць вялізныя галовы — апухлыя, чырвоныя, выпаленыя нейкімі жудаснымі хваробамі; ёсць твары, што па-ідыёцку смяюцца; ёсць вусны, што ўвесь час балбочуць; ёсць высахлыя часткі цела, пажоўклыя, нібыта сухія галіны, наўмысна паднятыя ўгору, як шыльда на краме, якая заклікае публіку; ёсць пасінелыя раны, што сцякаюць крывёю, абкручаныя белымі анучамі; ёсць дзіўна скрыўленыя целы, гарбы, гузы, плечы без рук, галёнкі без ступняў і счарнелыя шкілеты, што нерухома ляжаць пры дарозе, падобныя да трупаў; звярыныя кудлатыя морды — страшэнныя і дзікія. Ёсць нават маткі, якія кормяць немаўлятаў, — іронія мацярынства! Ёсць нават сямейныя пары — іронія кахання!

І гэты пачварны люд, закапаўшыся ў пясок, сядзіць пры дарозе, у цяньку, і кожны мае пры сабе сваю малую «гаспадарку», бо прыехалі надоўга і, можа, здалёк, і мусяць жыць зручна падчас кальварыйскай кампаніі, таму што праца цяжкая. І кожны мае разасланую на зямлі белую сурвэту для збірання кінутых яму абаранкаў і хлеба, місачку для грошай і некалькі кніжачак з песнямі. А на відным месцы — альбо крыжык, альбо фігурка нейкага святога. Часам такі няшчасны нават мае пры сабе вазок, у якім родныя прывозяць яго з раніцы на месца яго стаяння, а ў вазку — цяплейшая адзежа і торба з хлебам і салам, і пляшка гарэлкі, і нават падушка, калі захоча спаць. Пакуль нікога няма, жабракі сядзяць ціха: то дрэмлюць, то, папіваючы з пляшкі, заядаюць хлебам і кашаю, то сварацца між сабою. Але, калі набліжаюцца пілігрымы, усе кідаюцца да кніжак ці да ружанцаў, і гэтыя агідныя вусны — апухлыя, сінія, хворыя на рак вусны, звыклыя да цынічнага смеху і брудных словаў, пачынаюць славіць Пана Бога. І гэтыя аслеплыя вочы — пачырванелыя, загноеныя і бессаромныя, узнімаюцца да неба, і гучаць надламаныя і прапітыя галасы, выводзячы малітву: «Маці Найчысцейшая, маліся за нас! Маці Беззаганная, маліся за нас!»

І ад усёй гэтай пачварнай зграі ідзе смурод гнілізны, бруду, хваробы, распусты, агідных учынкаў, бесчалавечных злачынстваў, а тыя рукі, з абодвух бакоў дарогі працягнутыя па міласціну, як кіпцюры драпежных птушак; і выглядаюць яны, нібы пякельныя здані — плюгавыя і злавесныя, як увасабленне брыдоты, зла і ўсялякае бяды.

Але паколькі яны з'яўляюцца інструментамі для прамаўлення пацераў; паколькі, выстаўленыя сваімі калецтвамі, яны ўмеюць узрушыць сэрцы пілігрымаў; паколькі яны голасна заклікаюць да міласэрнасці і літасці і абяцаюць маліцца за дабрадзеяў, то ў выніку ўсяго гэтага грошы сыплюцца ў міскі, — і добра ім робіцца: «Дасі, то хоць маліцца будзе за цябе, — кажуць. — П'яніцы то яны, п'яніцы, грэх сказаць. Але заўсёды-такі жабраку даць трэба». І вераць, што гэтыя дакучлівыя галасы трапляюць да трона Божага. І самі, рухаючыся на каленях пад крутую гару, у пяску і пыле, цешацца, чуючы за сабою заклікі да нябёсаў: «Каралева анёлаў, маліся за нас! Каралева патрыярхаў, маліся за нас!..»

**Ад Анны да Каяфы. Ад Пілата да Ірада**

На гары паважна шуміць лес. Шырокая дарога перад намі, цяністая і халодная. Пасля цяжкага яру Кедрона, напоўненага агіднымі прывідамі, дзікіх крыкаў і дакучлівых воклічаў, пасля цяжкой пясчанай і крутой дарогі мы прыпадаем на калені з адчуваннем палёгкі. Тут ціха, спакойна. Пачвары зніклі, толькі сосны калышуцца над галовамі. І ўзносіцца голас праваднiка: «О цярплівы Езус, які праз уваходную браму са здзекамі ад няўдзячных праведзены быў…»

Перад намі драўляная брама, утвораная з трох арак. З абодвух бакоў сярэдняга ўваходу вісяць, аздобленыя ўторкнутымі зялёнымі галінкамі, маленькія крыжыкі. Праходзячы, сялянкі набожна іх цалуюць. А праходзіць трэба толькі пасярэдзіне, бо гэтым шляхам вялі Пана Езуса. І мы ідзём Яго слядамі.

За Ім таксама ідзём праз Сіёнскую браму і ўваходзім у Ерузалем, у няўдзячны горад, і спыняемся перад [першасвятаром] Аннам. Там бязбожны жаўнер падымае руку на Пана.

«*Jezus, ciężki policzek wziąwszy od Malchusa,*
*Choć cierpliwy, łagodny, rzekł: "Za co Mię katujesz?"*
*Bierz stąd przestrogę, że gdy bliźnich policzkujesz,*
*W osobach ich katujesz Jezusa*»[1].

Ад Анны да Каяфы 330 крокаў. І зноў пытанні, зноў абразлівыя словы, кінутыя ў твар Узлюбленага, зноў блюзнерствы і знявагі…

Аж нарэшце перапынак, і Езуса замыкаюць у цямніцы. Спускаемся і мы ў тую падземную каплічку, дзе Яго статуя стаіць у паўзмроку. Стаіць Ён — ужо змучаны перанесенымі пакутамі і рыхтуецца да далейшых пакутаў. Адзінокі, усімі пакінуты, са звязанымі рукамі, з бясконцым болем у душы.

Але сёння, Езус наймілейшы, Ты ўжо не пакінуты. Мы, адданыя вернікі, акружаем Цябе ўсёю грамадою, абыходзім на каленях Тваю фігуру і цалуем Твае ступні. І ў місачку, што стаіць тут, побач, мы кідаем медзякі на Касцёл Твой і ўскладаем Табе ў ахвяру тонкае палатно і светлае льняное пляценне…

І ідзём зноў за Ім праз розныя брамы, праз Сіёнскую і Жалезную, у Стары і Новы горад, ад Каяфы да Пілата тысячу крокаў, а ад Пілата да Ірада — 350, і зноў да Пілата 600 локцяў.

Прыходзім пад раскошную ярусную ратушу, адкуль па-

лахлівы Пілат паказвае габрэям бічаванага, у цярновай кароне на галаве Езуса, кажучы: «Ecce Homo!» («Вось чалавек!») І нам здаецца, што мы бачым гэты збалелы, скрываўлены твар, які нахіліўся да нас з верхняе каплічкі і пазірае на нас, не зважаючы на пакуты, заўсёды добрымі, поўнымі любові вачыма. Мы б Цябе не выдалі на смерць, наймілейшы Езус!

Але тлум жыдоўскі крычыць там, за намі: «Укрыжуй Яго! Укрыжуй!» І Пілат згаджаецца, подлы баязлівец.

І зноў узнікае песня і ляціць пад шум соснаў: «*Kto się w opiekę podda Panu swemu, a całym sercem szczerze ufa Jemu…*»

Твары робяцца ўсё больш засяроджанымі, вочы ўзнімаюцца толькі да абразоў у каплічках. Пануе маўчанне і нейкі дзіўны спалох перад вялікаю таямніцаю… І ўсё бліжэйшым робіцца нам Ён, усё цясней яднаемся мы з Ім, усё выразней адчуваем Яго прысутнасць.

І па лясных дарогах ідзём з засмучанымі сэрцамі…

А лес увесь час мармыча свае ўрачыстыя пацеры. Пахнуць зёлкі, цвітуць кветкі, і жывіца залатымі кроплямі сплывае па сасновай кары. І птушкі цвіркаюць дзесьці высока па галінах, і мушкі віруюць у праменнях сонца, трапечуцца вялікія белыя матылі. І струмень ляпеча ў глыбіні катлавіны, і Вілія дзе-нідзе выблісквае блакітным тварам праз яліны. І ўсё навокал патыхае вясною, святлом, цяплом і весялосцю.

Але немагчыма разам з лесам, з кветкамі радавацца нам — Яго адданым вернікам, бо ідзём за Ім на пакуту… на Кальварыю…

**Пад крыжам**

«Як воўк ягня,
Пана ка́ты схапілі,
І крыж — зброю пакуты
на яго ўзвалілі».

І вось ужо наш Наймілейшы, абцяжараны крыжам, ступае на



Адам Мэндзіблоцкі. «Віленская Кальварыя» (акварэль, 1927).
Літоўскі мастацкі музей.

шлях пакуты і ідзе на смерць.

Але як толькі Ён прайшоў 80 крокаў, ужо ўпаў пад крыжам.

У адчыненай з трох бакоў каплічцы спачывае Яго фігура, апранутая ў чырвоныя шаты, прыгнутая цяжарам вялікага крыжа. Тут зноў складаюць ахвяры — палотны і лён, хусткі і абаранкі. Абаранкаў асабліва шмат; параскіданыя, яны залацяцца, як каменьчыкі, і ўтвараюць нібыта пасцель для фігуры, што ляжыць. Кожны павінен пакласці тут некалькі грошаў; трэба хоць такім чынам выкупіць свае грахі, трэба пакласці за іх сваю даніну. Бо што паваліла Пана на зямлю, як не нашы ліхія ўчынкі? Пад іх цяжарам Ён па́дае, яны Яго прыгнятаюць больш, чым гэты крыж, які Ён мусіць несці.

«Мала з першага месца
адышоў Езус мілы,
Пад цяжарам крыжа
на зямлю упаў.
Хочаш ведаць
з якой прычыны?
Вера адказвае,
Што Яго тваё цяжкія грахі
кінулі на зямлю».

Аднак, хоць за нас Ён пакутуе, хоць за нашыя правіны Ён ляжыць ледзьве жывы, не маючы сілы паварушыцца, Ён такі добры, што на тым самым месцы пасылае нам дабрадзействы і дары; і гэты самы крыж, які Яго прыгнятае, — цудадзейны сродак ад розных хваробаў і надзейнае лякарства ад зубнога болю. Таму абавязкова трэба забяспечыць сябе ім, настругаць сабе крыху гэтага цудадзейнага дрэва і забраць з сабою дадому.

І не адзін застаецца ззаду ад групы і хуценька наразае кавалкі цудадзейнага дрэва. З ласкі Пана Езуса будзе паратунак у хваробе!

Ад першага месца, дзе Ён упаў, да месца, дзе Найсвяцейшая Маці са святым Янам перайшла дарогу, 60 крокаў.

Тут дзяўчаты ў знак жалю расплятаюць сабе валасы. Гэтак робяць спрадвеку ў вёсках падчас пахаванняў любімых асобаў. Вось і тут таксама…

Зрэшты, кажуць, што гэтым яны хочуць рабіць тое, што рабіла святая Магдалена.

Стацыя тут стаіць на ўскрайку лесу. Далей раскінулася вялікая жытнёвая ніва, а за ёю цямне-

юць ліпы пры ксяндзовым садзе і высока ў неба скіраваныя вежы Кальварыі. І вядзе да яе перарэзаная карэннямі соснаў вузкая сцежка, зарослая палявымі кветкамі, у якіх стракочуць конікі. Тут блакітна і сонечна.

Са сцяны капліцы глядзяць на нас спакутаваныя вочы Езуса і скрыўлены ад болю твар Яго Маці.

«О, калі гэты абраз
не ўзрушыць цябе да жалю,
Значыць, ты, чалавеча,
маеш каменнае сэрца!»

Не, у нас сэрцы не каменныя! З многіх вачэй пачынаюць цячы слёзы, сэрцы смуткуюць і баляць разам са Святою Паннаю, і кожны раз узнікае ўсё больш жаласлівая песня, падобная да стогну:

«О, якая маркотная і засмучаная гэтая благаслаўлёная Маці Сына Адзінароднага, якая плакала і рыдала, і ад жалю дрыжала, калі бачыла пакуты Сына мілага…»

Ідзём. Усё цяжэй Езусу несці свой крыж — і ў нас таксама ўсё цяжэй на душы. Ужо не радуюць нас ні блакітнае неба над намі, ні каласы, што нахіляюцца да нашых ступнёў, ні духмяныя кветкі на межах… Нас ахоплівае трывога… Вось неўзабаве здзейсніцца ахвяра, вось ужо стаіць перад намі Кальварыя. Набліжаемся да яе…

Як жа цяжка Езусу пад гэтым крыжам!

Тут жа Вераніка[2] заступае дарогу і, перапоўненая літасцю, выцірае Яму твар хусткаю.

«Вераніка выцірае кроў
з твара Езуса,
А Езус узаемна дарыць ёй
свой абраз.
Рабі дабро для бедных,
як Яго браты,
Ён табе ў небе ўзіраннем
у свой твар адплаціць».

Узіраннем у свой твар… І ўжо праз хвіліну нам здаецца, што мы знаходзімся ў небе і ўзіраемся ў той салодкі твар, а вакол спяваюць анёлы, праходзяць святыя па прамяністых палях, квітнеюць ружы, пахнуць кветкі, калышуцца белыя і залатыя хмаркі, і ахоплівае нас спакой…

Але не, яшчэ мы не ў небе. Езуса чакае смерць на крыжы, а нас — доўгая і цяжкая жыццёвая вандроўка, кальварыйскі Крыжовы шлях.

Трэба ўстаць і ісці.

Адсюль, ажно да Судовае брамы, праз якую злачынцаў вялі на смерць, 366 крокаў. Тут Пан Езус упаў другі раз.

«Упаў Езус наймілейшы
пры выхадзе з Сіёна.
Задумайся, хрысціянін, калі
станеш перад брамамі смерці —
Што з табою будзе дзеяцца
падчас твайго канання?
Ах, калі там упадзеш,
то болей не ўстанеш».

**На Кальварыю**

Стаіць перад намі высокая гара, на якую вядуць акружаныя мурам каменныя сходы. З абодвух бакоў старыя ліпы схіляюцца над нашымі галовамі. Тут цяніста і духмяна. Сонца прадзіраецца промнямі праз галіны і сее залатыя стрэлы тут і там на замшэлыя камяні. Тут пануе прахалода і зеленаваты мігатлівы паўцень. Мухі круцяцца на сонцы, і раі пчолаў гудуць у лістоце.

Высокая гара стаіць перад намі, а на яе вяршыні, у глыбіні касцёла, гарыць лампада перад алтаром і свеціць нам, як зорка ў паходзе. Туды, да яе, імкнемся. Там — мэта нашае вандроўкі.

Але да таго ўкленчваем яшчэ перад трыма каплічкамі. Спачатку — ля жанчынаў, што плачуць. «Ішло за Ім вялікае мноства людзей і жанчын, якія плакалі і галасілі па Ім. А Езус абярнуўся да іх і сказаў: „Дочкі ерузалемскія, не плачце па Мне, а плачце па сабе і па дзецях вашых, бо вось надыходзяць дні, калі скажуць: „Шчаслівыя бясплодныя і ўлонні, якія не радзілі, і грудзі, якія не кармілі!“ Тады пачнуць казаць гарам: „Упадзіце на нас!“ і пагоркам: „Накрыйце нас!“» (Лк 23, 27–30).

О Езус! Якія ж праўдзівыя Твае словы! І ці не надышлі ўжо гэтыя дні? Ці не над сабою і не над нашымі сынамі мы плачам, раняючы тут слёзы перад Тваім абразом? І ці не шчаслівейшыя тыя, чые ўлонні не нарадзілі і чые грудзі не кармілі, і сэрца якіх не трывожыцца і не дрыжыць па тых, якіх на свет нарадзілі! Бо іх нарадзілі ў болю і гадавалі ў клопатах, але не на шчасце і не на радасць, не на пацеху нашых дзён у старасці, а на цяжкую працу, на крывавыя слёзы, на спакусы і на барацьбу, а можа, і на вечнае знішчэнне.

Дык ці не пара сказаць гарам: «Упадзіце на нас!», а пагоркам: «Накрыйце нас!..»

І скараюцца жанчыны перад аблíччам Езуса, пáдаючы тварам перад Яго абразом, а расплеценыя валасы рассыпаюцца па каменнях.

«Плачце па сабе і па дзецях вашых!» І тут распачынаюцца стогны і жальбы, і горача плачуць жанчыны, трымаючы ў абдымках дзяцей.

«Потым ішоў Пан Езус 161 крок і тут, пад самаю гарою, трэці раз упаў, — голасна чытае праваднік. — Зрабіў Пан Езус да гары яшчэ 18 крокаў, дзе з Яго сарвалі адзежы».

І тут, і там укленчваем перад абразамі ў каплічках.

Канец пілігрымкі ўжо блізкі. Ужо светлы і высокі касцёл узносіцца побач перад намі. Ужо толькі некалькі прыступак аддзяляюць ад мэты — ад укрыжаванага Хрыста. Але мы яшчэ не ўваходзім у касцёл. Яшчэ збоку, крокаў за 12, укленчваем перад абразом на месцы, дзе Хрыста прыбівалі да крыжа. Твары бялеюць, расшыраныя зрэнкі з жахам глядзяць на гэтыя страшныя пакуты. Запаноўвае цішыня… І нават праваднік паніжае голас, губляе ўпэўненасць у сабе, і ўжо толькі шэпча словы казання.

«*Per crucem ad lucem*», — напі-

сана над дзвярыма касцёла.

Уваходзім. У алтары вялікі крыж і распяты на ім Хрыстус. Вакол укленчаныя натоўпы вернікаў. Ціха. За вокнамі пад дахам касцёла трапечуцца ластаўкі і шчабечуць вераб'і, але тут, усярэдзіне, — цішыня.

Цішыня настолькі вялікая, што чуваць, як па́даюць зярнеткі ружанцаў і як уздыхаюць людскія грудзі.

Ён памірае на крыжы, памірае за нас. Раскрыў шырока рукі і хацеў бы ўзяць у іх увесь свет і прыціснуць да грудзей. На высокай Кальварыі стаіць крыж Яго, як штандар. З журботнага свайго трону Ён пануе і з'яўляецца Панам гэтых палёў і гэтых цёмных лясоў, і гэтай блакітнай Віліі, і гэтых сялянскіх хат, і гэтых людскіх душаў, якія цяпер сцелюцца да яго ног, самлелыя ад жалю, сплаканыя і ўлюбёныя, ахопленыя гэтым містычным токам, што ідзе ад Яго, — бязвольныя перад Яго аблічам.

Ціха ў касцёле. Перад алтаром міргае лампада — праз вокны падаюць водбліскі сонца, а Яго балюча распятая белая постаць свеціцца высока над галовамі, памірае на крыжы.

Праз шэры сялянскі тлум прабягаюць дрыжыкі... Угінаюцца плечы, схіляюцца галовы, вочы пакрывае імгла. Грубая зямная абалонка спадае, растае́, знікае... Штодзённыя клопаты і турботы кудысьці адыходзяць і знікаюць, увесь свет засланяецца нейкім дзіўным змрокам, па́дае ў нейкую бяздонную глыбіню — чалавек сам расцякаецца ў нейкім бязмежным моры... А застаюцца толькі чыстыя душы, неабыякавыя, знуджаныя і веруючыя, і ствараюць асвятляльны вянок вакол Укрыжаванага...

**Каля грабніцы**

Памёр Пан Езус на сваім ганебным крыжы... Яго цела бязвольна абвісла, галава схілілася на плячо.

Яго трэба асцярожна зняць, захінуць у белы саван, нацерці духмянымі алеямі і занесці адсюль далей, у магільную капліцу, дзе Ён спачне ажно да дня Уваскрасення.

І ляжыць Езус у каплічцы, пакрыты белым саванам і абкладзены ахвярным палатном і светлымі пасмамі найтанчэйшага лёну, і мноствам абаранкаў, і нават дзявочымі шлюбнымі вянкамі, якія сюды Яму прыносяць маладыя замужніцы. Ляжыць ціхі, мёртвы і чакае Уваскрасення.

Схіленыя над Ім два драўляныя анёлы плачуць і галосяць, узнімаючы далоні да твараў. Яны прыгожа ўбраныя ў яскрава размаляваныя шаты, у шнуры бліскучых пацерак, з зачасанымі валасамі. А на сценах — суровыя постаці рымскіх жаўнераў з выдрапанымі вачыма вартуюць цела Замучанага. Пільнуюць, каб Яго не выкралі вернікі, каб не паўстаў Ён з труны і не ўзнёсся ў славе на неба.

Забіты, замучаны. Няхай жа больш ніколі не зварухнецца, няхай ужо пасярод мёртвых не падымецца, няхай ужо не ведае пра Яго свет, і камень, які замыкае магілу, няхай парасце мохам забыцця. Няхай гэтае сэрца, якое білася, нібы жывое, застыне, няхай яно ператворыцца ў прах і сціхне навекі! Так павінна быць!

Жаўнеры пільнуюць. Як загадана! Стаяць узброеныя і суровыя, сочаць, каб не ўзнікла ніякіх непарадкаў, каб якія-небудзь старанныя вучні не ўчынілі бунтоў і бяспраўя.

І народ укленчвае перад памерлым Хрыстом і засяроджана схіляе галовы.

Памёр і ляжыць халодны, бледны і нерухомы, без слова на збялелых вуснах, без позірку у згаслых вачах.

І анёлы плачуць над Ім.

Але ці сапраўды памёр? І ўжо да нас не вернецца? І знікла, развеялася тое, што было святлом нашых вачэй, голасам нашых грудзей, уцехаю сэрцаў, святлом і любоўю — найсвяцейшым выразнікам нашай уласнай душы? Знікла назаўсёды...

Хіба і мы хочам заваліць магілу каменнем і даць ёй парасці мохам забыцця?

Не, не! Мы ведаем, што «Ён не памёр, а толькі спіць». Спіць моцным, каменным, магільным сном, нерухомы і мёртвы, на першы погляд — мёртвы настолькі, што можа ўвесці ў зман чуйнасць жаўнераў, якія пільнуюць Яго. Але там, унутры, стукае сэрца, віруе кроў, паветра напаўняе грудзі, сілы збіраюцца і растуць у чаканні гадзіны Уваскрасення.

І вось, злучаючыся з Яго ўнутраным жыццём, утоеным і ціхім, усё навокал таксама дрыжыць ад жадання і смутку. І з шуму лясных соснаў, і з шалясцення ліпаў, з птушынага шчабятання, з цурчання ракі, што няспынна плыве, з ветру, што лятае па палях, і з уздыхам людскіх грудзей, з гэтых раскрытых у малітве вуснаў і з гэтых узнятых да неба вачэй — ідзе вялікая ўмольная просьба: «Паўстань, паўстань, о Пане!»

І неўзабаве, калі праб'е Яго гадзіна, уцякуць злыя сілы, памлеюць перапалоханыя вартаўнікі, адваліцца магільнае века, і паўстане Ён у трыумфе і сіле, бо сказаў: «Я —уваскрасенне і жыццё. Хто верыць у Мяне, калі нават і памрэ, будзе жыць» (Ян 11, 25).

*Пераклад з польскай мовы*
*Уладзіміра Васілевіча.*
*Паводле: Emma Dmochowska*
*«Kalwarya pod Wilnem»,*
*Wilno, 1903.*

[1] Вершы аўтарства кс. Магнушэўскага, якія да гэтага часу захаваліся на сцяне.

[2] Адметны той факт, што калі на нядаўна адрэстаўраваным абразе намалявалі завушніцу ў вуху св. Веранікі, то адразу ж яго выдрапалі, напэўна, з адчування недарэчнасці свецкай аздобы для такой святой.

Андрэй Шпунт

# РУДАМІНЫ-ДУСЯЦКІЯ — СЛАЎНЫЯ СЫНЫ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ



Герб «Трубы».

Строгая абарончая готыка касцёла св. Яна Хрысціцеля ў Камаях грэе душу і радуе вока. Як пісаў наш археолаг, гісторык, медыявіст і грамадскі дзеяч на ніве беларускага адраджэння Міхась Ткачоў: «імя будаўніка-архітэктара невядома, але мяркуецца, што ім быў мясцовы майстра са сціплымі ведамі ў архітэктуры». Аднак будаўнік камайскага касцёла валодаў густам і пачуццём меры, што па сутнасці адно і тое ж, чаго немагчыма сказаць пра тых, «з ведамі», шматлікіх аўтараў сучасных архітэктурных «дасягненняў».

Там, у Камаях, на свята Божага Цела, аднойчы адчуў пад шатамі харугваў сярод старанна паголеных сялянаў, чырвоныя шыі якіх кантраставалі з беласнежнымі сарочкамі, быццам «Фальксваген», што давёз нас з Менска да сценаў касцёла, — не легенда германскага аўтапраму, а машына часу, бо і ў 1606 AD мы бачылі б тую ж карціну... Ці, можа, сцены касцёла з умураванымі ў іх ядрамі — гэта тая машына, што спрыяе падарожжам у часе? Ці то магло здацца ў юнацтве? Але здалося, як наяве...

Імя фундатара, пачутае мною ад бацькі, рэстаўратара Аркадзя Шпунта, суседнічала з годам лёсавызначальнай бітвы пад Хацінам — 1621-м, калі асаблiва вызначылася гусарская рота Яна Рудаміны-Дусяцкага. У той час, калі гісторыя Бацькаўшчыны толькі-толькі пачала вызваляцца ад бээсэсэраўскай ілжы і занядбання, няцяжка было і памыліцца не толькі майму бацьку, а нават Міхасю Ткачову. Пазней даведаўся, што калі ў 1603–1606 гг. ішло будаўніцтва святыні, будучы гусарскі ротмістр вучыўся ў Інгальштацкім універсітэце, а потым у Аўгсбургу, а яго бацька, таксама Ян Рудаміна-Дусяцкі, войскі браслаўскі і фундатар камайскага касцёла, памёр у ліпені таго ж 1621 г., калі яго сын рыхтаваўся сустрэць турак на мяжы Рэчы Паспалітай на правым беразе Днястра ля Хацінскага замка.

Лёгкае расчараванне ад таго, што фундатар і герой — розныя постаці, прайшло пасля знаёмства з іх жыццяпісамі (каго гэта цікавіць, могуць звярнуцца да гербоўнікаў Нясецкага, Уруската ці «Гістарычных помнікаў» Свенцкага), менавіта яны трапілі на старонкі «Польскага біяграфічнага слоўніка». Нездарма ў 1576 г. канцлер літоўскі Мікалай Радзівіл «Руды» далучыў да герба «Трубы» «слаўнага жаўнера» (паводле Нясецкага), віленскага купца і буйнога гандляра пушнінаю, старосту ўцянскага Мацея і яго сына — войскага браслаўскага Яна. Паводле рэкамендацыйнага ліста канцлера Ян Рудаміна ўдзельнічаў пад камандаваннем гетмана дворнага літоўскага Рамана Сангушкі ў вайне супраць Масквы, між іншым, у 1567 г. прымаў удзел у баях пад Сушай і ў пераможнай бітве пад Чашнікамі. Змагаўся таксама ў кампаніях Стэфана Баторыя пад Полацкам, Вялікімі Лукамі і Псковам у 1579–1581 гг.

Яны вылучаліся нават на тле іншых прадстаўнікоў гэтага выдатнага беларускага роду, гісторыя якога магла скончыцца не пачаўшыся, бо недзе перайшлі дарогу каралеве Боне, жанчыне з жалезнаю хваткаю. Магчыма, гэта адбылося ў выніку нейкіх гаспадарчых спрэчак, на тым «полі», на якім каралева ў барацьбе з магнатэрыяй і шляхтаю атрымлівала адну перамогу за другой, узмацняючы эканамічны фундамент улады караля і вялікага князя. На шчасце, праз некалькі гадоў пасля смерці мужа, Жыгімонта I Старога, Бона ад'ехала ў Італію (дарэчы, прыхапіўшы вялікія каштоўнасці). Цяпер Рудаміны (прозвішча якіх пайшло ад земляў у Рудамінскай валасці пад Вільняй, падараваных родапачынальніку купцу Андрэю Мікалаю вялікім князем Аляксандрам), маглі ўздыхнуць спакойна. Яны зноў расправілі плечы, пайшлі ўгару, набыўшы, між іншым, маёнтак Дусяты ў Вількамірскім павеце, да назвы

**Андрэй ШПУНТ** — гісторык, архівіст. Нарадзіўся ў 1969 годзе. Скончыў БДУ (1997). У 1989–1994 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі (аддзел старажытнабеларускага мастацтва). У 1996–1998 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (генеалагічныя даследаванні), у 1998–2000 гг. — вядучы спецыяліст Дзяржкамархіва (геральдыка і генеалогія), аўтар зацверджаных праектаў гербаў Маладзечна, Заслаўя, Крупак, Акцябрскага (Рудабелка), Белаазёрска, Івянца. Аўтар шэрагу навуковых і папулярных публікацый.



Бітва пад Хацінам. Юзаф Брандт. 1865 г.

якога далучылі сваё прозвішча, што, аднак, не перашкодзіла яшчэ ў 1595 г. прадстаўнікам літоўскай шляхты пратэставаць супраць надання аднаму з Рудамінаў-Дусяцкіх пасады гарадзенскага старосты менавіта на падставе таго, што «новая шляхта».

Фундатар камайскага касцёла — войскі браслаўскі Ян Рудаміна-Дусяцкі, сын віленскага купца і буйнога гандляра пушнінаю Мацея і ўнук родапачынальніка — віленскага радцы, купца Андрэя Мікалая, умела ператварыў купецкі капітал продкаў у зямельныя ўладанні, стаўшы стваральнікам вялікага комплексу родавых маёнткаў на паўночным захадзе Вялікага Княства на Віленшчыне, у Вількамірскім, Ашмянскім і Браслаўскім паветах — Дукшты, Крэўны, Дусяты, Камаі, Граўжышкі, Гняздзілавічы, Вальберавічы, фальварак Нябышын, Відзішкі, Дуды, Губішкі, Пятрова, Стрыгонішкі, Задубінская воласць, фальварак Мілотын і г.д., у тым ліку на Навагрдчыне і на Меншчыне. Пад канец жыцця валодаў дзясяткамі фальваркаў і некалькімі дзясяткамі вёсак, ужываючы на магнацкі манер пры прозвішчы «на Палонцы». І калі ў 1595 г. Рудамінаў-Дусяцкіх папракалі за тое, што яшчэ ўчора яны займаліся гандлем, то праз два гады гэты «недахоп» быў пераадолены, калі на грамнічным сойміку ў Вількаміры Ян Рудаміна-Дусяцкі на чале сваёй «групоўкі» выступіў супраць абрання нейкага з дэпутатаў на Літоўскі Трыбунал.

Шляхта, якая валодала землямі на паўночным захадзе Вялікага Княства, вылучалася асаблівай ахвярнасцю для Касцёла. Дастаткова прыгадаць святой памяці воіна і фундатара Юзафа Корсака. …Няма фундатараў, а косткі іх ці раскіданыя чужынцамі, ці няўдзячнымі, атупелымі ў сваім бяспамяцтве нашчадкамі, і толькі храмы стаяць непахіснымі цвярдынямі. Войскі браслаўскі па-гаспадарчаму забяспечыў функцыянаванне святыні. На ўтрыманне плябана з умоваю адпраўлення трох Імшаў штотыдзень прызначыў штогадовы чынш у памеры 75-ці злотых з двара і па 3 грошы з кожнай валокі ў Камайскай воласці, а таксама 2 вёскі (22 валокі і 17 сялянаў), вольнае карыстанне азёрамі, дом з участкам, валоку зямлі і 3 сялянаў для ўтрымання арганіста. Звыш гэтага пабудаваў філіяльны касцёл у Дукштах пад тытулам Узвышэння Св. Крыжа.

Імя фундатара і год яго смерці злучылі гісторыю камайскага касцёла з успамінам пра бітву пад Хацінам у 1621 годзе. Гэты ўспамін падмацоўвае абарончая канструкцыя святыні, а таксама ядры ад шведскіх гарматаў, умураваныя ў сцены ў сярэдзіне XVII ст. па загадзе другога сына фундатара — кашталяна смаленскага Пятра Рудаміны-Дусяцкага. Бітва пад Хацінам згадваецца ў айчынных энцыклапедыях, але акрамя згадак ды некаторых артыкулаў, больш нічога няма. Зразумелае бяспамяцтва. Зразумелае для тых, хто лічыць беларусаў забітым сялянскім насельніцтвам у штучным увасабленні фальклорных калектываў. Нашы браты па тагачаснай зброі — палякі, добра ўсведамляюць, якая пагроза для Рэчы Паспалітай была спынена ў тыя восеньскія дні аб'яднаным польска-літоўскім войскам вялікага гетмана літоўскага Яна Караля Хадкевіча і казакамі гетмана Пятра Сагайдачнага. Аб гэтым нагадвае надпіс на магіле невядомага жаўнера ў Варшаве, выбіты пасля падзення камуністычнага рэжыму: «CHOCIM 2 IX — 9 X 1621/10 — 11 XI 1673». Памяць аб падзеях замацоўвалася ў шматлікіх успамінах, публікацыях, манаграфіях. Маштаб адведзенай катастрофы ілюструюць намаганні Жыгімонта III Вазы ўстанавіць літургічную падзяку, якая цэлебруецца 10 кастрычніка.



Камайскі касцёл. Канец XIX ст.
Гравюра па замалёўцы Альфрэда Ромера.

Не будзем стамляць чытача ўсімі акалічнасцямі: каму цікава, той знойдзе шмат даступных інтэрнэт-рэсурсаў. Сцісла пазначым асноўныя вехі. Калі зазірнуць у Электронную энцыклапедыю «Вялікае Княства Літоўскае», у артыкул «Хацінская бітва 1621» Валерыя Пазднякова, даведаемся, што «вайну пачала Турцыя з мэтай захопу ўкраінскіх і польскіх зямель». Гэта канстатацыя факта, за якім хаваецца гісторыя даволі неблагіх адносінаў Рэчы Паспалітай з Турцыяй у XVI ст., якія пачалі псавацца па віне крымскіх татараў і ўкраінскіх казакаў, што перыядычна рабілі напады на суседнія тэрыторыі, не зважаючы на дзяржаўныя дамовы. Турэцкі султан Асман II — жорсткі, упарты і імпульсіўны падлетак, вырашыў пакласці канец казакам, якіх люта ненавідзеў, а заадно і Рэчы Паспалітай. У верасні-кастрычніку 1620 г. туркі пад Цацораю ўшчэнт разбілі польскае войска, у склад якога ўваходзілі ўкраінскія рэестравыя казакі. 29 красавіка наступнага года Асман II вырушыў з Канстанцінопаля на чале аграмаднага войска, каб завяршыць так удала пачатае.

Адносна колькасці бакоў усе крыніцы і публікацыі пацвярджаюць адно — турэцкае войска пераважала ў два-тры разы. На беразе Днястра, на дзяржаўнай мяжы, стаяла прыкладна 46–50 тыс. супраць 100–120. (В. Пазднякоў падае прыкладна 80 тыс. (каля 30 тыс. кароннае войска, каля 11 тыс. войска ВКЛ і каля 40 тыс. казакаў гетмана Пятра Сагайдачнага) супраць 210 тыс. туркаў і крымскіх татараў).

Наўрад ці бітва пад Хацінам уяўляе цікавасць з пункту гледжання ваеннага мастацтва, але як узор мужнасці і гераізму — бясспрэчна. Нашы войскі стаялі перад упартасцю і перавагаю вельмі небяспечнага праціўніка са слаўнымі баявымі традыцыямі. Безумоўна, мужнасці і гераізму дадавала асоба вялікага гетмана літоўскага Яна Караля Хадкевіча, які пакінуў Днестр за спінаю сваіх ваяроў, адрэзаўшы шляхі да адступлення. На працягу верасня-кастрычніка войска вытрымала шэраг моцных штурмаў, пакутавала ад голаду і хваробаў, але стаяла насмерць. Канешне, яно трымалася і на такіх камандзірах, як Ян Рудаміна-Дусяцкі, які прывёў з сабою гусарскую харугву (100 коней), набраную за свой кошт (яго імя неаднаразова сустракаецца ва ўспамінах удзельнікаў бітвы). 7 верасня ён удзельнічаў у знакамітай контратацы чатырох гусарскіх ротаў, узначаленай вялікім гетманам, тады ўжо вельмі хворым, на турэцкую цяжкую кавалерыю. Удар быў такі моцны, што туркі ў беспарадку адступілі, а гусарскія роты гналі іх ажно да самага лагеру. У Дусяцкага загінула 9 таварышаў, у тым ліку брат Юрый, гусарскі паручнік. Сам ротмістр пазбегнуў смерці коштам забітага пад сабою каня і ранення ў руку...

Відавочна, кароль меў рацыю прасіць аб устанаўленні ўспаміну, бо не інакш як Багародзіца прымусіла ворага павярнуць назад, калі абарона Рэчы Паспалітай абапіралася ўжо не на зброю, а на сілу духу…

…Камайскі касцёл і Хацінская бітва шчыльна пераплеценыя ў асобах двух Янаў. Нам застаецца толькі *pro memoria* даць кароткую біяграфічную даведку.

Ян Рудаміна-Дусяцкі герба «Трубы» (каля 1543–1621) — войскі браслаўскі (з 1600), фундатар камайскага касцёла св. Яна Хрысціцеля (1603–1606).

Удзельнік Інфлянцкай вайны 1558–1582. «Ва ўсіх экспедыцыях караля Стэфана Баторыя мужнасцю праславіўся» (паводле Нясецкага), «доблесны воін спурацьМасквы ў 1579–1581» (паводле Урускага) пад Полацкам, Вялікімі Лукамі і Псковам. Дэпутат Трыбунала ВКЛ (1602, 1605, 1615).

На смерць войскага браслаўскага адгукнуліся панегірыкамі і нікому не вядомы студэнт тэалогіі Віленскай акадэміі Міхал Баркоўскі, і класік польскай паэзіі Мацей Казімір Сарбеўскі.

Памёр 21 ліпеня 1621 г. і быў пахаваны 21 лютага 1622 г. разам з сынам Юрыем, загінуўшым у бітве пад Хацінам, у бэрнардынскім касцёле св. Францішка ў Вільні.

Ян Рудаміна-Дусяцкі герба

«Трубы» (1581–1646) — гусарскі ротмістр, кашталян навагрáдскі, «муж вялікай навукі» (паводле Нясецкага).

Студэнт Віленскай акадэміі (1595–1596), член студэнцкай Марыйнай кангрэгацыі.

Студэнт Інгальштацкага ўніверсітэта (1600–1604). (Універсітэт быў заснаваны ў 1472 г. кн. баварскім Людвігам Заможным, у адпаведнасці з фундацыйнай булаю ад 1459 г., выдадзенай Апостальскай Сталіцай. Наступ Рэфармацыі зменшыў колькасць студэнтаў, але дзякуючы езуітам універсітэт меў вялікую папулярнасць, асабліва сярод моладзі з Кароны і Вялікага Княства. Трэба адзначыць, што наша шляхецкая моладзь тады ў пераважнай большасці куды ахвотней займалася чым заўгодна, толькі не навукамі — п'янствавала ў кабаках, удзельнічала ў вулічных сутычках, хуліганіла, дэманстравала сваю пыху нямецкім плебеям. Былі выхадкі, якія маглі давесці да эшафоту, як, напрыклад, здарылася з Янам Чапліцам. Лічылі (і не без падставаў), што і без грунтоўнай навукі можна атрымаць уплывовыя месцы на Радзіме. Гэты факт канстатаваў Апостальскі нунцый у Рэчы Паспалітай кардынал Казіма дэ Торэс. Вельмі цікавую статыстыку прыводзіць кс. Павел Чаплеўскі: у стосах атэстатаў Інгальштацкага ўніверсітэта, у якім з 1473 да 1700 гг. навучалася 828 палякаў і літвінаў, было выяўлена толькі 45 атэстатаў для нашых суайчыннікаў: 10 па тэалогіі, 11 па філасофіі, 23 па юрыспрудэнцыі, 1 па медыцыне. У гэтых сціплых лічбах — 4 дактары тэалогіі і 2 дактары права).

Студэнт Аўгсбургскага ўніверсітэта (1604–1606). У гэтым універсітэце вучыліся трое сыноў віленскага ваяводы Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі.



Мармуровая дошка ў навагрáдскім касцёле, устаноўленая Янам Рудамінам-Дусяцкім у 1643 г. у памяць загінуўшых пад Хацінам таварышаў яго роты.

Менавіта Яна Рудаміну Сіротка бачыў гувернёрам для сваіх сыноў, па словах іх тагачаснага ментара Мельхіёра Дзіцыюса: «Пан Рудаміна паважны і спрактыкаваны малады чалавек, але *ad gubernandum* малады».

Гувернёр сыноў Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі (лета 1606 – травень 1607, калі заўчасна памёр у Балоны Крыштаф Мікалай Радзівіл, і ад'езд астатніх сыноў у ВКЛ).

Улетку 1608 г. ён вярнуўся ў ВКЛ, суправаджаючы цела нябожчыка ў Нясвіж. Да гэтага часу працягваў навуку і па даручэнні віленскага ваяводы набіраў юнакоў, здольных да службы ў Радзівілаў.

Дэпутат Трыбунала ВКЛ (1610), сакратар і каралеўскі дваранін (1616), ляснічы вількійскі (Жмудзь) (1618), падваявода навагрáдскі (1619–1622), гусарскі ротмістр у бітве пад Хацінам (1621), удзельнік вайны са Швецыяй (1600–1629) у Інфлянтах (1627), харунжы навагрáдскі (за ваенныя заслугі) (1627–1636).

Актыўны ўдзельнік палітычнага жыцця Рэчы Паспалітай — навагрáдская шляхтаю дзевяць разоў абіраўся на сеймікі і Сеймы, кашталян навагрáдскі (1636).

У 1643 г. у памяць загінуўшых таварышаў сваёй роты і брата Юрыя ў навагрáдскім фарным касцёле ўстанавіў мармуровую дошку, а таксама запісаў у вечнае карыстанне ўладанні Палонка і Круковічы на штотыднёвыя Імшы ў інтэнцыі загінуўшых (яшчэ ў 1621 г. вызначыў штогадовы фундуш у памеры 100 зл. на капліцу, дзе яны былі пахаваныя).

Аўтар вершаванага твора «Праўдзівы дыярыуш экспедыцыі Кароны Польскай і Вялікага Княства Літоўскага супраць Асмана ў Валахіі шчасліва выпраўленай (1640)».

Мацей Казімір Сарбеўскі прысвяціў Яну Рудаміну-Дусяцкаму некалькі сваіх твораў. Памёр 9 лютага 1646 г., пахаваны разам з бацькам і братам Юрыем.


**ЛІТАРАТУРА**

1. Пазднякоў В. Рудаміны (Рудаміны-Дусяцкія) // Электронная энцыклапедыя «Вялікае Княства Літоўскае» [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http:/vkl.by. Час доступу: 20.09.2016.
2. Пазднякоў В. Хацінская бітва 1621 // Электронная энцыклапедыя «Вялікае Княства Літоўскае» [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http:/vkl.by. Час доступу: 20.09.2016.
3. Ткачоў М. Замкі Беларусі. — Мінск, 1977. — С. 74–75.
4. Bitwa pod Chocimiem (1621) [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: https://pl.wikipedia.org/w/index.php?title=Bitwa_pod_Chocimiem_(1621)&oldid=46188703. Час доступу: 14.10.2016.
5. Czaplewski P. Polacy na studiach w Ingolsztacie. — Poznań, 1914.
6. Lulewicz H. Rudomina Dusiacki Jan // PSB. T. XXXII/4, zeszyt 135. — Wrocław–Kraków, 1991. — S. 670–671.
7. Lulewicz H. Rudomina Dusiacki Jan // PSB. T. XXXII/4, zeszyt 135. — Wrocław–Kraków, 1991. — S. 672–673.
8. Niesiecki K.. Herbarz polski. T. VIII. — Lipsk, 1841. — S. 181–186.
9. Święcki T. Historyczne pamiątki. T. II. — Warszawa, 1859. — S. 38–39.
10. Uruski S. Rodzina. Herbarz szlachty polskiej. T. XV. — Warszawa, 1931. — S. 297–300.

